# ЖЫЦЦЁ І СМЕРЦЬ

**Смяротнае пакаранне** – у розных людзей гэтыя словы выклікаюць розныя пачуцці ды ўявы. Гэта і справядлівая адплата, бязлітаснасць і бяздушнасць дзяржавы, халодная сталь сякеры ка́та, цывілізаванае варварства, пісталетны стрэл, жах і адчай, рэвалюцыйная мэтазгоднасць, гільяціна з кашом, куды скочваюцца адсечаныя галовы, ды багата чаго яшчэ іншага. Чалавек вынайшаў тысячы спосабаў забіваць сабе падобных. Вычварная фантазія ў прывядзенні прысудаў не мае межаў. Здаецца, больш гуманнасці і рацыянальнасці чалавек праяўляе ў забойстве жывёлаў. Урэшце, жывёлы таксама часта забіваюць адзін аднаго.

Славуты беларускі мастак Лёнік Тарасевіч гадуе на сваёй сядзібе ў вёсцы Валілы на Беласточчыне сотні завадовых курэй і пеўняў. Сярод іх багата байцовых гатункаў. “Як толькі пачуюць у каго кроў, – распавёў ён мне, – задзяўбуць і раздзяруць. Куры бязлітаснейшыя за чалавека”. Дык што ж, смяротнае пакаранне – гэта рудымент жывёльнасці чалавека? Яшчэ таго, які жыў у пячоры, хадзіў у скурах і бязлітасна забіваў-задзёўбваў слабейшага за сябе? Згадваючы крывавае ХХ стагоддзе, у якім нарадзіліся мы, задумваешся, наколькі ўсё ж чалавек цывілізаваны адышоў ад свайго пячорнага продка?

Смяротнае пакаранне – маркер эпохі! Смяротнае

пакаранне, як іржа, што ўелася ў жалеза, так што яе не вытравіць ніякай кіслатой і не замазаць ніякай элітнай фарбай. У ліпені 2011 г. у Нарвегіі Андэрс Брэйвік забіў 77 чалавек. Ён кінуў выклік сваму народу, які адмяніў смяротнае пакаранне ў 1902 г. Ён, жахлівы правакатар, імкнуўся разбудзіць у нарвежцаў дрымучую прагу помсты. Праз свой учынак ён крычаў: я забіваю вас і вашых дзяцей, дык і вы забіце мяне па суду! Паглядзім, чаго вартыя вашыя гуманныя прынцыпы! Але дзеля аднаго Брэйвіка нарвежцы не сталі мяняць свае законы. У выніку яго асудзілі на 21 год зняволення. Ён адбывае пакаранне ў трохпакаёвай камеры, мае штотыднёвыя гадзінныя спатканні, камп'ютар. «Вось, с-с-сука, – абураўся адзін з сядзельцаў, у якога за забойства "сроку" было 16 гадоў, – я яго сам бы расстраляў». "А ты не думаеш, што і цябе маглі б шлёпнуць за тваю дзялюгу?" – не вытрымаў я. "Ну і хрэн з ім", – адказаў ён. "Паглядзеў бы я на цябе, што б ты сказаў, калі б апынуўся ў камеры смяротнікаў", – падумаў я.

Большасць беларусаў лічаць, што смяротнае пакаранне мусіць быць. Меншасць, якая не набагата меншая за бальшыню, – супраць. Беларусы зазвычай не любяць ясна адказваць на няпростыя пытанні. Выбар паміж "так" і "не" – гэта цяжкі для нас выбар. І там, дзе ёсць магчымасць ухіліцца, схавацца за "можа, і так", "хутчэй не, чым так", "не вызначыўся", мы з радасцю гэта робім. Але бывае так, што жыццё не дае такога выбару і

патрабуе выразнага адказу. Жыццё і смерць не маюць паміж сабой шэрай зоны і плаўных пераходаў. Кожны сам вырашае, якога колеру жыццё і смерць. Але заўсёды паміж імі вялікі кантраст.

Смяротнае пакаранне падзяліла нашае грамадства. Урэшце, не толькі яно. Але беларусы – не выключэнне. Узгадайма запаведзь Майсея з Старога Запавету: "вока за вока, зуб за зуб". А затым Новы Запавет з зусім іншым настаўленнем Ісуса: "Калі хто ударыць цябе ў правую шчаку, падстаў яму і левую". Можа быць, гэтыя несумяшчальныя біблейскія запаведзі і ляжаць у аснове рэакцыі чалавека на смяротнае пакаранне? Смяротнае пакаранне – як помста. Ці ўсё ж любоў і лагода могуць дазволіць чалавеку абысціся без яго?

На "Валадарцы", у следчым ізалятары, дзе мне давялося правесці чатыры месяцы ў 2011 г., стары турэмны корпус, гэтак званы Пішчалаўскі замак, развальваецца. Шчыліны пабеглі па сценах, адная з вежаў абвалілася. Каб яго неяк утрымаць, будынак сцягнулі жалезнымі палосамі. Зэкаў адтуль высялілі за некалькі гадоў перад тым, як там з'явіўся я. Нас трымалі ўжо ў будынку, пабудаваным, мабыць, у 1970-я гг. Але на штодзённыя праходкі выводзілі яшчэ старымі сцежкамі.

"На прагулку!" – гучыць голас дзяжурнага кантралёра. Мы выходзім гуськом, для прыліку ўзяўшы рукі за спіну, і спускаемся з другога паверха ў лёхі. На лесвічнай клетцы стаіць іншы кантралёр. Ён бразгае

вялікім ключом па жалезных рэбрах парэнчаў. Гэта знак для першага паверха, каб там пачакалі і не пачалі вывад, а таксама для наступнага кантралёра, які прымае нас у доле. Гэты падвал – сапраўдныя лёхі старога турэмнага корпусу, з паўкруглай століллю, з “хатамі” па абодва бакі, змрачнаваты і вільгатнаваты.

“Хаты” ў лёхах ужо нежылыя. Там ляжыць рознае турэмнае майно. Але налева, за звычайнымі дзвярыма, ківае галавой Валодзя, які кантуецца на “Валадарцы” ўжо чацвёрты год, – усё суды ды перасуды, – спецкалідор. Там трымаюць смертнікаў. Мы праходзім па лёхах у канец, зварочваем управа і праз ацалелую вежу з вінтавой лесвіцай над галавой трапляем у цесныя прагулкавыя дворыкі. Гэтым жа шляхам вяртаемся назад. Смертнікі застаюцца ззаду, замураваныя ў зямлі.

30 лістапада 2011 г., калі я яшчэ быў на “Валадарцы”, Уладзіславу Кавалёву і Дзмітрыю Канавалаву, сядзельцам спецкалідора, вынеслі смяротны прысуд. Праз тры дні мяне павезлі ў жодзінскае СІЗА. Нас вывелі на этап праз турэмную браму, на якой сто гадоў таму павесілі тэрарыста Івана Пуліхава, а яны засталіся чакаць расстрэлу.

У сакавіку 2012 г. Кавалёва і Канавалава расстралялі. Я тады ўжо быў у бабруйскай калоніі. Мяне здзівіла аднадушша зэкаў, якія, калі размова заходзіла пра гэты прысуд, у адзін голас казалі: “Не, гэта не яны”. Усе былі перакананыя, што іх расстралялі так хутка, каб замесці

сляды і не было магчымасці даведацца праўды. Ніхто не верыў тым звесткам, якія давалі следчы камітэт ды пракуратура. “А хто арганізаваў выбух у метро?” – пытаўся я. “Ды гэтыя,” – зэкі паказвалі пальцам угору.

А ў 2013 г. на атрадаўскім стэндзе побач з газетаю “Швейнік” з’явіўся аркушык з паведамленнем, што за забойства сукамерніка ў крытай турме ў Магілёве адзін з “крытчыкаў” асуджаны да смяротнага пакарання. У газетах надрукавалі, што гэта быў Рыгор Язэпчук. Абвестка з’явілася, мабыць, “у выхаваўчых мэтах”. Але што тая абвестка. Са ста чалавек у атрадзе амаль палова сядзела за забойства, і ніхто з іх не мог ужо, калі б і захацеў, перайначыць, перапісаць сваё жыццё. Калі пра гэтую абвестку я напісаў у лісце сваім калегам, яе хуценька знялі, а аператыўнік папярэдзіў, што болей лістоў, у якіх я пішу хоць слова пра зону, яны выпускаць не будуць.

Ніколі чалавеку, які не быў у турме, не зразумець, што такое няволя. І тым больш нам не зразумець і не адчуць, што такое – быць асуджаным на смерць і чакаць гэтае смерці. Дзяржава абгароджана межамі, зона – плотам, штрафны ізалятар і крытая турма – чатырма сценамі, а камера смяротнікаў – самы цэнтр безнадзеі, самая сутнасць жыцця і смерці, як тая голка, у якой – душа Кашчэя Несмяротнага. Калі зламаць гэтую голку – Кашчэй памрэ?

*Алесь Бяляцкі*

# ШЭСЦЬ + 1 АРГУМЕНТ СУПРАЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

Тэма смяротнага пакарання абмяркоўваецца са старажытных часоў. Усе аргументы "за" і "супраць" – даўно вядомыя. І тым не менш кожны раз, калі ўздымаецца тэма смяротнага пакарання, а тэма не з прыемных, таму ўздымаецца яна не так часта ў штодзённым жыцці, і ўсё ж – кожны раз, калі тэма ўсплывае – ускіпаюць гарачыя спрэчкі. І кожны прыводзіць свае старыя, як гэты свет, аргументы – "за" і "супраць". За час працы ў кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага" пакарання мы сфармулявалі шэсць асноўных аргументаў супраць смяротнага пакарання.

Але ёсць яшчэ і **сёмы** аргумент. Гэта аргумент палітычны, бо пры захаванні смяротнага пакарання нельга далучыцца да цывілізаванага свету, нельга стаць еўрапейскай краінай.

А астатніх аргументаў – шэсць.

## АРГУМЕНТ 1. СУДОВАЯ ПАМЫЛКА, НЕЗВАРОТНАСЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

Пасля выканання прысуду нельга выправіць судовую памылку – вярнуць жыццё чалавеку.

Заслужаны юрыст Беларусі Мечыслаў Грыб распавёў пра незваротнасць смяротнага пакарання і пра судовыя памылкі, якія немагчыма выправіць пасля ажыццяўлення пакарання:

*Я 36 гадоў адпрацаваў у органах унутраных спраў. І адна з маіх пасад – начальнік упраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама. Мне давялося працаваць там у самы складаны час, калі Міхасевіч-маньяк здзяйсняў свае злачынствы на тэрыторыі Віцебскай вобласці. У ходзе расследавання гэтай справы высветлілі, што за злачынствы, якія Міхасевіч здзейсніў за 15 гадоў, незаконна былі асуджаны на доўгія тэрміны зняволення 13 чалавек, а адзін з іх, Цярэня, быў расстраляны па прысудзе Віцебскага абласнога суда. Чалавека расстралялі ні за што. І калі раней я неяк не задумваўся пра смяротную кару, якая была на тэрыторыі Савецкага Саюза, то пасля гэтых судовых памылак, якія мне давялося бачыць на свае вочы, я прыйшоў да высновы, што гэта няправільна, не павінен ніхто пазбаўляць чалавека жыцця.*

Супраць Цярэні не было ніякіх доказаў – толькі выбітыя падчас следства прызнанні.

## АРГУМЕНТ 2. ВЫКАНАЎЦЫ, ПРАФЕСІЙНЫЯ КА́ТЫ, ЯКІЯ ЗАБІВАЮЦЬ АД ІМЯ ДЗЯРЖАВЫ

Алег Алкаеў – у 1996–2001 гг. начальнік СІЗА № 1

Мінска, аўтар кнігі "Расстрэльная каманда". Пад кіраўніцтвам Алега Алкаева былі здзейснены 134 смяротныя прысуды. Алег Алкаеў гаворыць, што выкананне смяротнага прысуду – забойства, нават калі яно "па законе":

*Забіць чалавека, які асабіста табе нічога дрэннага не зрабіў, забіць без злосці, без напалу страсцей – гэта складана. Смерць – гэта забойства, а забойства ніколі беспакарана не праходзіць. Гэта на вайне чалавек страляе з вялікай адлегласці, не ведае, патрапіў ці не патрапіў. І ў яго страляюць таксама. Гэта зусім іншае. Таму і група расстрэльная была засакрэчана, таму і блізкія сваякі не ведалі, нават калегі не ведалі, хто чым займаецца. І гэта свята выконвалася найперш членамі самой групы. Забойства – заўсёды забойства, нават калі па законе.*

## АРГУМЕНТ 3. РЭЛІГІЙНЫ – "НЕ ЗАБІВАЙ!"

Жыццё чалавеку дае Бог, і толькі Бог, а не іншы чалавек можа забраць яго.

У 2013 г. Папа Рымскі Францішак у тэлеграме да V Сусветнага Кангрэса супраць смяротнага пакарання напісаў:

*"Пакаранне смерцю павінна быць заменена на іншае, якое прадугледжвала б шанец для злачынцы задумацца над сваімі правінамі і выправіцца, а нявіннаму падаравала б надзею на справядлівасць".*

## АРГУМЕНТ 4. ЗАБОЙСТВЫ ПАЛІТЫЧНЫХ АПАНЕНТАЎ, МАСАВЫЯ РЭПРЭСІІ

Смяротнае пакаранне, якое захоўваецца ў Беларусі, можа быць выкарыстана не толькі супраць крымінальных злачынцаў, але і ў адносінах да палітычных апанентаў. Злачынствы камунізму не былі асуджаны ў Беларусі, і сучасная ўлада шмат у чым адчувае сябе спадкаемніцай той улады, якая здзяйсняла масавыя расстрэлы нязгодных.

Смяротнае пакаранне становіцца “звыклай з’явай” падчас масавых рэпрэсій.

Ірына Ашкер расказвала, як яе бацьку і бабулю арыштоўвалі суботнім вечарам 1937 г. пасля таго, як уся сям’я памылася ў лазні, і пра тое, як яе маці бачыла выхад на расстрэл бацькі з брамы турмы ў Оршы: «Бацька маці толькі рукой махнуў: “Мяне не чакай, едзь дамоў!”».

## АРГУМЕНТ 5. КАТАВАННЕ СВАЯКОЎ РАССТРАЛЯНАГА – НЯВЫДАЧА ЦЕЛА, НЕПАВЕДАМЛЕННЕ ДАТЫ ВЫКАНАННЯ ПРЫСУДУ

Праваабаронца Гары Паганяйла гаворыць: “*У Беларусі працягвае дзейнічаць закон, які датычыцца яшчэ савецкага перыяду, калі пры выкарыстанні выключнай меры пакарання ў*

*выглядзе расстрэлу труп пакаранага сваякам не выдаюць, пра месца пахавання не паведамляюць. І такім чынам спрабуюць зрабіць таямніцай і саму дату выканання прысуду, і дзе пахаваны чалавек. Тлумачаць, што гэта робіцца для таго, каб не было апаганьвання цела расстралянага, які*

*здзейсніў вельмі цяжкія злачынствы. Камітэт ААН неаднаразова заяўляў пра тое, што сама працэдура смяротнага пакарання ў Беларусі падпадае пад прыкметы катаванняў і бесчалавечнага стаўлення, як да самога пакаранага смерцю, так і да яго сваякоў. Не паведамляюць пра дату выканання смяротнага прысуду, а знаходжанне ў камеры смяротнікаў цягнецца некалькі месяцаў, гэта вельмі жорстка ўспрымаецца чалавечай псіхікай, асуджаны не можа рэальна ўсведамляць, калі прысуд будзе прыведзены ў выкананне, калі наступіць апошні дзень яго жыцця, ён не можа падрыхтавацца да гэтага акта".*

## АРГУМЕНТ 6. НЕЭФЕКТЫЎНАСЦЬ У ПАПЯРЭДЖАННІ ЗЛАЧЫНСТВАЎ

Генерал Юрый Захаранка, калі быў міністрам унутраных спраў, вывучаў працэдуру смяротнага пакарання і планаваў пэўныя змены. Упершыню пра гэта ён распавёў у 1998 г. Алесю Дашчынскаму – карэспандэнту газеты "Навіны" ("Свабода", 17 лютага 1998 г.). У гэтым жа інтэрв'ю былы міністр унутраных спраў катэгарычна выказаўся супраць смяротнага

пакарання.

Генерал Юрый Захаранка пра неабходнасць адмены смяротнага пакарання:

*Я ўпэўнены, што нам неабходна ліквідаваць інстытут пазбаўлення чалавека жыцця. Смяротная кара не ў стане спыніць злачыннасць. Псіхіятры-крыміналісты, якія вывучалі гэтае пытанне, прыйшлі да высновы, што ніводзін з асуджаных перад забойствам не думаў пра магчымасць расплаты смяротнай карай. Пасля адмены вышэйшай меры ў краіне не расце колькасць цяжкіх злачынстваў. Здавалася б, танней расстраляць чалавека ды закапаць. Але такім чынам грамадства закопвае сябе. Нам неабходна павярнуцца да гуманізму і чалавечнасці.*

*Свабода. 1998. 17 лют.*

# ЧАСТКА 1. ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД

## ГІСТОРЫЯ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ Ў БЕЛАРУСІ

### СТАРАЖЫТНАЯ РУСЬ

Усе даследчыкі, якія вывучаюць гісторыю і эвалюцыю смяротнага пакарання, адзінадушныя ў пошуку яго вытокаў. Іх бачаць у кроўнай помсце – старажытным прынцыпе, які ўзнік яшчэ падчас існавання родавай абшчыны (супольнасці людзей, аб’яднаных існаваннем агульнага продка). Паколькі дзяржавы тады яшчэ не існавала, а сродкі прававога рэгулявання адсутнічалі, кроўная помста дазваляла захоўваць гонар роду. А таксама своечасова спыняць варожасць паміж плямёнамі або групоўкамі. Пасля таго, як прынцып “вока за вока, зуб за зуб” рэалізоўваўся на практыцы, саапернікі нібыта рабіліся квіты.

Адпаведна, пад смяротным пакараннем трэба разумець пазбаўленне чалавека жыцця, якое ажыццяўляецца па прысудзе суда, дзяржаўных або вайсковых органаў у якасці (просім прабачэнне за таўталогію) пакарання. Таму смяротнае пакаранне на тэрыторыі сучаснай Беларусі ўпершыню магло ўжывацца толькі тады, калі там з’явілася дзяржава або дадзяржаўнае

ўтварэнне. На думку С. В. Жыльцова, можна гаварыць пра ўзнікненне смяротнага пакарання ва ўсходніх славян у V ст. н. э.[1].

Аднак традыцыі кроўнай помсты засталіся надзвычай трывалымі. Напрыклад, яны сустракаюцца ў дамове Русі з Візантыяй 911 г.: “Калі Русін заб’е хрысціяніна або хрысціянін заб’е Русіна, хай забойца будзе затрыманы блізкімі забітага і хай заб’юць яны яго”. Як каментуе гэтую цытату прафесар Загоскін, “сіла рускай прававой свядомасці аказваецца ў дадзеным выпадку настолькі грубай, што русы не паступаюцца ёю нават перад грэкамі; калі мы раскрыем візантыйскія крымінальныя законы, то знойдзем, што яны пагражаюць забойцу смяротным пакараннем: зразумела, што вызначэнне дамоўленасцей адносна забойства трымаецца на глебе прававой свядомасці старажытных продкаў нашых”[2]. Гэтыя дамовы непасрэдна тычыліся тэрыторыі Беларусі. Перш за ўсё, полацкія князі таксама ўдзельнічалі ў паходах князя Алега на Канстанцінопаль. Нездарма ў “Аповесці мінулых часоў” згадваецца, што ў 907 г. Канстанцінопаль мусіў выплаціць даніну шэрагу гарадоў, у тым ліку Полацку, дзе правілі князі, падуладныя Алегу[3]. Вядома, гэтае падпарадкаванне, а значыць і палітычнае адзінства Русі, магло быць часовым. Але Русь усё роўна ўяўляла сабой адзіную прастору ў пытаннях мовы, менталітэту і звычаяў.

Праўда, у гэтым дакуменце ідзе гаворка пра магчымасць выбару. Сваякі забітага мелі альтэрнатыву: ужыць права кроўнай помсты або запатрабаваць у забойцы выкуп. У прыватнасці, калі забойца збягаў, і пры гэтым меў маёмасць, яе частка адыходзіла сваякам забітага (жонка забойцы захоўвала сваю частку). Калі маёмасць адсутнічала, а забойцу ўрэшце лавілі, яго чакала смерць[4].

Такім чынам, быў зроблены першы крок для абмежавання ў выкарыстанні кроўнай помсты. У далейшым такі ж артыкул сустракаўся ў дамове паміж Руссю і Візантыяй, датаванай 944 г.[5]. Але ў наступным годзе здарыўся класічны выпадак кроўнай помсты: кіеўскі князь Ігар быў забіты драўлянамі, і княгіня Вольга, яго ўдава, адпомсціла за забойства. Паслы драўлян былі закапаны жывымі, баяры спалены ў лазні, пазней княгіня спаліла і ўвесь горад Іскарасцень – сталіцу драўлян[6]. Заўважым, што горад Оўруч (яшчэ адзін з цэнтраў гэтага племені) цяпер з'яўляецца цэнтрам раёна, які мяжуе з Беларуссю. Тэрыторыя рассялення драўлян даходзіла да Прыпяці (на поўнач за гэтай ракой жылі дрыгавічы). Таму ў нечым разгледжаныя падзеі тычыліся і тэрыторыі сучаснай Беларусі. Яшчэ адзін прыклад кроўнай помсты – гісторыя полацкай князёўны Рагнеды. Яна адмовіла наўгародскаму князю Уладзіміру, які сватаўся да яе, і дадала: "Не хачу разуць сына рабыні" (бацька патэнцыйнага жаніха быў кіеўскім князем, а маці –

рабыняй). У адказ Уладзімір у 980 г. захапіў Полацк, забіў бацькоў і братоў Рагнеды, а саму князёўну гвалтам узяў у жонкі. У 987 г. Рагнеда няўдала спрабавала адпомсціць мужу, які да таго часу стаў кіеўскім князем, за забітых сваякоў[7].

Далейшы адыход ад кроўнай помсты ажыццяўляўся дзякуючы ўвядзенню хрысціянства (кананічнай датай лічыцца 988 г., калі такі выбар зрабіў князь Уладзімір). Царква асуджала выкарыстанне кроўнай помсты, бо гэта супярэчыла хрысціянскай свядомасці, але адначасова выступала за смяротнае пакаранне. Прычына простая: яна хутка стала буйным феадальным землеўласнікам[8]. Паколькі вера прыйшла на Русь з тэрыторыі Візантыі, распаўсюджванне атрымала і візантыйскае права. У прыватнасці, "Кормчая кніга" – кіраўніцтва пры кіраванні царквой і ў царкоўным судзе, а таксама "Прахірон" (або "Градскі закон") – кіраўніцтва для суддзяў, якое змяшчала нормы права. У адпаведнасці з імі ў 988 г. было ўведзена смяротнае пакаранне за разбой[9]. Але імгненна змяніць свядомасць людзей было немагчыма.

Так, у XI ст. на тэрыторыі Русі пачала дзейнічаць "Руская праўда". Традыцыйна яе звязваюць з імем князя Яраслава Мудрага (1016–1054), сына Рагнеды, але насамрэч яна складалася з некалькіх дакументаў, якія прымаліся як у часы Яраслава, так і пазней. Гэта кароткая рэдакцыя "Рускай праўды", якая складаецца з 43

артыкулаў. Пазней, у XII ст., была прынята пашыраная (у арыгінале – "Пространная") "Руская праўда", куды ўвайшоў 121 артыкул.

"Руская праўда" замацавала факт кроўнай помсты. У артыкуле 1 кароткай рэдакцыі сцвярджалася: "Калі заб'е чалавек чалавека, то помсціць брату за брата, ці сыну за бацьку, ці бацьку за сына, ці сыну брата, ці сыну сястры; калі хто не будзе помсціць, то князю 40 грыўняў за забітага…" За што прадугледжвалася смяротнае пакаранне? Караўся смерцю халоп, які ўдарыў свабоднага мужа, а таксама злодзей, якога схапілі на месцы злачынства (прычым яго маглі забіць тут жа). Праўда, калі забіты быў звязаны, за гэта трэба было плаціць[10].

У пашыранай рэдакцыі "Рускай праўды" назіраюцца змены. Перш за ўсё, рашэннем трох сыноў Яраслава Мудрага была канчаткова адменена кроўная помста. Замест смерці быў устаноўлены грашовы выкуп: звычайны (40 грывен) і падвоены (80 грывен), які выплачваўся за забойства прадстаўнікоў велікакняжацкай адміністрацыі [11]. У пашыранай рэдакцыі "Рускай праўды" вышэйшай мерай пакарання з'яўляўся "паток і разрабаванне". Спачатку пад ім разумелася высылка злачынцы і канфіскацыя яго маёмасці, пазней злачынцу сталі аддаваць у рабства, а яго маёмасць трапляла пад рабаванне[12]. Такое пакаранне прадугледжвалася за наўмыснае забойства без прычыны,

крадзеж коней і падпал[13]. Праўда, як адзначаюць даследчыкі, з чалавекам, які страціў грамадскія правы, можна было рабіць што заўгодна. Напрыклад, у 1209 г. такі прысуд, які меў месца ў Ноўгарадзе, скончыўся забойствам асуджаных. Захаваліся сведчанні, што за прысуд былі вымушаны адказваць блізкія сваякі, якія не ўдзельнічалі ў здзяйсненні злачынства (што вынікала з кругавой парукі, якая існавала ў абшчыне)[14].

Такім чынам, смяротнае пакаранне адсутнічае ў пераліку пакаранняў, што меліся ў пашыранай рэдакцыі "Рускай праўды". Аднак гэта не сведчыць пра тое, што яно не ўжывалася. Як лічыць С. В. Жыльцоў, смяротнае пакаранне выкарыстоўвалася князямі па "Градскім законе"[15]. Апрача гэтага, важную ролю працягвалі адыгрываць звычаі. У пашыранай "Рускай праўдзе" захавалася палажэнне, якое раней мела месца ў кароткай рэдакцыі: злодзея, якога затрымалі на месцы злачынства ў доме або ўвогуле падчас нейкага рабаўніцтва, можна было забіць як сабаку. Праўда, цяпер забаранялася без віны забіваць халопа. Калі той ударыў свабоднага чалавека, прадугледжваўся штраф або публічная лупцоўка[16].

Людзі яшчэ вельмі доўга трымаліся паганскіх звычак і верылі ў чараўніцтва. Нават праз пяць з паловай стагоддзяў, у 1820-я гг., у Архангельскай губерні прыносілі ахвяры водніку. У 1840-я гг. быў зафіксаваны

выпадак, калі для спынення халеры ў падрыхтаваную магілу сапхнулі старую і зажыва засыпалі яе зямлёй[17]. Няма сумневу, што паганскія традыцыі маглі застацца і на тэрыторыі Беларусі, дзе паганства (у тым ліку з-за позняга прыняцца хрысціянства) мела глыбокія карані. Згадаем, напрыклад, твор "Беларусь у фантастычных апавяданнях" Яна Баршчэўскага, дзе паганскі лад мыслення раскрываецца напоўніцу. Але пакрысе такія традыцыі пачалі адыходзіць у мінулае.

Такім чынам, у часы Старажытнай Русі адбывалася змаганне паміж традыцыямі кроўнай помсты і ўласна смяротнага пакарання. З прыняццем хрысціянства і ўмацаваннем дзяржавы гэтая традыцыя стала дамінуючай.

## ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ І РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ

Наступны этап у гісторыі Беларусі – час Вялікага Княства Літоўскага, беларуска-літоўскай дзяржавы, якая ўзнікла ў сярэдзіне XIII ст. Заходнія землі ВКЛ сталі адным з цэнтраў фарміравання гэтай дзяржавы, а ўсходнія пакрысе ўваходзілі ў яе мірным шляхам. Напрыклад, вялікі князь Гедымін (1316–1341) ажаніў сына Альгерда з дачкой віцебскага князя. Калі апошні памёр, княства добраахвотна ўвайшло ў склад ВКЛ. Пры такім

далучэнні гарантавалася захаванне традыцыйных законаў, што знайшло адлюстраванне ў фармулёўцы “старыны не рушыць, навіны не ўводзіць”. Таму жыхары сучаснай Беларусі працягвалі кіравацца ранейшымі прававымі нормамі, якія разглядаліся ў папярэднім раздзеле.

Першым кадыфікаваным зборнікам нормаў крымінальнага і працэсуальнага права ў ВКЛ стаў “Судзебнік Казіміра”, зацверджаны соймам у 1468 г., у час кіравання вялікага князя Казіміра Ягелончыка (1440–1492). Але адразу зазначым, што гаворка далей будзе ісці выключна пра мірнае жыццё. Бо падчас баявых дзеянняў галоўнымі рабіліся законы ваеннага часу. Гетман (галоўны начальнік над узброенымі сіламі дзяржавы) меў над войскам поўную ўладу (уключаючы права суда і смяротнага пакарання)[18].

“Судзебнік Казіміра” засноўваўся на мясцовым звычаёвым праве і судова-адміністрацыйнай практыцы. У параўнанні з папярэднім часам дакумент змяшчаў некалькі прынцыпова новых момантаў. Уводзілася індывідуальная адказнасць за пакаранне (тут праявіўся еўрапейскі падыход, тады як прынцып адказнасці ўсёй абшчыны адпавядаў усходнім традыцыям). Калі жонка і дзеці злачынцы не ведалі пра ўчынак і не карысталіся крадзеным, яны прызнаваліся невінаватымі. Гэта было накіравана на захаванне гаспадаркі, што адпавядала інтарэсам буйных землеўласнікаў. Праўда, калі не было

чым заплаціць штраф або кампенсаваць страты, у рабства пацярпеламу маглі прадаць жонку асуджанага і яго дзяцей, старэйшых за 7 гадоў. Так на тэрыторыі Беларусі быў упершыню вызначаны ўзрост, з якога дзеці неслі адказнасць за віну бацькоў. Таксама Судзебнік зафіксаваў узмацненне прыгнёту і пазбаўленне залежных сялян права свабоднага адыходу ад феадала. Асоб, якія спрыялі ўцёкам сялян, чакала шыбеніца.

Прыклад індывідуальнай адказнасці праявіўся нават падчас дзяржаўнай змовы. У 1481 г. слуцкі князь Міхаіл Алелькавіч, яго стрыечны брат Фёдар Бельскі, Іван ГальшанскіДубровіцкі і Іван Глінскі арганізавалі змову супраць Казіміра Ягелончыка. Яны запрасілі апошняга ў Кобрын на вяселле Бельскага і Ганны Кобрынскай. Там Казіміра планавалі забіць, княства мусіў узначаліць Міхаіл Алелькавіч. Але змова была выкрыта. Алелькавіч і Гальшанскі-Дубровіцкі былі пакараны смерцю ў Вільні праз адсячэнне галавы. Глінскі і Бельскі змаглі ўцячы ў Маскву. Казімір Ягелончык, а пасля і яго сын Аляксандр адмовіліся аддаць Ганну Бельскую мужу ў Маскву. Але яна не была асуджана і захавала ўсе свае маёнткі.

Як адзначае Язэп Юхо, у Судзебніку выявіўся і новы погляд на мэты пакарання. У звычаёвым праве галоўнымі мэтамі пакарання былі кампенсацыя пацярпеламу прычыненай шкоды і спыненне злачыннай дзейнасці. Паводле Судзебніка, мэтай пакарання з'яўлялася застрашванне (якое не выключала маёмасных

кампенсацый). Таму пакаранне смерцю прадугледжвалася нават за такія злачынствы, як крадзеж каровы або каня. Смерцю каралі за крадзеж на суму “выше полукопья” (больш за 30 грошаў). У старажытным праве злачынец, прыгавораны да смяротнай кары, мог ад яе адкупіцца, яго маглі перадаць у няволю пацярпеламу або яго блізкім. Цяпер гэта забаранялася[19]. Аднак “Судзебнік Казіміра” яшчэ не з’яўляўся агульнадзяржаўным кодэксам. Кадыфікацыя і сістэматызацыя права завяршылася выданнем трох Статутаў ВКЛ: 1529, 1566 і 1588 гг.

У першым Статуце абвяшчаўся прынцып публічнасці правасуддзя, фармальнай роўнасці бакоў у працэсе, права абвінавачанага на абарону з удзелам адваката. Зразумела, што ў XVI ст. гэтыя палажэнні шмат у чым засталіся на паперы, бо ў іншых артыкулах дэманстраваўся розны падыход у дачыненні да розных слаёў насельніцтва (напрыклад, да феадалаў і сялян, якімі тыя валодалі). Але абвяшчэнне такой ідэі было ўжо крокам наперад. Статут таксама прадугледжваў, што ніхто не павінен адказваць за чужую віну. Пакаранне павінна прызначацца толькі тым асобам, чыя віна ўстаноўлена судом[20].

Асобны, сёмы, раздзел Статута быў прысвечаны крымінальнаму праву (яго назва – “Пра земскі гвалт, пабоі і пра забойства шляхціцаў”)[21]. У ім смяротнае пакаранне ўжываецца каля дваццаці разоў як рэакцыя на найбольш цяжкія злачынствы (наўмысны напад на чыйсці дом з

мэтай забойства, забойства сваякоў і г. д.). Цікава, што ў тыя часы адсутнічала такая сучасная з’ява як забойства па неасцярожнасці. Наадварот, калі хтосьці здзяйсняў напад на дом, а яго гаспадар забіваў нападнікаў, ён не павінен быў несці адказнасці.

Бадай, упершыню асобны артыкул у Статуце быў прысвечаны ўсім жанчынам, незалежна ад іх саслоўя. Дакладней, гвалту над імі. Згодна з законам, калі жанчына клікала на дапамогу і на яе крык збіраліся людзі, яна мусіла паказаць сляды гвалту. Тады нягодніка прыцягвалі да адказнасці. Жанчына мусіла прадставіць у судзе двух-трох сведак, а таксама прынесці прысягу, пасля чаго гвалтаўніка прыгаворвалі да смерці. Яго магло выратаваць толькі жаданне жанчыны ўзяць з ім шлюб. Важна, што нават калі ахвяра не магла паклікаць на дапамогу, гэта не пазбаўляла злачынцу ад адказнасці[22].

Наступным крокам у кадыфікацыі і сістэматызацыі права стаў Статут 1566 г. Калі папярэдні дакумент складаўся з 13 раздзелаў і 244 артыкулаў, то наступны – з 14 раздзелаў і 367 артыкулаў. Крымінальнаму праву былі прысвечаны чатыры раздзелы (з 11-га да 14-га) замест аднаго. Падкрэслівалася, што крымінальнае пакаранне павінна было ажыццяўляцца толькі паводле рашэння суда. Асоба, якая абвінавапіла каго-небудзь у злачынстве і не даказала яго віны, павінна была карацца гэтак жа, як патэнцыйны злачынец. Павялічваўся ўзрост, за які можна было прыцягваць да адказнасці – толькі пасля 14 гадоў (у

наступным Статуце – пасля 16 гадоў). Абвяшчалася прэзумпцыя невінаватасці[23].

Праз тры гады пасля прыняцця другога Статута, у 1569 г., ВКЛ разам з Польшчай увайшло ў склад Рэчы Паспалітай. Але ў гэтай федэратыўнай дзяржаве княства захавала сваё заканадаўства. Больш за тое, у наступным, трэцім па ліку Статуце ўвогуле адсутнічала хаця б нейкая згадка пра саюз з Польшчай. Статут 1588 г. меў 14 раздзелаў і 488 артыкулаў. У 11– 12, 14-м і часткова ў 13-м раздзелах былі змешчаны нормы крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага права. Можна вылучыць некалькі яго асаблівасцей. У параўнанні з першым Статутам колькасць выпадкаў, за якія прадугледжвалася смяротнае пакаранне, павялічылася амаль у пяць разоў і дасягнула амаль сотні. Сярод іх злачынствы супраць рэлігіі і царквы, парадку кіравання і правасуддзя, супраць асобы, за шэраг дзяржаўных, воінскіх і маёмасных злачынстваў[24]. У дачыненні да таемнага забойства (“не з-за сваркі, а цішком, здрадліва і ўтойліва”) у Статуце гаворыцца пра такія віды смяротнага пакарання, як чвартаванне або саджэнне на кол[25].

Прыкладам злачынства супраць царквы стала пакаранне смерцю Казіміра Лышчынскага, якое адбылося ў 1689 г. Лышчынскі напісаў трактат “Пра неіснаванне Бога”. Пасля даносу быў арыштаваны. Цікава, што шляхта рашуча пратэставала супраць разгляду яго справы

судом епіскапа (паколькі Лышчынскі з'яўляўся свабодным чалавекам), таму лёс Лышчынскага разглядаў сойм. На яго пасяджэнні абвінаваўца Сымон Куровіч заявіў: "Я абвінавачваю яго ў тым, што на 265 старонках свайго трактата ён насмеліўся паказаць Бога як няіснае спараджэнне фантазіі і зрынуў яго з недасяжнай вышыні, прыпісаўшы кіраванне зямлёй і небам натуральнай прыродзе". Гэтага аказалася дастаткова, каб прыгаварыць Лышчынскага да спалення. Пазней кароль замяніў гэты прысуд на адсячэнне галавы[26].

У трэці Статут ВКЛ перайшоў шэраг артыкулаў з папярэдніх выданняў (напрыклад, разгляданыя выпадкі нападу на дом або гвалт над жанчынай). Апроч таго, з'явіліся новыя палажэнні. Самым галоўным з іх было наступнае: прадугледжвалася адказнасць шляхціца за забойства простага чалавека (хоць працэдура доказу гэтага злачынства была складанай; вінаваты прыгаворваўся да смерці толькі тады, калі яго заспелі на месцы забойства ў прысутнасці шасці іншых шляхціцаў)[27]. Пашырылася колькасць артыкулаў, якія тычыліся жанчын. Напрыклад, караліся смерцю гвалтоўны шлюб з ёй і выкраданне жанчыны без яе згоды[28]. На смерць асуджалася жанчына, якая зацяжарыла ад каханка і зрабіла аборт[29].

Яшчэ з "Судзебніка Казіміра" заканадаўства ВКЛ прадугледжвала індывідуальную адказнасць за

злачынствы. Але здараліся выключэнні, якія тычыліся дзяржаўных і рэлігійных спраў. Напрыклад, у 1623 г. у Віцебску быў забіты ўніяцкі архіепіскап Іасафат Кунцэвіч. Смерцю былі пакараны 100 чалавек, у горадзе была разбурана ратуша, ліквідавана ўсё самакіраванне. У 1744 г. пасля падаўлення Крычаўскага паўстання 16 чалавек былі пакараны смерцю (адных жывымі пасадзілі на кол, іншым адсеклі галовы ці павесілі на шыбеніцы).

Трэці Статут ВКЛ працягваў дзейнічаць увесь перыяд існавання Рэчы Паспалітай. 3 мая 1791 г. была прынята Канстытуцыя, якая рэфармавала дзяржаўны лад краіны. Але яе прынццe не паўплывала, дакладней, не паспела паўплываць на змены ў заканадаўстве (у тым ліку прысвечаныя смяротнаму пакаранню). Неўзабаве дзеянне гэтага дакумента было адменена, а Беларусь у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) трапіла ў склад Расійскай імперыі.

Зразумела, што ў грамадстве ВКЛ і Рэчы Паспалітай існавалі пануючыя саслоўі, а значыць, адсутнічала сацыяльная роўнасць. Але заканадаўства гэтых дзяржаў значна апярэджвала сваю эпоху. Статуты ВКЛ дэкларавалі роўнасць усіх людзей перад законам, што з цягам часу стала ўсеагульнай прававой нормай.

## РАСІЙСКАЯ ІМПЕРЫЯ

Пэўны час пасля далучэння Беларусі да Расіі сітуацыя

ў заканадаўстве выглядала дваістай. З аднаго боку, Статут ВКЛ 1588 г. не быў адменены. Яго палажэнні працягвалі дзейнічаць у Віцебскай і Магілёўскай губернях да 1831 г., у Віленскай, Гродзенскай, Мінскай губернях – да 1840 г. З іншага боку, у шэрагу выпадкаў расійскае заканадаўства ўладна ўваходзіла ў мясцовае жыццё.

Прынцыпы расійскага заканадаўства аформіліся цягам XVIII ст. У час кіравання Пятра I (1689–1725) сфарміраваўся ваенна-паліцэйскі характар Расійскай імперыі. Цар імкнуўся перанесці ў грамадзянскую сферу прынцыпы, уласцівыя вайсковай. Адной з праяў такой палітыкі стала ўвядзенне Вайсковага (“Воинского”) статута, у якім смяротнае пакаранне было абсалютызавана. З 209 артыкулаў, якія распаўсюджваліся на ўсе суды Расіі, смерць прадугледжвалася ў 123[30].

Пераемнікі Пятра атрымалі ў сваё распараджэнне наладжаную сістэму дзяржаўнага і рэпрэсіўнага кіравання. Як пісаў даследчык С. В. Жыльцоў, “стан рабства большай часткі насельніцтва Расіі, які падтрымліваўся адладжанай сістэмай рэпрэсіўных органаў і быў заснаваны на пагадненні паміж прыгонным і памешчыкам, даваў магчымасць Кацярыне разлічваць на грамадскі спакой без выкарыстання смяротнага пакарання”. Гаворка ідзе пра Кацярыну II (1762–1796). Аднак абмежаванне смяротнага пакарання адбылося раней, пры яе цётцы Лізавеце Пятроўне (1741–1761). Стаўшы імператрыцай, Лізавета фактычна аб’явіла

мараторый на смяротнае пакаранне. У загадзе Сенату, датаваным 1744 г., ішла гаворка пра замену смяротнага пакарання іншымі відамі экзекуцыі. Прычым справы асуджаных павінны былі перадавацца асабіста імператрыцы.

Сістэма, якую задумала Лізавета Пятроўна, аказалася надзвычай жыццяздольнай. Напрыклад, у 1813 г. прадстаўнікі вышэйшага расійскага дваранства распрацавалі праект Крымінальнага ўкладання, якое прадугледжвала пакаранне смерцю за шэраг злачынстваў супраць дзяржавы, парадку кіравання, маёмасці і асобы. Аднак імператар Аляксандр I (1801–1825) не падпісаў гэты дакумент. Галоўнай прычынай бачыцца праграма, з якой імператар прыйшоў да ўлады ў выніку дзяржаўнага перавароту. У маніфесце, які быў выдадзены ў 1801 г., імператар абавязваўся кіраваць "па законах і па сэрцы… аўгусцейшай бабкі нашай гасударыні імператрыцы Кацярыны Вялікай"[31]. Кацярына ж, па прыкладзе Лізаветы Пятроўны, выступала супраць смяротнага пакарання. Красамоўны выпадак здарыўся ў XIX ст., калі ў 1827 г. два яўрэі таемна перайшлі праз памежную раку Прут. Мікалай I (1825–1855) адмовіўся падпісаць ім смяротны прысуд, заўважыўшы: "Дзякуй Богу, смяротнага пакарання ў нас не было і не мне ўводзіць яго"[32].

Няўжо ў Расійскай імперыі ўжо ў XVIII–XIX стст. не выкарыстоўваўся такі від пакарання? Вядома, не. Перш за

ўсё, пакаранне смерцю існавала ў дачыненні да палітычных асоб, якія самі прэтэндавалі на трон або планавалі змену ўлады (каля 20 тысяч удзельнікаў паўстання Пугачова, паручнік Міровіч, пяцёра дзекабрыстаў). Тут дарэчы згадаць і ўраджэнцаў Беларусі. Яўрэйка Геся Гельфан, якая нарадзілася ў Мазыры, уваходзіла ў склад арганізацыі "Народная воля" і брала ўдзел у падрыхтоўцы замаху на імператара Аляксандра II (1855– 1881), выкананага Ігнатам Грынявіцкім, таксама ўраджэнцам Беларусі. Г. Гельфан была прыгаворана судом да павешання (звычайна такі від пакарання прымяняўся да грамадзян, а расстрэл – для вайскоўцаў), але падчас вынясення прысуду яна заявіла пра сваю цяжарнасць. Згодна з законам, з-за невінаватасці дзіцяці караць жанчын у такім стане забаранялася. У Заходняй Еўропе пачалася кампанія за адмену смяротнага прысуду. Адкрыты ліст у падтрымку Гельфан апублікаваў французскі пісьменнік Віктор Гюго. Паколькі ў той час складваліся абрысы будучага руска-французскага саюза, смяротнае пакаранне было заменена пажыццёвымі катаржнымі працамі. Але падчас і пасля родаў Гельфан не атрымала медыцынскай дапамогі і неўзабаве памерла ў турме ад гнойнага запалення брушыны, якое развілося ў выніку нялечанага пасляродавага ўскладнення[33].

Другая акалічнасць. У 1812 г. было прынята "Палявое крымінальнае ўкладанне" ("Полевое уголовное уложение"), згодна з якім смяротнае пакаранне

прадугледжвалася за цяжкія злачынствы, здзейсненыя ў часы вайны. Яно тычылася толькі вайскоўцаў. Аднак паколькі падчас паўстанняў у пэўных мясцовасцях уводзілася вайсковае становішча, там таксама пачынала дзейнічаць "Палявое ўкладанне". Напрыклад, у Беларусі гэта адбылося падчас падаўлення паўстанняў 1830–1831 і 1863–1864 гг. Паводле загада Мікалая І (22 сакавіка 1831 г.), шляхту, якая брала ўдзел у паўстанні са зброяй, належала судзіць ваенным судом, а прысуд выконваць на месцы. Па падліках даследчыка П. Кошаля, усяго было пакарана смерцю каля 1500 чалавек (хоць аўтар не прыводзіць крыніцу такой інфармацыі)[34]. Магчыма, гэтая лічба крыху завышана, бо за ўдзел у паўстанні Каліноўскага было павешана або расстраляна 123 чалавекі[35]. Кіраўнік паўстання на тэрыторыі Беларусі таксама быў пакараны смерцю рашэннем ваенна-палявога суда. Захавалася некалькі сведчанняў гэтай падзеі. Паводле аднаго з іх, Каліноўскі «ішоў на пакаранне смелай хадою, стаў прама да шыбеніцы і пры чытанні прысуду, дзе ён названы быў дваранінам, гучна прамовіў: "Дваран няма, мы ўсе роўныя". Унутранае яго хваляванне прабівалася наверх толькі ў тым, што ён як бы машынальна абводзіў натоўп, што яго атачаў, вачыма, а можа быць, ён шукаў там кагосьці са сваіх паплечнікаў, жадаючы даць яму зразумець нейкім чынам, што таямніцу пра іх нясе ён з сабой у магілу»[36].

Трэцяя акалічнасць. Смяротнае пакаранне фактычна захоўвалася ў закамуфляваным выглядзе, паколькі існавалі цялесныя пакаранні. Толькі "Уложение о наказаниях уголовных и исправительных 1845 г." (першы крымінальны кодэкс Расійскай імперыі) адмяніла пакаранне бізуном, але зафіксавала вышэйшую мяжу пакарання бізунамі – 100 удараў. Цялесныя пакаранні як мера крымінальнай адказнасці былі адменены толькі ў 1863 г. (за выключэннем прысудаў рэцыдывістам-катаржнікам). Але галоўнай праблемай была колькасць удараў. Вышэй прыводзіўся прыклад пра двух яўрэяў, якія таемна перайшлі праз памежную раку Прут. За гэты ўчынак Мікалай I пастанавіў прагнаць іх "сквозь тысячу человек 12 раз"[37]. Зразумела, што вытрымаць 12 тысяч удараў палкамі было немагчыма.

Разгледжаныя прыклады выкарыстання смяротнага пакарання ўпершыню былі зафіксаваны ў адным дакуменце толькі ў пачатку 1830-х гг. Гаворка пра Звод законаў Расійскай імперыі 1832 г., які пачаў дзейнічаць са студзеня 1835 г. Згодна з ім, смяротнае пакаранне ўжывалася ў дачыненні да трох катэгорый злачынстваў: каранцінных (здзейсненых падчас эпідэмій або звязаных з гвалтам над каранціннымі служачымі), вайсковых і палітычных. Гэтыя палажэнні ўвайшлі ў два крымінальныя Укладанні 1845 г. і 1903 г.[38]. Напрыклад, другі з названых дакументаў разумеў пад палітычнымі асабліва небяспечныя дзяржаўныя злачынствы. Гэта

“злоумышления” на жыццё, свабоду і вярхоўныя правы імператара, імператрыцы і іншых асоб імператарскага дома, бунт супраць вярхоўнай улады (сюды ўключаўся і ўдзел ў антыдзяржаўных таварыствах), а таксама дзяржаўная здрада[39]. Дарэчы, тады ж, у 1903 г., было ўведзена ўзроставае абмежаванне (забаранялася караць смерцю злачынцаў, маладзейшых за 21 год і старэйшых за 70 гадоў).

Заўважым, што ваенна-паліцэйскі характар Расійскай імперыі, пра які ішла гаворка ў дачыненні да часоў Пятра I, істотна не змяніўся. Напрыканцы XIX ст. у імперыі пачаў пашырацца рэвалюцыйны рух. На тым этапе яго пікам стала забойства імператара Аляксандра II. У адказ Аляксандр III, яго пераемнік, падпісаў “Положения о мерах к охранению государственного порядка и общественного спокойствия” ад 4 верасня 1881 г.[40] (у некаторых мясцовасцях дакумент дзейнічаў да рэвалюцыі 1917 г.). Яны давалі права вышэйшым адміністрацыйным чынам (генерал-губернатарам, а дзе іх не было – міністрам унутраных спраў) права перадаваць на разгляд ваенным судам справы асоб, якія павінны былі разглядацца грамадзянскім судом.

Гэтая тэндэнцыя праявілася ў пачатку XX ст. У 1905 г. пачалася рэвалюцыя. У адказ урад стаў выкарыстоўваць надзвычайнае заканадаўства. У шэрагу губерняў было ўведзена ваеннае становішча. Аўтаматычна пад юрысдыкцыю ваенных судоў трапілі палітычныя

злачынствы[41]. Такім чынам быў пакараны смерцю эсэр Іван Пуліхаў. Разам з Аляксандрай Ізмайловіч ён арганізаваў замах на мінскага губернатара Паўла Курлава. Пуліхаў кінуў у яго бомбу, якая не выбухнула (пра падрыхтоўку замаху ведалі агенты паліцыі, якія выцягнулі дэтанатар), Ізмайловіч адкрыла агонь з пісталета ў паліцмайстра. Часовы ваенны суд прыгаварыў абодвух да смяротнага пакарання праз павешанне. Праўда, касацыйная скарга Ізмайловіч была задаволена, яе прысудзілі да бестэрміновай катаргі, а Пуліхаў быў павешаны на браме Пішчалаўскага замка (цяпер "Валадарка")[42].

Якія тэндэнцыі былі ўласцівы заканадаўству часоў Расійскай імперыі? Як відаць, ваенна-паліцэйскі характар гэтай дзяржавы, а таксама абсалютызм (абмежаваны толькі ў пачатку XX ст.) знайшлі адлюстраванне ў заканадаўстве. Будзе вельмі дарэчы працытаваць думкі, выкладзеныя даследчыкам Юрыем Дубоўскім. Яны тычацца ваенна-крымінальнага заканадаўства Расійскай імперыі, але могуць быць распаўсюджаны і на ўсю праблематыку смяротнага пакарання. Як падкрэслівае Ю. Дубоўскі, з сярэдзіны 70-х гг. XIX ст. назіралася "змякчэнне карных мер, што было звязана з імкненнем вярхоўнай улады прытрымлівацца прыкладу буржуазных еўрапейскіх дзяржаў, якія праводзілі дэмакратычныя пераўтварэнні". Але на мяжы XIX–XX стст. улада пайшла

на больш жорсткую крымінальную адказнасць за дзяржаўныя і вайсковыя злачынствы. “Імкненне ўрада ўтрымаць у падпарадкаванні насельніцтва імперыі прывяло да беспрэцэдэнтнага прымянення норм ваенна-крымінальнага заканадаўства да грамадзянскага насельніцтва”[43]. А гэта яшчэ больш спрыяла радыкалізацыі грамадства і падштурхоўвала насельніцтва да рэвалюцыі – радыкальнага вырашэння ўсіх пытанняў.

## СССР

У 1914 г. пачалася Першая сусветная вайна, а ў наступным годзе заходняя частка Беларусі была акупавана немцамі. За наступныя шэсць гадоў імператарская ўлада змянілася на Часовы ўрад, той саступіў месца бальшавікам, замест апошніх прыйшлі немцы, пасля зноў бальшавікі, палякі і, у чарговы раз, бальшавікі. Савецкая ўлада была канчаткова ўсталявана 31 ліпеня 1920 г. (другое абвяшчэнне БССР). Увесь гэты час на ўсёй тэрыторыі сучаснай рэспублікі дзейнічалі жорсткія законы ваеннага часу.

Выключэннем стаў толькі адзін параўнальна непрацяглы перыяд. 2 сакавіка 1917 г. Часовы ўрад адмяніў смяротнае пакаранне і абвясціў амністыю, згодна якой толькі па крымінальных справах было вызвалена 15 тысяч чалавек[44]. Аднак рэвалюцыйная вольніца хутка

выклікала ўсеагульны хаос. У ліпені 1917 г. Часовы ўрад аднавіў смяротнае пакаранне на фронце[45]. Каб заваяваць прыхільнасць грамадзян, 26 кастрычніка 1917 г. бальшавікі (дэкрэтам II Усерасійскага з’езда Саветаў) адмянілі апошняе рашэнне. Але гэты крок быў сімвалічным, бо ў першыя месяцы пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў барацьбе за ўладу прымяняліся расстрэлы без суда і следства[46].

Тым часам Беларусь у чарговы раз апынулася ў дваістай сітуацыі. З аднаго боку, у складзе СССР існавала беларуская дзяржаўнасць (гаворка пра БССР). Адпаведна, існавала рэспубліканскае заканадаўства. Напрыклад, крымінальныя кодэксы 1928 і 1960 гг. З іншага боку, ступень цэнтралізацыі была надзвычай вялікай. Таму гэтыя дакументы прымаліся пасля з’яўлення адпаведных кодэксаў у Маскве. Ды і ўсе імпульсы сыходзілі з савецкай сталіцы. Таму звароту да агульнасавецкіх рэалій пазбегнуць немагчыма.

5 верасня 1918 г. была прынята пастанова “Пра чырвоны тэрор”: “Савет Народных Камісараў <…> лічыць, што <…> неабходна абараніць Савецкую Рэспубліку ад класавых ворагаў шляхам ізаляванасці іх у канцэнтрацыйных лагерах; што падлягаюць расстрэлу ўсе асобы, якія маюць дачыненне да белагвардзейскіх арганізацый, змоў і бунтаў; што неабходна апублікаваць імёны ўсіх расстраляных, а таксама падставы прымянення

да іх гэтай меры”[47]. Чырвоны тэрор дзейнічаў да канца Грамадзянскай вайны (прыкладна да 1923 г.).

Такія дакументы не былі прыватнай ініцыятывай пэўнай групы бальшавікоў, а цалкам адпавядалі марксісцкаму светапогляду. Згодна з меркаваннямі тэарэтыкаў марксізму (Карла Маркса, Фрыдрыха Энгельса і Уладзіміра Леніна), капіталістычнае грамадства, у якім існуюць прыгнечаныя класы, павінна было ператварыцца ў камуністычнае, бяскласавае. У такім выпадку ў існаванні дзяржавы не будзе патрэбы. Аднак пэўны час павінен быў дзейнічаць пераходны перыяд, калі дзяржава яшчэ будзе існаваць, уся ўлада будзе належаць пралетарыяту, а формай гэтай улады будзе дыктатуры пралетарыяту. Дыктатура патрэбная для таго, каб разбурыць існуючую сістэму і перамагчы тыя класы, якія будуць супраціўляцца пераўтварэнням. “Чым больш дэмакратычная дзяржава, якая складаецца з узброеных рабочых… тым хутчэй будзе адміраць усялякая дзяржава”, – пісаў Ленін[48].

Такі светапогляд паўплываў на фарміраванне класавага падыходу пры правядзенні крымінальнай палітыкі. А таксама на распрацоўку тэорыі рэвалюцыйнай правасвядомасці. Як пісаў С. В. Жыльцоў, «рэвалюцыйная правасвядомасць не абмяжоўвала ні ўладу, ні суддзяў у вызначэнні меры пакарання (у тым ліку вышэйшай меры) за злачынствы ў мэтах абароны

рэвалюцыі, якая павінна адпавядаць не норме права, а ўнутранаму перакананню “спачатку асобных людзей”, потым груп і, нарэшце, усяго чалавецтва. Адсюль непазбежна вынікала манаполія на ісціну асобных людзей – кіраўнікоў партыі бальшавікоў (Палітбюро)»[49].

Гэтыя погляды знайшлі адлюстраванне ў Крымінальным кодэксе РСФСР 1922 г. (у тым жа годзе ЦВК БССР прыняў пастанову “распаўсюдзіць дзеянне Крымінальнага кодэкса РСФСР на ўсю тэрыторыю Беларусі”[50]). Крымінальны кодэкс прадугледжваў смяротнае пакаранне па шэрагу артыкулаў [за контррэвалюцыйныя злачынствы (палітычны тэрор), а таксама за шэраг крымінальных, службовых і эканамічных злачынстваў]. Усяго па 28 складах злачынстваў[51]. Пэўная іронія бачыцца ў тым, што за два гады да гэтага, у студзені 1920 г., бальшавікі адмянілі смяротнае пакаранне ў сувязі са спыненнем актыўных баявых дзеянняў на франтах Грамадзянскай вайны. Але ў маі таго ж года яно зноў было адноўлена. Логіка тут простая: гэта быў самы эфектыўны сродак для барацьбы супраць апанентаў. Напрыклад, пад контррэвалюцыйным злачынствам разумелася “ўсялякае дзеянне, накіраванае на звяржэнне заваяванай пралетарскай рэвалюцыяй улады рабоча-сялянскіх Саветаў”[52]. Фактычна, пад гэтае азначэнне можна было падвесці любое дзеянне.

Крымінальны кодэкс меў адкрыта класавы характар. Напрыклад, за контррэвалюцыйнае злачынства мусіў адказваць прадстаўнік любога класа. Але адначасова закон быў гуманны да ўсіх правапарушальнікаў, якія належалі да класаў, што раней эксплуатаваліся – рабочых і сялян. Калі апошнія здзяйснялі наўмыснае забойства пры абцяжарвальных абставінах (напрыклад, забойства з-за рэўнасці асобай, якая ўжо здзяйсняла такое злачынства, і г. д.), прадугледжвалася пазбаўленне волі "на тэрмін не ніжэй за восем гадоў са строгай ізаляцыяй"[53]. Бальшавікі верылі, што можна перавыхаваць любога крымінальніка, які верыў у камуністычную ідэю[54].

Наступным этапам станаўлення таталітарнага грамадства стала прыняцце Крымінальнага кодэкса РСФСР рэдакцыі 1926 г. (фактычна, гэта быў цалкам новы кодэкс, які адрозніваўся ад таго, што быў прыняты чатыры гады таму), які пачаў дзейнічаць з наступнага года. У ім за 50 складаў злачынстваў у якасці адной з санкцый прадугледжвалася смяротнае пакаранне (сярод іх фальшываманецтва, адмова ваеннаабавязанага выконваць загад у ваенны час, дэзерцірства ў ваенны час і г. д.) [55]. Асаблівую "вядомасць" атрымаў артыкул 58-10 – "контррэвалюцыйная агітацыя і прапаганда". Калі ў БССР сталі працаваць над новым Крымінальным кодэксам (прыняты ў 1928 г.), дык проста перапісалі яго з

расійскага, толькі з іншай нумарацыяй артыкулаў[56].

Яшчэ адной рысай, уласцівай савецкаму праву таго часу, было выкарыстанне метаду аналогій. У артыкуле 6 Крымінальнага кодэкса БССР за 1928 г. указвалася: калі гэтым кодэксам не прадугледжана адказнасць за пэўнае злачынства, то суд можа вызначыць адказнасць на падставе тых артыкулаў, якія найбольш да яго падыходзяць. Зразумела, гэта стварала шырокія магчымасці для злоўжывання[57].

У гэты перыяд дзяржава зрабіла стаўку на паскораную індустрыялізацыю і калектывізацыю. Гэты курс не сустрэў падтрымкі ў значнай часткі насельніцтва. У выніку Іосіф Сталін узяў курс на рэанімацыю тэорыі рэвалюцыйнай законнасці. Ён сцвердзіў тэзіс, паводле якога, чым большае набліжэнне да сацыялізму, тым бязлітасней супраціўленне зрынутых класаў, што стала падставай для масавых рэпрэсій. З гэтай мэтай у 1930-я гг. было прынята надзвычайнае заканадаўства. Непасрэднай нагодай для гэтага паслужыла забойства члена Палітбюро Сяргея Кірава (у 1934 г.). Па распараджэнні Сталіна за некалькі гадзін была падрыхтавана пастанова “Аб парадку вядзення спраў аб падрыхтоўцы тэрарыстычных актаў”, якая дзейнічала да 1956 г. Згодна з ёй, следства па такіх справах праводзілася не больш, чым за 10 дзён. Абвінаваўчае заключэнне ўручалася арыштаваным за адны суткі да разгляду

справы ў судзе. Абскарджванне прысуду не дапускалася. Прысуд аб вышэйшай меры прыводзіўся ў выкананне адразу пасля яго вынясення[58]. Гэтыя дакументы сталі юрыдычнай базай для масавых рэпрэсій, пік якіх прыйшоўся на 1937–1938 гг.

Прысуды тады выносілі так званыя тройкі. Што маецца на ўвазе? 31 ліпеня 1937 г. наркам унутраных спраў Мікалай Яжоў падпісаў загад "Аб аперацыі па рэпрэсіраванні былых кулакоў, крымінальнікаў і антысавецкіх элементаў". Справы разглядаліся "тройкамі", куды ўключаліся мясцовы начальнік НКУС, мясцовы пракурор і прадстаўнік партыі. Рашэнні прымаліся завочна – на падставе спраў, якія падаваліся органамі НКУС, а часта – па спісах арыштаваных (без матэрыялаў). Іх рашэнні часта грунтаваліся на прызнанні з боку арыштаваных сваёй віны. Але вядома, якімі метадамі дасягалася такое прызнанне. Паказальная гісторыя Вільгельма Кнорына, які двойчы (1920–1922 і 1927–1928 гг.) узначальваў беларускую кампартыю і, адпаведна, БССР. Падчас допытаў Кнорын быў вымушаны стаяць без перапынку 24 гадзіны[59]. Пасля следчы катаваў Кнорына паяльнай лямпай. Калі адзін са зняволеных убачыў яго ў душавой без вопраткі, то ўся спіна была спалена, былі бачныя косткі шкілета[60]. Судовы працэс таксама ўяўляў сабой фікцыю. Пасяджэнне Ваеннай калегіі, на якой Кнорын прызнаў

сябе вінаватым, разам з вынясеннем і агалошваннем прысуду працягвалася 20 хвілін. 17 лістапада 1938 г. "тройкі" былі адменены[61]. Аднак рэпрэсіі працягваліся і далей. Агульная колькасць ахвяр дагэтуль застаецца невядомай. Па афіцыйных звестках (даведкі 1-га спецаддзела МУС СССР за 1953 г.), толькі за 1937–1938 гг. было вынесена 681,6 тыс. смяротных прысудаў (за 1921–1938 гг. – 745,2 тыс.)[62].

У 1947 г. выйшаў указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР "Аб адмене смяротнага пакарання". Можна меркаваць, што прычыны былі палітычнымі: стварыць у свеце станоўчы імідж СССР. Але ў рэальнасці смяротнае пакаранне (як і пасля яго адмены ў 1920 г.) працягвала ўжывацца Міністэрствам дзяржаўнай бяспекі па справах аб контррэвалюцыйных злачынствах. А ўжо праз тры гады, у студзені 1950 г., "па шматлікіх просьбах працоўных" выйшаў указ "Аб прымяненні смяротнага пакарання да здраднікаў Радзімы, шпіёнаў, падрыўнікоў-дыверсантаў"[63].

Пад катэгорыяй "здраднікі Радзімы" праходзілі ўдзельнікі падпольных антысавецкіх арганізацый, якія існавалі пасля вайны ў Заходняй Беларусі ("Чайка", "Саюз беларускіх патрыётаў"). Напрыклад, у чэрвені 1947 г. чатыры сябры Саюза беларускіх патрыётаў былі прыгавораны да расстрэлу, які пазней быў заменены на 25 гадоў канцэнтрацыйных лагераў. У ліпені 1950 г. быў

расстраляны адзін з кіраўнікоў Мядзельска-Смаргонскага моладзевага антыкамуністычнага падполля Расціслаў Лапіцкі[64]. Нарэшце, адной з апошніх ахвяр сталінскай эпохі стаў Янка Філістовіч, якога ў 1951 г. амерыканцы закінулі на парашуце ў Беларусь. Філістовіч камандаваў групай з пяці чалавек і нават здзейсніў паспяховы напад на друкарню. Але ў наступным годзе ён быў арыштаваны, а ў лістападзе 1953 г. расстраляны[65].

Гэтая падзея адбылася ўжо пасля таго, як не стала І. Сталіна (сакавік 1953 г.), чыя смерць сімвалізавала важную тэндэнцыю: апаненты ўлады больш не асуджаліся да смяротнага пакарання за сваю палітычную дзейнасць (выключэннем можа з’яўляцца гісторыя мастака Лявона Баразны, забітага ў 1972 г. пры загадкавых абставінах[66]).

У 1960 г. быў прыняты новы Крымінальны кодэкс РСФСР, у тым жа годзе – адпаведны кодэкс БССР (уступіў у дзеянне ў 1961 г.). У параўнанні з папярэдняй, сталінскай эпохай, колькасць злачынстваў, за якія прадугледжвалася вышэйшая мера пакарання, была скарочана, але ўсё роўна заставалася даволі вялікай. Сярод больш чым 30 відаў злачынстваў – наўмыснае забойства з абцяжарвальнымі абставінамі (арт. 102); згвалтаванне з абцяжарвальнымі абставінамі; здрада Радзіме; шпіянаж; бандытызм; замах на жыццё работніка міліцыі або дружынніка пры выкананні службовых абавязкаў; тэрарыстычны акт, які пацягнуў смерць

чалавека; захоп самалёта, які пацягнуў смерць чалавека; парушэнне правілаў валютных аперацый у асабліва буйным памеры; пасярэдніцтва або дача хабару ў асабліва буйным памеры ці асобай, якая раней была асуджана за аналагічныя злачынствы, і інш.[67].

Як ужо адзначалася, артыкул "за здраду Радзіме" перастаў выкарыстоўвацца адносна палітычных апанентаў савецкага рэжыму. Але ўсё ж такі ён існаваў. Прычым, у дачыненні да жанчыны. Увогуле, з 1960 г. і да распаду СССР да смяротнага пакарання былі прыгавораны тры жанчыны: Берта Бародкіна (за спекуляцыі і карупцыю), Тамара Іванюціна (за атручванне людзей) і Антаніна Макарава ("Тонькакулямётчыца"). Лёс апошняй звязаны з Беларуссю. У гады Другой сусветнай вайны Макарава трапіла ў палон да немцаў, перайшла да іх на службу і расстрэльвала мірных жыхароў і партызан на Браншчыне (каля 1500 чалавек). Пасля вайны яна дастала дакумент іншага чалавека і выдала сябе за медсястру, што ўсе чатыры гады вайны служыла ў Чырвонай арміі. Макарава выйшла замуж за беларуса і ў 1945 г. пераехала на яго радзіму – у горад Лепель. Толькі праз тры дзесяцігоддзі, у 1978 г., яна была арыштавана там, перавезена ў Бранск (у тым раёне яна забівала людзей), а ў 1979 г. расстраляна ("за здраду Радзіме").

У 1980-я гг. у Беларусі прагрымелі адразу дзве гучныя справы ("мазырская" і "віцебская"), якія моцна падарвалі

рэпутацыю праваахоўнай сістэмы. Пра “мазырскую справу” жыхары СССР даведаліся з артыкула “Цень адной памылкі”, які надрукаваў у газеце “Известия” Мікалай Матукоўскі, уласны карэспандэнт гэтага выдання па Беларусі. Летам 1981 г. у адным з азёр Гомельскай вобласці былі знойдзены трупы інспектара мазырскай раённай інспекцыі і следчага мясцовай пракуратуры. У якасці абвінавачаных да справы было прыцягнута пяцёра людзей. Ніводнага прамога доказу, які сведчыў бы пра іх датычнасць да забойства, не мелася. Але дзяржаўны абвінаваўца з пракуратуры БССР прапанаваў прысудзіць усіх да смяротнага пакарання. Некалькіх следчых пракуратуры, якія прапаноўвалі спыніць справу за недаказанасцю (сярод іх Мікалай Ігнатовіч, будучы народны дэпутат СССР і першы пракурор незалежнай Беларусі) былі адхілены ад працы. Падчас следства да абвінавачаных прымяняліся “метады фізічнага збіцця і гвалту”. Праз два гады, у 1983 г., былі знойдзены сапраўдныя забойцы.

Як вынік, у снежні 1983 г. на пасяджэнні бюро ЦК Камуністычнай партыі Беларусі прагучаў даклад “аб фактах грубага парушэння законнасці работнікамі праваахоўных органаў рэспублікі”. У рамках “мазырскай справы” ад сваіх пасад былі адхілены міністр унутраных спраў БССР Генадзь Жабіцкі, яго намеснікі (Павел Жук і Іван Цімашэнка), а таксама пракурор БССР Адам Магільніцкі і яго першы намеснік Пётр Дудкоўскі. Аднак

міліцыянераў, якія фальсіфікавалі справы, так і не прыцягнулі да крымінальнай адказнасці[68].

Ужо праз два гады прагучала “віцебская справа”. З 1971 г. у раёне Полацка, Віцебска, а таксама ў прылеглай сельскай мясцовасці сталі прападаць жанчыны. Пазней іх знаходзілі задушанымі. Даходзіла да таго, што жанчыны ў Віцебску і Полацку адмаўляліся выходзіць на працу ў другую і трэцюю змены. Кожны раз следчыя органы знаходзілі “вінаватых” і прымушалі іх прызнацца ў “злачынствах”. Пасля 11 судовых пасяджэнняў былі асуджаны 13 чалавек. Адзін з іх быў пакараны смерцю, другі аслеп у турме і быў выпушчаны на свабоду як асоба, якая “не ўяўляе небяспекі”, двое атрымалі па 15 гадоў турмы, яшчэ адзін – 10 гадоў. Толькі ў 1985 г. быў арыштаваны сапраўдны забойца – Генадзь Міхасевіч, які да таго часу забіў як мінімум 36 жанчын[69]. Чаму так адбылося? Сярод іншых прычын Мечыслаў Грыб, тады начальнік упраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама (з 1985 г. кіраваў расследаваннем “віцебскай справы”), называў дзве акалічнасці: “заганная сістэма ацэнкі дзейнасці праваахоўных органаў па выніках раскрыцця злачынстваў, вельмі жорсткія патрабаванні раскрыцця злачынстваў любым коштам з боку вышэйстаячых праваахоўных органаў”[70]. Цікава, што па выніках расследавання група, якая раскрыла злачынства Міхасевіча, “аказалася ў цэнтры негатыўнай

увагі з боку высокага начальства”. “Атрымлівалася так, – пісаў Грыб, – што мы нібыта вінаватыя ў тым, што выявілі гэтыя парушэнні закону, агалосілі іх і кінулі цень на ўсё ведамства”. Грыбу намякалі, што Міхасевічу лепш загінуць да суда, магчыма, пры спробе збегчы. Але справа была даведзена да суда, а злачынца расстраляны. У выніку ніхто з удзельнікаў расследавання не атрымаў ні ўзнагарод, ні нават удзячнасці[71]. “Мазырская” і “віцебская” справы засведчылі шматлікія праблемы ў дзейнасці праваахоўных органаў Беларусі, а таксама небяспеку прымянення смяротнага пакарання ў СССР, ахвярамі якога часта рабіліся невінаватыя людзі.

Сумнеўным быў і агульны эфект. У Крымінальным кодэксе БССР 1928 г. і Крымінальным кодэксе БССР 1960 г. падкрэсліваўся часовы характар смяротнага пакарання. Разам з тым напрыканцы існавання савецкай улады яно было санкцыянавана ў 33 артыкулах Крымінальнага кодэкса РСФСР і іншых саюзных рэспублік. З іх 11 – за дзяржаўныя злачынствы, 16 – за вайсковыя. Як піша С. В. Жыльцоў, выключэнне з правіла ўрэшце ператварылася ў само правіла [72]. Пры гэтым, па падліках даследчыка Г. З. Анашкіна, не выявілася ніякага ўздзеяння смяротнага пакарання на рост або зніжэнне злачыннасці. Цікава, што гэтыя падлікі аўтар прывёў у дапаможніку “Заканадаўства СССР аб смяротным пакаранні і практыка яго прымянення”[73]. С. В. Жыльцоў адзначае,

што гэтая кніга нават у 2002 г. мела пазнаку “для службовага карыстання” і не выдавалася простаму чытачу[74]. Значыць, ужо ў 1969 г. было вядома пра такі “эфект” смяротнага пакарання, але шырокай аўдыторыі ведаць пра тое было непатрэбна.

Такім чынам, гісторыя смяротнага пакарання ў Беларусі прайшла доўгую эвалюцыю, на якую ўплывала гістарычная эпоха і канкрэтныя палітычныя абставіны. Гэта быў шлях ад калектыўнай да індывідуальнай адказнасці, ад такіх жорсткіх форм пакарання як чвартаванне і саджэнне на кол – да расстрэлу, ад знішчэння палітычных канкурэнтаў – да адмовы ад выкарыстання палітычнага фактару, ад формы сацыяльнага рэгулявання (як альтэрнатыва кроўнай помсты) – да застрашвання патэнцыйных забойцаў. Але смяротнае пакаранне не змяніла ды і не магло змяніць чалавечую прыроду. Пасля распаду СССР смяротнае пакаранне як форма пакарання засталося ў айчынным заканадаўстве. Стаўленне да такой формы – адна з галоўных праблем сучаснага грамадства.

*Дзяніс Марціновіч*

# ТАЯМНІЦА ПАХАВАННЯ ПАКАРАНЫХ СМЕРЦЮ

Смяротнае пакаранне набывае масавы характар пры падаўленнях паўстанняў і рэвалюцый.

## ВІЛЕНСКІЯ ДАМІНІКАНСКІЯ МУРЫ – АПОШНІ ПРЫСТАНАК ПЕРАД КАРАЙ

Так было і падчас задушэння паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, калі паводле прысудаў трыбуналаў былі пакараны смерцю 128 паўстанцаў, а генерал-губернатара Паўночна-Заходняга краю з “надзвычайнымі паўнамоцтвамі” Міхаіла Мураўёва назвалі “вешальнікам”. Выкананне смяротных прысудаў над паўстанцамі адбывалася праз расстрэл або павешанне, паводле адмысловага закону (арт. 549 кн. 2-й Ваенна-крымінальнага статута, 1859 г.).

Віленскія Дамініканскія муры – кляштар дамініканцаў, які падчас задушэння паўстання 1863 г. быў пераробленны пад турму. Тут Кастусь Каліноўскі ўтрымліваўся перад выкананнем смяротнага прысуду. Паводле гэтага закону, асуджаныя на смерць падлягалі кары цягам 2 сутак пасля зацвярджэння выраку суда. Менавіта тут былі напісаны славутыя “Лісты з-пад шыбеніцы”. Кастусь Каліноўскі быў публічна павешаны

ў Вільні 10 (22) сакавіка 1864 г. на плошчы Лукішкі. Целы пакараных смерцю паўстанцаў не выдавалі для пахавання сваякам (гэтая традыцыя перайшла і ў сучасную Беларусь), іх звозілі на Замкавую гару (гару Гедыміна), дзе стаяў расійскі гарнізон, і закопвалі таемна. Тэрыторыя знаходзілася пад аховай.

Сяргей Дубавец у артыкуле “Гара Гедыміна – магіла Каліноўскага” пісаў:

*«Экзекуцыя адбылася на Лукішскай плошчы 10 сакавіка. Шыбеніца, на якой павесілі героя, стаяла паміж будынкамі ўчорашняга КДБ (сёння тут музей генацыду) і Кансерваторыі.*

*Пасля экзекуцыі цела героя перавезлі па праспекце – тады Юраўскім, а сёння Гедыміна – проста на Замкавую гару. Там тады стаяў расійскі гарнізон. Паколькі месцы пахавання забітых паўстанцаў адразу ж ператвараліся ў месцы паломніцтва, было вырашана хаваць героя на тэрыторыі гарнізона. Больш за тое, на месцы магілы была абсталяваная пляцоўка для гульні ў крыкет. Так доўжылася да пачатку Першай сусветнай вайны, калі расійскі гарнізон пакінуў Вільню. У 1915 годзе віленскія археолагі зрабілі раскопкі магілы, апісалі яе і дакументальна пацвердзілі факт пахавання ў ёй пятнаццаці паўстанцаў. Целы апазнавалі па вопратцы, у справаздачы, між іншым, згадваюцца “макасіны Каліноўскага”. А ў 1921 годзе на магіле быў зроблены мемарыял. Ён складаўся з вялікага драўлянага крыжа працы віленскага архітэктара Антона Вівульскага і мармуровай шыльды з імёнамі ўсіх пахаваных. У 1940 годзе, пасля таго, як Сталін перадаў Вільню Літве, крыж быў спалены, а шыльда*

*знікла без следу.*

*З тых часоў колішняя “пляцоўка для крыкету” ператварылася ў звычайную, парослую травой пустку. На самай вяршыні Замкавай гары сярод пакручастых рэльефаў яна такая роўная адна, таму адшукаць яе нескладана. Калі б вам давялося падымацца на гару на фунікулёры, дык вы і выйшлі б акурат да гэтай пляцоўкі».*

*Свабода. 2008. 31 студз.*

Цяпер у Вільні на Лукішскім пляцы стаіць драўляны крыж, ёсць мемарыяльная шыльда, прысвечаная Кастусю Каліноўскаму, і на мурах Дамініканскага кляштара.

## МАГІЛА НА ВАЙСКОВЫХ МОГІЛКАХ У МІНСКУ

На Вайсковых могілках у Мінску, на цэнтральнай алеі, злева ад ўвахода, стаіць помнік з чырвонага граніту, на ім надпіс: “Івану Пуліхаву. Пакараны смерцю ў ноч 24–25 лютага 1906 г. за замах на мінскага губернатара-ка́та Курлова. Ад Беларускага таварыства паліткатаржан”.

Адкуль магіла пакаранага смерцю ў цэнтры Мінска? Няўжо на пачатку XX ст. целы пакараных смерцю выдаваліся пасля выканання прысуду?

Ці гэта сімвалічная магіла? І тут няма цела Івана Пуліхава, які здзейсніў замах на губернатара Курлова,

арганізатара расстрэлу мірнага мітынгу на Прывакзальнай плошчы ў кастрычніку 1905 г., падчас якога было забіта каля 100 чалавек і больш за 300 паранена.

У Расійскай імперыі целы пакараных смерцю не выдаваліся для пахавання. Невядома дакладна, дзе магіла Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў, вядома толькі, што гэта на гары Гедыміна ў Вільні. У тагачаснай дзяржаве ўлады баяліся, што магілы пакараных, а смерцю тады часта каралі "палітычных злачынцаў", стануць месцам, куды будуць прыходзіць нязгодныя з рэжымам, і такія магілы стануць месцамі ўшанавання іх памяці. У Расійскай імперыі, дзе парушаліся сацыяльныя і нацыянальныя правы вялікай колькасці груп насельніцтва, смяротнае пакаранне было тым інструментам, які стрымліваў супраціў.

Між тым, ужо тады ўзнікалі грамадскія ініцыятывы за адмену смяротнага пакарання. Летам 1908 г. з'явіўся заклік да заснавання "Лігі барацьбы супраць смяротнага пакарання". Падобныя лігі ўжо паспяхова існавалі на той час у краінах Заходняй Еўропы. У Расійскай імперыі лігу меркавалі заснаваць падчас юбілею пісьменніка Льва Талстога. Мэтай была падрыхтоўка грамадства да адмены смяротнага пакарання.

Але ў 1909 г. арганізацыі было адмоўлена ў рэгістрацыі з тлумачэннем, што ліга "можа пагражаць грамадскаму спакою і бяспецы".

Жорсткая традыцыя караць не толькі чалавека, але і яго парэшткі ідзе са старажытных часоў. Варта прыгадаць гераіню трагедыі Сафокла, Антыгону, якой не дазвалялі пахаваць брата, і што яна ўрэшце зрабіла коштам уласнага жыцця.

Захавалася традыцыя таемных пахаванняў і падчас сталінскіх рэпрэсій. Расстрэльвалі так званых ворагаў народа ноччу пры святле фар. Так было і ў мінскіх Курапатах, дзе расстраляна ад 102 да 250 тысяч чалавек. І раскопкі ў 1992 г. паказалі, што частка ям мае сляды таго, што ка́ты спрабавалі знішчаць сляды злачынстваў.

Пасля XX з’езда партыі, які асудзіў сталінскія рэпрэсіі, такія “расстрэльныя” лясы часта ахоўвалі былыя супрацоўнікі карных органаў, удзельнікі расстрэльных каманд, якія ўладкоўваліся працаваць палясоўшчыкамі альбо вартаўнікамі. Іх мэтай было назіраць за расстрэльнымі ямамі, ахоўваць тэрыторыю ад занадта цікаўных, каб ніхто не раскапаў іх, напрыклад, падчас дзіцячых вайскова-спартыўных гульняў “Зарніца” ці суботнікаў. Гэтая практыка існавала не толькі ў Беларусі, але і ў іншых рэспубліках. Так было і ў Літве, пра што актывістам кампаніі “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання” паведаміў Эўгеніюс Пейкшцяніс, дырэктар Музея генацыду жыхароў Літвы (гэты музей часта памылкова называюць музеем КДБ). Так было і ў Оршы на Кабыляцкай гары, дзе палясоўшчыкам працаваў былы кат Сідарэнка, які падчас рэпрэсій сам здзяйсняў

расстрэлы.

…Дык хто ўсё ж такі пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску ў магіле эсэра Івана Пуліхава, павешанага ў 1906 г. паміж унутранай і знешняй брамай на "Валадарцы"? Гэта якраз той выпадак, калі дзяржаўная таямніца, якая ахоўвала месца пахавання, была раскрыта. Але раскрылася яна толькі пасля таго, як здарылася рэвалюцыя і Расійская імперыя развалілася. Пасля смяротнага пакарання Іван Пуліхаў быў таемна пахаваны на ўскрайку Старажоўскіх могілак. Можна ўявіць, як хавалі яго ўначы пры святле паходняў… Пра месца пахавання Івана Пуліхава ведаў вартаўнік могілак, праз 20 гадоў ён паказаў на гэтае месца былым паліткатаржанам, якія вырашылі ўшанаваць памяць Пуліхава. На магіле быў усталяваны камень з чырвонага граніту. Помнік прастаяў на Старажоўскіх могілках да іх ліквідацыі ў 1954 г., падчас якога парэшткі і магільную пліту перанеслі на Вайсковыя могілкі.

І ў сучаснай Беларусі месцы пахавання пакараных смерцю застаюцца таямніцай, якую ахоўвае частка 5 артыкула 175 Крымінальна-выканаўчага кодэкса, у якім гаворыцца, што "цела для пахавання не выдаецца, пра месца пахавання не паведамляецца".

Алег Алкаеў, у 1996–2001 гг. начальнік СІЗА № 1 Мінска, пры ўдзеле якога было здзейснена каля 150 смяротных прысудаў, распавядае пра тое, як выконваюцца прысуды, што адчувае кат, як паводзяць

сябе асуджаныя ў апошні момант… Ён распавядае пра ўсё, апрача месца, дзе хаваюць пакараных смерцю. Актывістам кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання" ён паведаміў, што ўсе месцы вядомы, ёсць і адпаведныя дакументы, толькі гаварыць пра гэта пакуль нельга, бо яны з'яўляюцца дзяржаўнай таямніцай і ахоўваюцца законам, а таксама распіскай "пра неразгалошванне".

## АЛЯКСАНДРА ІЗМАЙЛОВІЧ: СЦЕНЫ, КРАТЫ, ЦЕМРА СТОГНУЦЬ І ДЗІКА ЎСКРЫКВАЮЦЬ…

Адной з самых трагічных падзей у Мінску пачатку XX ст. стаў Курлоўскі расстрэл на Прывакзальнай плошчы 18 (31) кастрычніка 1905 г., калі дэманстрацыя (па розных крыніцах, ад 15 да 30 тыс. чалавек) была расстраляна войскамі.

Колькасць забітых у розных крыніцах таксама называецца розная: ад 50 да 100 чалавек – забіты, каля 300 – паранены, шмат удзельнікаў дэманстрацыі было арыштавана.

14 студзеня 1906 г. эсэры Аляксандра Ізмайловіч і Іван Пуліхаў удзельнічалі ў замаху на мінскага губернатара Паўла Курлова, які аддаў загад страляць па мірных дэманстрантах. Суд прысудзіў абодвух да смяротнай

кары, але прысуд Ізмайловіч быў заменены бестэрміновай катаргай.

Аляксандра Ізмайловіч ва ўспамінах "З мінулага", напісаных у высылцы, падрабязна апісвала свой псіхалагічны стан у чаканні смяротнага пакарання ў мінскай турме – Пішчалаўскім замку. Цяпер гэта СІЗА № 1 на вуліцы Валадарскага, дзе і па гэты дзень, у сучаснай Беларусі, у самым цэнтры Мінска прыводзяць у выкананне смяротныя прысуды.

*«Усведамленне, што канец блізкі, узмацнілася. Трэба было спяшацца. І ўсё, што я рабіла, пра што думала раней, асветленае гэтым усведамленнем, стала ў сто разоў ярчэй, мацней, выразней. Здавалася, што нервовая сістэма мая перарадзілася ў іншую, вышэйшага парадку, несумненна больш тонкую. У душы з'явілася незвычайная велічэзная любоў да ўсіх таварышаў, да ўсіх людзей, да ўсяго свету.*

*Здавалася, што я перанеслася ў іншую атмасферу, уласцівасць якой павялічваць у шмат разоў гукі, фарбы, у параўнанні з атмасферай паветранай. Я ніколі не любіла так жыццё, як у гэтыя дні "просияния". Ніколі не гаварыла мне так шмат сонца, блакітнае неба, верхавіны дрэў за сцяной, якія рэзка вымалёўваліся на вечаровым ліловым небе. Любоў, якая пераходзіла ў ціхае захапленне, у ззянне душы, была асноўным настроем. Ад яе быў неаддзельны сум, але нейкі асаблівы сум, нейкі ціхамірны, рахманы: гэтыя дрэвы зазелянеюць вясной, яны будуць жыць, думала я, а я не ўбачу іх, я не ўбачу больш жыццё. Гэта было сумна – не ўбачыць іх росквіту і забраць іх з сабой*

*мёртвымі. Хацелася ведаць, хто пераможа?*

*Ноччу, у самым прамым сэнсе гэтага слова, не хацелася сыходзіць. Хацелася памерці пры святле сонца. Тады яшчэ ніхто з жанчын не вісеў у пятлі пасля Пяроўскай. Яшчэ не было тады Канаплянніікавай, Бенідыктавай, Мамаевай, Шарашэўскай.* <…>

*Зразумець не магу, чаму мы без усялякіх падстаў былі ўпэўнены, што ў гэтую ноч яшчэ Васю [падпольная мянушка Івана Пуліхава] не возьмуць ад нас. Мы, як заўсёды, леглі позна, нешта каля дзвюх гадзін. Абуджэнне было жудасным. Прачнулася я ад суцэльных стогнаў, рыданняў. Зусім цёмная ноч і, здаецца, гэта яна, ноч, сцены, краты, цемра стогнуць і дзіка ўскрыкваюць. У адно імгненне мне стала ўсё ясна. Падбегла да акна – слабы водбліск ліхтара на снезе, крочыць вартавы… Для нечага пытаюся ў яго, што гэта такое? Маўчыць…*

*З агульнага хаосу жаху і смуты пачынаю адрозніваць жаночыя стогны, істэрычныя галашэнні і нейкія дзіўныя адрывістыя фразы. Нельга было разабраць, што яны крычаць – дзяліліся яны адзін з адным жудаснымі падрабязнасцямі або ў вар'яцкім бяссіллі гневу і роспачы пасылалі ў начны змрок шалёныя праклёны. Самымі жудаснымі былі выкрыкі. Стогны і істэрычныя рыданні побач з імі былі звычайнымі. У іх, у гэтых бязладных крыках, да болю адчувалася ўся веліч жаху ўсведамлення бяссілля ў хвіліну, калі сэрца разрываецца ад вогненнай нянавісці, калі душа бачыць сваё бяссілле…*

*Памятаю, у мяне не было ні адзінай слязінкі, толькі дрыжэла я ўсім целам, як у наймацнейшай ліхаманцы. Душа ж*

*была, як халодны камень. Раніцай на паверцы спытала наглядчыка: Пуліхава павесілі?*

*Ён моўчкі, не гледзячы на мяне, кіўнуў галавой. Хутка пасля ранішняй паверкі ўрачыста і сумна мужчыны заспявалі: "Вы ахвяраю палі…" Тут раптам мая закамянеласць знікла, з вачэй пырснулі слёзы.*

*Яны скончылі ўвесь пахавальны марш і зноў заспявалі канец: "Бывайце ж, браты, вы сумленна прайшлі…" І шмат, шмат разоў паўтаралі гэтае жалобнае "даруйце". Потым змоўклі на хвіліну і заспявалі ў іншым канцы корпуса. Пасля я даведалася, што перад турмой сабраўся натоўп, і таварышы выкінулі з вокнаў турмы чорныя сцягі. Бачыла, як прайшоў начальнік міма майго акна, як вартавы глядзеў на ўсе верхнія вокны. Вольга крыкнула мне ў акно: "Сёння ў нас абвешчана галадоўка. Увечары мы не будзем запальваць агню"».*

"Хто пераможа?" – думала Аляксандра Ізмайловіч у камеры смяротнікаў Пішчалаўскага замка. Перамога аказалася не той, пра якую яна марыла.

Пасля рэвалюцыі Аляксандра Ізмайловіч за прынцыповую крытыку новай улады падвяргалася праследу. У 1937 г. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага Суда СССР яна была асуджана да 10 гадоў пазбаўлення волі па абвінавачанні ў прыналежнасці да тэрарыстычнай арганізацыі, а 8 верасня 1941 г. – да смяротнага пакарання. Разам з іншымі палітычнымі вязнямі яе расстралялі 11 верасня ў Мядзведзеўскім лесе недалёка ад рускага горада Арол.

# ТАТАЛІТАРЫЗМ І СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

Смяротнае пакаранне, якое захоўваецца ў Беларусі, можа быць выкарыстана не толькі супраць крымінальных злачынцаў, але і ў адносінах да палітычных апанентаў. Злачынствы камунізму не былі асуджаны ў Беларусі, і сучасная ўлада шмат у чым адчувае сябе спадкаемніцай той улады, якая здзяйсняла масавыя расстрэлы нязгодных.

Таталітарызм і смяротнае пакаранне звязаны непарыўна, смяротная кара – інструмент для падтрымання ў грамадстве страху.

# МІКОЛА КРЫВАЛЬЦЭВІЧ: ЗНОЙДЗЕНЫЯ РЭЧЫ СВЕДЧЫЛІ, ШТО ЛЮДЗІ РЫХТАВАЛІСЯ Ў ВЯЛІКУЮ ДАРОГУ

Пра тое, што адбывалася ў Курапатах, свет даведаўся ў 1988 г. пасля таго, як у газеце "Літаратура і мастацтва" з'явілася першая публікацыя аўтарства Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва "Курапаты – дарога смерці". І гэтая публікацыя была пачаткам вялікай ініцыятывы і пачаткам узбуджэння грамадскай думкі пра тое, што ў Курапатах неабходна праводзіць даследаванні і эксгумацыю магіл для таго, каб даказаць і паказаць, што ў гэтым урочышчы

ў сталінскія часы адбываліся расстрэлы.

У 1988 г. у раскопках у Курапатах брали ўдзел вайскоўцы, з вялізных ям-катлаванаў салдаты падымалі парэшткі людзей, складвалі ў маленькія труны з дошак. Ці былі яны пасля перапахаваны – невядома дагэтуль.

Археолаг Мікола Крывальцэвіч, які ўдзельнічаў у якасці эксперта ў эксгумацыі ў Курапатах, гаворыць пра загадку, звязаную з тым, куды падзеліся парэшткі людзей і рэчы, што забралі ў пракуратуру.

*Парэшткі людзей і рэчы, атрыманыя ў выніку эксгумацыі, былі забраны ў пракуратуру, які быў лёс гэтых парэшткаў далей, мне, напрыклад, вельмі цяжка сказаць. Калі гаворка вядзецца пра тое, чаму ўтойваецца ці замоўчваецца праўда пра Курапаты, і робяцца спробы фальсіфікаваць і дыскрэдытаваць тое, што было зроблена, знойдзена і засведчана ў Курапатах, то гэта ў нейкай ступені перагукаецца з сённяшнім днём. Цяпер жорсткасць часам апраўдваецца, і нават апраўдваецца тое, што людзей расстрэльвалі.*

Мікола Крывальцэвіч распавядае пра асаблівасці працы, звязанай з эксгумацыяй цел:

*Летам 1988 г. да мяне звярнуўся Зянон Пазняк, а таксама звярнуўся і да Алега Іова для таго, каб мы ўдзельнічалі ў якасці экспертаў у эксгумацыі магіл у Курапатах. Саму працу па эксгумацыі магіл праводзіла пракуратура. Афіцыйна гэта гучала як следства, якое праводзіцца для таго, каб устанавіць, хто здзяйсняў расстрэлы ў Курапатах. Праводзіліся раскопкі часці магіл, бо часу было надзвычай мала, а самі даследаванні*

*трэба было правесці за 10 дзён. Для гэтага выбіраліся найбольш тыповыя магілы – паглыбленні ў лесе. Па-першае, пры папярэднім даследаванні было выяўлена, што ў лесе знаходзіцца больш за 600 магіл. Безумоўна, колькасць іх была большая, бо многія былі знішчаныя пракладкай газаправода, дарог, высечкай лесу. Бліжэй да дарог на Заслаўе найчасцей траплялiся парэшткі людзей, якія, хутчэй за ўсё, паходзілі з тутэйшай мясцовасці, былі з Усходняй Беларусі. Далей ад дарогі за пагоркам сустракаліся найчасцей магілы людзей, якіх прывозілі з тэрыторый, што знаходзіліся ў Заходняй Беларусі альбо краінах Балтыі. Пра гэта сведчылі рэчы – савецкай і несавецкай вытворчасці, і многія іншыя ўскосныя дадзеныя. Выяўляліся глыбокія ямы, глыбінёй да двух метраў, памерам да некалькіх квадратных метраў. Зверху яны былі засыпаны пяском, а ніжэй сярэдзіны і да самага нізу ляжалі касцякі, парэшткі людзей, каля іх ляжалі некаторыя рэчы. Гэтыя рэчы сведчылі пра тое, што людзі рыхтаваліся ў вялікую дарогу, бо бралі з сабой рэчы, якія звычайна ў той час бралі з сабой – зубную шчотку, мыла, цёплыя рэчы. Рэшткі такіх рэчаў былі знойдзены ў гэтых магілах. Уся наменклатура рэчаў гаварыла пра тое, што расстрэлы адбываліся ў канцы 1930-х гадоў і што мінімальная колькасць людзей, якая тут магла быць расстраляна – 32 тысячы чалавек. Лічба гэтая вынікала з эксгумацыі магіл – колькі ў адной магіле магло быць расстраляных чалавек, і па колькасці тых ям, якія на той момант былі ідэнтыфікаваныя. Хоць, безумоўна, колькасць расстраляных магла быць і нашмат большай, але гэта ўстанавіць на сённяшні дзень надзвычай*

*цяжка.*

*Толькі падчас эксгумацыі пятай магілы ў ліпені 1988 г. былі знойдзены парэшткі больш чым 260 чалавек. Гэта была даволі вялікая магіла. І ў асноўным тут былі расстраляны людзі з Заходняй Беларусі ці з краін Балтыі. Было даволі шмат жанчын у гэтай магіле.*

## ІРЫНА АШКЕР: БАЦЬКА ТОЛЬКІ РУКОЙ МАХНУЎ: "МЯНЕ НЕ ЧАКАЙ, ЕДЗЬ ДАМОЎ!"

Людзям, расстраляным за свае погляды, прысвечана кніга "Хронікі палітычнага тэрору. Крупскі рэгіён. 1918–2008". Даведнік утрымлівае звесткі пра рэпрэсаваных і расстраляных Крупскага і Халапеніцкага раёнаў, а таксама тэксты Сяргея Дубаўца, напісаныя да 20-годдзя адкрыцця праўды пра Курапаты.

У кнізе шмат інфармацыі і фактаў з архіваў спецслужбаў, якія публікуюцца ўпершыню, а таксама шмат аўтэнтычных фотаздымкаў – гэта фота расстраляных людзей і іх сем'яў. Аўтар-укладальнік – даследчык з Крупак Андрэй Аляхновіч, рэдактар выдання – Сяргей Дубавец.

Падчас працы над кнігай даследчык Андрэй Аляхновіч сабраў унікальны матэрыял, у тым ліку – успамін Ірыны Ашкер пра тое, як яе маці бачыла выхад на

расстрэл бацькі з брамы турмы ў Оршы. Гэта сапраўды рэдкае сведчанне, бо звычайна расстрэлы праходзілі таемна.

Распавядае Ірына Ашкер:

*Гэта было на досвітку, гадзін, можа, у чатыры… яны пачыналі забіраць з канца вуліцы – у іх быў спіс, па якім яны бралі. У нас адразу забралі бацьку і дзеда. Наступнай раніцай маці паехала ў Воршу папярэдзіць брата Рыгора. А пасля ўвечары каля нас спынілася машына, выйшлі, прывіталіся, сказалі: "Пройдзем! Мы вас арыштоўваем". Так арыштавалі Сафію – бабцю і цётку Надзю. Бабы ў плач… Баба ўзяла сабе ікону – у ручнік укруціла. Яны яе спынілі: "Она вам не нужна, оставьте её дома". І праз некалькі дзён мама зноў паехала ў Воршу – даведацца, што з імі ўсімі. Сала ўзяла, хлеба, жанчынам вопратку. Адзенне для жанчын у турме забралі, а для мужчын – нічога не ўзялі. Мама ездзіла ў Воршу з малодшай сястрой… Яны былі ва ўнутраным двары Аршанскай турмы і ўбачылі, як сталі выводзіць людзей – адчынілі браму, салдат паставілі з двух бакоў і сталі выводзіць людзей… як з хлява, рукі назад… у шэрым, рабым, хто ў якім – ішлі мужчыны, сагнуўшы галовы. І яны бачылі гэта ўсё – маці і цётка. Бацька маці толькі рукой махнуў: "Мяне не чакай, едзь дамоў!" Маці страціла прытомнасць і не памятае, хто яе прывёз дадому. А цётка кажа: "Я пачала плакаць. А іх усіх сталі садзіць у машыны. Адна машына падыходзіць, другая… І ўсе людзі стаялі і глядзелі. Моўчкі. Ніхто ніводнага слова не сказаў. А за спінамі ў іх стаяла ахова з вінтоўкамі". Сястра прывезла маці дамоў…*

Гэта ўспаміны Ірыны Ашкер, 1934 г. н., дачкі Міхаіла Ашкера, 1906 г. н., арыштаванага ў 1937 г. і расстралянага 10 лістапада 1937 г. у Оршы. Разам з ім у тую ж ноч расстралялі яго бацьку, маці, брата і сястру. Яшчэ аднаго брата расстралялі ў 1938 г. у Маскве.

*Паводле "Хронікі палітычнага тэрору. Крупскі рэгіён. 1918–2008".*

## РАССТРЭЛЫ СВЯТАРОЎ

У 20–30-я гг. XX стагоддзя ў межах тагачаснай Оршы (каля Магілёўскай шашы, цяпер мікрараён-3) адбываліся расстрэлы святароў. Гэтае месца дагэтуль ніяк не ўшанавана, тут няма ніякага памятнага знака.

Даследчык з Оршы Юрась Копцік распавядае, што месца з'яўляецца месцам адпачынку жыхароў мікрараёна. Людзі, якія прыходзяць сюды распіваць спіртныя напоі, не ведаюць, што п'юць на магілах.

Сведчанні жыхаркі вёскі Паддубцы С. Кандраценкі:

*«У дзве гадзіны ночы непадалёк ад горада сустрэлі машыну "крумкач" з двума ліхтарамі на будцы. Машына ішла насустрач і недалёка ад нас звярнула ў лес на левы бок. Мы гэтае месца запомнілі. Недзе праз тыдзень ішлі з горада. Пайшлі, кажу, зойдзем, паглядзім, куды машына з'язджала – там яшчэ з'езд з шашы добры быў. Зайшлі мы ў лес. Бачым – сядзіць дзяўчынка маленькая, магілка свежая, сядзіць каля яе бабка старая. На магілцы стаіць стограмовая пляшачка гарэлкі, каша ячная ў*

*місачцы, канун называецца. Павіталіся мы. Бабка кажа:*

*Сядайце, памяніце нябожчыка.*

*А хто тут пахаваны? – пытаемся.*

*Мой сынок, дзетачкі, святаром ён быў, расстралялі яго тут. А гэта мая ўнучка, – паказала яна на дзяўчынку.*

*Паглядзела я навокал, а там не адна гэтая магілка. Навокал ўсюды зямля ўскапаная. Іншыя магілы нават добра не закапаныя, зямля на іх правалілася».*

*Літаратура і Мастацтва. 1990. 12 каст.*

## ЮРАСЬ КОПЦІК: У ПАСВЕДЧАННІ АБ СМЕРЦІ ПАЗНАЧАЛІ НЕ "РАССТРЭЛ", А "ЗАПАЛЕННЕ МОЗГУ"

Праз перасыльную турму ў Оршы, якая месцілася ў будынках Езуіцкага калегіума, прайшла незлічоная колькасць ахвяр сталінскага рэжыму. Орша – буйны чыгуначны вузел, тут спыняліся цягнікі, якія везлі рэпрэсаваных і з Усходу, і з Захаду.

Цяпер на месцы турмы адрэстаўраваны Калегіум езуітаў.

Расстрэльвалі людзей не на тэрыторыі турмы, а ў прыгарадных лясах – на Кабыляцкай гары і па Магілёўскай шашы. У 80-я гады XX ст. аршанскі даследчык Юрась Копцік, які тады працаваў карэспандэнтам газеты "Ленінскі прызыў", шмат ездзіў

па раёне і сабраў унікальны матэрыял – успаміны сведак расстрэлаў і сваякоў рэпрэсаваных.

Пры сустрэчах Юрася Копціка са сваякамі расстраляных высветлілася яшчэ адна малавядомая акалічнасць – падчас хрушчоўскай "адлігі", калі пайшла першая хваля рэабілітацыі, у пасведчаннях пра смерць расстраляным указвалі іншыя прычыны смерці, бо колькасць забітых была неверагодна вялікай.

*Пазначалі ў пасведчаннях аб смерці, напрыклад, не "расстрэл", а "запаленне мозгу". І толькі пасля "перабудовы", у 90-я гады сваякі рэпрэсаваных пры Сталіне здолелі даведацца пра сапраўдную прычыну смерці сваіх блізкіх – расстрэл,* – гаворыць Юрась Копцік.

## КАБЫЛЯЦКАЯ ГАРА

У 1980-я гг. былі выяўлены і асноўныя месцы расстрэлаў у Оршы. У верасні 1982-га ў лесе на Кабыляцкай гары пры будаўніцтве была знойдзена яма з целамі 50 расстраляных. Камісія з прадстаўнікоў савецкіх і адміністрацыйных органаў (пракурор, судовы эксперт, прадстаўнік ваенкамата, міліцыя) прызнала, што гэта расстрэлы савецкіх часоў.

20 верасня 1982 г. камісія правяла агляд парэшткаў, знойдзеных пры будаўніцтве чыгуначнага адгалінавання ОршаПаўночная. Пасля апытвання мясцовых жыхароў і правядзення эксгумацыі камісія выключыла магчымасць

таго, што гэтыя людзі былі расстраляны падчас нямецкай акупацыі: “Як правіла, немцы праводзілі расстрэлы адкрыта, а не ў глухіх месцах, з аўтаматаў без пашкоджання касцей галавы <…> Агляд месца паказаў, што пахаванне праведзена ў 1937–1939 гг. у глухім лясным масіве <…> усе пяцьдзясят чарапоў маюць адтуліны ад кулі ў лобнай частцы”.

У 1990-я гг. на Кабыляцкай гары ўсталяваны памятны знак – вялізны камень з чырвонага дняпроўскага граніту.

На сёння застаецца актуальнай праблема ўшанавання месца расстрэлаў, якія адбываліся ў 20–30-я гг. XX ст. у межах тагачаснай Оршы (цяпер мікрараён-3) па Магілёўскай шашы.

## АЛЕСЬ ДАШЧЫНСКІ: СУДДЗЯ БЫЎ ПРЫХІЛЬНІКАМ АДМЕНЫ СМЯРОТНАЙ КАРЫ, ХАЦЯ ПРЫЗНАЦЦА НЕ МОГ

Як асвятлялася тэма смяротнага пакарання ў Беларусі? Адным з першых грунтоўных матэрыялаў у незалежнай Беларусі стала публікацыя “Смяротнае пакаранне” Алеся

Дашчынскага, змешчаная ў раздзеле “Тэма” газеты “Навіны” (“Свабода”, 17 лютага 1998 г.) Галоўным рэдактарам выдання тады быў Ігар Гермянчук. Карэспандэнту незалежнай газеты ўдалося пагутарыць з

суддзёй Вярхоўнага Суда на тэму смяротнага пакарання.

Распавядае журналіст Алесь Дашчынскі:

*– Проста сказаў, што я з газеты "Свабода". І суддзя пагадзіўся гаварыць у яго ў кабінеце. Гутарку запісваў на дыктафон. Тады яшчэ ўсе здзіўляліся, як гэта атрымалася. Але відавочна, што доступ да суддзяў быў больш просты.*

*Я ведаў, што гэты суддзя выносіў смяротныя прысуды. І вырашыў проста пайсці да яго, бо баяўся, што калі буду дамаўляцца па тэлефоне, то ён можа спалохацца і адмовіцца ад інтэрв'ю "Свабодзе". Таму вырашыў ісці – пашчасціць ці не. І прайшоў, тады, здаецца, і ахова была больш лаяльнай. Пастукаўся, прывітаўся, сказаў, што я са "Свабоды", раблю такі матэрыял: "Вы вядомы суддзя, які выносіў смяротныя прысуды, шмат пра вас чуў добрага, што вы перажываеце за гэтыя прысуды". І ўсё. Ён пагадзіўся.*

*Потым я хадзіў у Мінскі гарадскі суд і там, у канцылярыі, мне далі паглядзець некалькі спраў, па якіх выносіліся смяротныя прысуды. Тут ужо я дамаўляўся папярэдне, але дазволілі, хоць я быў са "Свабоды". Я туды прыходзіў некалькі разоў. І там я паглядзеў адну справу – і так выйшаў на сям'ю са Смалявічаў. І ўпершыню тады ўдалося пагутарыць з маці асуджанага да смяротнага пакарання Марыяй Стасяловіч, чаго, відаць, яшчэ ніхто з не рабіў.*

Алесь Дашчынскі гутарыў з суддзёй Уладзімірам Чамруковым, які падчас працы ў Мінскім гарадскім судзе вынес найбольшую колькасць смяротных прысудаў, а пасля стаў суддзёй Вярхоўнага Суда.

Вось фрагмент той гутаркі – суддзя распавядае пра псіхалагічны стан пры вынясенні смяротнага прысуду:

*Вышэйшая мера – гэта слабасць дзяржавы. Менавіта па гэтай прычыне такая норма ўтрымліваецца ў Крымінальным кодэксе. У нас яшчэ слабыя іншыя інстытуты, якія маглі б прывесці грамадства ў нармальны стан. Мне, па характары мяккаму чалавеку, не проста давалася вынясенне смяротных прысудаў. Добра памятаю першы такі выпадак. Гэта была справа Бабінава і Свіркова, якія забілі пажылую жанчыну, яе нявестку і шасцігадовага Стасіка, а потым падпалілі дом, каб замесці сляды. Абодвух суд прыгаварыў да вышэйшай меры пакарання. Назаўтра я пачаў галіцца і ўбачыў, што ўсё цела пакрытае чырвонымі плямамі. Нервовы стан звычайна такі, што не хочацца дакранацца да ежы. Іншы раз, калі абвяшчаеш прысуд, хочацца як мага хутчэй яго прачытаць і выйсці запаліць цыгарэту. Гэтая працэдура вельмі непрыемная. Я асабліва баяўся за родных асуджанага. Я не сумняваюся ні ў адным вынесеным прысудзе, але пасля яго пачынаюць дрыжэць рукі. Вельмі цяжка бачыць слёзы, плач, страту прытомнасці маці асуджанага, даводзіцца выклікаць "хуткую дапамогу". Асабліва цяжка глядзець у вочы асуджанага, якія адразу робяцца нейкімі вар'яцкімі. Звычайна пасля абвяшчэння "вышкі" ў судзе наступае магільная цішыня і толькі чуваць, як нехта ўпаў або ўсхліпнуў. Асуджаныя таксама паводзяць сябе па-рознаму, пачынаюць рваць на сабе адзенне, лезуць на клетку, істэрычна крычаць. Адны маўчаць, а іншыя заяўляюць, што здзейснілі вельмі цяжкае злачынства, таму не маюць права жыць.*

Чаму суддзя пагадзіўся на інтэрв'ю журналісту незалежнай газеты? Алесь Дашчынскі лічыць, што той, відаць, быў вельмі ўзрушаны альбо насамрэч з'яўляўся прыхільнікам адмены смяротнай кары, хоць прызнацца ў тым не мог.

## ГЕНЕРАЛ ЗАХАРАНКА ПЛАНАВАЎ АДМЕНУ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ?

Дакладна вядома, што генерал Юрый Захаранка, калі быў міністрам унутраных спраў, вывучаў працэдуру смяротнага пакарання і планаваў пэўныя змены. Упершыню пра гэта ён распавёў у 1998 г. Алесю Дашчынскаму – карэспандэнту газеты "Навіны" ("Свабода", 17 лютага 1998 г.). Былы міністр унутраных спраў катэгарычна выказаўся супраць смяротнага пакарання:

*Смяротныя прысуды ў нас выконваюцца з выкарыстаннем сярэдневечных метадаў. Ужываецца самы просты і танны спосаб – расстрэл. Напярэдадні экзекуцыі праводзіцца "зачыстка" мясцовасці, каб не аказалася выпадковых сведак. Глыбокай ноччу злачынцаў (звычайна збіраюць па некалькі чалавек) пагружаюць на спецыяльную машыну. Рот ім затыкаюць, каб, крый Божа, не закрычалі. З-за псіхічнага злому некаторыя ўжо не могуць рухацца, і такіх асуджаных цягнуць да магілы за рукі. Спецыяльныя супрацоўнікі МУС страляюць*

*прама ў галаву – з вушэй і рота чалавека патокам льецца кроў. Часам прыгавораны знаходзіцца ў шокавым стане, і ў яго страляюць па некалькі разоў, а ён не траціць прытомнасці. Гэта жудаснае, кашмарнае відовішча. Пасля выканання прысуду адбываецца пахаванне (калі гэта можна так назваць) расстраляных – іх закопваюць так, як яны звaліліся ў яму, усіх разам. Цела забітага ніколі не аддаюць блізкім, нават іх адзенне не аддаюць. Нікому не паведамляюць, дзе і калі быў расстраляны асуджаны. Блізкія не атрымліваюць апошняга развітальнага спаткання. Усе гэтыя пытанні рэгламентаваны не законам, а інструкцыямі МУС.*

*На ролю ка́та падбіраюцца спецыяльныя людзі, якія валодаюць моцнай сілай волі – не кожнаму пад сілу расстрэльваць людзей. Але іх таксама нельга доўга выкарыстоўваць,*

*бо дэфармуецца псіхіка. Дарэчы, некаторыя суседнія краіны пасля распаду Савецкага Саюза аказаліся не гатовымі да выканання смяротных прысудаў. Яны спрабавалі нават заключыць дамову, каб іх смертнікаў расстрэльвалі ў нашай краіне за пэўную плату. Я катэгарычна адмовіўся ад такой здзелкі і пачаў рыхтаваць прапанову прэзідэнту аб пераглядзе самой працэдуры выканання смяротных прысудаў. Менавіта ў гэты час я пайшоў у адстаўку і нічога не паспеў зрабіць.*

Далей генерал Юрый Захаранка гаворыць пра неабходнасць адмены смяротнага пакарання:

*Я ўпэўнены, што нам неабходна ліквідаваць інстытут пазбаўлення чалавека жыцця. Смяротная кара не ў стане*

*спыніць злачыннасць. Заходнія псіхіятры-крыміналісты, якія вывучалі гэтае пытанне, прыйшлі да высновы, што ніводзін з асуджаных перад забойствам не думаў пра магчымасць расплаты смяротнай карай. Пасля адмены вышэйшай меры ў краіне не расце колькасць цяжкіх злачынстваў. Здавалася б, танней расстраляць чалавека ды закапаць. Але такім чынам грамадства закопвае сябе. Нам неабходна павярнуцца да гуманізму і чалавечнасці.*

Падчас здымак фільма “Убыл по приговору” актывісты кампаніі “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання” сустрэліся з журналістам Алесем Дашчынскім, які распавёў пра сустрэчы з генералам Захаранкам, што адбываліся ў рэдакцыі газета “Навіны” (“Свабода”) на вуліцы Іванаўскай у Мінску:

*Гэта было заданне рэдакцыі – звярнуцца да тэмы, якая была мала распрацавана. Пра гэта не так многа пісалі ў той час. Гэта было першае сведчанне, прычым такой асобы, як Юрый Захаранка, які займаў пасаду міністра і нядаўна быў з яе звольнены. Ён вывучаў асабіста гэтае пытанне, якое яго моцна хвалявала. У 1998 г., практычна за год да знікнення, ён пагадзіўся распавесці, як выконваліся смяротныя прысуды. Сапраўды, калі ўсё гэта чытаць, гэта проста жахліва. Тое, як яны гэта выконваюць, сведчыць, што да чалавека не ставяцца як да чалавека. І вось калі я перачытваю зараз той артыкул, у мяне такое адчуванне, што за гэтыя больш чым 10 гадоў нічога не змянілася. А потым мы сустракаліся недзе праз год. І так атрымалася, што тое інтэрв'ю, што мы зрабілі з Юрыем*

*Захаранкам, было апошнім. Фактычна праз тыдзень з'явілася інфармацыя, што ён знік. Тады, я памятаю, ён прыехаў на легкавіку, гэта была субота, і з ім, здаецца, быў яшчэ кіроўца… Ён, канешне, быў моцным чалавек. Гэта была асоба, гэта быў характар… Але мы неяк нават пажартавалі, што генерал ездзіць без аховы. Ужо ў той час адчувалася, што гэтыя хмары над ім ходзяць. Як мы тады пісалі, што на яго распачата паляванне. Ён, відаць, адчуваў гэты ціск. Адчуваў нейкую небяспеку. І калі я чытаю сведчанні таго ж Алега Алкаева, таго ж Уладзіміра Барадача, у мяне ўзнікае пытанне: а ці не пражыў сам Юрый Захаранка тое, аб чым ён расказаў яшчэ ў першым інтэрв'ю пра смяротнае пакаранне.*

Ці мог Юрый Захаранка адмяніць смяротнае пакаранне ў Беларусі? Магчыма… Але сам генерал Захаранка стаў ахвярай пазасудовай расправы.

## МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ: ЗА ЗЛАЧЫНСТВЫ МАНЬЯКА МІХАСЕВІЧА БЫЛІ АСУДЖАНЫ 13 ЧАЛАВЕК, А АДЗІН – РАССТРАЛЯНЫ

Падчас здымак фільма "Прычына смерці – прочырк" актывісты кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання" сустрэліся з дзяржаўным і палітычным дзеячам, заслужаным юрыстам Беларусі Мечыславам Грыбам. Ён распавёў пра незваротнасць смяротнага пакарання і пра судовыя памылкі, якія немагчыма

выправіць пасля ажыццяўлення пакарання:

*Я 36 гадоў адпрацаваў у органах унутраных спраў. І адна з маіх пасад – начальнік упраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама. Мне давялося працаваць там у самы складаны час, калі Міхасевіч-маньяк здзяйсняў свае злачынствы на тэрыторыі Віцебскай вобласці. У ходзе расследавання гэтай справы высветлілі, што за злачынствы, якія Міхасевіч здзейсніў за 15 гадоў, незаконна былі асуджаны на доўгія тэрміны зняволення 13 чалавек, а адзін з іх, Цярэня, быў расстраляны па прысудзе Віцебскага абласнога суда. Чалавека расстралялі ні за што. І калі раней я неяк не задумваўся пра смяротную кару, якая была на тэрыторыі Савецкага Саюза, то пасля гэтых судовых памылак, якія мне давялося бачыць на свае вочы, я прыйшоў да высновы, што гэта няправільна, не павінен ніхто пазбаўляць чалавека жыцця.*

Пра нявыдачу сваякам цела пакаранага Мечыслаў Грыб сказаў:

*Усё гэта ідзе яшчэ з часоў савецкай улады, як там было, так гэта перайшло і ў нашу рэспубліку. Калі ўдумацца, то на сённяшні дзень гэта не зразумела, чаму цела расстраляных не выдаецца родным. Я не ведаю, у якой краіне яшчэ ёсць такія дзікія норавы. Хоць усе кажуць, што мы знаходзімся ў цэнтры Еўропы, і геаграфія гэта пацвярджае. А тут нейкае дзікунства страшнае! Чаму гэта робіцца? Я не магу на гэта даць адказ, не магу знайсці яго для самога сябе.*

Мечыслаў Грыб падкрэсліваў, што смяротнае пакаранне не з’яўляецца эфектыўным для папярэджання

новых злачынстваў, бо ў момант здзяйснення злачынства злачынец не думае пра магчымае смяротнае пакаранне. На думку Мечыслава Грыба, галоўнае для пакарання – яго непазбежнасць.

## ВАЛЯНЦІН СТЭФАНОВІЧ: У 1996 ГОДЗЕ, КАЛІ ПРАВОДЗІЎСЯ РЭФЕРЭНДУМ, У БЕЛАРУСІ НЕ БЫЛО ПАЖЫЦЦЁВАГА ЗНЯВОЛЕННЯ

Чаму Беларусь захоўвае такую меру пакарання, як смяротная кара? Намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра "Вясна" ўпэўнены, што прычыну варта шукаць у савецкім мінулым. У СССР смяротнае пакаранне было мерай пакарання, якую выкарыстоўвалі па шырокім спектры злачынстваў.

*– Беларусь з'яўляецца дастаткова кансерватыўнай краінай. Я маю на ўвазе савецкі кансерватызм, не рэлігійны кансерватызм або любы іншы, а менавіта савецкі кансерватызм. Калі ўзгадаць гісторыю Савецкага Саюза, смяротнае пакаранне там адыгрывае значную ролю. У паслярэвалюцыйны перыяд і ў 1930-я гг. у Савецкім Саюзе вельмі актыўна выкарыстоўвалася смяротнае пакаранне, прычым па вельмі шырокаму колу злачынстваў. Расстрэльвалі не толькі за забойствы і гвалтоўныя дзеянні ў адносінах да чалавека, але і ўжывалі да людзей, якія з'яўляліся "ворагамі дзяржавы", а таксама па эканамічных злачынствах.*

*Напрыклад, у Савецкім Саюзе на працягу доўгага часу існаваў артыкул, што прадугледжваў смяротнае пакаранне за крадзеж дзяржаўнай маёмасці ў асабліва буйных памерах. Артыкул быў адменены дзесьці ў канцы 1980-х. У сувязі з гэтым можна растлумачыць, чаму Беларусь захоўвае гэтую меру пакарання.*

Год таму Валянцін Стэфановіч выступіў на V Сусветным Кангрэсе супраць смяротнага пакарання, які праходзіў у Мадрыдзе 12–16 чэрвеня 2013 г. Беларускі праваабаронца распавёў пра тое, як у Беларусі фарміруецца грамадская думка пра смяротнае пакаранне. "Адносна грамадскай думкі ў Беларусі я вылучыў бы два аспекты", – гаворыць Валянцін Стэфановіч.

*У 2011 г. быў здзейснены тэракт у мінскім метро, падчас якога загінула 15 чалавек. Гэта было ўпершыню ў Мінску, і ўсё грамадства было шакаванае, бо ў нас ніколі такія злачынствы не ажыццяўляліся. Здавалася б, грамадская думка ў яшчэ большай ступені павінна павярнуцца ў падтрымку смяротнага пакарання, але адбылося наадварот – многія людзі, канкрэтна ў гэтым выпадку, сталі выступаць супраць смяротнага пакарання, бо не давяралі праведзенаму следству і прысуду, што быў вынесены ў дачыненні да двух маладых людзей, якіх абвінавацілі ў здзяйсненні тэракту. Цяпер мы можам назіраць сітуацыю, калі людзі выказваюцца за смяротнае пакаранне, за выключэннем "справы тэрарыстаў", якая была "несправядлівай". У 2011 г. пасля вынясення прысуду Кавалёву і Канавалаву грамадскі рэзананс быў настолькі вялікі, што ўпершыню прадстаўнікі двух найбуйнейшых рэлігійных*

*канфесій – праваслаўнай і каталіцкай – публічна заявілі пра сваю пазіцыю адносна смяротнага пакарання. Калі ўлады спасылаюцца на рашэнні рэферэндуму 1996 г., яны забываюць, што гэтае пытанне пра смяротнае пакаранне мела неабавязковы характар, мела так званы дарадчы статус. Гэта па-першае, а па-другое, у 1996 г., калі праводзіўся рэферэндум, у Беларусі не было пажыццёвага зняволення, а было толькі смяротнае пакаранне і 15 гадоў пазбаўлення волі. Гэта таксама вельмі важны фактар. Грамадская думка не статычная, яна змяняецца. Але ў грамадстве няма дыялогу па смяротным пакаранні – гэтую праблему не абмяркоўваюць. Грамадскія арганізацыі могуць працаваць у гэтым кірунку, але іх магчымасці вельмі абмежаваны, яны не могуць выйсці на дзяржаўнае тэлебачанне. Мы можам толькі распаўсюджваць інфармацыю ў інтэрнэце і арганізоўваць вулічныя мерапрыемствы, якія не заўсёды могуць абысціся без наступстваў.*

## СПРАВА ІВАНА ФАМІНА: РАССТРАЛЯНЫ ЗА ЧУЖУЮ ВІНУ

У 1998 г. у Праваабарончы цэнтр “Вясна”, які тады яшчэ меў назву “Вясна-96”, звярнулася маці Івана Фаміна, асуджанага на смяротнае пакаранне. Жанчына перадала праваабаронцам лісты, што былі напісаны ў камеры смяротнікаў і трапілі на волю праз “турэмную пошту”.

Асуджаны да смяротнага пакарання пісаў пра тое,

што быў асуджаны за жорсткае забойства таксіста, якога на самай справе не здзяйсняў. Ён таксама даволі падрабязна апісваў умовы ўтрымання ў камеры смяротнікаў:

*"Тут натуральнае пекла… б'юць літаральна за ўсё… Б'юць за тое, што пішаш заявы ў медчастку і каб прыйшоў святар для споведзі. І б'юць яшчэ проста так, калі ў іх няма настрою".*

Маці Івана Фаміна сцвярджала, што ўзяць чужую віну на сябе яе сына пераканалі крымінальнікі, якія пагражалі ў адваротным выпадку забіць яго маці і сястру.

У 1998 г. па справе Івана Фаміна быў накіраваны зварот у Камітэт па правах чалавека ААН. Камітэт пачаў разгляд звароту і праінфармаваў МЗС Беларусі пра тое, што справа будзе разглядацца на міжнародным узроўні. Паводле п. 92 Правілаў працэдур Камітэта, дзяржава не павінна прыводзіць у выкананне смяротны прысуд да разгляду звароту па сутнасці ў ААН. Нягледзячы на гэта, Іван Фамін быў расстраляны.

Гісторыя Івана Фаміна атрымала працяг у 2012 г. падчас працы над фільмам "Убыл по приговору", калі актывісты кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" паехалі ў Берлін да Алега Алкаева, які ў 1996– 2001 гг. быў начальнікам СІЗА № 1 Мінска. Актывісты кампаніі ўзялі з сабой лісты, што пісаў Іван Фамін з камеры смяротнікаў у 1998 г.

Алег Алкаеў, які на той час кіраваў не толькі СІЗА № 1, але і расстрэльнай камандай, сказаў, што добра

памятае Івана Фаміна. А таксама пацвердзіў, што Іван Фамін быў расстраляны за забойства, якое здзейснілі іншыя людзі, і "ўсе ведалі", што ён узяў на сябе чужую віну і агаварыў сябе падчас следства і суда. І хоць "усе ведалі", Іван Фамін быў расстраляны. Алег Алкаеў падкрэсліў, што расстрэльная каманда выконвае рашэнне суда, кат не вырашае – каму жыць, а каму памерці, рашэнні прымаюцца на іншым узроўні.

## СЯРГЕЙ ПРАЦІРАЕЎ – ЧАЛАВЕК, ЯКІ ВЫЙШАЎ З "КАЛІДОРА СМЕРЦІ"

Калідор смерці – гэта калідор у турэмных сутарэннях, дзе знаходзяцца камеры смяротнікаў, выхад адтуль адзін – на расстрэл. І выключэнняў амаль не бывае.

У 1998 г. у Праваабарончы цэнтр "Вясна", які на той момант яшчэ меў назву "Вясна-96", былі перададзены лісты, напісаныя ў камеры смяротнікаў на "Валадарцы". Сярод іх знаходзіўся ліст ад Сяргея Праціраева, датаваны 15.07.1998 г. Сяргей Праціраеў знаходзіўся ў камеры смяротнікаў у СІЗА № 1 па вуліцы Валадарскага ў Мінску разам з Іванам Фаміным.

У лісце былі вершы пад назвай "Пісьмо, напісанае людзям", а таксама восем старонак, дзе падрабязна выкладаліся акалічнасці крымінальнай справы, па якой Сяргей Праціраеў быў асуджаны да вышэйшай меры

пакарання.

Аўтар ліста сцвярджаў, што яго справа была сфабрыкавана нядобрасумленнымі следчымі, а таксама разважаў пра тое, чаму ў Беларусі існуе смяротнае пакаранне: «*Мы, беларусы, часта здзіўляліся фактам незаконна расстраляных па справе маньяка Міхасевіча (“Віцебская справа”). Але сёння людзей працягваюць расстрэльваць, каб паказаць народу, якая*

*ў нас вядзецца барацьба са злачыннасцю. А што будзе далей, калі падобных да мяне “статыстаў” расстраляюць? Тады будуць страляць звычайных людзей, бо машына беззаконня набірае абароты, і хутка не будзе розніцы, каго страляць, як у 1937 г.*».

На пачатку 1999 г. маці Івана Фаміна паведаміла, што яе сын расстраляны. І з гэтага лагічна вынікала, што расстраляны і ўсе тыя людзі, якія разам з ім знаходзіліся ў камеры смяротнікаў.

Аднак у красавіку 1999 г. у “Вясну” прыйшоў ліст ад Сяргея Праціраева – ён пісаў з калоніі, якая знаходзілася ў горадзе Глыбокім. Смяротнае пакаранне яму было заменена на пажыццёвае зняволенне. Чаму? Ёсць меркаванне, што менавіта Сяргей Праціраеў з’яўляецца тым адзіным смяротнікам, якога памілаваў прэзідэнт у перыяд да 2001 г.

# ЧАСТКА 2. ЗАКАНАДАЎЧЫЯ ПАДСТАВЫ

## СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

У першапачатковых праектах Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, падрыхтаваных працоўнымі групамі на чале з В. Ганчаром і В. Шаладонавым, смяротнае пакаранне не прадугледжвалася[75]. 3 снежня 1991 г. быў апублікаваны праект Канстытуцыі для ўсенароднага абмеркавання. Артыкул 24 гэтага дакумента быў выкладзены наступным чынам: “Неад’емным правам кожнага чалавека з’яўляецца права на жыццё. Рэспубліка Беларусь абараняе ад незаконных пасягальніцтваў на жыццё і здароўе чалавека”.

У варыянце Канстытуцыі ад 6 красавіка 1993 г. тэкст названага артыкула быў адкарэктаваны: “Кожны чалавек мае права на жыццё. Рэспубліка Беларусь абараняе ад незаконных пасягальніцтваў на жыццё і здароўе чалавека”.

20 жніўня 1993 г. быў апублікаваны чарговы працоўны праект Канстытуцыі, дзе ў артыкул 24 распрацоўшчыкі дадалі частку 3: “Смяротная кара да яе адмены можа прымяняцца ў адпаведнасці з законам як

выключная мера пакарання за асабліва цяжкія злачынствы і толькі згодна з прыгаворам суда”.

Аднак за дадзены артыкул прагаласавала толькі 219 дэпутатаў – недастатковая колькасць для яго прыняцця. Адначасова з працэсам абмеркавання і працы над праектам новай 75

Канстытуцыі ў канцы 1993 – пачатку 1994 г. на старонках рэспубліканскіх часопісаў і газет, якія спецыялізаваліся на прававой тэматыцы, вялася актыўная дыскусія па пытанні прымянення смяротнага пакарання. Так, у чэрвені 1993 г. у газеце “Рэспубліка” быў апублікаваны артыкул пад назвай “Ці можа быць дзяржава забойцай?”. Аўтар матэрыялу акцэнтаваў увагу на тым, што ў Беларусі выключная мера прымяняецца за 34 віды злачынстваў. Па гэтым паказчыку краіну апераджаюць толькі Іран, Сірыя, Судан і Турцыя[76].

Тым не менш значная частка дэпутатаў Вярхоўнага Савета XII склікання, а таксама большасць суддзяў і пракурораў сыходзіліся ў меркаванні аб нясвоечасовасці адмены смяротнага пакарання. Прыхільнікі вышэйшай меры спасылаліся на рост злачыннасці і непадрыхтаванасць грамадскага меркавання да адмены смяротнага пакарання.

Кіраўнік працоўнай групы па падрыхтоўцы праекта новага Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (далей – КК) В. Падгруша ў 1993 г. падкрэслівала: “Нельга не ўлічваць міжнародны рух праціўнікаў смяротнай

кары, а таксама яе адмену або практычнае непрымяненне ў большасці краін. Разам з тым, мяркуючы па пісьмах, зваротах грамадзян, зрабіць адназначны вывад аб гатоўнасці грамадства ўспрыняць і падтрымаць ідэю адмены смяротнай кары не ўяўляецца магчымым. Прымаючы гэта да ўвагі, распрацоўшчыкі прапанавалі на дадзеным этапе пагадзіцца з тым, каб пакінуць смяротную кару – расстрэл – у якасці выключнай меры пакарання, якая прымяняецца толькі за наўмыснае забойства пры абцяжарвальных абставінах. Гаворка ідзе пра 11 складаў"[77].

Суддзя Вярхоўнага Суда М. Германчук адзначаў, што рэзкая і поўная адмена смяротнага пакарання не можа прывесці да станоўчых вынікаў: "Куды больш надзейнай па меры павышэння ўзроўню цывілізаванасці з'яўляецца паступовая адмена смяротнага пакарання"[78].

Вырашальная дыскусія аб мэтазгоднасці ўключэння ў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь палажэння аб смяротным пакаранні адбылася 30 лістапада 1993 г. на XIII сесіі Вярхоўнага Савета XII склікання. Старшыня камісіі па заканадаўстве Д. Булахаў заклікаў выключыць згадванне пра смяротнае пакаранне як адзін з самых варварскіх спосабаў пакарання і рудыментнай плямы сярэднявечнай юстыцыі з праекта Канстытуцыі рэспублікі. Да яго меркавання далучыліся дэпутаты А. Трусаў, А. Даўлюд, З. Пазняк, В. Шаладонаў, Я. Цумараў, В. Шачак, Б. Макейчанка. Двойчы на галасаванне

выносіўся праект Канстытуцыі як са згадваннем, так і без згадвання пра смяротнае пакаранне. Двойчы рашэнне не прымалася. Толькі падчас трэцяга галасавання за захаванне ў праекце Асноўнага закона згадвання пра смяротнае пакаранне прагаласавала канстытуцыйная большасць – 243 дэпутаты.

У выніку ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прынятай 15 сакавіка 1994 г., артыкул 24 быў прыняты ў наступнай рэдакцыі: “Кожны мае права на жыццё. Дзяржава абараняе жыццё чалавека ад любых супрацьпраўных замахаў. Смяротная кара да яе адмены можа прымяняцца ў адпаведнасці з законам як выключная мера пакарання за асабліва цяжкія злачынствы і толькі згодна з прыгаворам суда”[79].

Варта адзначыць, што на той час аналагічныя або блізкія па сэнсе фармулёўкі ўтрымліваліся ў канстытуцыях многіх постсавецкіх дзяржаў: артыкул 20 Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі (1993), артыкул 15 Канстытуцыі Казахстана (1995), артыкул 27 Азербайджанскай Рэспублікі (1995) і інш.

У КК БССР 1960 г. кола злачынстваў, за якія можна было прызначыць смяротнае пакаранне, заставалася даволі шырокім. Гэтае пакаранне прадугледжвалася за здзяйсненне больш чым 30 відаў злачынстваў (уключаючы воінскія), у тым ліку і не звязаных з наўмысным пазбаўленнем жыцця чалавека.

У Рэспубліцы Беларусь у цяперашні час дзейнічае

Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь, прыняты 9 ліпеня 1999 г. (уступіў у сілу з 1 студзеня 2001 г.), якім смяротнае пакаранне прадугледжана ў якасці выключнай меры пакарання (арт. 59 КК) за некаторыя асабліва цяжкія злачынствы, звязаныя з наўмысным пазбаўленнем жыцця чалавека пры абцяжарвальных абставінах.

Змены, што ўносяцца ў КК у перыяд з 9 ліпеня 1999 г. па цяперашні час, не пашырылі пералік складаў злачынстваў, за здзяйсненне якіх прадугледжваецца пакаранне ў выглядзе смяротнай кары.

Даследчык М. Бабій лічыць, што для таго, каб параўнаць апошнюю рэдакцыю папярэдняга КК і новага КК з пункту гледжання большай мяккасці, варта глядзець не на агульную колькасць артыкулаў, якія прадугледжваюць пазбаўленне жыцця ў якасці пакарання, а на найбольш часта прымяняльныя артыкулы, якімі з’яўляюцца арт. 100 КК 1960 г. і ч. 2 арт. 139 КК 1999 г.[80]. Абедзве гэтыя нормы ўстанаўлівалі магчымасць прымянення смяротнага пакарання за наўмыснае забойства пры абцяжарвальных абставінах. Арт. 100 КК 1960 г. утрымліваў восем пунктаў з абцяжарвальнымі абставінамі, а ч. 2 арт. 139 КК 1999 г. ужо змяшчае 16 такіх пунктаў.

Характарызуючы дзейную сістэму пакарання, прафесар У. Хоміч адзначае, што па шэрагу прынцыповых пазіцый КК 1999 г. з’яўляецца больш жорсткім (строгім) у параўнанні з папярэднім кодэксам[81].

Найперш гэта выразілася ў значным павелічэнні тэрмінаў пазбаўлення волі: іх верхняя мяжа павялічана да 25 гадоў, а па сукупнасці злачынстваў і сукупнасці прысудаў – да 30 гадоў.

У цяперашні час смяротнае пакаранне можа быць прыменена за наступныя склады злачынстваў:

1. ч. 2 арт. 122 КК – развязванне альбо вядзенне агрэсіўнай вайны;
2. ч. 2 арт. 124 УК – забойства прадстаўніка замежнай дзяржавы ці міжнароднай арганізацыі з мэтай правакацыі міжнародных ускладненняў ці вайны;
3. арт. 126 КК – акт міжнароднага тэрарызму;
4. арт. 127 КК – генацыд;
5. арт. 128 КК – злачынствы супраць бяспекі чалавецтва;
6. арт. 134 КК – прымяненне зброі масавага паражэння;
7. ч. 3 арт. 135 КК – парушэнне законаў і звычаяў вайны (наўмыснае забойства);
8. ч. 2 арт. 139 КК – забойства;
9. ч. 3 арт. 289 КК – акт тэрарызму;
10. ч. 2 арт. 356 КК – здрада дзяржаве, спалучаная з забойствам;
11. ч. 3 арт. 357 КК – змова або іншыя дзеянні з мэтай захопу дзяржаўнай улады;

12. арт. 359 КК – акт тэрарызму ў адносінах грамадскага ці дзяржаўнага дзеяча;
13. ч. 2 арт. 360 КК – дыверсія;
14. арт. 362 КК – забойства супрацоўніка органаў унутраных спраў.

Варта адзначыць, што ні ў адной з санкцый названых артыкулаў КК смяротнае пакаранне не прадугледжана як адзіна магчымае пакаранне.

Альтэрнатыва смяротнаму пакаранню ўпершыню была ўведзена Законам Рэспублікі Беларусь ад 31 снежня 1997 г. “Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Крымінальны, Крымінальна-працэсуальны і Папраўча-працоўны кодэксы

Рэспублікі Беларусь”, згодна з якім у Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь 1960 г. (у цяперашні час страціў сілу) была ўпершыню ўнесена норма, якая ўстанаўлівае новы від крымінальнага пакарання ў выглядзе пажыццёвага зняволення.

Згодна з артыкулам 59 КК, смяротнае пакаранне ў парадку памілавання можа быць заменена пажыццёвым зняволеннем.

У адпаведнасці з артыкулам 113 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь справы ў судах разглядаюцца калегіяльна, а ў прадугледжаных законам выпадках – аднаасобна суддзямі. Згодна з артыкулам 32 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі

Беларусь, які ўступіў у сілу з 1 студзеня 2001 г., устаноўлены калегіяльны разгляд па першай інстанцыі ў складзе суддзі і двух народных засядацеляў спраў аб злачынствах, за якія крымінальным заканадаўствам прадугледжваюцца пакаранне звыш 10 гадоў пазбаўлення волі або смяротнае пакаранне, а таксама аб злачынствах непаўналетніх.

У адпаведнасці з часткай 2 артыкула 59 КК смяротнае пакаранне не можа быць прызначана: жанчынам; асобам, якія здзейснілі злачынства ва ўзросце да васямнаццаці гадоў; мужчынам, якія да дня пастановы прысуду дасягнулі 65-гадовага ўзросту.

Прававое становішча асоб, асуджаных да смяротнага пакарання, вызначаецца крымінальна-выканаўчым заканадаўствам. Згодна з артыкулам 174 Крымінальна-выканаўчага кодэкса Рэспублікі Беларусь (далей – КВК), асуджаныя да смяротнага пакарання ўтрымліваюцца пад узмоцненай аховай у асобных камерах, выконваюць абавязкі і маюць правы, устаноўленыя для асоб, якія ўтрымліваюцца ў месцах выканання меры стрымання ў выглядзе заключэння пад варту. Прагулка для гэтай катэгорыі асоб не прадугледжана. Пасля ўступлення прысуду ў законную сілу асуджаныя да смяротнага пакарання маюць права:

1. звярнуцца ва ўстаноўленым законам парадку з хадайніцтвам аб памілаванні (працэдура

накіравання хадайніцтваў аб памілаванні і іх разглядзе ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Палажэннем аб парадку ажыццяўлення ў Рэспубліцы Беларусь памілавання асуджаных, зацверджанага Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 3 снежня 1994 г. № 250);

2. сустракацца з адвакатамі і іншымі асобамі, якія маюць права на аказанне юрыдычнай дапамогі, без абмежавання іх колькасці і працягласці;
3. атрымліваць і адпраўляць лісты без абмежаванняў;
4. мець адно кароткатэрміновае спатканне з блізкімі сваякамі ў месяц;
5. атрымліваць адну пасылку або перадачу адзін раз у тры месяцы ў парадку, які ўстанаўліваецца адміністрацыяй установы; набываць на працягу месяца па безнаяўным разліку прадукты харчавання і прадметы першай неабходнасці на грошы, якія залічаны на іх асабісты рахунак, у тым ліку атрыманыя па паштовых пераводах, у памеры, устаноўленым для асоб, якія ўтрымліваюцца ў турмах строгага рэжыму;
6. афармляць ва ўстаноўленым законам парадку неабходныя грамадзянска-прававыя і шлюбна-сямейныя адносіны;
7. мець спатканні са святаром;
8. атрымліваць неабходную медыцынскую дапамогу.

Прысуд да смяротнага пакарання, які ўступіў у законную сілу, прыводзіцца ў выкананне пасля атрымання афіцыйнага паведамлення аб адхіленні скаргаў, накіраваных у парадку нагляду, і хадайніцтваў аб памілаванні.

У артыкуле 176 КВК прадугледжваецца магчымасць прыпынення смяротнага пакарання. Пры выяўленні ў асуджанага да смяротнага пакарання прыкмет псіхічнага расстройства адміністрацыя ўстановы арганізуе яго медыцынскі агляд камісіяй у складзе трох спецыялістаў, аб чым складаецца пратакол. У выпадку ўстанаўлення псіхічнага захворвання, што пазбаўляе асуджанага магчымасці адказваць за свае дзеянні, прысуд да смяротнага пакарання ў выкананне не прыводзіцца і пратакол медыцынскага агляду накіроўваецца ў суд, які вынес прыгавор. У гэтым выпадку суд прыпыняе выкананне прысуду да пакарання смерцю і вырашае пытанне аб прызначэнні асуджанаму прымусовай меры бяспекі і лячэння ў парадку, устаноўленым КК.

У выпадку выздараўлення асуджанага пытанне аб ужыванні да яго смяротнага пакарання ці магчымасці замены яго іншым пакараннем вырашаецца судом, які вынес прыгавор.

Асуджаныя да смяротнага пакарання, а таксама іх сваякі маюць права звярнуцца ў Камітэт па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (КПЧ ААН), калі вычарпаны сродкі прававой абароны на

нацыянальным узроўні. Са скаргай можа звярнуцца толькі грамадзянін краіны, якая ратыфікавала Факультатыўны пратакол да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, або замежнік, які пражывае (жыве) на тэрыторыі дадзенай дзяржавы. Рэспубліка Беларусь ратыфікавала Факультатыўны пратакол 30 снежня 1992 г.

Паводле п. 92 Правілаў працэдур Камітэта, да вынясення рашэння па скарзе КПЧ ААН можа паведаміць дзяржаве, што варта прыняць меры, каб пазбегнуць нанясення непапраўнай шкоды ахвяры меркаванага парушэння, гэта значыць, не выконваць смяротны прысуд, пакуль Камітэт не паведаміць дзяржаве і заяўніку сваё рашэнне па гэтым пытанні[82].

Новая хваля дыскусій па праблеме смяротнага пакарання ўзнялася ў 1996 г. у сувязі з вынясеннем гэтага пытання на кансультатыўны рэферэндум. Пытанне пра смяротнае пакаранне насіла кансультатыўны характар. Яно гучала наступным чынам: “Ці падтрымліваеце вы адмену смяротнай кары ў Рэспубліцы Беларусь?” Паводле падлікаў Цэнтрвыбаркама, “за” прагаласавала 17,93% выбаршчыкаў, “супраць” – 80,44%.

## ПАЖЫЦЦЁВАЕ ПАЗБАЎЛЕННЕ ВОЛІ ЯК АЛЬТЭРНАТЫВА СМЯРОТНАМУ ПАКАРАННЮ

Пажыццёвае пазбаўленне свабоды звычайна з'яўляецца максімальным пакараннем за самыя сур'ёзныя злачынствы ў тых краінах, якія адмянілі смяротнае пакаранне. Аднак у розных краінах пакаранне ў выглядзе пажыццёвага зняволення выконваецца па-рознаму і мае рознае значэнне. У большасці краін асуджаныя да пажыццёвага тэрміну зняволення праз некаторы час могуць быць вызвалены, пасля чаго яны становяцца аб'ектам сталага нагляду. Мінімальныя тэрміны, якія павінны адбыць такія асуджаныя, перш чым атрымаць умоўна-датэрміновае вызваленне, адрозніваюцца ў розных краінах. Так, у Германіі зняволеныя вызваляюцца па заканчэнні 15-гадовага тэрміну, у Англіі – 14-гадовага тэрміну, у ЗША – ад 25 да 40 гадоў (у залежнасці ад штата). Пакаранне ў выглядзе пажыццёвага зняволення выкарыстоўваецца не ва ўсіх краінах. Напрыклад, яно забаронена ў Бразіліі, Венесуэле, Іспаніі, Калумбіі, Нарвегіі, Нікарагуа, Партугаліі, Славеніі, Харватыі. Аднак адсутнасць гэтага віду пакарання ў заканадаўстве не пазбаўляе зняволеных ад адбыцця працяглых тэрмінаў пазбаўлення свабоды, і рэальныя тэрміны турэмнага зняволення могуць нашмат перавышаць мінімальныя тэрміны, якія прадугледжаны да пажыццёвага пазбаўлення свабоды ў іншых краінах. Напрыклад, у Іспаніі максімальнае зняволенне даходзіць да 30 гадоў[83].

Міжнародныя эксперты распрацавалі 12 крокаў да

альтэрнатываў смяротнаму пакаранню, што адпавядаюць міжнародным стандартам і нормам па правах чалавека[84]:

1. Абмеркаванне альтэрнатыўных пакаранняў зацікаўленымі бакамі (парламент, урад, міліцыя, пракуратура, судовы корпус, адвакатура, турэмная служба, навукоўцы, грамадзянская супольнасць, пацярпелыя і іх сем'і, усё грамадства). Толькі пры абмеркаванні з зацікаўленымі бакамі могуць быць выпрацаваны спосабы ўвядзення альтэрнатыўных пакаранняў, якія былі б справядлівымі, прапарцыянальнымі і сумяшчальнымі з міжнароднымі нормамі ў сферы правоў чалавека.
2. Перагляд спраў, якія прадугледжваюць пакаранне ў выглядзе смерці, – справы і абставіны асуджаных да смяротнага пакарання павінны падлягаць перагляду, які прадугледжвае, сярод іншых фактараў, колькасць гадоў, праведзеных у зняволенні ў чаканні выканання прыгавору, любыя пытанні справядлівага расследавання, ступень небяспекі асуджанага для грамадства.
3. Забеспячэнне таго, каб прыгаворы да працяглага пазбаўлення свабоды мелі вызначаны тэрмін і рэальную магчымасць прымянення датэрміновага вызвалення.
4. Наяўнасць магчымасці вызвалення ў выпадку

прыгавору да пажыццёвага пазбаўлення свабоды па заканчэнні пэўнага тэрміну заключэння.

5. Дакладнае вызначэнне працэдуры вызвалення – наяўнасць у заканадаўстве дакладна вызначаных працэдур вызвалення, іх даступнасць, адпаведнасць міжнародным гарантыям належнай прававой працэдуры, магчымасць абскарджвання і перагляду.
6. Адмова ад абавязковых пакаранняў у выглядзе пажыццёвага або працяглага пазбаўлення свабоды – перагляд палітыкі крымінальных пакаранняў у вобласці пажыццёвага і працяглага пазбаўлення свабоды з намерам паступовай адмены абавязковых пакаранняў.
7. Непрымяненне пакаранняў у выглядзе пажыццёвых і працяглых тэрмінаў пазбаўлення свабоды ў адносінах да дзяцей, жанчын, сталых людзей і людзей, якія маюць праблемы фізічнага і псіхічнага здароўя.
8. Забеспячэнне роўных і гуманных адносін з усімі зняволенымі.
9. Вызначэнне індывідуальнай рэабілітацыі ў якасці фундаментальнай мэты працы з усімі зняволенымі.
10. Адмова ад адзіночнага зняволення для асуджаных на пажыццёвае пазбаўленне свабоды толькі на падставе прыгавору.

11. Дасканалы адбор, падрыхтоўка і кантроль персаналу, які працуе са зняволенымі, якія адбываюць пажыццёвыя або працяглыя тэрміны зняволення.
12. Забеспячэнне выкарыстання механізмаў незалежнага маніторынгу і кантролю ў адносінах да зняволеных, якія адбываюць пажыццёвыя або працяглыя тэрміны зняволення – дзяржавам варта падпісаць, ратыфікаваць і прымяняць Факультатыўны пратакол да Канвенцыі супраць катаванняў і стварыць эфектыўны незалежны нацыянальны прэвентыўны механізм у сваіх краінах.

У Беларусі альтэрнатыва смяротнаму пакаранню ўпершыню была ўведзена Законам Рэспублікі Беларусь ад 31 снежня 1997 г. "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Крымінальны, Крымінальна-працэсуальны і Папраўча-працоўны кодэксы Рэспублікі Беларусь", згодна з якім у Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь была ўпершыню ўнесена норма, якая ўстанаўлівае новы від крымінальнага пакарання ў выглядзе пажыццёвага зняволення.

Артыкул 58 КК прадугледжвае наступнае:

"1. У якасці выключнай меры пакарання як альтэрнатывы смяротнай кары дапускаецца прымяненне пажыццёвага зняволення за злачынствы, спалучаныя з

наўмысным пазбаўленнем жыцця чалавека пры абцяжарвальных абставінах.

2. Пажыццёвае зняволенне не можа быць прызначана:

1) асобам, якія здзейснілі злачынствы ва ўзросце да 18 гадоў;

2) жанчынам;

3) мужчынам, якія дасягнулі да дня пастановы прысуду 65 гадоў.

3. Асуджаныя да пажыццёвага зняволення адбываюць пакаранне ў папраўчай калоніі асаблівага рэжыму ці ў турме.

4. Па адбыцці 20 гадоў асобай, асуджанай да пажыццёвага зняволення, альбо асобай, якой смяротнае пакаранне ў парадку памілавання заменена пажыццёвым зняволеннем, суд, улічваючы паводзіны асуджанага, стан яго здароўя або ўзрост, можа замяніць далейшае адбыванне пажыццёвага зняволення пазбаўленнем волі на пэўны тэрмін, але не больш за пяць гадоў".

Паводле Крымінальна-выканаўчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, асуджаныя да пажыццёвага зняволення, а таксама асуджаныя, якім смяротнае пакаранне ў парадку памілавання заменена пажыццёвым зняволеннем, адбываюць пакаранне ў папраўчай калоніі асаблівага рэжыму або ў турме.

Там яны ўтрымліваюцца асобна ад іншых асуджаных у камерах, як правіла, не больш чым па два чалавекі.

Таксама такія асуджаныя носяць вопратку спецыяльнага ўзору. Праца такіх асуджаных арганізуецца з улікам патрабаванняў утрымання асуджаных у камерах. Іх перавод у звычайныя жылыя памяшканні папраўчай калоніі асаблівага рэжыму магчымы пасля 10 гадоў адбыцця пакарання пры адсутнасці спагнанняў за парушэнне ўстаноўленага парадку і пры добрасумленных адносінах да працы. У такім выпадку магчыма паляпшэнне ўмоў знаходжання ў турме – больш частыя спатканні і перадачы ад сваякоў. Злосныя парушальнікі пераводзяцца ў турму.

Асуджаныя да пажыццёвага зняволення маюць права:

1. штомесяц расходаваць на набыццё прадуктаў харчавання і прадметаў першай неабходнасці грошы, якія знаходзяцца на асабістых рахунках, у памеры да трох базавых велічынь;
2. мець два кароткатэрміновыя спатканні на працягу года;
3. атрымліваць адну пасылку або перадачу і дзве бандэролі ці два дробныя пакеты на працягу года;
4. мець штодзённую прагулку працягласцю трыццаць хвілін.

Атрыманне адукацыі асуджанымі да пажыццёвага зняволення не ажыццяўляецца.

Нягледзячы на ўзаконеную альтэрнатыву, паводле звестак Міністэрства юстыцыі Беларусі, з 1994 да 2014 г. да смяротнага пакарання было прыгаворана 245 чалавек. Пачынаючы з 1995 г., толькі адзін асуджаны да смяротнага пакарання быў памілаваны. Па інфармацыі Міністэрства ўнутраных спраў, на 2013 г. на пажыццёвае зняволенне ў Беларусі было асуджана 140 чалавек, больш за 80 з іх адбываюць пакаранне ў турме № 8 у г. Жодзіна.

У 2014 г. у газеце "На страже" быў змешчаны артыкул, прысвечаны ўмовам утрымання такіх зняволеных.

«У камерах ёсць разетка, радыёкропка, кнопка выкліку дзяжурнага кантралёра. Кожныя 15 хвілін дзяжурны глядзіць у "вочка". Пасля адбою перамяшчэнне па камеры забаронена. Можна хіба што схадзіць па патрэбе. Асвятленне ноччу слабое, але яго цалкам дастаткова, каб супрацоўнікам весці назіранне, а зняволеным спакойна спаць. Тых, хто парушыў рэжым утрымання, могуць змясціць у штрафны ізалятар на тэрмін да 10 сутак»[85].

Рэжым надзвычай суровы, адзначаецца ў матэрыяле.

«За межамі жылога сектара асуджаным з пазнакай "ПЗ" (пажыццёвае зняволенне) на робе перасоўвацца дазволена, сагнуўшыся напалову, ногі шырэй за плечы, рукі ў наручніках ззаду, высока паднятыя, пальцы растапыраныя. Падымаць галаву, разгінацца забаронена, каманды выконваюцца неадкладна, кожнага асуджанага

суправаджаюць два кантралёры з сабакам. Прагулка ў асуджаных – 30 хвілін. Прагулачны дворык – такая ж камера, толькі замест столі – краты».

**Выключныя меры пакарання (прызначаныя). Форма 10 статыстычнай справаздачнасці (Сп – смяротнае пакаранне, пЗ – пажыццёвае зняволенне)**

| Год | СП | ПЗ | Год | СП | ПЗ |
|---|---|---|---|---|---|
| 1991 | 21 | | 2003 | 4 | 12 |
| 1992 | 24 | | 2004 | 2 | 12 |
| 1993 | 20 | | 2005 | 2 | 8 |
| 1994 | 25 | | 2006 | 9 | 7 |
| 1995 | 37 | | 2007 | 4 | 7 |
| 1996 | 29 | | 2008 | 2 | 5 |
| 1997 | 46 | | 2009 | 2 | 5 |
| 1998 | 47 | 3 | 2010 | 2 | 2 |
| 1999 | 13 | 29 | 2011 | 3 | 4 |
| 2000 | 4 | 18 | 2012 | – | 4 |
| 2001 | 7 | 11 | 2013 | 2 | 2 |
| 2002 | 4 | 21 | 2014 | 2 | 7 |
| Усяго за 10 гадоў (1991–2001) | 266 | 50 | Усяго за 10 гадоў (2001–2011) | 38 | 90 |
| Усяго з 1991 г. | 403 | 157 | | | |

Прафесар У. Хоміч лічыць, што пажыццёвае зняволенне як альтэрнатыва смяротнаму пакаранню магло быць успрынята толькі ва ўмовах скарачэння агульнага ўзроўню прымянення пазбаўлення свабоды. Пакуль жа ўзровень прымянення пазбаўлення свабоды ў Беларусі застаецца высокім – больш за 30%. “Задача была ў тым, каб збалансавана прымяняць пазбаўленне свабоды ў якасці аднаго з выключных пакаранняў”, – адзначае навукоўца[86].

Па меркаванні суддзі Канстытуцыйнага Суда Станіслава Данілюка, адмова ад практыкі прымянення смяротнага пакарання ў Беларусі павінна спалучацца з працэсам ліквідацыі недахопаў заканадаўства, што ў выніку прывядзе да перагляду ўмоў пажыццёвага зняволення.

Ч. 4 арт. 58 КК прадугледжвае магчымасць перагляду пакарання ў адносінах да асобы, асуджанай на пажыццёвае зняволенне. Так, пасля 20 гадоў зняволення суд у залежнасці ад паводзін зняволенага, яго ўзросту і стану здароўя можа замяніць яму пажыццёвы тэрмін пазбаўленнем волі да пяці гадоў. Пажыццёвае зняволенне ў рэспубліцы з’явілася ў 1997 г., а першы асуджаны да такога пакарання – у 1998 г. Такім чынам, з 2018 г. можа паўстаць прэцэдэнт, калі такія асобы апынуцца на волі.

На думку суддзі С. Данілюка, добрыя паводзіны асуджанага на пажыццёвае зняволенне не з’яўляюцца гарантыяй яго выпраўлення, роўна як ўзрост і стан здароўя не сведчаць пра тое, што чалавек усвядоміў цяжар ім зробленага. У дачыненні да людзей, якія вызваліліся такім чынам, па законе нават не можа быць усталяваны прэвентыўны нагляд. “Усе гэтыя недахопы прававога рэгулявання трэба ліквідаваць, калі мы хочам адмовіцца ад смяротнага пакарання”, – лічыць суддзя[87].

Пры гэтым абмежаванне прымянення смяротнага пакарання толькі ў выпадках здзяйснення злачынстваў, звязаных з забойствам чалавека пры абцяжарвальных

абставінах, а таксама магчымасць у гэтых выпадках прымяніць пажыццёвае зняволенне замест смяротнага пакарання, ствараюць спрыяльную аснову для фарміравання ў грамадскай свядомасці перадумоў для поўнай замены смяротнага пакарання пажыццёвым зняволеннем.

## СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ: АРГУМЕНТЫ ЗА І СУПРАЦЬ

"Беларусь – апошняя краіна ў Еўропе, дзе існуе смяротнае пакаранне", – кажуць прыхільнікі яго адмены. "Народ на рэферэндуме выказаўся супраць адмены гэтага віду пакарання", – адказваюць прыхільнікі смяротнай кары… Гэтае пытанне застаецца адным з самых дыскусійных не толькі ў беларускім грамадстве, але і ўвогуле ў свеце.

Разгледзім найбольш распаўсюджаныя аргументы супраць смяротнага пакарання.

**Аргумент першы** – ні адна дзяржава не павінна мець права пазбаўляць жыцця.

**Аргумент другі** – смерць незваротная: ніякае правасуддзе не застрахавана ад судовых памылак, невінаватых людзей асуджаюць ва ўсіх краінах. Для

Беларусі найбольш яскравым прыкладам з’яўляецца “віцебская справа”, пра якую мы згадвалі вышэй. У 1980 г. быў расстраляны Мікалай Цярэня за забойства, якое насамрэч здзейсніў Генадзь Міхасевіч. Вось што ўзгадвае па гэтым эпізодзе справы М. Грыб, які ў студзені 1985-га ўзначаліў аператыўна-следчую групу па раскрыцці забойстваў жанчын у Віцебскай вобласці:

*– За забойства дзяўчыны ў 1979 г. былі затрыманы два чалавекі – Цярэня і Кадушкіна. Абое ў адзін голас далі прызнальныя паказанні. Цярэня адносіўся да катэгорыі людзей, схільных да здзяйснення злачынстваў. Па-мойму, ён не меў сталага месца жыхарства, жыў дзе прыйдзецца, у асноўным у Полацку. У судзе, калі зразумеў, чым гэта пагражае, пачаў адмаўляцца ад сваіх паказанняў. Кадушкіна цалкам пацвярджала прызнальныя паказанні папярэдняга следства. Калі б яны ўдваіх у судзе адмовіліся, я думаю, суд не рашыўся б вынесці вышэйшую меру пакарання Цярэню.*

*Але яна стаяла да канца і даказвала, што менавіта яны здзейснілі гэтае злачынства. Рэчыўных доказаў на той час у распараджэнні Віцебскага абласнога суда не было, толькі прызнанні. Забітая дзяўчынка была з валізай, якую Міхасевіч выкінуў у раку. Праз сем гадоў ён паказаў, куды выкінуў. Кадушкіна атрымала 10 гадоў пазбаўлення волі, адседзела шэсць. Яе вызвалілі, рэабілітавалі. Цярэня быў расстраляны. У гэтай справе вялікую ролю адыграў Жаўняровіч, следчы пракуратуры па асабліва важных справах, лічыўся спецыялістам са стоадсоткавай раскрывальнасцю. У яго быў велізарны*

*аўтарытэт у судах, пракуратуры*[88].

Звесткі пра следчыя і судовыя памылкі, вынікам якіх стала вынясенне смяротнага пакарання невінаватай асобе, не ўваходзілі ў прадмет судовай статыстыкі, што ўскладняе іх колькаснае вывучэнне. Кожны такі выпадак, які рабіўся вядомым, дэманстраваў набор агульных, паўторных парушэнняў у сферы атрымання, даследавання і ацэнкі доказаў [89].

Калі абагульніць, то асноўнымі доказамі былі паказанні сваякоў ахвяраў пра канфліктныя адносіны з абвінавачанымі, прызнальныя паказанні абвінавачаных, паказанні пра здзейсненае злачынства ад сукамернікаў на этапе следства пад прымусам супрацоўнікаў міліцыі. Сведкам пагражалі, змяшчалі ў следчы ізалятар.

Даследчык М. Кітаеў адзначае, што вывучэнне спецыяльнай літаратуры, інфармацыйных лістоў, якія Міністэрства ўнутраных спраў і пракуратура накіроўвалі ў рэгіёны, паказвае, што дапушчаныя ў працэсе аператыўна-пошукавай і следчай працы памылкі носяць сталы характар.

У 1960-я гг. адказныя супрацоўнікі міліцыі горада Навамаскоўска, карыстаючыся бескантрольнасцю следчых і адсутнасцю належнага нагляду з боку пракуратуры, па шэрагу спраў аб забойствах дзейнічалі стэрэатыпна. Яны без ведама следчых пракуратуры, у вытворчасці якіх знаходзіліся гэтыя справы,

неабгрунтавана затрымлівалі ў якасці падазраваных невінаватых людзей і змяшчалі іх у камеры папярэдняга заключэння, праводзілі допыты ў начны час з выкарыстаннем фізічнага і псіхалагічнага гвалту. Усё гэта прывяло да самаабгавору невінаватых асоб, якіх беспадстаўна прыцягнулі да крымінальнай адказнасці, што перашкодзіла раскрыццю цяжкіх злачынстваў.

Даследаванні, праведзеныя ў розных рэгіёнах СССР у 1980-я гг., выявілі аналагічныя парушэнні.

Падобныя даследаванні 1990-х гг. пацвердзілі, што працягваюць мець значнае распаўсюджанне выпадкі затрымання грамадзян у якасці падазраваных – пры адсутнасці прадугледжаных законам падстаў – з мэтай атрымання аператыўнай інфармацыі пра здзейсненае злачынства.

Менавіта гэтым тлумачыцца вялікая колькасць асоб, затрыманых у якасці падазраваных, а пасля вызваленых на падставе "не пацверджанага падазрэння".

Працы розных аўтараў паказваюць, што ў большасці выпадкаў беспадстаўнае прыцягненне грамадзян да крымінальнай адказнасці з'яўляецца вынікам парушэння патрабаванняў закона аб усебаковасці, аб'ектыўнасці і паўнаце даследавання ўсіх абставін справы.

Непаўната расследавання па многіх крымінальных справах, па якіх мела месца беспадстаўнае прыцягненне да крымінальнай адказнасці, пагаршалася абвінаваўчым ухілам следчых, у выніку чаго важныя для справы

абставіны правяраліся толькі ў межах адной з шэрагу версій пра асобу злачынцы. Пры гэтым ігнараваліся супярэчнасці ў матэрыялах справы, па надуманых прычынах або ўвогуле беспадстаўна адхіляліся хадайніцтвы абвінавачаных і іх абаронцаў у вытворчасці працэсуальных дзеянняў, якія маглі б спрыяць устанаўленню невінаватасці прыцягваемых.

Даследчык У. Камісараў апытаў 220 следчых. З гэтай колькасці лічылі магчымым паступіцца маральнымі прынцыпамі: пры следчым аглядзе – 49% рэспандэнтаў, пры вобыску – 28%, а пры прад’яўленні для апазнання – 17%. Вывучэнне крымінальных спраў паказала, што працэнт такіх адкрыццяў быў значна заніжаны[90].

Існуючыя ў судовай практыцы крытэрыі даказанасці злачынства арыентуюць суддзяў на ўстанаўленне ісціны па крымінальных справах. Аднак узровень “крытэрыю даказанасці” бывае недастаткова высокі, асабліва пры разглядзе справы пра жорсткае забойства, якое атрымала вялікі розгалас і выклікае занепакоенасць у грамадстве.

У такіх выпадках суддзя ўсведамляе, што сукупнасць доказаў па канкрэтнай крымінальнай справе стварае небяспеку асуджэння на аснове высокай ступені верагоднасці, і ў прынцыпе не ў поўнае меры выключана магчымасць асуджэння невінаватага.

Як павучальны прыклад, што дэманструе магчымасць трансфармацыі следчых памылак у судовыя, можна прывесці выпадак з біяграфіі вядомага на ўвесь

былы Савецкі Саюз следчага Міхаіла Кузьміча Жаўняровіча.

Пачаў працаваць у пракуратуры са жніўня 1944 г., праз восем гадоў яго прызначылі старшым следчым пракуратуры Магілёўскай вобласці, а з 1960 г. ён з'яўляўся следчым па асабліва важных справах пры пракуратуры Беларускай ССР. Аб прафесіяналізме Жаўняровіча меркавалі на падставе таго, што ён меў дачыненне да раскрыцця практычна кожнага загадкавага забойства ў рэспубліцы.

Следчы Парыц так выказваў сваё стаўленне да асобы і метадаў працы Жаўняровіча:

*Некаторыя следчыя, у тым ліку і Жаўняровіч, мелі нізкі агульнаадукацыйны ўзровень, слабую прафесійную падрыхтоўку, працавалі дамарослымі спосабамі. А ўжо пра спецыфіку расследавання злачынстваў, здзейсненых у сувязі з сексуальнымі адхіленнямі, ніякага ўяўлення не мелі. Гэтыя людзі траплялі ў следчы апарат, я ўпэўнены, абсалютна выпадкова, без паклікання ў абранай дзейнасці… Што было насамрэч? Няздольнасць сумнявацца ў абранай версіі, адкідванне любых доказаў, якія супярэчаць ёй, прымітыўны падыход да аналізу і ацэнкі доказаў у іх сукупнасці. Непрабівальная ўпэўненасць у сваёй прафесійнай бязгрэшнасці. Жаўняровіч, напрыклад, лічыў, што заўсёды можа вызначыць забойцу. Яго любімы выраз: злачынца – у матэрыялах справы, яго толькі трэба там знайсці. Няўжо гэта не дастатковы паказальнік прафесійнага прымітывізму?*[91]
Даследчык М. Кітаеў лічыць, што закон "Аб аператыўна-

пошукавай дзейнасці" шмат у чым зрабіў адкрытай тую сферу функцыянавання аператыўных служб, якая дзесяцігоддзямі ў СССР лічылася сакрэтнай і не падлягала пракурорскаму нагляду. Аднак метады ўздзеяння на падазраваных асоб з боку супрацоўнікаў праваахоўных органаў нярэдка застаюцца тымі ж, што існавалі ў часы росквіту культу асобы.

Суддзя Канстытуцыйнага Суда Станіслаў Данілюк адзначае, што судовая памылка – самы рацыянальны аргумент за адмену смяротнага пакарання, хоць, па яго словах, раней ён з'яўляўся прыхільнікам смяротнай кары.

*У канцы 1970-х па крымінальным заканадаўстве максімальны тэрмін пакарання быў 15 гадоў, а пажыццёвага зняволення ўвогуле не існавала. Але літаральна праз некалькі гадоў адбыліся падзеі, якія вельмі моцна паўплывалі на мой*

*светапогляд. У 1980-я ў прэсе з'явілася інфармацыя пра гучныя судовыя скандалы – да працяглых тэрмінаў пазбаўлення волі і смяротнага пакарання асуджалі невінаватых людзей. Я тады працаваў ва ўпраўленні ўнутраных спраў Мінгарвыканкама і добра памятаю, як пасля чарговай гучнай крымінальнай справы нас запрасілі на закрытую нараду, дзе распавялі пра спосабы штучнага стварэння доказаў з боку работнікаў праваахоўных органаў. Было здзейснена забойства. Міліцыя доўга не магла выйсці на след злачынцаў, але існавала кола падазраваных. Сярод іх лічыўся грамадзянін, які нібыта меў непрыязныя адносіны з ахвярай. Ён таксама знаходзіўся на ўліку, меў канфлікты з законам. І хтосьці паказаў следчаму, што гэты*

*чалавек выказваў пагрозы забітаму. Калі яго ўзялі ў апрацоўку, натуральна, ніякіх прамых доказаў не здабылі. Хоць аператыўны супрацоўнік быў абсалютна ўпэўнены, што гэта сапраўдны забойца. І жадаючы дапамагчы правасуддзю, ён падаслаў да падазраванага агента. Яны выпілі бутэльку гарэлкі, а потым пустую бутэльку падкінулі на тое месца, дзе быў знойдзены труп. І калі следчы пракуратуры рабіў паўторны агляд месца здарэння, ён знайшоў гэтую бутэльку з адбіткамі падазраванага. А паколькі гэта было не ў горадзе, а ў лесе, паспрабуй растлумачыць, як гэтая бутэлька апынулася за некалькі кіламетраў ад населенага пункта. Вось так невінаваты чалавек быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. А я тады задумаўся, наколькі правамернае смяротнае пакаранне, таму што любы можа апынуцца ў такой сітуацыі*[92].

**Аргумент трэці** – смяротнае пакаранне неэфектыўнае: няма ніякіх доказаў, што смяротная кара мае стрымліваючы эфект, які будзе больш эфектыўным за іншыя віды пакарання.

Паводле ч. 2 арт. 44 КК, крымінальная адказнасць мае на мэце выпраўленне асобы, якая здзейсніла злачынства, і папярэджанне здзяйснення новых злачынстваў як асуджаным, так і іншымі асобамі. Сукупнасць двух дзеянняў – выпраўленне і папярэджанне. Як з гэтымі задачамі спраўляецца смяротнае пакаранне? Паколькі яно па сваёй сутнасці прадугледжвае забойства чалавека,

яго фізічнае знішчэнне, выправіць такім чынам ужо нікога немагчыма. Але і другая мэта застаецца недасягнутай.

Прафесар Р. Васілевіч адзначае, што само прымяненне смяротнага пакарання не вырашае праблемы папярэджання праяўленняў злачынстваў альбо іх поўнай ліквідацыі: “Да рэферэндуму 1996 г. да смяротнага пакарання асуджалася штогод 25–30 чалавек. Пасля рэферэндуму, пры амаль той жа колькасці цяжкіх злачынстваў, у 1997–1998 гг. суды асудзілі на смерць 46 і 47 чалавек адпаведна. А ў 1999 г. суды змянілі практыку і на смерць асудзілі толькі 13 чалавек. Хоць менавіта ў той год колькасць забойстваў з абцяжарвальнымі абставінамі значна ўзрасла. Гэта прыклад таго, што на пазіцыю ўладных структур уплывае грамадскае меркаванне”[93].

Практыцы вядома дастаткова шмат выпадкаў, калі ўсталяванне за пэўныя злачынствы смяротнага пакарання не толькі не прыводзіць да зніжэння яго паказчыкаў, але і дае зваротны вынік альбо прыводзіць да здзяйснення больш цяжкіх злачынстваў. Так, указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 30 красавіка 1954 г. было ўведзена смяротнае пакаранне за наўмыснае забойства. Вынікам стаў рост ліку здзейсненых забойстваў за кошт таго, што злачынцы, каб паменшыць верагоднасць прыцягнення да адказнасці, сталі забіваць не толькі пацярпелых, але і сведак сваіх дзеянняў. Увядзенне ў 1961 г. у СССР смяротнага пакарання за

згвалтаванне з абцяжарвальнымі абставінамі не прывяло да зніжэння колькасці згвалтаванняў. У той жа час узрасла колькасць забойстваў, спалучаных са згвалтаваннямі, бо злачынцы імкнуліся пазбаўляць сваіх ахвяр жыцця, каб тыя не маглі даць супраць іх паказанні[94].

Даследчык У. Хоміч звяртае ўвагу, што рост злачыннасці ў сучасных умовах у большай ступені абумоўлены такімі фактарамі, як жорсткасць нораваў, выкліканая стратай ідэалаў; культ гвалту, сацыяльнае і прававое бясчынства; абясцэньванне жыцця чалавека, абумоўленае жорсткімі, хоць і лакальнымі, войнамі, жаданнем выжыць у канкурэнтным асяроддзі; сацыяльная няроўнасць (багацце – на адным баку, жабрацтва – на іншым); прага нажывы; сутыкненне канкурэнтных капіталаў; сацыяльная нестабільнасць з гвалтоўнымі метадамі палітычнай барацьбы і інш[95].

**Аргумент чацвёрты** – вышэйшая мера не ўзнаўляе справядлівасць для сямей забітых: наступствы забойства не могуць быць выпраўлены іншым забойствам. Падтрымка сямей ахвяраў важная ва ўсіх сістэмах правасуддзя, але прымяненне смяротнага пакарання перашкаджае адзінай сапраўднай падтрымцы – фінансавай, фізічнай, і, вядома ж, псіхалагічнай – у доўгатэрміновай перспектыве. Правасуддзе не можа дыктавацца ахвярамі, незалежна ад злачынства, бо

з'яўляецца ўсяго толькі замаскіраванай помстай, ускладзенай на плечы дзяржавы.

Заканадаўца не павінен усляпую падтрымліваць патрабаванні некампетэнтнай грамадскасці. Часам ён можа (і павінен) ісці паперадзе грамадскага меркавання, фарміраваць і выхоўваць яго. Грамадскасць, як правіла, дрэнна інфармаваная і не заўсёды мае рацыю. Прафесар Р. Васілевіч адзначаў, што напярэдадні рэферэндуму 1996 г. з выбаршчыкамі не праводзілася тлумачальная праца пра смяротнае пакаранне. Некаторыя даследчыкі выказваюць меркаванне, што такое вузкапрафесійнае пытанне ўвогуле нельга было выносіць на ўсеагульнае галасаванне.

**Аргумент пяты** – смяротная кара стварае неперарыўны ланцуг апасродкаваных пакут сямей і блізкіх асуджанага. Так, напрыклад, 62% беларусаў адчуваюць несправядлівасць астракізму ў адносінах да сем'яў асуджаных і лічаць, што іх сем'і не павінны пакутаваць[96].

У цяперашні час выкананне смяротнага пакарання ў Беларусі ажыццяўляецца ў абстаноўцы найстражэйшай сакрэтнасці. Сваякам асуджанага пасля расстрэлу не паведамляюць пра месца пахавання, а таксама не выдаюць яго цела.

**Аргумент шосты** – вышэйшай мера пакарання прымяняецца ў парушэнне міжнародных стандартаў: яна не адказвае прынцыпам Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека 1948 г., якая прадугледжвае, што кожны чалавек мае права на жыццё і ніхто не павінен падвяргацца катаванням або жорсткаму, бесчалавечнаму або прыніжаючаму годнасць абыходжанню. Вышэйшая мера пакарання таксама супярэчыць сусветнай тэндэнцыі, двойчы адзначанай Генеральнай Асамблеяй ААН, якая заклікала да ўстанаўлення сусветнага мараторыя на прывядзенне ў выкананне смяротнага пакарання (рэзалюцыі 62/149 і 63/168, прынятыя 18 снежня 2007 і 2008 гг.).

6 мая 2015 г. Камітэт ААН па правах чалавека ўстанавіў парушэнне права на жыццё асуджанага 14 мая 2010 г. Гродзенскім абласным судом да смяротнага пакарання Алега Грышкаўцова. Гэта чацвёртае індывідуальнае паведамленне па смяротных прысудах, якое было станоўча разгледжана ў Камітэце. У мінулыя гады былі разгледжаны справы ў дачыненні да Андрэя Жука, Уладзіслава Кавалёва, Васіля Юзэпчука. У кожнай з гэтых спраў КПЧ ААН устаноўлена парушэнне права на жыццё.

**Аргумент сёмы** – смяротнае пакаранне стварае заганнае кола гвалту. Парадаксальна, дзяржава асуджае чалавека за тое, што ён здзейсніў забойства. Але якім

чынам яна вырашае яго пакараць? Таксама праз смерць.

Разам з тым немагчыма не ўлічваць і шэраг аргументаў на карысць смяротнаму пакаранню, якія існуюць у грамадстве.

**Аргумент першы** – смяротнае пакаранне з'яўляецца праявай справядлівасці, што адпавядае старадаўняму прынцыпу "смерць за смерць".

Варта адзначыць, што звычай кроўнай помсты быў заменены публічным пераследам забойцаў яшчэ напачатку станаўлення дзяржавы. Прынцып "смерць за смерць" не можа быць рэалізаваны самім грамадзянінам, яго выкананне знаходзіцца ў руках дзяржавы, якая ўжо да мінімуму скараціла сферу яго дзеяння.

"Само забойства не караецца смяротнай карай і, адпаведна, смерць больш не цягне за сабой смерць забойцы", – адзначае даследчык М. Бабій. Прымяненне смяротнага пакарання магчымае, але зусім не абавязковае, толькі за забойствы, здзейсненыя пры так званых абцяжарвальных абставінах. Толькі наяўнасць некаторых абставін з'яўляецца абгрунтаваннем смяротнага пакарання. Пры гэтым ніякія абставіны самі па сабе не з'яўляюцца чымсьці такім, што можа карацца смерцю. Напрыклад, выкраданне маёмасці або іншыя карыслівыя дзеянні ні па адным з артыкулаў КК не цягнуць пакарання смерцю, і толькі ў спалучэнні з забойствам, якое заканадаўца называе забойствам з

карыслівай мэты, магчыма прымяненне смяротнага пакарання. Тое самае датычыцца хуліганства і забойства з хуліганскіх намераў, утойвання злачынства і забойства з мэтай схаваць іншае злачынства. І нават здрада дзяржаве, якая раней лічылася самым цяжкім злачынствам, цяпер цягне пакаранне ў выглядзе пазбаўлення свабоды на тэрмін ад 7 да 15 гадоў, і толькі ў спалучэнні з забойствам прысудам можа стаць смяротнае пакаранне. Акрамя гэтага, смяротнае пакаранне не з’яўляецца адзіным пакараннем за наўмыснае забойства пры абцяжарвальных абставінах, бо, па законе, такое забойства можа карацца пазбаўленнем свабоды на тэрмін ад 8 да 25 гадоў. Па дзейным Крымінальным кодэксе простае наўмыснае забойства караецца пазбаўленнем свабоды на тэрмін ад 6 да 15 гадоў і не можа цягнуць за сабой смяротнага пакарання. Як відаць, замест “смерці за смерць” злачынца можа быць асуджаны на шэсць гадоў пазбаўлення свабоды. Гэта значыць, што гэты старадаўні прынцып ліквідуецца з практыкі крымінальных пакаранняў і дзейнічае толькі як выключэнне пры пэўных абставінах.

**Аргумент другі** – смяротнае пакаранне мае застрашальнае ўздзеянне на людзей, дапамагае папярэджваць здзяйсненне асабліва цяжкіх злачынстваў у будучыні.

“Прымяненне смяротнага пакарання абумоўлена

неабходнасцю жорсткай барацьбы з найбольш небяспечнымі злачынствамі. Яно не з'яўляецца актам разліку за здзейсненае злачынства, а мае на мэце агульнае і спецыяльнае папярэджанне злачыстваў", – лічыць расійскі крыміналіст Я. Ішчанка[97]. І дадае: адмяняючы смяротнае пакаранне, дзяржава захоўвае жыццё найбольш небяспечным злачынцам і нібы робіцца саюзнікам самых агалцелых злачынцаў, паколькі тым самым не гарантуе астатнім грамадзянам бяспеку, права на жыццё.

Даследчык А. Кляшоў піша: «Вядуцца бясконцыя спрэчкі з пазіцыі "найвышэйшай гуманнасці", расплыўчатай статыстыкі. А ўсё дастаткова проста і зразумела – ёсць тыя, ад каго грамадства павінна пазбаўляцца як ад невылечных хвароб. Злаякасныя пухліны трэба выдаляць, а не песціць… Гаворка ідзе не пра псіхічна хворых людзей, не пра выпадкі, калі смяротнае пакаранне неадэкватнае цяжкасці здзейсненага злачынства… Гаворка пра катаў, якія на цвярозую галаву, прадумана здзейснілі жахлівыя злачынствы. Гэта не замах на жыццё чалавека, таму што тыя, хто падобныя злачынствы здзяйсняюць, – не людзі. Гэта істоты, якім не павінна быць месца на Зямлі. Пазбаўляць свет ад іх – і ёсць сапраўдная гуманнасць. У адносінах да людзей»[98].

Аднак сусветны досвед паказвае, што адмена смяротнага пакарання яшчэ нідзе не прывяла да росту

колькасці забойстваў, роўна як увядзенне смяротнага пакарання не прыводзіла да змяншэння забойстваў.

У плане прафілактыкі смяротнае пакаранне не можа выконваць вырашальную ролю, паколькі яно прымяняецца толькі за кваліфікаваныя віды забойстваў, адпаведна, можа папярэджваць толькі гэты від злачынстваў, доля якіх у агульнай масе нязначная.

У 2012 г., паводле статыстыкі МУС [99], было зафіксавана 102 127 злачынстваў, з іх забойстваў – 385. У 2013 г. – 96 676 злачынстваў, з іх забойстваў – 410. У 2014 г. зарэгістравана 93 932 злачынстваў, з іх забойстваў – 438. Да смяротнага пакарання ў 2012 г. не быў асуджаны ніводны чалавек, у 2013 г. да яго прыгаварылі дваіх, у 2014 г. – таксама дваіх чалавек.

У кантэксце статыстычных звестак ад праваахоўных органаў больш неабходнай падаецца прафілактыка алкагалізму ў грамадстве. За 2014 г. у Гродзенскай і Магілёўскай вобласці 100% забойстваў былі здзейснены асобамі ў стане алкагольнага ап’янення.

Выкананне смяротных прысудаў у Беларусі, як было адзначана вышэй, ажыццяўляецца ў абстаноўцы найстражэйшай сакрэтнасці. Пра выкананне прысудаў паведамляюць толькі блізкім сваякам. Прадстаўнікі СМІ ўвесь час сутыкаюцца з адмовамі ў судах і праваахоўных органах, калі звяртаюцца да іх з просьбай даць інфармацыю па такога роду справах. У красавіку 2014 г. Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь пакінуў у сіле

прыгавор аб смяротным пакаранні ў адносінах да грамадзяніна Эдуарда Лыкава, які прызнаны вінаватым у здзяйсненні пяці забойстваў. З таго моманту прайшло больш за 12 месяцаў, аднак дзяржаўныя органы дагэтуль не паведамілі, ці быў прыведзены ў выкананне прысуд Лыкаву. Такім чынам, аргумент, што смяротная кара можа выступаць як устрашэнне грамадства, з'яўляецца беспадстаўным, прынамсі, для Беларусі.

**Аргумент трэці** – пазбаўленне свабоды – занадта мяккае пакаранне для злачынцы, які здзейсніў жорсткае забойства.

Прафесар У. Хоміч лічыць, што ўзровень прымянення пазбаўлення свабоды застаецца дастаткова высокім у Беларусі – больш за 30%. Заканадаўчыя нормы не дазваляюць сістэмна ўкараняць у практыку альтэрнатыўныя пазбаўленню свабоды меры крымінальнай адказнасці[100].

У сваю чаргу, прымяненне пазбаўлення свабоды ў такіх маштабах прыводзіць да таго, што ў грамадстве і дзяржаве нівелюецца сур'ёзнасць такога віду пакарання, як пазбаўленне свабоды. Частыя амністыі, якія праводзяцца з-за таго, што ў турмах і калоніях не хапае месцаў, толькі спрыяюць умацаванню меркавання – нічога страшнага ў тым, каб апынуцца ў турме, няма. У такіх умовах грамадства бачыць выйсце толькі ў яшчэ больш жорсткіх пакараннях, якім і з'яўляецца смяротнае.

Аднак гэта тупіковы шлях для краіны. Дзяржаўная сістэма, якая заснавана на жорсткасці ў адносінах да сваіх грамадзян, спараджае жорсткасць грамадзян як у адносінах адзін да аднога, так і ў адносінах да дзяржавы.

**Аргумент чацвёрты** – утрымліваць злачынцу ў турме пажыццёва – занадта дорага для дзяржавы.

Расійскі навукоўца Р. Нагорны, лічыць, што толькі смерць асуджанага дае стопрацэнтую гарантыю таго, што ў будучым гэты чалавек больш не здзейсніць злачынства. Што датычыцца пажыццёвага зняволення як альтэрнатывы расстрэлу, то, па меркаванні даследчыка, яно з'яўляецца неэфектыўнай мерай крымінальнай палітыкі дзяржавы. У якасці пацверджання ён прыводзіць эканамічныя разлікі: на ўтрыманне кожнага пажыццёва зняволенага ў Расіі затрачваецца каля 85 тысяч расійскіх рублёў у год (каля 23 млн беларускі рублёў) або 232 расійскія рублі ў дзень (каля 65 тысяч беларускіх рублёў).

Такі ж аргумент гучыць і ў беларускім грамадстве. Аднак адкрытай інфармацыі, колькі штомесяц дзяржава выдаткоўвае на ўтрыманне пажыццёва зняволеных, няма.

**Аргумент пяты** – беларусы яшчэ не гатовыя да адмены смяротнага пакарання.

"Наш народ, у адрозненні ад іншых, не можа дазволіць сабе адмовіцца ад паслуг ка́та, абаронцы грамадства і помсніка. Прыклад іншых народаў нічога не

даказвае, таму што ў нашай краіне ўмовы склаліся інакш. Магчыма, замежнікаў адварочвае ад злачынстваў страх перад працяглым турэмным зняволеннем, але на нашых злачынцаў дзейнічае толькі смяротнае пакаранне,” – такое меркаванне ў 30-я гг. XX стагоддзя існавала… у брытанцаў [101]. Пры тым, што ў цэлым брытанцы, як, дарэчы, і беларусы, і тады, і цяпер лічыліся даволі дысцыплінаванай і законапаслухмянай нацыяй. І па гэтых якасцях пераўзыходзяць многія краіны, якія ўжо даўно адмянілі смяротнае пакаранне. Апошні смяротны прысуд у Вялікабрытаніі быў выкананы ў 1964 г.

Беларусь застаецца апошняй краінай у Еўропе і на постсавецкай прасторы, дзе смяротнае пакаранне дагэтуль існуе.

**Аргумент шосты** – смяротнае пакаранне існуе нават у такіх прагрэсіўных краінах, як Злучаныя Штаты Амерыкі.

Прыхільнікі смяротнага пакарання сапраўды часта ўзгадваюць пра ЗША і некаторыя іншыя краіны, дзе ўсё яшчэ захоўваецца вышэйшая мера. Аднак нават у ЗША смяротнае пакаранне не прымяняецца ў 18 штатах. Ідзе паступовая праца па адмене гэтага віду пакарання і ў іншых рэгіёнах краіны. Акрамя гэтага, паміж вынясеннем прысуду і яго выкананнем у Штатах часта праходзіць больш за 20 гадоў. Увесь гэты час асуджаны мае права звяртацца са скаргамі на вынесены прыгавор.

У красавіку 2015 г. у штаце Алабама выйшаў на сваботу мужчына, які чакаў у турме смяротнага пакарання амаль 30 гадоў. 58-гадовы Энтані Рэй Хінтан быў прызнаны вінаватым у забойстве двух менеджараў рэстарана ў 1985 г. Мужчына ўвесь гэты час сцвярджаў, што невінаваты, і летась было вырашана перагледзець яго справу. Калі падчас новай крыміналістычнай экспертызы спецыялістам не ўдалося даказаць, што кулі з месца забойства былі выпушчаныя са знойдзенага ў Хінтана дома рэвальвера, абвінавачванне закрыла справу. Адвакат Хінтана заявіў, што ягоны кліент быў асуджаны з-за таго, што не мог дазволіць сабе якасную юрыдычную кансультацыю. “Усё, што ім трэба было зрабіць, – праверыць зброю”, – сказаў мужчына, калі тлумачыў, чаму ён не павінен быў сядзець у турме ў чаканні пакарання амаль 30 гадоў. Кулі, знойдзеныя на месцы забойства, былі адзіным доказам, які звязваў Хінтана з забойствамі. Аднак сучасныя метады крыміналістычнай экспертызы не пацвердзілі сувязь паміж кулямі і рэвальверам асуджанага. Падчас першага разгляду справы папярэдні адвакат падсуднага думаў, што ў яго кліента ёсць толькі 1000 доларaў на паслугі эксперта па балістыцы, які абараніў бы яго ад абвінавачванняў пракуратуры. Гэты адвакат наняў адзінага спецыяліста, які пагадзіўся кансультаваць за такія грошы. У выніку прысяжныя ўвесь час пасмейваліся з таго, з якой цяжкасцю гэты эксперт спрабаваў адказваць на пытанні

падчас судовага паседжання. У 2014 г. Вярхоўны Суд ЗША пастанавіў, што на першым працэсе ў Хінтана не было належнай юрыдычнай абароны, і накіраваў справу на паўторны разгляд.

Сучасныя тэхналогіі дазволілі даказаць невінаватасць гэтага чалавека праз 30 гадоў пасля вынясення прысуду. У Беларусі смяротныя прысуды, як правіла, выконваюцца неадкладна, як толькі адмоўлена ў задавальненні просьбы аб памілаванні, не звяртаецца нават увага на тое, што скаргу па справе яшчэ разглядае Камітэт па правах чалавека ААН.

**Аргумент сёмы** – у 1996 г. народ прагаласаваў за смяротнае пакаранне, а значыць, гэтае пытанне вырашана.

На рэферэндуме большасць сапраўды выказалася за захаванне смяротнага пакарання ў Беларусі – 80,44%. Але варта ўзгадаць, што, па-першае, пытанне мела кансультатыўны, а не абавязковы характар. Па-другое, на той момант у крымінальным заканадаўстве Рэспублікі Беларусь максімальным пакараннем было зняволенне да 15 гадоў (цяпер – да 30 гадоў), не было яшчэ і такога віду пакарання, як пажыццёвае зняволенне. Па-трэцяе, ніякай тлумачальнай працы з выбаршчыкамі напярэдадні рэферэндуму па такім складаным і вузкапрафесійным пытанні, як смяротнае пакаранне, не праводзілася.

Апроч таго, грамадскае меркаванне за амаль 20 гадоў,

якія мінулі з часу рэферэндуму, змянілася. Апытанні, праведзеныя ў 2000 і 2003 гг., паказалі, што каля 70% насельніцтва ўсё яшчэ падтрымлівае смяротнае пакаранне. Аднак звесткі агульнанацыянальнага апытання 2008 г., праведзенага лабараторыяй даследаванняў “Новак”, паказалі, што 48,2% апытаных падтрымліваюць смяротнае пакаранне, а 39,2% прагаласавалі за яго адмену.

У 2014 г. група кампаній “САТИО” правяла сацыялагічнае апытанне. Галоўная выснова – колькасць праціўнікаў смяротнага пакарання перавысіла колькасць прыхільнікаў. Адмяніць смяротнае пакаранне, выконваць маратарый, ісці да адмены хочуць 43,3%. Пакінуць прымяненне ў цяперашніх рамках або пашырыць – 41,9%. У 2013 г. такіх было 44,9% і 46% адпаведна.

Важная акалічнасць: па выніках даследавання 2014 г., 25,6% беларусаў падтрымліваюць захаванне і прымяненне вышэйшай меры пакарання толькі пры пэўных умовах. Найбольш адэкватным злачынствам, якое заслугоўвае смяротнага пакарання, рэспандэнты лічаць тэрарызм. У 2013 г. апытаныя называлі асноўнай умовай для вынясення смяротнага пакарання злачынства з абцяжарвальнымі абставінамі[102].

Супраць смяротнага пакарання выступаюць каталіцкая і праваслаўная цэрквы ў Беларусі, звяртаючы ўвагу на найвялікшую каштоўнасць жыцця чалавека.

І прыхільнікі, і праціўнікі смяротнага пакарання

зацікаўлены ў тым, каб дзяржава праводзіла эфектыўную крымінальную палітыку, каб у выніку ў грамадстве зменшылася злачыннаць. Адрозненне – у падыходах і разуменні, як гэтай мэты можна дасягнуць. Калі цывілізаваныя краіны, нашы суседзі і партнёры прыйшлі да рашэння, што смяротнае пакаранне трэба адмяніць, то падаецца лагічным, каб і Беларусь пайшла тым самым шляхам.

# СПРАВЫ АСУДЖАНЫХ ДА СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

## АНТОН БАНДАРЭНКА

Антон Бандарэнка быў асуджаны да смяротнага пакарання ў чэрвені 1998 г. за забойства і іншыя злачынствы, якія ён здзейсніў ва ўзросце 19 гадоў.

Паводле суда, Бандарэнка незаконна трапіў у прыватны дом у суправаджэнні непаўналетняга Васкабойнікава і, пагражаючы нажом, прымусіў гаспадароў, хлопчыка і яго бабулю, адчыніць сейф, адкуль забраў каштоўныя рэчы. Падзельнік заявіў Бандарэнку, што адзін з відавочцаў – хлопчык Курыленкаў, можа паведаміць пра злачынства міліцыі, і прапанаваў яго забіць. Удары нажом наносілі абодва злачынцы. Да таго ж, Васкабойнікаў спіхнуў уніз па

лесвіцы бабулю ахвяры, ударыў некалькі разоў яе нажом, ад чаго жанчына памерла на месцы.

Прысуд, вынесены Бандарэнку, – смяротнае пакаранне. Маці Антона Бандарэнкі, Наталля Шэдзько, звярталася да беларускіх і міжнародных праваабаронцаў. Яна кожны дзень наведвала турму, дзе ўтрымліваўся яе сын, каб пабачыць, ці жывы ён яшчэ. Да апошняга дня ёй не паведамлялі дату расстрэлу. Наталля разам з сяброўкай выходзіла з пікетам да Адміністрацыі прэзідэнта з просьбай, каб прысуд яе сыну змякчылі. Аднак міліцыянты затрымалі жанчын.

У студзені 1999 г. адвакат Антона Бандарэнкі падаў скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН, сцвярджаючы пра парушэнні Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Паводле судова-медыцынскай экспертызы, Курыленкаў памёр ад мноства раненняў. Па меркаванні аўтара скаргі, падчас судовага разбіральніцтва было даказана, што Бандарэнка нанёс нажавыя раненні ахвяры толькі двойчы, што, на думку адваката, не магло стаць прычынай смерці. Адносна забойства бабулі Курыленкава абаронца лічыць, што меліся доказы невінаватасці Бандарэнкі. Васкабойнікаў, дарэчы, прызнаваўся, што падчас следства і на судзе даваў ілжывыя паказанні супраць падзельніка. Яшчэ адзін аргумент, які прыводзіўся ў скарзе, – суддзя Вярхоўнага Суда адмовіўся разглядаць нож у якасці доказу таго, што

Бандарэнка не ўдзельнічаў у здзяйсненні забойстваў.

Фактычна праз год пасля рашэння Вярхоўнага Суда прысуд быў выкананы. Прашэнне аб памілаванні было адхілена.

Камітэт па правах чалавека ААН змог разгледзець гэты выпадак толькі ў кастрычніку 1999 г., калі асуджаны ўжо быў пакараны. У пастанове Камітэт звярнуўся да ўлад з патрабаваннем паведаміць маці Антона Бандарэнкі пра месца яго пахавання і выплаціць ёй кампенсацыю за прынесеныя пакуты. Дзяржава, паводле КПЧ ААН, не павінна дапускаць такіх парушэнняў у будучыні.

Аднак маці Антона Бандарэнкі дагэтуль не ведае, дзе пахаваны яе сын. І беларускае заканадаўства не было зменена, каб адпавядаць пастанове Камітэта.

## АНДРЭЙ ЖУК

Андрэй Жук быў асуджаны да смяротнага пакарання 17 ліпеня 2009 г. Мінскім абласным судом.

25-гадовы Андрэй яшчэ з двума падзельнікамі арганізаваў напад на аўтамабіль, у якім супрацоўнікі аграфірмы везлі заробак для падначаленых. Злачынцы не толькі забралі грошы, але і забілі мужчыну і жанчыну.

Пры затрыманні Андрэй Жук знаходзіўся пад уздзеяннем наркотыкаў, аднак яго не накіравалі на медыцынскі агляд, а працягнулі допыт, які праходзіў ноччу. Доказы былі атрыманы з парушэннем правоў

падазраванага, а значыць, не маглі разглядацца судом.

У скарзе, якую маці Жука падала ў Камітэт па правах чалавека ААН, звяртаецца ўвага, што таксама была парушана прэзумпцыя невінаватасці – падчас прамаўлення апошняга слова яе сын знаходзіўся ў клетцы, рукі былі ў наручніках. Аналагічныя парушэнні праваабаронцы і юрысты фіксуюць па многіх крымінальных справах, якія разглядаюцца беларускімі судамі. Тагачасны міністр унутраных спраў Навумаў задоўга да вынясення прысуду публічна назваў Жука і іншых абвінавачаных злачынцамі.

Андрэй Жук дасылаў лісты праваабаронцам. Дзякуючы яму стала вядома яшчэ пра аднаго чалавека, асуджанага да смяротнага пакарання, – непісьменнага Васіля Юзэпчука, які сядзеў у адной камеры з Жуком.

Маці Андрэя, як і ён сам, звярталася з просьбай аб памілаванні да прэзідэнта. Аднак у сакавіку 2010 г. Андрэй Жук быў расстраляны.

## ВАСІЛЬ ЮЗЭПЧУК

29 чэрвеня 2009 г. 34-гадовы Васіль Юзэпчук быў прызнаны вінаватым у здзяйсненні забойстваў сталых жанчын, а таксама крадзяжах і разбоі і асуджаны да смяротнага пакарання.

Год і тры месяцы ён знаходзіўся ў СІЗА, перш чым яго справу разгледзелі ў судзе. У скарзе, пададзенай

прадстаўніком Юзэпчука ў Камітэт па правах чалавека ААН, адзначаецца, што ў адносінах да яго ўвесь час прымянялася фізічная сіла з мэтай дамагчыся патрэбных следству паказанняў, таксама яго прымушалі прымаць невядомыя таблеткі і алкаголь. Пры гэтым суд задаволілі высновы баранавіцкага СІЗА пра тое, што Васіль сам нанёс сабе пашкоджанні ў час знаходжання ў зняволенні.

Юзэпчук, што важна, быў непісьменным чалавекам, а значыць, не мог у поўнай меры самастойна азнаёміцца з пратаколам паказанняў. На віну Юзэпчука ўказваюць толькі яго прызнальныя паказанні падчас следства, а таксама паказанні яшчэ аднаго ўдзельніка працэсу, аднак і яны атрыманы праз катаванні.

У сакавіку 2010 г. Васіль Юзэпчук быў расстраляны.

## АНДРЭЙ БУРДЫКА І АЛЕГ ГРЫШКАЎЦОЎ

14 мая 2010 г. Гродзенскі абласны суд вынес смяротны прысуд 28-гадоваму Андрэю Бурдыку. Ён быў прызнаны вінаватым у здзяйсненні забойства пры абцяжарвальных абставінах, а таксама ў выкраданні чалавека, разбоі, замаху на крадзёж.

Паводле суда, 14 кастрычніка 2009 г. ратаўнікі, якіх выклікалі ў сувязі з пажарам, знайшлі на месцы здарэння трупы гаспадара кватэры, яго нявесткі і іх агульнай знаёмай з мноствам раненняў. Раніцай Бурдыка быў затрыманы ў кватэры знаёмага Алега Грышкаўца, які

таксама праходзіў абвінавачаным па гэтай справе.

Пасля таго, як Вярхоўны Суд адхіліў скаргу Бурдыкі на смяротны прысуд, а прэзідэнт адмовіў у памілаванні, прадстаўнік асуджанага ад яго імя звярнуўся са скаргай у Камітэт па правах чалавека ААН. У скарзе адзначалася, што да Бурдыкі выкарыстоўвалася фізічнае ўздзеянне з мэтай дамагчыся ад яго патрэбных следству паказанняў. Ён таксама быў пазбаўлены права на абарону адваката на першых этапах следства. Больш за пяць месяцаў прайшло, перш чым справу Бурдыкі пачалі разглядаць у судзе, што таксама з'яўляецца парушэннем міжнародных норм. З тымі самымі праблемамі сутыкнуўся і Алег Грышкаўцоў.

19 ліпеня 2011 г. – Андрэй Бурдыка і Алег Грышкаўцоў былі расстраляны.

## ІГАР МЯЛІК

14 верасня 2010 г. Магілёўскі абласны суд вынес смяротны прысуд Ігару Мяліку за здзяйсненне серыі забойстваў, рабаўніцтва і крадзяжоў у складзе злачыннай групоўкі, а таксама за незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі і боепрыпасаў.

Па справе таксама праходзілі заснавальнік аб'яднання джыу-джыцу і самаабароны Аляксандр Козыраў і сябра аб'яднання Аляксандр Сычоў. Козыраў нечакана скончыў жыццё самагубствам у магілёўскім СІЗА. Сычоў асуджаны да пажыццёвага зняволення, Мялік – да

расстрэлу.

У скарзе на прысуд Ігар Мялік паведамляў, што ў адносінах да яго выкарыстоўваліся катаванні – збіваць пачалі адразу пасля затрымання. Пабоі былі зафіксаваны медыкамі, пацвярджаліся Козыравым і Сычовым, якіх таксама збівалі супрацоўнікі міліцыі. Аднак, як часта бывае ў падобных справах, скаргаў падазраваны не пісаў, паколькі баяўся, што гэта яшчэ больш пагоршыць яго стан.

Мялік таксама адзначаў, што суд не прыняў пад увагу яго раскаянне ў здзейсненых злачынствах, супрацоўніцтва са следствам, а таксама адсутнасць карыслівага матыву. Па яго словах, ён пайшоў на злачынства пасля таго, як Козыраў пераканаў яго, што патрэбны грошы для дзейнасці аб’яднання. Ігар Мялік займаўся адзінаборствамі пад кіраўніцтвам Козырава 12 гадоў і лічыў правільным пагаджацца з усімі патрабаваннямі трэнера. З паказанняў Сычова вядома, што Козыраў спрабаваў двойчы яго застрэліць за тое, што той адмаўляўся выконваць загады.

Ігар Мялік прызнаваў, што ён злачынца, аднак звяртаўся з просьбай замяніць смяротнае пакаранне на пажыццёвае зняволенне. Суд яго просьбу адхіліў. У 2011 г. ён быў расстраляны.

# ЧАСТКА 3. ІНТЭРВ’Ю, НАТАТКІ

## АЛЕГ АЛКАЕЎ: ЗАБОЙСТВА – ГЭТА ЗАЎСЁДЫ ЗАБОЙСТВА, НАВАТ КАЛІ ПА ЗАКОНЕ

У красавіку 2012 г. падчас здымак дакументальнага фільма “Убыл по приговору” актывісты кампаніі “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання” паехалі ў Берлін да Алега Алкаева – былога начальніка СІЗА № 1 г. Мінска, аўтара кнігі “Расстрэльная каманда”. Пад кіраўніцтвам Алега Алкаева было прыведзена ў выкананне каля 150 смяротных прысудаў.

Частковa інтэрв'ю, запісанае з Алегам Алкаевым, увайшло ў фільмы “Убыл по приговору” (2012) і “Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання” (2013–2015). Тут тэкст гутаркі прыводзіцца цалкам.

З Алегам Алкаевым мы сустрэліся ў “рускім раёне” Берліна ў будынку гандлёвага цэнтра, салоне, дзе прадаецца кухонная мэбля. Гэта тое месца, дзе працуе былы начальнік СІЗА № 1 пасля таго, як у 2001 г. ён выкрыў таямніцу выкарыстання расстрэльнага пісталета ў пазасудовых пакараннях апанентаў улады і пакінуў Мінск. Падчас размовы ўражвала, з якой дакладнасцю Алег Алкаеў адказваў на ўсе пытанні.

*– Гэты цэнтр, у якім мы знаходзімся, – што гэта?*

– Гэта звычайны гандлёвы цэнтр. Тое месца, дзе мы зараз знаходзімся, не зусім камерцыйнае – тут не гандлююць, тут рамантуюць кухонную мэблю ды іншае – па заказах. Гэты цэнтр абслугоўвае насельніцтва па пытаннях набыцця квіткоў, паслуг санаторна-курортных, займаецца продажам тэлефонаў, квіткоў і абанементаў на канцэрты. Усё па-руску, усё гэта карыстаецца поспехам у гэтым раёне, інакш бы яны не працавалі. Тут дзяржава не падтрымлівае. Як здолееш арганізаваць працу, так і працуеш. Тут жывуць рускамоўныя. І я нават назіраў, што немцы-перасяленцы, якія дасканала валодаюць нямецкай мовай, у размовах паміж сабой пераходзяць на рускую мову, якая ў іх лічыцца роднай, яны на ёй з дзяцінства размаўлялі. Яны ведаюць нямецкую мову, але ім лягчэй фармуляваць свае думкі па-руску. Навошта ўскладняць? З немцамі – па-нямецку, з рускімі – па-руску. З англічанамі – па-англійску. Гэта адна з умоў тут. Адзіны я тут… Паколькі я звязаны з раз'язной працай, працоўны інструмент – стырно аўтамабіля. А правілы дарожнага руху для ўсіх аднолькавыя.

*– А кім Вы працуеце?*

– Я працую кіроўцам. Вось цяпер мы сядзім, а калі паступіць заказ прывезці што-небудзь, сяду – паеду… і на іншых фірмах я кіроўцам працую. Але праца не ўвесь час ёсць, таму я ўсе сустрэчы прызначаю тут, каб пад рукой быць у кіраўніцтва. Кіраўніцтва наша далёкае ад

змагання ў Беларусі, але яны з гэтым лічацца.

– *Чаму Вы абралі Берлін для жыцця?*

– Я яго не выбіраў, Берлін. У мяне быў адпачынак у Берліне. У мяне нават захавалася адпускное пасведчанне. Гэта збег абставін, што я сюды прыехаў. Тут сваякі жывуць. Атрымалася, што вяртацца назад мне не раілі, хоць я хацеў вярнуцца. Я віны за сабой не адчуваю. На мяне няма крымінальнай справы. Злачынстваў ніякіх не здзяйсняў. Хабару не браў. Трохпавярховай дачы не маю. Я і цяпер магу вярнуцца. І нават не ведаю, што будуць рабіць наша міліцыя з пракуратурай. Мяне пасадзіць вельмі складана – няма за што, і адразу ўзнікне тэма – за што пасадзілі? Яны робяць выгляд, што яны не чыталі кнігу. Яе трэба прачытаць, а калі прачытаць, то пабудаваць вялізную лаву падсудных. Можа быць, і я на яе сяду, але ўсё адно – у самым канцы. А там ужо такая лава вырасце… Ужо за гэты час (больш за 10 гадоў) павялічыўся колькасны склад асоб, якія маюць дачыненне да гэтых злачынстваў, – чалавек на 50 як мінімум – гэта тыя службовыя асобы, якія ў сілу свайго становішча былі абавязаны і абавязаны сёння раскрываць злачынствы, але не робяць гэтага. Ёсць у Крымінальным кодэксе артыкул па службовых злачынствах, дзе ўсё распісана: службовая асоба, якая не выконвае свае абавязкі, з'яўляецца злачынцам. Гэта тычыцца ўсіх – ад прэзідэнта да следчага. Прыйшоў на працу – у цябе недзе ў сейфе ляжыць нераскрытая справа. Усе ведаюць, што

зніклы Захаранка – не зніклы, а забіты, выкрадзены Завадскі, выкрадзеныя Ганчар і Красоўскі. Ёсць кола падазраваных – працуйце з ім. Постаці гэтыя вызначаны і акрэслены даўно. Але ім ад мяне лягчэй пазбавіцца, каб мяне не было, чым са мной сустракацца. Таму што гэтыя пытанні я, вядома, буду задаваць, а каму гэта трэба? Нікому. Магу стварыць праблемы. Прыеду ў Мінск, сяду насупраць МУС, буду чакаць арышту… Ёсць такі варыянт, бо я ўскосны саўдзельнік. Са зброі, прынятай у мяне, забіты людзі. Так. Вінаваты, даў, не падумаўшы, зброю, а з яе людзей забілі. Ёсць мая віна – кропку адліку можна такую паставіць.

– *У чым была неабходнасць выкарыстоўваць менавіта гэты пісталет для пазасудовай кары?*

– Мне гэтае пытанне задавалі…

– *І не аднойчы…*

– Задавалі, у тым ліку і сваякі зніклых. Згодны, што, каб забіць чалавека, не патрэбны спецыяльны пісталет, – можна і палкай, і нажом, і чым заўгодна – і рукамі, і вядро вады нават у рот можна заліць. Тут пісталет набывае, хутчэй за ўсё, рытуальнае значэнне. Менавіта рытуальнае. Патрэбна пампезнасць ва ўсім: чалавека не проста забіваюць, а караюць. Зброя як маральнае апраўданне для выканаўцы. Усё ж такі чарвяк сумнення тачыў. Яны разумелі, што гэта незаконна. Не думаю, што яны зусім адмарожаныя людзі. Таму – маё такое тлумачэнне. Не таму, што ён ціха страляе. Такой зброі –

дастаткова. Ды і ў тых умовах, калі ўсё гэта здзяйснялася, пра шум асабліва не турбаваліся. Таму маё такое тлумачэнне – чаму менавіта гэты пісталет. Мне гэтае пытанне не тое што задавалі, яно ўвесь час гучала як папрок мне: быццам бы Алкаеў з пісталетам “нафантазіраваў”. А менавіта выдача гэтай зброі дазволіла мне зрабіць высновы пра існаванне сакрэтнай групы, якая для нейкай мэты яго выкарыстоўвала. А потым супаставіўшы даты, асобы ды іншыя абставіны, я прыйшоў да высновы, што пісталет быў скарыстаны ў мэтах забойства нашых апазіцыйных палітыкаў. Я ў кнізе пра гэта пісаў. Цяпер гэтая версія ў мяне больш глыбока распрацавана. Калі б сёння мне нехта даў суткі, усё было б цалкам раскрыта. Чыста на тэхнічнае афармленне запрасіў бы аднаго, дргугога, і працэс бы пайшоў. І праз суткі можна было б прад'яўляць абвінавачанне ўсёй групе выканаўцаў, а заадно і тым, хто ўкрываў. Сёння я гатовы гэта зрабіць. Але не гатова кіраўніцтва нашай дзяржавы. Я, дарэчы, звяртаўся да іх з гэтай нагоды. Звяртаўся. Але я – не палітык. Не імкнуся да ўлады, я паставіў сабе задачу дакапацца да ісціны ў гэтых злачынствах, і мне ўдалося шмат зрабіць. Шмат хто просіць апублікаваць, я ўжо апякаўся на гэтым, бо толку няма – сенсацыя пабулькае два-тры дні на тэлебачанні, а пасля недзе хмарачос рухне, і ўсё забудзецца. Таму кожны радок пойдзе чыста ў справу. Але я не трымаю свае ідэі ў сакрэце. Мая зброя ў тым, што я ўсё раблю галосна. У

мяне ёсць ідэі, я дару іх усім. Змагацца са злачыннасцю пакуль дазваляецца – любому грамадзяніну дазваляецца ўзяць за вуха злачынцу і весці яго ў пракуратуру ці міліцыю: вось забойца, аформіце, калі ласка, на яго дакументы. Тут няма сакрэтаў. Мае дзеянні абсалютна адкрытыя. Чакаць ад іх яўкі з павіннай, мы не дачакаемся, хоць яны гатовыя да гэтага, залежыць, хто і як спытае. Жывуць яны ў страху. Гэта я дакладна ведаю. Так што з майго боку ўсё падрыхтавана.

– *Журналіст Алесь Дашчынскі сустракаўся з Юрыем Захаранкам, калі ён ужо не быў міністрам, незадоўга да выкрадання браў інтэрв'ю пра смяротнае пакаранне для газеты "Свабода". Захаранка прыехаў у рэдакцыю газеты на вуліцы Іванаўскай, распавёў пра смяротнае пакаранне, але не сказаў, дзе хаваюць целы пакараных смерцю. Пра месцы пахаванняў не кажаце і Вы, хоць Вы першы, хто прыадчыніў заслону сакрэтнасці над смяротным пакараннем. З чым гэта звязана – месца пахавання – гэта такая страшэнная таямніца?*

– Гэта з'яўляецца таямніцай. Па-першае, пра гэта ў законе гаворыцца. А я ўсё ж такі чалавек законапаслухмяны. І я, можа быць, на гэтую тэму цяпер не гаварыў бы, каб маё былое начальства ў асобе міністра не дапусціла публікацыі ў прэсе пратакола майго допыту. Я не мог выдаваць, а яны мяне вызвалілі ад гэтай прысягі. Але я ніколі не выйшаў за межы паказанняў, якія даў падчас допыту. Усё, што там людзі маглі прачытаць, я гэта ўсё магу пацвердзіць. З'яўляюцца таямніцай месца

пахавання, месца выканання прысудаў і персанальны склад групы. Вось гэтыя тры рэчы, якіх я не называў і ніколі нікому не назаву. Гэта сапраўды сакрэт. Навошта я буду бударажыць грамадскасць, падводзіць супрацоўнікаў. Гэта выключаецца. Усё астатняе пра мяне распавялі нашы газеты. Там напісана, што я кіраўнік групы, што я столькі народу расстраляў. Але ёсць адна памылка: расстраляў крыху больш. 134 было агучана на момант майго допыту з 22-га на 23 лістапада, а пасля праз некалькі дзён яшчэ былі расстрэлы. І ў агульнай колькасці іх можа быць каля 150. Я ўжо не памятаю дакладна, але памятаю, што працягвалі працаваць. Гэта ўсё, што я магу дадаць. Усё астатняе там напісана. Месца пахавання – каму яно патрэбнае? Пойдуць людзі туды з рыдлёўкамі раскопваць – што яны там знойдуць? Гэта будзе непрыстойна і не па-чалавечы. Ды і не бачу я асаблівага сэнсу, каб ушаноўваць памяць пакараных смерцю – за імі страшныя злачынствы. Ніякага гераізму ў гэтым няма. А закон прымае парламент. Напішуць яны і прымуць закон, каб аддаваць нябожчыкаў сваякам, – будуць аддаваць. А ў парламенце сядзяць дэпутаты. І я пра гэта неаднаразова казаў: няхай яны падумаюць, калі такое рашэнне прымуць, то наша задача выконваць. Таму ўсе гэтыя пытанні абсалютна не да мяне, у кодэксе напісана: месца пахавання не ўказваецца, цела не выдаецца. Што я магу на гэта адказаць? І ў старым кодэксе было так, і ў новым. Трэба было мяняць. Была

магчымасць у час Шушкевіча і Грыба памяняць гэты артыкул ці хаця б паставіць пытанне, гэтага артыкула не было б. У той час гэта можна было.

Цяпер гэта інструмент асабістай улады. І, дарэчы, калі раптам наша ўлада адменіць смяротнае пакаранне, не мараторый увядзе, а адменіць, бо мараторый – такая штука – сёння ўвёў, заўтра прыбраў, гэта не сур'ёзна. Дык вось калі адменяць смяротнае пакаранне – гэта сігнал таго, што прэзідэнт гатовы сысці ў адстаўку альбо аддаць уладу каму-небудзь. Я думаю, што будзе такі пасыл. Я ж не магу за парламент вырашаць гэтае пытанне. Але я ўжо гаварыў, што павінна быць створана ініцыятыўная група, і ад імя гэтай ініцыятыўнай групы сабраць подпісы за адмену смяротнага пакарання. Колькі іх там па Канстытуцыі – 100 тысяч? І даслаць у парламент – няхай думаюць нашы заканадаўцы. І не трэба нічога іншага. Артыкул у законе ў праве памяняць Нацыянальны сход. Няхай яны на сябе такую адказнасць возьмуць – альбо “так”, альбо “не”. Але яны ўжо будуць абавязаны гэта зрабіць. А сёння, апрача размоў і заклікаў, нічога няма. Асабліва мне “падабаецца” чытаць – “мы патрабуем!”. Што патрабуеце? У каго патрабуеце? Ад улады? А ўлада – гэта ад сяржанта міліцыі – да прэзідэнта. Калі механізм у Канстытуцыі прапісаны, то трэба з гэтага і пачынаць – са збору подпісаў. Дэпутаты на гэта не пойдуць, але іх трэба абавязаць. Хай кожны з іх на сябе грэх возьме. Але дэпутатаў трэба турбаваць. Мы ўсе

разумеем, што яны ліюць ваду на млын дзейнай улады. А калі праз некаторы час вы падыдзеце да іх і спытаеце – а чаму так? – ён адкажа: “А я не ведаў, я сядзеў там і вырашаў надоі малака, ураджай бульбы, як людзей накарміць, апрануць, абуць і яшчэ што-небудзь, гэта не да мяне…” Там ёсць група юрыдычная. А іх трэба ўсіх загрузіць персанальна кожнага, і хай кожны персанальна на сябе бярэ адказнасць. Тады будзе зразумела, што ён мусіць вызначыцца, хай яго голас супраць прагучыць, але ён павінен прагучаць: “Міл чалавек, ты атрымаў запыт выбаршчыка і як ты адказаў на яго?” Гэта будзе пасля нагода з ім пагаварыць. Пагаварыць сур'ёзна. А так, што з яго спытаеш: “Я кнігу не чытаў, кіно не глядзеў, нічога не ведаю”.

Што зрабілі актывісты ў Польшчы? Яны пераклалі маю кнігу на польскую мову і кожнаму дэпутату Сейма накіравалі па кнізе, хтосьці, можа, яе выкінуў адразу, хтосьці скарыстаў як падстаўку для чайніка, а нехта прачытаў. І склалася пазітыўнае меркаванне адносна кнігі. Але яны прачыталі. Разумееце? Прачыталі. Кожны атрымаў гэтую кнігу, і сказаць: “Я не ведаю, што рабілася ў Беларусі”, – ён не можа. Ёсць квітанцыя, заказным лістом накіраваная. Ёсць нагода з ім гаварыць. Сёння ў Беларусі такіх нагод няма. Спытай у кагонебудзь, а табе ў адказ: “А я не ведаю, хто такі Захаранка. Хто такі Ганчар?” І сапраўды могуць не ведаць. А яны павінны ведаць. Я не кажу, што ім па кнізе трэба выслаць. Кнігу

высылалі, дарэчы, персанальна Васілевічу. Я гэта ведаю. Але ён зрабіў выгляд, што не чытаў. Трэба на будучыню працаваць, калі прыйдзе час спытаць: "Ты быў пракурорам, чаму ты не раскрыў таямніцу забойства Захаранкі?" (Хоць якая гэта таямніца? Даўно вядома, хто забіў і дзе.) А ён скажа: "Я не ведаў, хлопцы, гэта крымінальны вышук". Добра – крымінальны вышук атрымлівае той жа самы запыт. Калі пытанне стаіць пра крымінальнае мінулае нашай улады, то крымінальней за гэта нічога няма. У іншых выпадках – рэзкае затрыманне, асуджэнне, але як бы там ні было, яны прайшлі праз суд. Заўсёды ў прэзідэнта, у пракурора ёсць тлумачэнне – суд судзіў, разбірайцеся з суддзёй. А пазасудовыя расправы цяжкім "цяжарам" ляжаць на ўладзе. Гэта іх адзіная слабая кропка. Каб мэтанакіравана па ёй працаваць вялікай колькасці людзей, прынамсі, пытанні задаваць, пачынаючы з участковага, дзе тэрытарыяльна знік Захаранка, напрыклад. А ён спытае ў свайго начальніка: "Знік? Знік, а давайце будзем шукаць". Недзе справа ляжыць, мы гэта разумеем. А якія па ёй дзеянні праводзяцца? Гэта пытанне і журналісцкае, і праваабарончае. Калі ў адну кропку біць, абавязкова будзе вынік. Яны занепакояцца капітальна. Што такое следства? Яно з крупінак складаецца. Недзе адно ўбачыў, дзесьці другое пачуў. Я чую і бачу, знаходзячыся за тысячу кіламетраў ад Беларусі. Хаця тыя, хто знаходзяцца там побач, – нічога не бачаць і не ведаюць. А ў гэтую

справу ўключана вельмі шмат народу. Не трэба даваць саломінку, за якую яны пасля зачэпяцца, што “не ведалі”. Яны цудоўна ведаюць, Хто забіў Захаранку: калі, дзе і за што. Увесь парадокс гэтай сітуацыі: калі чалавек становіцца на “сцяжыну вайны”, у яго больш шансаў не пазбавіцца жыцця. А гэта адзінае, чым можна ўздзейнічаць на ўладу. Цяпер шмат асуджаюць катаванні, але ў выніку гэта заўсёды замкнецца на які-небудзь прапаршчыку. Я шмат гаварыў пра гэта ў гэтым пакоі…

Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны саюзнікі “перакапалі” ўсе архівы і не знайшлі ніводнага подпісу Гітлера, каб ён сваёй рукой падпісаў знішчэнне габрэяў. Не знайшлі. Альбо не было, альбо знішчылі персанальна. Габрэі малайцы, бо яны ўзнялі гэтае пытане. Іншыя так – забілі і забілі, а яны дакапаюцца, хто забіў менавіта за тое, што яны габрэі. Подпісу Гітлера не было, але сістэма, ім створаная, працавала, дзе кожны мог “фантазіраваць” у сілу сваёй выхаванасці, неразумнасці і прагі крыві. Мы таксама не знойдзем подпісу, але створана сістэма, якая дазваляе. Патлумачыць словы: “Я не хачу, каб гэтыя людзі стваралі мне праблему”, – кожны можа па-свойму. Іх зразумелі так, як зразумелі, – іх “прыбралі”. Іх не судзілі, не шукалі за імі злачынстваў ці хаця б парушэння жыццёва-побытавай маралі. Не сталі шукаць кампраметацыі.

*– Але гэта была імітацыя смяротнага пакарання?*

– Я зрабіў такія высновы па пісталеце. Што такое імітацыя? Што такое пакаранне? Вы што думаеце, што гэта нейкія рытуалы асаблівыя?

*– Напрыклад, іменем Рэспублікі Беларусь…*

– Я там не прысутнічаў, не думаю, што там гаварылі гучныя словы. А можа быць, і гаварылі, але гэта неабавязкова, ад гэтага не лягчэй паміраць. І для чалавека, які зараз памрэ, што яму гавораць – гэта не важна. Чыім іменем, ад чыйго імя ён будзе паміраць. Для тых, хто быў побач, можа, гэта і было важна, каб думаць, што яны не забойства здзяйсняюць, а ўсё ж такі прысуд прыводзяць у выкананне. Таму, можа быць, гэта і гаварылася. Але яны самі распавядуць, не будзем забягаць наперад. Яны самі распавядуць, і некаторыя даўно гатовы распавесці, але ў іх ніхто не пытаецца.

*– Раней у інтэрв'ю Вы казалі, што калі адзін чалавек пазбаўляе жыцця іншага чалавека, нават у межах закона, гэта вялікі стрэс.*

– Якая ступень гэтага стрэсу? Не магу я яго па нейкай шкале вызначыць. Я вам толькі адно магу сказаць, што за перыяд маёй эміграцыі адзін выканаўца памёр. Гэта адзін факт. Памёр у даволі маладым узросце – да 50 гадоў не дажыў. І кіраўнікі груп некаторыя таксама памерлі ў маладым узросце. Ёсць тыя, хто жыве да гэтага часу, а ёсць… Можа быць, і стрэс вінаваты, можа быць, іншыя абставіны. Я не звязваю гэта канкрэтна з выкананнем, бо кіраўнікі груп не ўдзельнічаюць у выкананні, а

прысутнічаюць, аддаюць каманды, гэта таксама сур'ёзная адказнасць. Вось перад вамі адзін з кіраўнікоў груп. Жывы.

*– У 1998 г. у Праваабарончы цэнтр "Вясна" трапіў ліст Івана Фаміна з камеры смяротнікаў СІЗА № 1 г. Мінска.*

– Я памятаю яго, дарэчы, за чужое злачынства расстраляны… Яны ўтапілі некага ў возеры. Таксіста. *(Дастае і паказвае арыгіналы лістоў з камеры смяротнікаў 1998 г. і пачынае зачытваць.)*

*– Так, Іван Фамін, асуджаны за жорсткае забойства таксіста, якога на самай справе не здзяйсняў. Ён таксама даволі падрабязна апісваў умовы ўтрымання ў камеры смяротнікаў: "Тут натуральнае Пекла… б'юць літаральна за ўсё… Б'юць за тое, что пішаш заявы ў медчастку і каб прыйшоў святар для споведзі. І б'юць яшчэ проста так, калі ў іх няма настрою".*

– Можаце далей не чытаць. Я раскажу. Гэты хлопец… Я яго добра памятаю. Малады хлопец. Ён з групай хлопцаў, старэйшых за яго, усцешаны ўвагай да ўласнай персоны, забілі чалавека. І ён, як самы малады, вырашыў узяць гэта ўсё на сябе. А "братва" яму: «Ды ўсё нармальна, ты малады, дадуць табе "чырвонец", мы табе перадачкі насіць будзем. Ты ў "аўтарытэце" на зоне будзеш». Яму далі расстрэл. А ён ужо ўсё нагаварыў. Даў паказанні. Юрыдычна ўсё замацавана. Ён усіх вывеў з-пад удару… Ён піша ў лісце пра сваіх саўдзельнікаў?

*– Ён тут піша пра тое, як яны жывуць у камеры смяротнікаў: "б'юць усе змены запар…". Ёсць змена, якая б'е*

*кожнае сваё дзяжурства па нырках, лёгкіх, пячонцы, галаве. Гэта змена корпуснага па імені Жора.*

– Вы можаце гэта не чытаць, тут шмат напісана. У мяне асабістыя скаргі ёсць, і не адна. Памятаю, аднаму Вярхоўны Суд адмяніў прысуд, і ён трапіў у калонію строгага рэжыму.

– *Праціраеў?*

– Не, не Праціраеў. Праціраеў – гэта "Дырэктар", якога памілаваў прэзідэнт. А быў яшчэ другі – Вярхоўны Суд перагледзеў яго прысуд. Дык ён такую скаргу напісаў, што я аж сам ледзь не праслязіўся. Я вам зараз патлумачу, каб вы разумелі… Каб адчыніць дзверы камеры смяротніка, патрэбна прысутнасць начальніка АБАВЯЗКОВА. Без яго каманды камера не адчыніцца. У прысутнасці начальніка нікога ніколі не білі. Начальнік – гэта я. Каб вывесці з камеры, патрэбна распараджэнне начальніка. У астатнія ўсе моманты адчыняецца толькі "кармушка". Праз "кармушку" нікога не паб'еш, не заб'еш. Адзінае, яшчэ камера адчыняецца падчас правядзення там тэхагляду: заходзяць кантралёры з драўлянымі малаткамі, дубінкамі… Гэта кожны дзень рабілася з гадзіны да дзвюх па распараджэнні начальніка. Начальнік там не прысутнічаў, прысутнічаў намеснік. Я не выключаю, што для хуткасці камусьці там маглі… пад задніцу… але біць…

– *Так, ён далей піша тут пра драўляныя малаткі і дубінкі…*

– Ну, вы разумееце, калі б кожны дзень білі, як ён

піша, то забілі б даўно…

*– Ён нават піша, што на "расстрел идут с негнущейся ногой".*

– Ён што, бачыў, як хто ідзе на расстрэл? Яны ўсе пішуць гэта па просьбах сукамернікаў. Сядзець там было не мёд. Яны жылі ў страху вечным. Можа быць, там і ёсць доля праўды, калі яму дадуць пад задніцу дубінкай ці малатком, каб выйшаў з камеры. Але, як бы вам сказаць… Чытаў я гэтыя скаргі. Вельмі шмат чытаў. Прыходзіў, размаўляў. Ён тут жа адмаўляецца: «Ды што там, грамадзянін начальнік, прымусілі напісаць – "вось ты прыгожа пішаш"». Адзінае, што пра гэтага Фаміна ведаю, што ён у гэтай бандзе быў, але ён сам не забіваў. Забівалі іншыя, а ён увесь гэты "гераізм" на сябе ўзяў. Ён разумеў, што пра злачынства ён пісаць не можа, бо ён сам на сябе яго ўзяў. Але нейкую крыўду выказаць трэба. Вось яны і пішуць у надзеі, што раптам нехта з ААН прыедзе і будзе разбірацца – тады было модна.

*– Тут ён звяртаецца ў Раду Еўропы яшчэ…*

– Так, прыпыняць выкананне прысуду ды іншае. Я ўсё гэта чытаў, у прынцыпе, у абыход мяне гэтыя лісты не маглі выйсці. Я іх ніколі не хаваў. Пішыце, калі ласка. Пішыце…

*– А як лісты выходзілі з турмы? Тут няма пячаткі цэнзуры, нічога няма… 18.09.1998 г. – заява ў Праваабарончы цэнтр "Вясна-96".*

– Ніяк яно не выйдзе, калі яно і выйшла, то праз

аператыўнікаў. Маглі аддаць. Не выйдзе адтуль нічога. Адтуль сыходзяць толькі нагамі наперад. І нават няма гарантыі, што гэта ён сам напісаў.

*– А па так званай турэмнай пошце?*

– А там няма ніякай "турэмнай пошты". Там гэта выключаецца.

*– А гэты чалавек, якога памілаваў прэзідэнт, – гэта ўсё ж Сяргей Праціраеў?*

Сяргей Праціраеў – Дырэктар. Гэта мянушка яго. Я забыўся ўжо. Вось зараз нагадалі. Я не ведаю, чаму яго Дырэктарам звалі.

*(Пасля перапынку першым пачынае гаварыць Алег Алкаеў.)*

Смяротнае пакаранне – гэта інстумент падтрымання асабістай аўтарытарнай улады, у нашым выпадку – прэзідэнцкай улады… А вось міністры ды іншыя будуць супраць адмены смяротнага пакарання, бо яны даступныя для фізічнай расправы з боку незадаволеных, нават у сілу таго, што яны не маюць моцнай асабістай аховы. Яны даступныя для абражаных і прыгнечаных. Я зараз крыху дакрануся да гісторыі. Калі мы вернемся крыху ў нашае мінулае – у мінулае Расійскай імперыі, то расхістала Расійскую імперыю нават не вайна, а ўладныя структуры, тэрарыстычныя акты, якія праводзілі, як правіла, эсэры ў адносінах да начальнікаў паліцыі, жандармерыі і нават градачальнікаў. Ніхто не хацеў займаць гэтыя пасады – настолькі яны баяліся замахаў. А

што такое чалавек, які баіцца і са страхам ідзе на пасаду начальніка карнага ведамства? Гэта ўжо ўсё – ён выбіраў свае ўчынкі, пачынаў лаяльна ставіцца, недзе заігрываць, недзе падладжвацца. І такім чынам была расхістана дзяржава. Я разумею, што ўлада, і ўлада дыктатарская, трымаецца менавіта на карнай сістэме. Гэта я добра ведаў, я дзеля гэтага і вучыўся ў свой час. І нам убівалі ў галаву, што асобы, якія здзейснілі злачынства, – ужо "ворагі народа" – не важна, якое злачынства, – ці каласок з поля ўзяў, ці банк абрабаваў. Народнае дабро ўзяў – значыць, "вораг народа". Ніякай літасці, ніякіх кампрамісаў быць не можа. Гэтая ГУЛАГаўская схема перайшла і ў сучаснасць. І выкарчаваць гэта цяжка, тым больш што прапаганда.

Але я крыху адышоў убок… Дык вось… Смяротнае пакаранне з'яўляецца гарантам бяспекі чыноўнікаў. У старым Крымінальным кодэксе, калі я яшчэ вучыўся, была адзіная абсалютна безальтэрнатыўная санкцыя – гэта пакаранне за забойства супрацоўніка міліцыі – толькі расстрэл. Ні 15 гадоў, нічога, толькі расстрэл. Усе астатнія злачынствы мелі альтэрнатыўныя санкцыі: альбо 15 гадоў, альбо расстрэл. А тут – толькі расстрэл. Гэта была гарантыя бяспекі супрацоўнікаў міліцыі. Таму сёння смяротнае пакаранне з'яўляецца такой гарантыяй бяспекі чыноўнікаў. У іх няма аховы, але на іх баку стаіць закон. І адмовіцца ад смяротнага пакарання яны не могуць, бо яны самі парушаюць законы і становяцца адкрытымі для

помсты. Добра, што Беларусь – такая талерантная краіна, судовае бязмежжа адбіваецца толькі на эмацыйным узроўні – з’ездзілі ў Брусель, паплакалі, пажаліліся і ўсё. А калі недзе народ тэмпераментны, там “вока за вока, зуб за зуб”. Там шмат хто паплаціўся б, прынамсі, сваім здароўем. І там гэта разумеюць лепш. І калі некалі наступіць такі час, калі ўлада раптам выступіць з ініцыятывай адмены смяротнага пакарання, гэта сігнал да таго, што яна гатова саступіць уладу, каб самой не трапіць у гэтыя жорны.

Цяпер да пытання парадку выканання прысуду і стаўлення да гэтага грамадства. Чаму ўзніклі ўсе гэтыя пытанні да пакарання тэрарыстаў (мінскае метро)? Бо няма веры ў судовую сістэму Беларусі. Няма веры. Занадта неардынарнае злачынства, на першы погляд, для таго, каб два хлопцы такім чынам выказалі нейкі свой пратэст, каб паказаць сваю значнасць, самасцвердзіцца. Следства, канешне, на гэтае пытанне не адказала, да канца не адказала. З’явіліся сумневы. У мяне сумневаў няма, што гэта яны зрабілі. Таму я падвяргаюся крытыцы. Я лічу, што па матэрялах справы гэта даказана, бо ніхто не даказаў адваротнага. Адваротнае можна даказаць толькі тады, калі нам пакажуць, хто гэта зрабіў на самай справе. Шукайце – знайдзіце тэрарыста. І другі аргумент: была ў іх магчымасць сказаць нешта на судзе. Не мармытаць нешта няўцямнае. А зрабіць заяву. У мяне пыталіся: чаму ён неадэкватна сябе паводзіць? Я адказваў

на гэтае пытанне: а што, ён танчыць павінен? Маўчанне – прыкмета вінаватасці. Я магу так гаварыць, я іх шмат бачыў. Няма чаго яму сказаць. Абсалютна няма чаго. Пытаўся я ў злачынцаў: “Твая работа?” Большасць, вядома, адмаўляла да апошняга. Не тое, каб адмаўлялі факт здзяйснення злачынства, а змяншалі віну. Спрабавалі знайсці апраўданне сваім учынкам. З гэтым я часта сутыкаўся.

У адносінах Канавалава і Кавалёва магчымасці следства па выяўленні трэціх асоб, здольных паўплываць на іх рашэнні… Я б так сказаў: магчымасці следства да канца не скарыстаны. Таму застаюца сумневы: ці былі трэція асобы? А калі былі, то хто яны такія? Чаму абраны Мінск, чаму гэтае метро? Адказаў я так і не пачуў. Гэта маё першае пытанне: чаму Мінск? Можа, нехта падказаў? Вось гэты “нехта” і вісіць у паветры. Чаму я стаўлю гэтае пытанне? Любы перавоз выбухоўкі звязаны з рызыкай: можна быць недзе выкрытым, недзе затрыманым. Гэта ж не булка хлеба і не скрыня гарэлкі. Яны пайшлі на гэтую рызыку. Ёсць яшчэ шэраг момантаў сумніўных. Але ёсць судовы прысуд. Калі суддзі вынеслі неправасудны прысуд, яны нікуды не дзенуцца, няхай нават рэчавыя доказы знішчаны. Ёсць крымінальная справа, яна будзе захоўвацца, калі не памыляюся, 70–75 гадоў. Ёсць следчыя, якія вялі справы, яны таксама дажывуць. Шанец высветліць ісціну пра датычнасць альбо недатычнасць да гэтай справы іншых асоб у нас застаецца. Але ў адносінах

Кавалёва віна не адпавядае пакаранню. Гэта я таксама магу сказаць. Усё ж такі смяротнае пакаранне – вельмі цяжкае пакаранне за веданне пра злачыства. Ну, не быў ён прамым удзельнікам. Можа быць пакараны, але, вядома, не расстрэлам.

*– А колькі доўжыўся пры Вашай практыцы перыяд паміж вынясеннем прысуду і яго выкананнем? Год? Два?*

– Па групе асоб, я памятаю, было паўтары гады, бо кожны пісаў наглядную скаргу, касацыйную скаргу ў Вярхоўны Суд, пасля хадайніцтва ў Камісію па памілаванні… Як цяпер, не ведаю, а тады, калі я працаваў, раней за шэсць месяцаў прысуд не выконваўся. Асноўны дакумент для выканання прысуду – гэта адмова прэзідэнта ў памілаванні. Вось з гэтага моманту пачынаецца працэдура выканання прысуду. І ад моманту вынясення прысуду і атрымання гэтай адмовы самы кароткі перыяд быў шэсць месяцаў. У астатніх выпадках – у залежнасці ад цяжкасці злачынства. Камісія па памілаванні засядала ў той час раз у квартал. Яны разглядалі ў сукупнасці, колькі "набяжыць" матэрыялаў. І не толькі расстрэльныя справы там разглядаліся. Пішуць жа вязні, у каго тэрмін вялікі, і ім здаецца, што іх няправільна асудзілі.

Але пасля таго, як прэзідэнт разгледзеў і вынес пастанову, то ў гэтым выпадку начальніку альбо кіраўніку групы даецца месяц. І гэты месяц ужо за кіраўніком групы: ён выбірае дзень і месца. А спосаб

застаецца адзін – расстрэл. Чаму паспяшаліся з тэрарыстамі? Відаць, было ўказанне цяперашняму кіраўніку групы.

*– Маці Улада Кавалёва кажа, што падчас апошняга спаткання перад расстрэлам было такое адчуванне, што ён нешта ведае і хоча ёй сказаць, што ён ведае, якое прынята рашэнне. Ён мог гэта ведаць?*

Не, ведаць не мог, але мог адчуваць.

*– Адчуваць па адносінах да сябе? Адносіны, напэўна, змяняюцца. Супрацоўнікі турмы ведаюць, якое прынята рашэнне?*

– Па адносінах можна ўгадаць. Калі яму сказалі: “Цябе сёння перавядуць у следчы ізалятар на Валадарскага”, – гэта сігнал да таго, што ён, канешне, будзе расстраляны. Дастаткова і гэтага. Яны ж улоўліваюць найменшыя шолахі, і нават па рыпенні абцасаў ведаюць, хто прыйшоў і навошта прыйшоў. Бібліятэкара ад наглядчыка, наглядчыка ад начальніка. Абвострана ўсё адчуваюць. Таму, калі нехта неасцярожна кінуў слова… Магчыма, і Кавалёў ужо ведаў. Але ён не ведаў, якое рашэнне. Рашэнне і аб памілаванні, і аб невыкарыстанні памілавання можа ляжаць на стале. Але, як правіла, аб памілаванні абвяшчаецца без вываду з камеры. Але могуць і вывесці яго. Могуць проста паперу паказаць – распішыся… Але ёсць яшчэ практыка, што Вярхоўны Суд пераглядае справу, і прыходзіць дакумент пра змяненне прысуду. Вышэйстаячы суд можа змяніць

прысуд на карысць змякчэння прысуду… Былі выпадкі, калі Вярхоўны Суд адмяняў смяротнае пакаранне і даваў пажыццёвае. Гэта было. Не часта, але былі такія выпадкі. І тады проста ў камеру прыходзіць дзяжурны кантралёр са спецчасткі і праз "кармушку" перадае яму дакумент. Гэта была нагода для радасці, канешне. Пераводзілі пасля ў іншую камеру, да пажыццёвых – па меры пакарання. Такія моманты былі. Калі памілаванне аб'яўлялася, прыходзіў, па-мойму, нехта з пракуратуры. Указ прэзідэнта аб памілаванні ў адносінах Праціраева не памятаю, хто абвяшчаў. Але яго, вядома, не выводзілі ў памяшканне для выканання прысуду. Кожны асуджаны да смяротнага пакарання да апошняга спадзяецца, што яму зачытаюць памілаванне. Надзея – вялікая справа…

*– Усе пачуцці абвастраюцца ў асуджаных да смяротнага пакарання. А ў выканаўцаў – таксама абвастраюцца? Ці гэта толькі Вы так адчувалі іх стан?*

– Гэты бар'ер усе праходзяць. Я пасля цікавіўся ў сваіх супрацоўнікаў, якія прысутнічалі пры выкананні смяротнага прысуду. Усе практычна аднолькава адчувалі стрэсавую сітуацыю. Ну, незвычайная гэта з'ява, вельмі невычайная. Таму эмацыйны стан у першы раз ва ўсіх аднолькавы. Гэта запаволенае ўспрыманне часу. Пра гэта я гутарыў з супрацоўнікамі. Час запавольваецца да таго, што выразна бачыш, як пісталет працуе, як пры запаволеных здымках. Пытаўся ў іншых – яны тое самае адчувалі ў першы раз. А пасля… Пасля ўсё запрацавала…

запрацавала так, як мае быць. І пісталет запрацаваў, і рэакцыя стала іншай. Калі супрацоўнік паступаў у групу, яго напачатку нават блізка не падпускалі, ён на адлегласці на ўсё глядзеў. Таму што непрадказальна гэта ўсё. Можна прытомнасць страціць. Хто ведае, у каго якая псіхіка. Глядзелі на яго стан. Відовішча не з прыемных… А на наступны раз – ён ужо падыходзіў бліжэй. Забойства – гэта заўсёды забойства, нават калі па законе. Ніякай рамантыкі тут няма. Хваліцца тут няма чым асабліва. І гераізму няма. Гэта не тое месца, дзе можна атрымаць сабе ордэн на грудзі. Я ніколі не рамантызаваў, не гераізаваў гэтую прафесію.

*– У кнізе Вы пісалі, што калі бачылі, што супрацоўнікі адчуваюць задавальненне ад працэсу выканання смяротнага прысуду, то адхілялі такіх людзей ад працы.*

– Былі… былі такія адкрытыя праявы садызму ў адносінах да людзей, якія ўсё адно будуць расстраляныя. Было жаданне прычыніць боль. Можа быць, з пункту гледжання асабістай помсты гэта было б і справядліва, але чалавеку, які табе асабіста нічога кепскага не зрабіў, навошта наручнікі зацягваць празмерна ды яшчэ кухталі раздаваць. Ён зараз і так памрэ, больш балюча ты яму не зробіш. Былі такія… але гэта рэдкасць.

*– Вы пісалі пра адчуванні асуджаных на смерць, як яны баяцца, калі дзверы адчыняюцца. Вы гэта адчувалі ці яны самі казалі Вам?*

– Для таго, каб гэта адчуць, мне не трэба было ў іх

пра гэта пытацца. Гэта можна адчуць па іх самаадчуванні, па іх паводзінах. Яны ніколі не ведаюць, навошта адчыняюць дзверы. Яны рэагуюць на кожнае адкрыццё, яны рэагуюць аднолькава… Сняданак падаецца ім праз “кармушку”. На прагулку іх не водзяць. Дзверы адчыняюць, каб ісці ў лазню, а таксама для выканання прысуду, бывае яшчэ, што пад канвоем вядуць на спатканне. Пра спатканне ён ведае, як правіла, яму паведамляюць папярэдне, што спатканне адбудзецца, да адваката ён таксама піша і ведае. А ўсе іншыя, непрадугледжаныя рэгламентам працэдуры, выклікаюць жах. Ён ведае па колькасці крокаў, колькі чалавек прыйшло і навошта. Калі колькасць крокаў перавышае нейкія нормы стандартныя: начальнік прыходзіць… звычайна рабілі абход – начальнік, два-тры афіцэры, два-тры кантралёры. І калі яны чуюць па кроках, што прыйшло чалавек шэсць-сем-восем, то яны ўжо разумеюць, што прыйшлі не кнігі выдаваць і не ў лазню. Адчуваюць яны ўсё там. На якім узроўні? На падсвядомым? Але яны ўсё адчуваюць.

*– І, як правіла, не супраціўляюцца?*

– Воля падаўленая, яны не супраціўляюцца. І думаюць, што яшчэ маленькі шанец застаецца, што памілуюць. Быў адзін выпадак супраціўлення. Адзін. Пратэсты ўнутраныя, можа, і былі: “Куды вы мяне вядзеце?” А супраціў – толькі адзін раз.

*– Мы дыскутуем са студэнтамі на тэму смяротнага*

*пакарання, і часта ўздымаецца пытанне: "Як чалавек, які выконваў прысуд, прыходзіць дамоў. У яго ёсць дзеці. І ён з дзецьмі ідзе ў парк, бо тата атрымаў прэмію". Вось гэты эмацыйны момант, наколькі выкананне прысудаў уплывала на сям'ю?*

– Ніяк не ўплывала. Нармальныя сем'і. І я скажу, што, можа быць, лепей, чым у іншых. Гэта ўсё эмоцыі маладых людзей – студэнтаў, ды і дарослых. Калі гэта ўваходзіць у працоўны распарадак і функцыянальныя абавязкі, прывыкае чалавек. Ніхто ж яго не прымушае. Яму прапаноўваюць. Па сваіх здольнасцях ён ацэньвае: можа ці не можа. Атрымалася, што можа. Ён асабіста перажывае, але не настолькі, каб страчваць прытомнасць. Як правіла, гэта былі людзі нават мала пітушчыя. Не залівалі гора шклянкамі. З устойлівай псіхікай. Таму я не бачыў ніякіх праблем. А там… Ступень віны… Вы думаеце, што той, хто на курок націскае, ён адчувае сябе больш вінаватым за іншых? Там гэта віна на ўсіх падзяляецца: адзін трымае, другі на курок націскае. Таму асабліва не вылучаліся тыя, хто страляў, хто трымаў.

*– Пакуль асуджаныя знаходзіліся ў камеры смяротнікаў, Вы з імі гаварылі?*

– Так, любы асуджаны альбо зняволены мае права напісаць начальніку, прасіць пра сустрэчу. Я нікому не адмаўляў. Яны разумелі, што я прысуд не магу адмяніць. А побытавыя пытанні ўдавалася вырашаць – пра перадачы, пра спатканні, нават бібліятэчныя справы

даводзілася вырашаць. Я заходзіў у камеру раз на тыдзень. Я размаўляў. Як правіла, усе кажуць: "Пытанняў няма". Альбо: "Холадна, горача". Па сутнасці, такія побытавыя пытанні. А Фаміна я памятаю таму, што мы ведалі, што ён узяў на сябе чужую віну. Але ён настолькі глыбока яе на сябе ўзяў, што калі пачаў адмаўляцца, то атрымалася, што ён ужо заграз, і гэта немагчыма было зрабіць. І былі людзі, мае калегі, якія шчыра яму спачувалі, казалі: «Дурань, ты сябе пад "вышку" падвёў!» А ён адказваў: "Братва мяне выратуе!" Так і ў справе тэрарызму сёння, калі знойдзецца чалавек, які прыйдзе і напіша яўку з павіннай: гэта я ўзарваў метро, – тады скажуць, што іх незаконна расстралялі. Каб гэтыя людзі, "падзельнікі" Фаміна, прыйшлі і сказалі б: "Адпусціце пацана, гэта мы забілі". Толькі гэта магло яго выратаваць. Але калі ён звярнуўся да іх, ніхто яму, зразумела, не адказаў. І вось, я памятаю, ён хвілін за пяць перад тым, як памерці, сказаў: "Якія сволачы. Падманулі мяне".

*– Выпадак з Фаміным быў адзіным выпадкам судовай памылкі ў Вашай практыцы?*

– А гэта не судовая памылка. Гэта чалавек цягнуў "коўдру на сябе", па-геройску, яму ў далоні пляскалі з залы: «Малайчына, братан! Будзеш "на зоне хорошо стоять", маладых не расстрэльваюць!» Ён усё гэта яшчэ ў такіх фарбах расказаў, як ён быццам бы тапіў таксіста, забіваў, здзекаваўся. Пераканаў суд. Але ён не адзін такі. Былі яшчэ два браты, абодва судзімыя, яны таксама забілі

таксіста насмерць. Абодва бралі віну на сябе. Іх дапытвалі асобна. Адзін брат кажа: “Гэта я забіў!” Другі ў іншым кабінеце тое самае расказвае: “Я забіў!” Атрымалі расстрэл абодва. Кожны на сябе нагаварыў. А пасля зноў жа, седзячы праз сценку ў камеры, слалі адзін аднаму праклёны, калі зразумелі, што гэта ўжо не жарты. Адна справа, калі ў зале братва ў далоні пляскае: “Які ты малойца! Цябе ўспамінаць будуць”. А пасля казка заканчваецца, калі трапляюць у камеру для асуджаных на смяротнае пакаранне. Гэтыя браты праклміналі да апошняга адзін аднаго. Абодвух расстралялі.

Быў выпадак, які застаўся ў маёй памяці, калі два хлопцы, аднаму з якіх споўнілася 18 гадоў, а другому – не, забілі суседа – дзіцёнка, які прагаварыўся, што дома ёсць грошы. У гэтым выпадку, калі б той, які быў маладзейшы, узяў усю віну на сябе, то ён атрымаў бы тыя ж 10 гадоў, а другога ўратаваў бы ад расстрэлу. Але сцежкі-дарожкі на судзе разышліся, ён адмовіўся, і Бандарэнка атрымаў расстрэл. Кожнае злачынства – гэта лёс. І сказаць, што нехта надта разбіраецца… Вельмі шмат можна было б распавядаць пра гэтыя выпадкі.

*– У нас у краіне настолькі рэдка выкарыстоўваецца памілаванне. Чаму? Як Вы лічыце?*

– Тут ёсць маленькі падвох. Калі б у нас не было такога пакарання, як пажыццёвае. Калі суд з двух ці трох відаў пакарання выбраў смяротнае пакаранне, прэзідэнт не можа выйсці з гэтага жорстка вызначанага калідора,

лічыць, што суд лепей ведае. Калі не было б альтэрнатывы ў выглядзе пажыццёвага зняволення, можа быць, было б больш памілаванняў. Памілаванне – гэта магчымасць, якая фарміруецца ў свядомасці асобы, якая мае ўладу. Каб памілаваць, нельга чытаць крымінальную справу. Паперы не даюць уяўлення, ён знойдзе адзін радок, які не ўпісваецца ў разуменне гуманізму, гэта можа быць, напрыклад, "забойства з асаблівай жорсткасцю". Калі пачытаць усе крымінальныя справы, якія трапляюць у Камісію па памілаванні, там няма каго памілаваць – рука не падымаецца. Акт памілавання не павінен быць звязаны з матэрыяламі крымінальнай справы. Гэта менавіта памілаванне, яно больш на эмацыйным узроўні. Цяжкасць злачынства тут адыгрывае ролю. Але яны ўсе цяжкія. Аднаго забіў – цяжкае, і дзесяць чалавек забіў – таксама цяжкае. Ні таго не памілавалі, ні гэтага. І вызначыць крытэрый, колькі трэба забіць, каб памілавалі, нельга. І маніпуляваць гэтымі паняццямі нельга. Пераканаць прэзідэнта, каб ён не выкарыстоўваў памілаванне… А чаму ён павінен яго выкарыстоўваць? На якой падставе? На падставе таго, што яны маладыя? Іх ахвяры таксама былі маладыя. Але яшчэ раз паўтару: памілаванне не павінна быць звязана з матэрыяламі крымінальнай справы. Інакш мы нікога не памілуем.

Уся праблема палягае ў нашым недаверы да судоў. Калі б суд у нас быў незалежным, то ніякіх сумненняў бы не было. Гэта і ёсць балючае месца нашага заканадаўства.

У дэмакратычных краінах суд незалежны.

*– Галоўны аргумент супраць смяротнага пакарання – магчымасць судовай памылкі. Наколькі Вы адчувалі яе магчымасць у некаторых момантах?*

– Мы ўжо гаварылі пра Фаміна, вы зараз трымаеце ў руках яго скаргу. Я ведаў, што ён не здзяйсняў гэтага злачынства. Але назваць гэта судовай памылкай я не магу. Гэты хлопец зрабіў усё, каб усе навокал паверылі, што ён гэта зрабіў. Ён усё зрабіў для гэтага. І да апошняга стаяў на сваім. Пасля ўжо і інфармацыя з камеры была: хто забіў і навошта. Але ён упарціўся да апошняга, ён сам сабе гэты прысуд падпісаў… Ён там быў, прысутнічаў, можа, нават пінаў нагамі, здзекаваўся, але не забіваў. Таму трэба разбіць пытанне на дзве часткі: няякаснае судовае следства і невінаваты чалавек. Альбо віна не адпавядае здзейсненаму, як у пытанні з Кавалёвым: пакаранне не адпавядае віне. Гэта маё суб’ектыўнае меркаванне. А судовая памылка, калі па даносе, па нагаворы, без вывучэння абставін выносіцца прысуд. Мы гэта перажылі ўсё. Гэта было падчас рэпрэсій 1930-х гг., калі ўвогуле не даследаваліся абставіны і дастаткова было адной заявы, аднаго даноса, якія абсалютна не адпавядалі рэчаіснасці. Гэта добра апісаў Салжаніцын у “Адным дні Івана Дзянісавіча”, калі яны сядзелі са следчым і выдумлялі: шпіёнам якой краіны ён усё ж такі можа быць. І так нічога і не прыдумалі. Так ён застаўся шпіёнам, але без прыналежнасці да якой-небудзь дзяржавы. Вось гэта

было ўжо злачынства, нават не судовая памылка. І следчыя, і суддзі ведалі пра невінаватасць – абсалютна, але ў сілу традыцый, якія былі ў краіне, асуджалі. Гэта быў страх, канешне.

Верагоднасць судовай памылкі, хоць і маленькая, але ёсць. Мы ведаем выпадкі ў ЗША, калі праз шмат гадоў на падставе аналізу ДНК высветлілася, што чалавек не здзяйсняў злачынстваў. Як пазбегнуць судовай памылкі? Як ад яе быць застрахаваным? Не ведаю… Няма такога рэцэпта. Універсальнага закона яшчэ ніхто не прыдумаў. Таму тут прыхільнікі адмены смяротнага пакарання маюць рацыю. Пажыццёвае зняволенне – гэта рэальная альтэрнатыва смяротнаму прысуду, каб чалавек быў застрахаваны ад судовай памылкі. Я яе не выключаю. Таму няхай жыве. Можа быць, прыйдзе час – і разбяруцца. Псіхічны стан арыштаванага чалавека часам настолькі не адпавядае ніякай логіцы, што ён ад страху проста неадэкватны. У асноўным жа па п'янцы злачынства здзяйсняецца, а пасля ён устае і сам не ведае, што зрабіў, ён раскайваецца і ў той жа час гаворыць усё, што заўгодна. А пасля вельмі цяжка гэта абвергнуць. Калі ён усё гэта замацаваў ды яшчэ натрапіў на такога ўпартага міліцыянера, які з яго ўсё вытрас… Ён у стане стрэсу дае паказанні, а пасля гаворыць: "Здаецца, не так гэта ўсё было". І самі абставіны гавораць, што "не так". Сядзеў адзін студэнт у мінскім следчым ізалятары, абвінавачваўся ў забойстве каханай жанчыны, якая была

старэйшая за яго. Ён прыйшоў п’яны дамоў, яна ляжыць, ён яшчэ нешта выпіў… Заснуў. Прачынаецца і бачыць – ляжыць труп, ці то бутэлькай яна была забітая ці то яшчэ чым. Ён сам выклікае міліцыю і кажа: “Я забіў чалавека”. Міліцыя асабліва не разбіралася. Ён сядзеў, ён шчыра верыў, што ён яе забіў. Раскаяўся. А дзён праз 15–20 затрымліваюць наркамана аднаго, які прызнаецца, што ён забіў яе. Дзверы былі адчынены, яна спала, студэнт таксама спаў. Наркаман пайшоў “здымаць” залацішка кішэннае з тумбачкі, яна вочы расплюшчыла, ён па галаве яе ўдарыў і забіў. Калі б гэтага студэнта асудзілі, ён бы нават не спрачаўся, ён кахаў яе і раскайваўся, што забіў. Наркамана прывезлі, студэнта вызвалілі. І такія выпадкі я ведаў. Не часта, але яны былі. Калі чалавек па п’янцы альбо ў стрэсе не разумее, што здзейсніў. Ясна, што альтэрнатыва адна – пажыццёвае зняволенне.

Ёсць яшчэ адна маленькая дэталь, пра якую ў Беларусі, можа быць, не варта гаварыць, улічваючы менталітэт народа і пэўную талерантнасць, ёсць рызыка самасуду. У Беларусі гэта мала рэальна, але ў Расіі, асабліва ў некаторых рэгіёнах, суда чакаць ніхто не будзе, асабліва там, дзе прынцып “смерць за смерць і вока за вока”, законы кроўнай помсты яшчэ дзейнічаюць. І помню, нават прыязджалі двое рускіх з Растована-Доне, я быў начальнікам калоніі ў Навасадах… Два браты. Здаравенныя браты такія… Іх трэці брат быў забіты. Паехаў у Беларусь, і быў забіты. Забойцу злавілі. Мінула

гадоў шэсць, праходзіла нейкая амністыя, і гэты забойца іх брата пад амністыю не трапіў. І вось яны прыехалі і прапаноўвалі мне хабар, каб я яго прадставіў пад амністыю. Я кажу: “Навошта? Хай сядзіць!” Яму 15 гадоў далі ў той час яшчэ. “Вызваліце яго!” – малілі яны. А яны служылі недзе ў “гарачых кропках”, прыехалі ў адпачынак на месяц, тут амністыя ідзе… Я пасля зразумеў, навошта яны просяць яго вызваліць. Спачатку думаў, што ён сябра іх. Яны спачатку так і прадставіліся, а калі прыгледзеўся – нешта троху не тое. Забіць хацелі. Прасілі, каб вызваліў, бо хацелі забіць, казалі: “Часу ў нас мала! Чакаць не можам. Невядома, як наш лёс складзецца!” Канешне, ніхто яго не вызваліў. Браты з’ехалі з вялікай крыўдай на мяне. Але пасля супакоіліся – граху на душу не ўзялі. Але рызыка самасудаў, калі ў краіне не дзейнічае смяротнае пакаранне, можа быць. Але яны могуць быць толькі да затрымання злачынцы. Аднак, калі ўсе рызыкі браць да ўвагі, то мы ніколі нічога не зробім. Траба часам пераступіць праз грамадскую думку, праз чыюсьці волю, на тое ён і закон, што ён заўсёды супраць волі ідзе.

*– Якая Ваша пазіцыя на сённяшні дзень у адносінах смяротнага пакарання? Вы за ці супраць?*

– Мая пазіцыя на працягу доўгага часу змянялася. Сёння я жыву ў дзяржаве, дзе смяротнага пакарання няма. І тут трупы на вуліцах не валяюцца – ніхто нікога не забівае, гэта крайне рэдка. Існуе без смяротнага

пакарання Францыя, дзе вельмі змешаны склад насельніцтва. Гільяціну толькі ў 1980 г. паставілі ў музей – яна працавала. Іншыя краіны Еўропы жывуць без смяротнага пакарання. Раз гэтыя краіны жывуць, і ўсплеску цяжкі злачынстваў няма, напэўна, гэта самы лепшы доказ, што краіна можа існаваць без смяротнага пакарання, і я сёння ў ёй жыву. Нават Расія жыве без смяротнага пакарання, а ўжо там хапае ўсяго. Ва ўсіх краінах СНД знайшлі сілы адмовіцца ад смяротнага пакарання. Толькі Беларусь адна засталася. Дамагайцеся адмены смяротнага пакарання, вы ж – праваабаронцы. Калі мая аргументацыя дапаможа, калі ласка, выкарыстоўвайце яе. Мая аргументацыя такая: я жыву ў Еўразвязе, дзе няма смяротнага пакарання, дзе чалавек можа адчуваць сябе абароненым і спакойным, бо, калі ты сам закон не парушаеш, то табе нават 15 сутак не пагражае. А калі парушаеш, то сам выбар зрабіў. Я супраць смяротнага пакарання. А самога працэсу выканання я даўно ўжо праціўнік, бо ён не цывілізаваны. Гэтая працэдура прыгнятальная для ўсіх. Маё меркаванне было такое: я лічыў, што злачынца ўвогуле не павінен ведаць, што яго асудзілі на смяротнае пакаранне, калі ўжо зыходзіць з гуманізму. Ёсць маса спосабаў яму сысці з жыцця спакойна, з адчуваннем таго, што ён заснуў. Але ў нас чамусьці прынята, што трэба аб'явіць, каб ён ведаў, пакутаваў. Але гэта пытанне дыскусійнае. Я ніколі нікому пра гэта не казаў (я ўпершыню гэта агучваю). У

любым выпадку чалавек бы сышоў з жыцця значна лягчэй, чым пад дулам пісталета. Але ў гэтым выпадку пакаранне не выконваецца, злачынца павінен ведаць меру пакарання. Тут пытанне спрэчнае, дыскусійнае. Не мне яго вырашаць. Як спадары дэпутаты скажуць, так і будзе працаваць расстрэльная каманда.

*– Хацелася б вярнуцца да 175-га артыкула Крымінальнага кодэкса. Чаму целы расстраляных усё ж не выдаюцца, месца пахавання не ўказваецца?*

– Гэта інерцыя мыслення і спадчына СССР – гэта я так для сябе тлумачу. Калі былі рэпрэсіі, былі пазасудовыя пакаранні – "тройкі" судзілі. Пры ВЧК адзінаасобна прымалі рашэнне кіраўнікі гэтых органаў, тады ніякіх размоў ісці не магло пра выдачу целаў, бо любое цела магло справакаваць бунт. І любое пахаванне магло выліцца ў зусім не мірную дэманстрацыю. Занадта гарачая была сітуацыя. І гэтая інерцыя захавалася па сённяшні дзень. Ёсць такі парадокс ва ўсёй гэтай сітуацыі: калі за суткі да выканання смяротнага прысуду ў камеры чалавек будзе забіты ці скончыць жыццё самагубствам, то цела могуць аддаць. У Мінску такі выпадак быў – двое павесіліся на адной вяроўцы па чарзе. Мяне спрабавалі абвінаваціць, што я "ўхіліўся ад прысуду" і не збярог іх. І ў Казахстане ў мяне такія выпадкі былі. Адзін у мяне пацікавіўся, я яму патлумачыў: калі расстраляюць – цела не аддадуць, калі сам памрэш – аддадуць. Ён на другі дзень павесіўся. І напісаў мне: "Дзякуй за параду!" Вось і

разумей дваяка. Напэўна, шчыра дзякаваў. Таму – інерцыя, а яшчэ тое, што людзям, якія гэтыя кодэксы складаюць, настолькі “фіялетава” – гэта абстрактныя людзі, як быццам бы гэта ўсё на Месяцы недзе адбываецца. Ні адзін з іх, з дэпутатаў, ні разу не прыходзіў і не глядзеў нават праз “вочка” на асоб, асуджаных да смяротнага пакарання. Мы права заканадаўчай ініцыятывы не маем, супрацоўнікі пенітэнцыярнай сістэмы. Да гэтага справы няма нікому. Узялі стары Кодэкс і перапісалі. Інертнасць мышлення: як ёсць, хай так і будзе. Таму лепей задайце пра гэта пытанне дэпутатам.

*– Чаму вакол смяротнага пакарання існуе заслона сакрэтнасці?*

– Нават калі вы будзеце цікавіцца, уся ваша цікаўнасць разаб’ецца аб сцены турмы. На сёння адзіны чалавек, які можа гаварыць, не звязаны прысягай і іншымі абавязкамі, – гэта я. Мяне наша любімая краіна вызваліла ад гэтых абавязкаў. І тое – я захоўваю службовую этыку, я не пераходжу тыя межы, якія не варта пераходзіць.

*– Які мастацкі фільм найбольш дакладна паказвае смяротнае пакаранне?*

– Бачыў і дакументальныя кадры смяротнага пакарання, і ў жыцці сутыкаўся з гэтым. Ну, што вам сказаць? Ёсць фільм вельмі добры “Чекист” – рэкамендую паглядзець. Ён жахлівы. Гэта фільм таго аўтара, які зняў “Особенноси национальной охоты”. Паглядзіце. Там

вельмі дакладна ўсё паказана. Адзінае, што не дакладна, гэта я як спецыяліст магу сказаць, гэта тое, што там расстрэльвалі людзей на адлегласці недзе 5–6 метраў. З нагана не рэальна патрапіць у галаву – вельмі складана. І фантаны крыві… А ўсё астатняе – рэальна. Гэта фільм пра тое, як асуджаюць на смяротнае пакаранне, як расстрэльваюць.

*Берлін, красавік 2012 г.*

## КАРЭЛ ШВАРЦЭНБЕРГ: НЕ РАЗУМЕЮ ЛЮДЗЕЙ, ЯКІЯ, ПАБАЧЫЎШЫ XX СТАГОДДЗЕ, ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ СМЯРОТНУЮ КАРУ

Вядомы чэшскі палітык і грамадскі дзеяч Карэл Шварцэнберг 8 кастрычніка 2014 г. браў удзел у Мінску ў праваабарончых мерапрыемствах разам з прадстаўнікамі еўрапейскіх амбасад, якія ўваходзяць у Працоўную групу па пытанні смяротнага пакарання ў Беларусі.

У першай палове дня ў ПЭН-цэнтры прайшоў "круглы стол", дзе на сустрэчу са спадаром Шварцэнбергам сабраліся сябры гэтай арганізацыі – вядомыя літаратары Уладзімір Арлоў, Адам Глобус, кіраўнік Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, кіраўнік "Вясны" Алесь Бяляцкі, кіраўнік Беларускага ПЭН-цэнтра Андрэй Хадановіч, дыпламаты – амбасадар

Чэхіі Мілан Экерт, амбасадар Вялікабрытаніі Брус Бакнэл, упаўнаважаны міністр Балгарыі Івайла Іванаў, а таксама Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці. Увечары Карэл Шварцэнберг разам з прадстаўнікамі амбасад Чэхіі, Вялікабрытаніі, Балгарыі, кіраўніком Праваабарончага цэнтра "Вясна" бралі ўдзел у публічнай сустрэчы ў галерэі "Ў".

Падчас гэтых мерапрыемстваў, што былі арганізаваны ў межах Тыдня супраць смяротнага пакарання ў Беларусі, удзельнікі дыскусіі акцэнтавалі ўвагу на каштоўнасным аспекце гэтай праблемы. Бо сумнавядомыя падзеі, якімі было насычана папярэдняе XX стагоддзе, і падзеі дня сённяшняга даказваюць вострую неабходнасць у згуртаванасці і згодзе ўсяго грамадства дзеля захавання кожнага канкрэтнага чалавечага жыцця.

Так, у сценах пісьменніцкай арганізацыі праваабаронца і літаратар Алесь Бяляцкі адзначыў, што праблема смяротнага пакарання датычыць і лёсу беларускіх пісьменнікаў. Ён нагадаў, што ў 30-я гг. мінулага стагоддзя большасць беларускіх пісьменнікаў была забіта Сталіным.

*«Існаванне смяротнага пакарання ў Беларусі сёння я разглядаю як прамы вынік сталінскай эпохі, як сталінскую спадчыну для нашага народа. Вайна, якая зараз ідзе каля Беларусі, дзе кожны дзень гінуць людзі, зніжае каштоўнасць чалавечага жыцця. Гэтае абясцэньванне жыцця, тым не менш, не павінна зніжаць гэтыя стандарты для нас. Беларуская культура,*

*літаратура заўсёды была гуманнай па сваёй сутнасці, заўсёды выступала за чалавечнасць у чалавеку, шукаючы гэтую чалавечнасць нават у самых неспрыяльных варунках і сітуацыях. І беларуская культура – гэта не “русский мир”, гэта змаганне за чалавека – чалавека цывілізацыйнага, чалавека еўрапейскага»,* – сказаў Алесь Бяляцкі.

У кантэксце цяжкіх выпрабаванняў для чалавецтва, якія прынесла папярэдняе стагоддзе, разглядае смяротнае пакаранне і Карэл Шварцэнберг.

*“Мы сёння размаўляем пра смяротнае пакаранне, але я не ведаю, як чалавек, які бачыў XX стагоддзе, мог яшчэ не вызначыцца ў гэтым пытанні. Я нарадзіўся ў 1937 г., у жорсткія часы, і яшчэ да таго, як скончыў школу, па ўсёй Еўропе былі пакараны смерцю сотні тысяч чалавек. І калі ўзгадаць гэтыя забойствы па ўсёй Еўропе, то проста нельга сабе ўявіць, як сучасны чалавек можа падтрымліваць смяротнае пакаранне.*

*Так, у гэтым пытанні вельмі вялікую ролю адыгрываюць эмоцыі, таму што калі адбудзецца чарговае страшнае забойства, напрыклад, забойства дзіцяці, то адразу знойдуцца людзі, якія пачнуць выступаць за смяротнае пакаранне. Але, па-мойму, гэта не можа стаць канчатковым довадам для смяротнага пакарання. Таму што мы не можам выключыць магчымасць судовай памылкі. А чалавека, пакаранага смерцю, да жыцця ўжо не вернеш.*

*Самы цікавы аргумент, які я калі-небудзь чуў, гэта той, што чалавек на пажыццёвым зняволенні дорага абыходзіцца*

*дзяржаве. Але я спытаю, які выбар вы лічыце лепшым: усё*

*жыццё карміць некалькі такіх вязняў ці пакараць смерцю некалькі, магчыма, нявінных людзей?*

*І вы не можаце адмаўляць тое, што адным з фундаментальных правоў чалавека з'яўляецца яго права на жыццё.*

*Зразумела, што змаганне супраць смяротнага пакарання часам з'яўляецца вельмі непапулярным, вам могуць гаварыць, што вы дапамагаеце злачынцам. Мне таксама вельмі шкада ахвяр гэтых злачынцаў. Але ці дапаможа гэтым ахвярам тое, што будзе забіты іх забойца? І ў кожнай краіне ў свеце існуюць такія перыяды, калі чалавек павінен супрацьпаставіць сябе большасці. XX стагоддзе нас навучыла гэтаму".*

У дыскусіях спадар Шварцэнберг, старшыня Камітэта па замежных справах Парламента Чэхіі, неаднаразова падкрэсліваў, што супраць смяротнай кары трэба змагацца найперш з маральнага пункту гледжання, што важна аддзяліць сам факт наяўнасці смяротнага пакарання ў краіне ад палітычнай сферы. "*Смяротнае пакаранне – гэта не ёсць супрацьстаянне Усходу і Захаду, таму што, як вядома, вялікія праціўнікі на палітычнай арэне Кітай і ЗША – маюць смяротнае пакаранне*", – адзначыў ён.

Доўгі час працуючы па праблематыцы правоў чалавека, і апошнія 25 гадоў – з краінамі нашага рэгіёна, спадар Шварцэнберг падкрэсліў, што дзеля адмены смяротнага пакарання варта ствараць больш шырокі фронт, каб прыцягнуць да праблемы ўвагу як мага

большай часткі грамадства, у тым ліку апалітычных людзей. Разам з тым, паколькі галоўнай задачай абаліцыяністаў з’яўляецца захаванне жыцця, у гэтым плане ён не супраць працаваць нават з самымі “дзіўнымі” рэжымамі, нават калі для іх гэта ўсяго толькі пытанне паляпшэння свайго іміджу, бо “звычайна смяротнае пакаранне выкарыстоўваецца рэжымамі, якія не асабліва карыстаюцца павагай у сусветнай супольнасці”. Таксама з уласнага досведу Карэл Шварцэнберг адзначыў, што ў некаторых краінах менавіта па гэтай праблеме вельмі карыснай была праца з царквой, рэлігійнымі арганізацыямі, нават там, дзе царква вельмі цесна звязана з кіраўнічым рэжымам.

Прадстаўнік Каталіцкай царквы, арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці, падкрэсліў, што дактрына сучаснай Каталіцкай царквы выразна кажа пра тое, што смяротнае пакаранне недапушчальнае і так было заўсёды, але праблема не ў рэлігіі як такой, бо і сама рэлігія, як паказваюць апошнія падзеі ў свеце, можа стаць прычынай для развязвання агрэсіі. Па словах арцыбіскупа, праблема ў тым, што грамадства не падрыхтавана да ўспрыняцця тых каштоўнасцей, якія ў тым ліку прапаведуе і царква. “*Як сказаў Карэл Шварцэнберг, смяротнае пакаранне – гэта не праблема палітычнай сферы, гэта праблема ўсіх нас і ва ўсім свеце. І пытанне ў тым, што мы робім у паўсядзённым жыцці, як прапагандуем тое, што жыццё чалавека недатыкальнае… Каб змяніць стаўленне*

*грамадства, неабходна шмат часу. І на мой погляд, у гэтым можа дапамагчы асвета, адукацыя. Каталіцкая царква, як, я думаю, і Праваслаўная царква, прыкладае для гэтага намаганні ў сваіх сферах, але толькі нашых намаганняў не дастаткова…"*

Удзельнікі мерапрыемстваў шмат гаварылі пра тое, што рэферэндум не можа быць рашэннем адносна існавання смяротнага пакарання ў краіне. У прыватнасці, пра гэта казаў прадстаўнік амбасады Балгарыі Івайла Іванаў: «*Тое, што ў 1996 г. насельніцтва Беларусі на рэферэндуме прагаласавала за смяротнае пакаранне, не можа быць апраўданнем для беларускай дзяржавы пры вынясенні і выкананні смяротных прысудаў. Гэта антыгуманна. І тое, што ў краіне існуе смяротнае пакаранне, гэта ганебны факт. Я лічу Беларусь не толькі геаграфічным цэнтрам Еўропы, але і цывілізацыйным цэнтрам. Беларускі народ – высокаадукаваны і талерантны, але насельніцтва краіны мала ведае пра смяротнае пакаранне, нават не ўсе ведаюць, што яно існуе ў краіне.*

*Так што разлічваць на асэнсаванае галасаванне "за" ці "супраць" смяротнага пакарання ў Беларусі ў найбліжэйшы час не даводзіцца. Я перакананы, што гэтае пытанне мусіць быць вырашана парламентам і прэзідэнтам Беларусі*».

Як адзначыў падчас публічнай сустрэчы прадстаўнік амбасады Вялікабрытаніі Дэвід Спайерс, Працоўная група па пытанні смяротнага пакарання ў Беларусі была ўтворана каля пяці месяцаў таму, і колькасць яе ўдзельнікаў расце. Гэтая працоўная група, прадстаўленая амбасадамі Вялікабрытаніі, Чэхіі, Польшчы, Балгарыі,

Францыі, Італіі, выказвае гатоўнасць працаваць з любымі арганізацыямі, якія імкнуцца да той жа мэты – адмены смяротнага пакарання ў Беларусі.

*9 кастрычніка 2014 г.*

## ГАРЫ ПАГАНЯЙЛА: ПРЫЙШОЎ ЧАС ПЕРАГЛЕДЗЕЦЬ ЗАКОН ПРА СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

Праваабаронца Гары Паганяйла – пра тое, чаму смяротнае пакаранне з'яўляецца катаваннем для сваякоў расстралянага, пра "права на труп" і суб'ектыўнасць суддзяў пры вынясенні прыгавору да расстрэлу.

*– На падставе чаго ў Беларусі не выдаюцца сваякам целы расстраляных?*

– У Беларусі працягвае дзейнічаць закон, які датычыцца яшчэ савецкага перыяду, калі пры выкарыстанні выключнай меры пакарання ў выглядзе расстрэлу труп пакаранага сваякам не выдаюць, месца пахавання не паведамляюць. І такім чынам спрабуюць зрабіць таямніцай і саму дату выканання прысуду, і дзе пахаваны чалавек. Тлумачаць, што гэта робіцца для таго, каб не было апаганьвання цела расстралянага чалавека, які здзейсніў вельмі цяжкія злачынствы. Вядома, нармальнай такую практыку прызнаць немагчыма. Камітэт ААН неаднаразова заяўляў пра тое, што сама

працэдура смяротнага пакарання ў Беларусі падпадае пад прыкметы катаванняў і бесчалавечнага стаўлення як да самога пакаранага смерцю, так і да яго сваякоў. Не паведамляюць пра дату выканання смяротнага прысуду, а знаходжанне ў камеры смяротнікаў цягнецца некалькі месяцаў, гэта вельмі жорстка ўспрымаецца чалавечай псіхікай, асуджаны не можа рэальна ўсведамляць, калі прысуд будзе прыведзены ў выкананне, калі наступіць апошні дзень яго жыцця, ён не можа падрыхтавацца да гэтага акта. Калі веруючы, то паспавядацца ў святара той канфесіі, да якой належыць. І гэта само па сабе з'яўляецца парушэннем артыкула 18 Пакта пра грамадзянскія і палітычныя правы – “свабода рэлігійных перакананняў, свабода на ажыццяўленне адпаведных рэлігійных культаў”. І ў адносінах да сваякоў пакаранага – гэта таксама катаванне, бесчалавечнае стаўленне, бо па дзейным заканадаўстве сваякі маюць права на труп. Труп павінен выдавацца ў любых выпадках, яго нельга схаваць, калі труп выяўлены ў выніку здзейсненага злачынства. Тым больш гэта належыць рабіць пасля здзяйснення смяротнага пакарання дзяржавай, труп мусіць быць выдадзены сваякам, каб яны маглі выкарыстаць мясцовыя традыцыі – нацыянальныя, абрадавыя, рэлігійныя, каб час ад часу можна было б наведваць магілу. Так, ён здзейсніў злачынства, быў асуджаны да смяротнага пакарання, прысуд быў выкананы… Але што гэта такое: калі не выдаюць цела? Гэта дадатковае пакаранне для

сваякоў? Дадатковыя пакуты? Нават пры тым, што Рэспубліка Беларусь працягвае ажыццяўляць пакаранні, неабходна тэрмінова, з улікам грамадскай думкі, з улікам нашых нацыянальных традыцый стаўлення да нябожчыкаў, змяніць саму працэдуру смяротнага пакарання – паведамляць дату выканання прысуду асуджанаму, паведамляць гэтую дату сваякам, выдаваць ім цела для пахавання ў тым месцы, дзе яны палічаць патрэбным.

*– А якая альтэрнатыва расстрэлу?*

– Кажучы пра тое, што смяротнае пакаранне ўсё ж існуе ў Рэспубліцы Беларусь, неабходна памятаць, што з 1998 г. у Беларусі выкарыстоўваецца пажыццёвае зняволенне як выключная мера пакарання, альтэрнатыўная смяротнаму пакаранню. Але пры гэтым заканадаўца не ўстанавіў крытэрыяў, пры якіх можна ясна вызначыць: у якіх выпадках трэба выкарыстаць адну выключную меру пакарання – пажыццёвае зняволенне, а ў якіх выпадках іншую выключную меру пакарання – у выглядзе расстрэлу. І гэта, вядома, стварае цяжкасці ў працы суддзяў. І гэта ўносіць пэўны момант суб’ектывізму – асабістага стаўлення да абставін справы і таго, якая асоба прадстала перад судом і якую меру пакарання абраць. Я нагадаю, што калі заканадаўца захаваў смяротнае пакаранне як часовую меру, прадугледжвалася, што гэтыя справы будуць разглядацца судом прысяжных. Гэта больш дэмакратычная форма

судовай вытворчасці, якая ўлічвае больш шырокае меркаванне грамадзян, тых дванаццаці “раззлаваных”, якія вырашаюць лёс. Менавіта яны мусяць выказаць свае адносіны і вызначыць вердыкт: “вінаваты” ці “невінаваты”. Калі “вінаваты”, то ў якой ступені. І я перакананы, што такая форма судовага разбіральніцтва, калі грамадзяне з высокім маральным аўтарытэтам выклікаюцца да вытворчасці па крымінальнай справе ў якасці прысяжных, прынесла б тую гуманістычную ідэю і ў нечым і хрысціянскае стаўленне, што караць смерцю ад імя дзяржавы нельга… І сама судовая практыка паступова выкараняла б выключную меру пакарання. Вось прысяжныя выказаліся, сказалі: “Так, вінаваты, але заслугоўвае толькі пажыццёвага зняволення, а не заслугоўвае смяротнай кары”. І мы ўсе цудоўна разумеем, пра гэта яшчэ казаў мітрапаліт Філарэт: “Смяротнае пакаранне – гэта яшчэ адзін цвік ва ўкрыжаванне Хрыста”. Гэта грэх чалавеказабойства, але здзейснены ён ад імя дзяржавы, прычым у выглядзе помсты. Таму суб’ектыўнасць у суддзі пры вынясенні прысуду прысутнічае.

*– Адкуль бярэцца суб’ектыўнасць?*

– Яшчэ да вынясення прысуду фарміруецца грамадская думка, як гэта было па справе Канавалава і Кавалёва, калі кіраўнік дзяржавы гаварыў, што толькі самыя жорсткія меры павінны быць выкарыстаны, – ён, па сутнасці, выносіў той вердыкт, які мусіў вынесці толькі

суд. Фарміруюць грамадскую думку і публікацыі ў прэсе, з парушэннем прынцыпу прэзумпцыі невінаватасці. Гэта ўсё ўплывае на суддзю. Ён такі самы чалавек і жыве ў гэтай рэчаіснасці, сярод людзей, чытае тыя самыя газеты, глядзіць тое самае тэлебачанне. І, вядома, усё гэта нейкім чынам фарміруе яго ўнутранае перакананне. А пры вынясенні прысуду ён кіруецца законам і сваёй унутранай перакананасцю. Без суб'ектывізму ў судзейскай практыцы немагчыма. Іншая справа, што дасведчаны суддзя і прафесійна мужны суддзя мусіў бы адкінуць грамадскую думку і зыходзіць з таго, што ён фактычна ўстанавіў у судзе, што было праверана ў судзе, што было пацверджана ў судзе, калі доказы даследуюцца па працэдуры, устаноўленай у Крымінальна-працэсуальным кодэксе. Толькі такая вялікая душэўная і прафесійная праца дапаможа вынесці справядлівы прысуд. Такі прысуд, які мы называем законным і абгрунтаваным.

*– Ці кантактавалі Вы з суддзямі, якія выносілі смяротныя прысуды? Як яны сябе пасля адчуваюць?*

– Так, вядома. Я і сам быў суддзёй. Праўда, улічваючы ўзровень майго суда – народнага, нам былі не падведамасныя такія справы. Але мне даводзілася размаўляць з суддзямі ўзроўню абласных судоў, Мінскага гарадскога, Вярхоўнага, у мяне было шмат сяброў сярод судзейскага корпусу. І асабліва гучныя справы мы абмяркоўвалі, закранfamalі тэму душэўных перажыванняў,

таго цяжару, які бярэ на сябе суддзя, калі выносіць смяротны прысуд – расстрэл. Перажыванні, паверце, вельмі і вельмі сур'ёзныя. Гэта вельмі цяжкая душэўная праца, і яна пакідае след і ў галаве, і на сэрцы, і на фізічным стане… Праца гэтая цяжкая. Але суддзі звязаны законам.

Калі закон дапускае выкарыстанне такой крайняй меры пакарання, як расстрэл, то па шэрагу спраў такія прысуды выносяцца. Не да кожнага можна дайсці і распытаць, і не кожны суддзя пагодзіцца на шчырасць, распавядаючы, якімі думкамі ён кіраваўся, калі вызначыў адну альбо іншую меру пакарання. І асабістае стаўленне да смяротнага пакарання ёсць у кожнага суддзі, які выносіць прысуды падобнага роду.

*7 красавіка 2014 г.*

## АНДРЭЙ ПАЛУДА: КАЛІ ДЗЯРЖАВА ЛІЧЫЦЬ, ШТО СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ СТРЫМЛІВАЕ ЗЛАЧЫННАСЦЬ, ТО ЧАМУ ЎТОЙВАЕ ІНФАРМАЦЫЮ

**пра смяротныя прысуды?**

Праваабаронца разглядае самыя папулярныя аргументы "за" і "супраць" смяротнага пакарання і аналізуе грамадскую думку беларусаў на гэтую тэму.

– *Андрэй, прадстаўнікі ўлады ў абароне смяротнага*

*пакарання часта спасылаюцца на грамадскае меркаванне і вынікі рэферэндуму 1996 г. Маўляў, гэта рашэнне беларускага народа, нельга ісці супраць яго. Ці сапраўды большасць беларусаў сёння выступае за смяротнае пакаранне?*

– Калі спасылацца на апошнія даследаванні, якія рабіла кампанія Satio, сапраўды, большасць беларусаў выступае за смяротнае пакаранне. Але гэта вельмі зменлівая сітуацыя. Нават калі ўзяць пад увагу вынікі рэферэндуму, легітымнасць якога незалежныя эксперты і праваабаронцы ставяць пад сумнеў, з 1996 г. вырасла ўжо новае пакаленне, якое тады не галасавала. І як паказваюць апытанні, большасць моладзі супраць смяротнага пакарання. Таксама хачу адзначыць, што калі быў судовы працэс над Кавалёвым і Канавалавым, грамадства выразна падзялілася на тых, хто выступае за і супраць вышэйшай меры пакарання. Зноў жа, калі паглядзець на вынікі апытання, многія за смяротнае пакаранне, але пры пэўных умовах: "калі б у Беларусі была незалежная судовая сістэма", "калі б у Беларусі быў суд прысяжных", "калі б віна злачынцы была даказана на 100%" і г. д. І ўсе гэтыя ўмоўнасці кажуць, што многія беларусы так і не маюць упэўненага адказу на пытанне пра смяротнае пакаранне.

*– Вы адзначылі пункт пра незалежнасць судовай сістэмы. Сапраўды, і даследаванне Satio, і іншыя апытанні паказваюць, што беларусы не давяраюць судовай сістэме. Як Вы думаеце, у чым прычына? Далёка не кожны ж асабіста сутыкаўся з*

*несправядлівасцю ў судзе…*

– Калі паглядзець на колькасць адміністратыўных пакаранняў па краіне, то можна сцвярджаць, што, напэўна, кожны беларус ці сам, ці праз сваіх сваякоў сутыкаўся непасрэдна і з нашай судовай сістэмай, і з праваахоўнай. І на сабе адчуў і залежнасць гэтых органаў ад рэжыму, і недасканаласць заканадаўства. Да таго ж, хапае ў нас незаконна асуджаных грамадзян. Яскравы прыклад – Міхаіл Гладкі, якога асудзілі на 8 гадоў пазбаўлення волі за нібыта забойства брата. А калі ён ужо выйшаў на волю, знайшлі нібыта сапраўднага злачынцу, Эдуарда Лыкава, якому, дарэчы, вынесены смяротны прысуд.

*– Дарэчы, пра справу Лыкава грамадскасці стала вядома толькі пасля заяў ад праваабаронцаў. Чаму праваахоўныя органы і суд вырашылі замаўчаць такую гучную справу – усё ж такі чалавека абвінавачваюць у пяці забойствах?*

– Сапраўды, першымі пра гэтую справу паведаміла кампанія “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі”. Пасля тэму актыўна пачалі раскручваць журналісты. Суд і Следчы камітэт ужо вымушаны былі каментаваць сітуацыю. Гэта яшчэ раз падкрэслівае, што дзяржава ўтойвае інфармацыю пра вынясенне смяротных прысудаў і іх выкананне. Адпаведна, мы не можам быць упэўнены да канца ў лічбах, якія падаюць дзяржаўныя органы. З аднаго боку, чыноўнікі кажуць, што смяротнае пакаранне дапамагае стрымліваць злачыннасць у

грамадстве. Але тады чаму яны маўчалі пра справу Лыкава? Чаму не паведамілі пра гэтыя пяць забойстваў, калі яны так зацікаўлены спыніць і прадухіліць цяжкія злачынствы ў краіне? Выходзіць, не спрацоўвае іх аргумент!

*– Апошнім часам можна заўважыць, што тэма смяротнага пакарання стала цікавай не толькі для праваабарончых сайтаў, але і для дзяржаўных і недзяржаўных СМІ. Матэрыялы на гэтую тэму збіраюць тысячы праглядаў і каментароў…*

– Сапраўды, тэма смяротнага пакарання стала медыйнай. Гэта вельмі важна для нас, кампаніі “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі”, бо яшчэ год-два таму не было ў СМІ такога актыўнага абмеркавання.

*– Але часта каментатары выказваюцца ў абарону смяротнага пакарання, прычым у вельмі рэзкай і жорсткай форме…*

– На гэтым этапе, я лічу, важна не тое, за якую пазіцыю людзі выказваюцца, а тое, што яны ўвогуле дыскутуюць. Меркаванне можа змяніцца толькі тады, калі людзі пачуюць важкія аргументы. Да таго ж, аргументы за адмену смяротнага пакарання часта робяцца “топавымі”, збіраюць найбольш “лайкаў” – гэта кажа аб падтрымцы такой пазіцыі сярод карыстальнікаў інтэрнэту.

*– У каментарах часта можна пачуць меркаванне – навошта нам, падаткаплацельшчыкам, утрымліваць пажыццёва*

*злачынцу (як альтэрнатыва смяротнаму пакаранню), няхай гэтыя грошы лепш пойдуць на сацыяльную сферу. Ці сапраўды для бюджэту гэта такая вялікая сума?*

– Насамрэч гэтая лічба мізэрная. Адзін з удзельнікаў нашай дыскусіі па тэме смяротнага пакарання падлічыў, што на ўтрыманне злачынцы ідзе прыкладна 150 тыс. руб. у суткі, або 4,5 млн руб. у месяц. Насельніцтва Беларусі складае прыкладна 9,464 млн чалавек. Калі палічыць, выходзіць, што ў месяц на ўтрыманне асуджанага грамадзянін траціць менш за адзін рубель (!) – усяго 0,475 руб. Але бываюць выпадкі, калі асуджаюць невінаватых. Значыць, бываюць і выпадкі, калі караюць смерцю невінаватых, яскравы прыклад – справа Міхасевіча ў Віцебску. Таму я хацеў бы спытаць у тых, хто адстойвае аргумент пра ашчаджэнне дзяржаўных сродкаў – ці вартая такая эканомія чалавечых жыццяў?

*– Яшчэ адзін з папулярных аргументаў за смяротнае пакаранне – суразмернасць пакарання. Маўляў, калі злачынца кагосьці забіў, ён заслугоўвае роўна таго ж…*

– Вельмі слушна пра гэта сказаў Гандзі: «Прынцып "вока за вока" робіць свет сляпым». У беларускім грамадстве вельмі нізкі ўзровень асветы ў галіне правоў чалавека дый права ўвогуле. Калі пачынаеш праглядаць розныя фільмы, артыкулы праз прызму правоў чалавека, то ты па-іншаму ўспрымаеш рэчаіснасць. Я як праваабаронца ведаю, што чалавек пры нараджэнні атрымлівае правы, і яны з'яўляюцца неад'емнымі,

найперш – права на жыццё.

І я яшчэ раз хачу вярнуцца да тэмы доказнасці віны і працы нашай судовай сістэмы. На жаль, мы маем сёння прыклады, калі невінаватыя людзі знаходзяцца за кратамі. У 1980-я за справу маньяка Міхасевіча адзін чалавек быў расстраляны, яшчэ некалькі несправядліва адпраўлены ў турму, з іх праз катаванні выбілі прызнанні… У любым выпадку, судовая сістэма ў любой краіне свету можа памыляцца. Я асабіста знаёмы з чалавекам, які ў ЗША быў прыгавораны да смяротнага пакарання. 24 гады ён прасядзеў у турме ў Фларыдзе. Але пасля экспертызы ДНК яго вызвалілі, бо высветлілася, што ён быў невінаваты. Калі паглядзець, як хутка ў Беларусі выконваюцца смяротныя пакаранні (Уладзіслава Кавалёва, напрыклад, расстралялі праз тры з паловай месяцы пасля вынясення прысуду), баюся, гэты чалавек у нашай краіне проста не дачакаўся б ні паўторнай экспертызы, ні вызвалення, нягледзячы на сваю невінаватасць. Маючы на ўвазе ўсе гэтыя аргументы, мы катэгарычна выступаем супраць вышэйшай меры пакарання ў Беларусі.

*13 студзеня 2014 г.*

## АНДРЭЙ ПАЛУДА: ХОЦЬ НА ХВІЛІНУ ЗАДУМАЙЦЕСЯ, ЯК АДБЫВАЕЦЦА ЗАБОЙСТВА ЗАБОЙЦЫ

Ужо другі год у Беларусі праводзіцца Тыдзень супраць смяротнага пакарання. Сёлета асноўны месідж гэтай акцыі – “Смяротнае пакаранне – гэта забойства”. Таксама Тыдзень супраць смяротнага пакарання будзе суправаджацца вельмі экспрэсіўнымі выявамі выканаўцы смяротнага пакарання і ахвяры. Па словах Андрэя Палуды, каардынатара кампаніі “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання”, гэтыя вобразы заклікаюць нас уявіць, што адбываецца ў апошні момант, калі прысуд прыводзіцца ў выкананне.

*– У гэтым годзе Тыдзень супраць смяротнага пакарання суправаджаецца вельмі выразнымі візуальнымі вобразамі, ад якіх проста мароз па скуры…*

– Так, гэтае кароткае відэа для інтэрнэту – кат і ахвяра – стылізацыя пад фігуркі, зробленыя асуджанымі ў камеры з хлебнага мякішу. А таксама фігуркі – кат у позе агрэсара і прыніжаная перад расстрэлам ахвяра. Аўтар гэтых выяў – Віктар Трацякоў, вядомы як аўтар фільмаў “Прычына смерці – прочырк”, “Убыл по приговору” і “Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання”.

Наша галоўная мэта – каб чалавек уявіў хаця б на нейкі момант, што адбываецца ў камеры смяротнікаў, якія знаходзяцца ў самым цэнтры Мінска ў СІЗА № 1 па вуліцы Валадарскага. Штодня мы праходзім альбо праязджаем каля гэтага будынка і нават не можам уявіць, што адбываецца ў ягоных сутарэннях. Ёсць шмат людзей, якія з’яўляюцца прыхільнікамі смяротнага пакарання, але

ў смяротнай кары бачаць толькі абстрактную справядлівасць. Тое, як здзяйсняецца гэтая справядлівасць – іх не хвалюе. Між тым, паміж вынясеннем прысуду і самой карай – некалькі месяцаў, якія вязень праводзіць у страшэнным нервовым напружанні – ён не ведае дакладай даты і часу выканання прысуду, таму чакае яго кожнае імгненне. Гэта тыя імгненні, за якія злачынца ператвараецца ў ахвяру. У гэты момант у асуджанага вельмі абвастраецца слых, ён прыслухоўваецца да кожнага гуку і кроку ў чаканні, калі па яго прыйдуць і павядуць на расстрэл…

*– Адкуль Вы ведаеце пра гэта?*

– Сапраўды, тое, што адбываецца ў гэтых камерах, вядома хіба што самім асуджаным, іх ахоўнікам ды выканаўцам прысудаў. А нам, праваабаронцам, гэта вядома з некалькіх крыніц… Найперш з таго, што распавёў нам былы начальнік "Валадаркі" Алег Алкаеў, калі мы наведвалі яго ў Германіі падчас здымак фільма "Убыл по приговору". Мы гаварылі якраз на гэтую тэму – што адбываецца ў камерах асуджаных на смерць. Алег Алкаеў тады прамовіў фразу, якая вельмі запомнілася: "Усе вашы інтарэсы разаб'юцца аб сцены турмы". Мы не можам, вядома, бачыць праз сцены… Але вобразамі, якія падрыхтавалі да Тыдня супраць смяротнага пакарання, мы спрабуем крыху прыадчыніць заслону сакрэтнасці, што створана вакол гэтай тэмы.

*– Чаму існуе гэтая "заслона сакрэтнасці"?*

– Менавіта таму, што смяротнае пакаранне – гэта забойства. І выканаўцы прысуду гэта ведаюць. Ведаюць гэта і суддзі, якія выносяць прысуд.

*– А чаму вы абралі такую форму – фігуркі з хлебнага мякішу?*

З 1998 г. у Праваабарончы цэнтр “Вясна” тымі ці іншымі шляхамі траплялі лісты смяротнікаў. Першымі, хто напісаў у “Вясну”, былі Іван Фамін і Сяргей Працiраеў. Фамін быў расстраляны ў 1998 г. А Сяргей Працiраеў быў памілаваны і пераведзены ў турму ў Глыбокае – у “крытую зону”, і працягвае адтуль ліставанне з “Вясной”. Ён нават з’яўляўся падпісчыкам праваабарончага бюлетэня “Права на Волю”.

Займалася перапіскай з ім актывістка нашай кампаніі, пісьменніца і сцэнарыстка Паліна Сцепаненка.

Ліст да нас дайшоў па “турэмнай пошце”. Дасылаў лісты і Андрэй Жук, расстраляны ў сакавіку 2010 г. У гэтых лістах ёсць пэўныя побытавыя падрабязнасці, пра тое, як бавяць час асуджаныя на смерць. Гэта – красворды, судоку, кнігі (для больш адукаваных). Напрыклад, з лістоў Андрэя Жука вынікала, што яго сукамернік Васіль Юзэпчук, які быў амаль непісьменны, спрабаваў пераадолець жах смерці песняй “А я сяду в кабриолет и уеду куда-нибудь…”. Хоць з’ехаць адтуль нельга, можна толькі “убыть по приговору”. З лістоў асуджаных таксама вядома і пра фігуркі з хлебнага мякішу – такая творчасць асуджаных. Таму мы і вырашылі скарыстаць гэтую

форму, каб данесці да людзей увесь жах смяротнага пакарання. Нават тых, хто з'яўляецца прыхільнікам гэтага віду пакарання, мы заклікаем: хоць на хвіліну задумайцеся, як адбываецца забойства забойцы!

*3 кастрычніка 2014 г.*

## КСЁНДЗ МІКАЛАЙ ЦІХАНОВІЧ: СУЧАСНЫ КАСЦЁЛ ЗАКЛІКАЕ АДМОВІЦЦА АД СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

Ксёндз Мікалай Ціхановіч, выкладчык маральнай тэалогіі Вышэйшай духоўнай семінарыі рыма-каталіцкага касцёла ў Гродне, быў адным з удзельнікаў "круглага стала" "Рэлігія і смяротнае пакаранне", арганізаванага Радай Еўропы 21 чэрвеня ў Мінску. На гэтым мерапрыемстве ксёндз Мікалай Ціхановіч прадставіў пазіцыю Каталіцкага касцёла адносна смяротнага пакарання.

*– Якая агульная пазіцыя сучаснага Каталіцкага касцёла ў дачыненні да кары смерцю? Якую эвалюцыю гэтая пазіцыя перацярпела?*

Традыцыйнае навучанне Касцёла засноўвалася на тым, што смяротнае пакаранне не супярэчыла Божаму Закону, але і не з'яўлялася яго прадпісаннем. Неабходнасць смяротнага пакараня ацэньвалася ў залежнасці ад жыццёвых абставін. Аналізуючы гэтыя

абставіны, каталікі выказваліся і за, і супраць. Але з цягам часу пазіцыя змянілася. Цяпер Касцёл вельмі выразна заклікае сусветную супольнасць да адмены смяротнага пакарання, да таго, каб адмовіцца ад такого "спосабу справядлівасці". Менавіта такім духам запаліў Касцёл блаславёны Ян Павел II, які ў 1998 г. на Божае Нараджэнне ўпершыню ў гісторыі сучаснага Касцёла публічна выступіў супраць смяротнага пакарання. Ён падкрэсліў, што ў сучасным свеце, калі ёсць шматлікія магчымасці забяспечыць і гарантаваць спакой у свеце, абараніць ад агрэсара сучаснага чалавека, можна адмовіцца ад смяротнага пакарання – грамадства можа знайсці іншыя сродкі, акрамя кары смерцю. У 1999 г. у Злучаных Штатах Ян Павел II зноў заклікаў адмяніць смяротнае пакаранне. А кульмінацыйным момантам было, калі ён заклікаў у 2000-м юбілейным годзе ўвогуле адмовіцца ад смяротнага пакарання як спосабу грамадскай справядлівасці. Гэта вялікі поступ у напрамку гуманістычнага падыходу да пытання смяротнага пакарання. Пазіцыя Касцёла падкрэслівае дух Евангелля – запаведзі любові, якой Езус навучае. Таксама ў 1999 г. Папскі нунцый Рыната Марціні ў ЗША на Божае Нараджэнне выступіў з афіцыйным заклікам да сусветнай арганізацыі ААН, каб усе народы ішлі ў кірунку адмены смяротнага пакарання. Гэта такі эвалюцыйны напрамак у тым, што Касцёл заклікае ўсіх сучасных грамадзян, асабліва хрысціян, адмовіцца ад

такога спосабу вымярэння справядлівасці.

*Вернікі задаюць вам, каталіцкім святарам, тэолагам, самыя розныя пытанні… Якія аргументы Вы звычайна выкарыстоўваеце пры разглядзе пытання пра смяротнае пакаранне?*

– Як і заўсёды было ў гісторыі, сярод вернікаў ёсць вялікая колькасць людзей, якія за смяротнае пакаранне, і ёсць вялікая колькасць людзей, якія супраць. Але мы аргументуем, перад усім, тым, што годнасць чалавечага жыцця, з'яўляецца годнасцю, якая паходзіць ад самога Бога. Бог з'яўляецца крыніцай жыцця, даўцам жыцця. І толькі Бог вырашае – даць чалавеку жыццё ці гэтае жыццё прыняць. Чалавек не мае права забіраць жыццё і ў сябе, і ў іншага чалавека. Жыццё чалавека з'яўляецца Божым дарам, чалавек з'яўляецца толькі адміністратарам гэтага жыцця. Гэта першы аргумент. А потым, ідучы ў кірунку евангельскім, мы прыгадваем навучанне Езуса Хрыста, які заклікаў няпомслівым чынам ставіцца да чалавека. Ён заклікаў любіць бліжняга, ён заклікаў маліцца за ворага і прабачаць. Езус нясе міласэрнасць і любоў. У тэалогіі маральнай, якую я выкладаю на занятках у Вышэйшай духоўнай семінарыі, Божае права мы разглядаем у духу навучання Езуса Хрыста, які падкрэслівае годнасць чалавечага жыцця, не ідучы ў кірунку помсты і агрэсіі. І мы заклікаем вернікаў, каб яны пераглядалі ў жыцці свае адносіны да смяротнага пакарання. Помста, гнеў, нянавісць – гэта не мера справядлівасці.

*– Ёсць яшчэ тонкія псіхалагічныя моманты. Тыя людзі, якія выконваюць прысуд, што адбываецца з іх душой з пункту гледжання Каталіцкага касцёла? Гэтыя людзі маюць шанец на пакаянне і ўратаванне душы? Ці гэта не трактуецца як забойства, бо кат выконвае волю іншых і свае прафесійныя абавязкі?*

– Гэты аспект мы таксама не можам не разглядаць. Трэба ўвайсці ў сітуацыю людзей, якія выконваюць вырак і нават медыкаў, якія канстатуюць смерць пакаранага. Гэты аспект з'яўляецца вельмі важным, бо сумленне – гэта голас Божы, і гэта не залежыць ад таго, веруючы чалавек ці не. Кожны чалавек разумее, што жыццё – гэта Дар, што жыццё трэба цаніць. І мы павінны таксама браць пад увагу гэты аспект. Я лічу, што людзі, якія змушаны выконваць смяротны прысуд, маюць вялікія ўнутраныя псіхалагічныя праблемы. Чалавек не можа заставацца абыякавым да таго, што ён выконвае ў адносінах да чалавечага жыцця. Вядома, што такі чалавек мае шанец на дараванне, на міласэрнасць Пана Бога.

*Паводле нашага заканадаўства, целы расстраляных не выдаюцца для пахавання сваякам…*

– Гэта супярэчыць хрысціянскаму светапогляду. З хрысціянскага светапогляду, цела чалавека пасля смерці мае права на павагу і на хрысціянскае пахаванне, мае права быць перададзеным зямлі. Хрысціянскае пахаванне – гэта адзін з важных абрадаў, знак павагі да чалавека, які адышоў у Вечнасць, яго цела мае права на пашану. Гэты

аспект з нявыдачай цела пакаранага мусіць быць выключаны з грамадства. Тут яшчэ ўзнікаюць і сацыяльныя канфлікты, звязаныя з сям'ёй. Людзі маюць права прыйсці на магілу сваіх родных, блізкіх – памаліцца за збаўленне іх душы. А як можна прыйсці на магілу, калі не ведаеш, дзе спачывае цела?

*– Прыгадаем гісторыю XX ст., калі ў СССР ішлі масавыя расстрэлы. Што гэта быў за час з пункту гледжання Касцёла, чаму так здарылася?*

– Гэта праблема савецкага атэізму. Калі чалавек не з'яўляецца асобай цялесна-духоўнай (як гэта ў хрысціянскім вучэнні), а толькі матэрыяльнай, то не ўлічваецца яго годнасць, якая выцякае менавіта з яго духоўнасці. Біблія навучае, што чалавек – гэта істота, якая мае ў сабе вобраз і падабенства Бога. Масавыя забойствы і нешанаванне годнасці чалавека былі звязаны са зменай погляду на чалавека. Паводле камуністычных поглядаў, чалавек – гэта "высокаарганізаваная матэрыя", якую можна знішчыць, калі яна "непатрэбная для грамадства".

*– Чым з пункту гледжання сучаснага Касцёла была інквізіцыя?*

Гэта адзін з балючых бакоў Касцёла, за які Ян Павел II папрасіў прабачэння ва ўсяго свету ў 2000 г. Ён прасіў даравання за ўсе грахі і памылкі Каталіцкага касцёла на працягу ўсёй гісторыі. Людзі часта забываюць, што Касцёл – гэта ўстанова боска-чалавечая. І вось гэты чалавечы аспект мае значэнне. Так, былі моманты, калі

Касцёл не ўлічваў гуманістычныя аспекты. Гэта памылкі Касцёла. Мы цяпер разумеем гэта ў гістарычным кантэксце. І перапрашаем. Адбылася эвалюцыя Касцёла. І цяпер Касцёл заклікае адмовіцца ад смяротнага пакарання.

Папа Рымскі Францішак даслаў тэлеграму да ўдзельнікаў Кангрэса супраць смяротнага пакарання ў Мадрыдзе, якую я працытую: "Пакаранне смерцю павінна быць заменена на іншае, якое прадугледжвала б шанец для злачынцы задумацца над сваімі правінамі і выправіцца, а нявіннаму падаравала б надзею на справядлівасць". І мой уласны погляд… Калі паставіць такое пытанне: ці можна сумясціць Евангелле са смяротным пакараннем? Я адкажу: смяротнае пакаранне і Евангелле несумяшчальныя.

*10 кастрычніка 2013 г.*

## ВАЛЯНЦІН СТЭФАНОВІЧ: У XXI СТАГОДДЗІ СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ – ГЭТА ВАРВАРСТВА

Смяротнае пакаранне не забаронена міжнародным правам, больш за тое – Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах дазваляе яго выкарыстоўваць за найбольш цяжкія злачынствы. Між тым ва ўсім свеце назіраецца ўстойлівая тэндэнцыя

адмены выключнай меры пакарання. У Беларусі такую кампанію абвясцілі праваабаронцы. З адным з яе ініцыятараў, Валянцінам Стэфановічам, гутарыць карэспандэнт электроннага рэсурсEuramost.org.

*– На рэферэндуме 1996 г. пытанне пра смяротнае пакаранне было вынесена на абмеркаванне, і беларуская грамадскасць большасцю галасоў выказалася за захаванне выключнай меры пакарання. Разам з тым пытанне адмены смяротнага пакарання ці ўвядзення мараторыя на яго выкананне застаецца актуальным. На Вашу думку, чаму дзяржава не зацікаўленая ні ў адмене смяротнага пакарання, ні ў яго шырокім грамадскім абмеркаванні?*

Мне складана адказаць, чаму дзяржава не зацікаўлена ў адмене смяротнага пакарання ў прынцыпе, бо на сёння мы чуем выказванні розных службовых асоб, адно з апошніх – новага спікера Палаты прадстаўнікоў Андрэйчанкі, які сказаў, што Беларусь падышла да таго этапу, калі магчыма ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне. Больш актыўна прадстаўнікі ўлады пачалі пра гэта гаварыць у апошні час, і падыходзяць да яго ў нейкім сэнсе з кан'юнктурных пазіцый, таму што ўлады відавочна нацэлены на сяброўства ў Радзе Еўропы. А між тым Беларусь з'яўляецца, бадай, адзінай краінай Еўропы і постсавецкай прасторы, якая не ўваходзіць у Раду Еўропы, а адно з патрабаванняў сяброўства ў арганізацыі – увядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне. Пытанне з пункту гледжання каштоўнаснага,

гуманістычнага, цывілізацыйнага пра сутнасць смяротнага пакарання ўлады не закранаюць, і адпаведнай дыскусіі ў грамадстве таксама няма. Чаму гэта так? Я мяркую, што на гэта ўплывае агульная сітуацыя: улады ў прынцыпе не любяць, каб народ нешта абмяркоўваў. Яны лічаць магчымым прадставіць насельніцтву нейкую дазаваную інфармацыю, ці дэзінфармацыю, ці прапаганду, але такога адкрытага абмеркавання ў грамадстве на балючыя тэмы і нават нейкіх побытавых пытанняў – публічнага абмеркавання ўлады не хочуць. А тым больш пытанняў, якія носяць пэўны палітычны падтэкст. Смяротнае пакаранне таксама можна аднесці да такога кшталту праблематыкі.

*- Чаму кампанія "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання" абвешчана менавіта цяпер?*

Насамрэч, мы, праваабаронцы, са свайго боку неаднаразова падкрэслівалі, што Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у Еўропе, якая практыкуе смяротнае пакаранне, і ўпэўнены, што час для ўвядзення мараторыя ў краіне сапраўды настаў. Мы лічым, што ў XXI стагоддзі смяротнае пакаранне – гэта варварства, і вельмі спадзяемся, што ў гэтым годзе Беларусь далучыцца да зоны, свабоднай ад смяротнага пакарання. А кіраўнікі краіны на тое і кіраўнікі, што мусяць кіравацца ў сваіх дзеяннях, сваіх поглядах не эмоцыямі, як гэта часта робяць звычайныя людзі. Бо калі казаць пра тое, што на рэферэндуме большасць насельніцтва прагаласавала за

падтрымку смяротнага пакарання, то большасць апытанняў у краінах Еўропы і Еўразвязу таксама паказвае, што людзі выказваюцца за аднаўленне інстытута смяротнага пакарання. Але ж людзі кіруюцца эмацыйнымі памкненнямі, помстай, а кіраўнікі дзяржаў – гэта эліта, і яны павінна абапірацца якраз на пазіцыі гуманістычныя, цывілізацыйныя, яны мусяць разумець, што жыццё чалавека з'яўляецца найвышэйшай каштоўнасцю, і ніхто не мае права яго адбіраць, нават ад імя дзяржавы.

*– Неяк па дзяржтэлебачанні мяне вельмі ўразіў дакументальны сюжэт пра асуджанага да пажыццёвага зняволення. Нягледзячы на тое, што былі паказаны нібыта добрыя ўмовы ўтрымання, зняволены фактычна дайшоў да пэўнай ступені і псіхічнага расстройства, выгляд у яго быў знясілены, жудасны. Да таго ж сам супрацоўнік турмы адзначыў, што ў памяшканнях нават пах спецыфічны. На Вашу думку, наколькі пажыццёвае пакаранне з'яўляецца больш гуманным, бо ў нашай краіне перагляд такіх спраў малаверагодны, людзі цалкам губляюць усялякую надзею і, магчыма, у такім стане смерць палічылі б за ласку? Нават калі ўявіць, што таго асуджанага выпусцілі, ён быў бы абсалютна не адаптаваны да звычайнага жыцця.*

– Гэтае пытанне даволі шырокае – пытанне ўсёй пенітэнцыярнай сістэмы і яе рэформы, і яго варта разглядаць у комплексе, бо з турмаў увогуле людзі выходзяць малаадэкватнымі і не могуць адаптавацца да

звычайнага жыцця па аб’ектыўных і суб’ектыўных прычынах. Не трэба забываць, што ўмовы ўтрымання ў беларускіх турмах далёкія ад ідэальных, і асуджаныя знаходзяцца ў вельмі жорсткіх умовах. Таму тут варта гаварыць і пра паляпшэнне ўмоў утрымання, і пра будаўніцтва новых турмаў, якія адпавядалі б міжнародным стандартам, і г. д. Але я лічу, што пажыццёвае зняволенне значна гуманней, чым забойства чалавека, і шмат якія даследаванні паказваюць, што ў любым выпадку асуджаныя трымаюцца за жыццё, яно вельмі дарагое чалавеку, спрацоўвае такі, можна сказаць, жывёльны інстынкт самазахавання. Акрамя таго, пажыццёвае зняволенне дае магчымасць рэабілітацыі чалавека, калі ён быў вымушаны прызнаць сваю віну ў здзяйсненні злачынства. Калі б ён быў расстраляны – выправіць судовую памылку ў такім разе проста немагчыма. Між тым у гісторыі вельмі шмат выпадкаў, і ў Злучаных Штатах, і ў іншых краінах, калі праз шмат гадоў пераглядаюць нейкія матэрыялы справы і прыходзяць да высновы, што, аказваецца, чалавек быў асуджаны незаконна. І яго вызваляюць. Акрамя гэтага, мы не мусім забываць, якія задачы пакарання злачынцы – задачы, скіраваныя на ягонае выпраўленне, на тое, каб ён усвядоміў сваю віну за здзейсненае. Натуральна, калі такога чалавека забіваюць, ён ужо выправіцца не можа і ўсвядоміць сваю віну таксама не можа. Мы не гаворым, што мы баронім злачынцаў, забойцаў, якія пераступілі

тую рысу і забралі жыццё іншага чалавека. Яны мусяць адказваць за свае злачынствы ў адпаведнасці з законам, але, паўтаруся, што мы мусім зыходзіць з пункту гледжання гуманнасці і гуманізму.

*- Вы прывялі прыклад са Злучанымі Штатамі Амерыкі. Вядома, што ў гэтай дэмакратычнай краіне законы 38 з 50 амерыканскіх штатаў прадугледжваюць смяротнае пакаранне і, такім чынам, даюць падставы гаварыць пра парушэнні правоў чалавека. Асабліва, скажам, на БТ?*

Трэба сказаць, што калі мы гаворым “дэмакратычны”, “дэмакратычнасць”, – мы маем на ўвазе ўсё ж вельмі шырокае паняцце. Мы можам прывесці шмат прыкладаў дэмакратычных краін, дзе існуе інстытут смяротнага пакарання: Японія, ЗША і яшчэ шэраг краін. Калі глядзець у вузкім сэнсе, то дэмакратычнасць – гэта інстытуцыі фарміравання ўлады, безумоўна, выкананне грамадзянскіх і палітычных правоў. Аднак правы чалавека парушаюцца ў любых краінах, і задача праваабаронцаў – змагацца за тое, каб яны не парушаліся. Ніхто не гаворыць, што ў Злучаных Штатах няма праяў нейкіх парушэнняў правоў чалавека. Я сам быў у адным са штатаў, Фларыдзе, якая займае другое месца пасля Тэхаса па колькасці прыведзеных у выкананне смяротных прысудаў. Прычым трэба сказаць, што ў заканадаўстве ЗША няма абмежавання адносна асоб, да якіх можа быць ужыта гэтая мера, у адрозненне ад Беларусі. У нас, напрыклад, гэта толькі мужчыны, старэйшыя за 18 гадоў,

таксама ўведзена максімальная планка. Захаванне смяротнага пакарання ў ЗША абумоўлена рознымі прычынамі, у тым ліку і гістарычнымі, традыцыйнымі. І амерыканскія праваабаронцы таксама змагаюцца за тое, каб было спынена смяротнае пакаранне, яны праводзяць пікеты ў дзень кары з патрабаваннем гэтага не рабіць. Шмат хто з іх гаворыць, што ахвярамі смяротнага пакарання робяцца людзі бедныя, у якіх няма грошай на добрых адвакатаў, таму, безумоўна, гэта тая праблема, якой займаецца амерыканская грамадскасць і якая абмяркоўваецца. Але мы мусім кіравацца тым, што жывем у Еўропе, якая з'яўляецца кантынентам, свабодным ад смяротнага пакарання, бо Еўропа вызначыла гэта як свой цывілізацыйны шлях, і таму мы павінны далучыцца да гэтай сям'і еўрапейскіх народаў, да еўрапейскай цывілізацыі.

P. S. У канцы 2007 г. на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН была прынята рэзалюцыя з заклікам да ўсіх краін пастулова абмяжоўваць выкарыстанне смяротнага пакарання, увесці мараторый на прывядзенне смяротных прысудаў у выкананне з наступнай адменай вышэйшай меры пакарання. Абавязковай сілы гэтая рэзалюцыя не мае.

*29 студзеня 2009 г.*

## АДМЕНА СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ. ШТО

# МОГУЦЬ ЗРАБІЦЬ ЖУРНАЛІСТЫ?

Беларусь – апошняя краіна ў Еўропе і на постсавецкай прасторы, дзе дагэтуль практыкуецца пакаранне смерцю. Гэты факт не сыходзіць са старонак беларускіх медыя. За апошнія 17 гадоў здзейснена каля 400 расстрэлаў, вядомы толькі адзін выпадак, калі смяротны прысуд заменены на турэмнае зняволенне. Хто сёння ў Беларусі павінен змагацца супраць смяротнага пакарання: праваабаронцы, журналісты альбо ўсё беларускае грамадства? Якое месца тут журналістаў? Пра смяротнае пакаранне ў праекце "Месца для прэсы" на Беларускім Радыё Рацыя разважае пісьменніца, сцэнарыстка, актывістка кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання" **Паліна Сцепаненка**.

– Праблема ў тым, што ў беларускім грамадстве сёння адсутнічае дыялог на гэтую тэму. Яна не абмяркоўваецца, вельмі шмат людзей, якія проста не ведаюць, што ў нас існуе смяротнае пакаранне. На гэтую тэму павінны гаварыць і праваабаронцы, і журналісты, якія павінны інфармаваць грамадства і ініцыяваць гэты дыялог. Тут ёсць, канешне, праблема, што праваабаронцы не маюць доступу да дзяржаўных СМІ. І вымушаны гэта рабіць праз вулічныя акцыі, якія таксама часам заканчваюцца затрыманнямі.

*– Паліна, як Вы лічыце, ці не пераацэньваем мы ролю*

*журналістаў у гэтай размове з грамадствам? Бо часам таксама варта канстатаваць той факт, што незалежныя медыя маюць невялікі ахоп аўдыторыі, а дзяржаўныя проста імкнуцца тэму смяротнага пакарання не заўважаць.*

– Гэтая тэма мусіць быць у медыяпрасторы, яе пачыналі яшчэ ў 1990-я гг. Першы грунтоўны артыкул з'явіўся ў газеце "Свабода", калі там быў рэдактарам Ігар Гермянчук. І гэта адна з такіх тэм, якія не вельмі любяць абмяркоўваць. Яна нязручная, яна страшная, яна непрыемная, але гэтую тэму трэба ўздымаць, таму што, як паказвае практыка, чалавек, які не ведае, што ў нас існуе смяротнае пакаранне, задумваецца пра яго толькі ў той момант, калі гэта закранае яго асабіста. Маю добры прыклад. Святлана Жук, маці Жука, расстралянага ў 2011 г., з якой мы рабілі стужку "Прычына смерці – прочырк" (таму што ў пасведчаннях пра смерць расстраляных не пішуць прычыну смерці, а ставяць прочырк), увесь час спрабавала згадаць, як жа яна галасавала ў 1996 г. на рэферэндуме.

*– Што яна тады думала на гэтую тэму?*

– Яна проста сядзела, абхапіўшы галаву рукамі, і казала: "Я не магу ўзгадаць, як жа я тады галасавала". Мы маўчалі. Але выглядала на тое, што яна галасавала, хутчэй, "за". Смяротнае пакаранне ўяўляецца мерай справядлівасці. Але ніхто не думае, як яго выконваюць і што адбываецца ўвогуле ў гэтых камерах смяротнікаў.

*– А чаму тэма нязручная для журналістаў? Таму што*

*ніхто не хоча станавіцца на нейкі пэўны бок, абараняць чалавека, якога быццам бы ўсе лічаць злачынцам?*

– Гэты момант таксама існуе, але яшчэ ёсць праблема ў тым, каб здабыць гэтую інфармацыю, таму што яна заўсёды была закрытая. Мы памятаем, што ў сталінскія часы гэтыя расстрэлы заўсёды здзяйсняліся ўначы. Таму што людзі, якія выконваюць смяротнае пакаранне, гэтыя прафесійныя ка́ты, разумеюць, што яны ўсё ж такі забойцы. Яны гэта разумеюць лепш, чым прыхільнікі смяротнага пакарання, якія крычаць, што ўсіх збачэнцаў, педафілаў трэба караць. Людзі, якія сапраўды трымаюць у руках гэты расстрэльны пісталет, дакладна разумеюць, што яны робяць. І гэтая тэма закрытая. Вакол яе ёсць заслона таямнічасці. Пра яе не любяць гаварыць ні суддзі, якія абвяшчаюць прысуды, ні людзі, якія здзяйсняюць гэта, і ніхто іншы, датычны да гэтай тэмы.

*– Калі мы гаворым пра грамадства, то я як журналіст, магчыма, магу паўплываць на грамадскую думку, якая сёння пануе ў Беларусі. А з якімі аргументамі Вы як праваабаронца параілі б мне ісці ў народ, пра што людзям гаварыць? Чаму мы мусім быць супраць смяротнага пакарання сёння?*

– Усе аргументы супраць смяротнага пакарання ўжо даўно вядомыя, як і вядомыя аргументы за яго. Колькі існуе чалавецтва, столькі існуе смяротнае пакаранне, а асноўныя аргументы былі сфармуляваны Чэзарэ Бекарыя яшчэ ў XVIII ст. і застаюцца да нашага часу нязменнымі. Мы павінны даносіць да людзей, што існуюць людзі, якім

дзяржава выдае, фактычна, гэтае права на забойства. Прафесійныя ка́ты, якія забіваюць ад імя дзяржавы. Мы павінны гаварыць пра тое, што не толькі крымінальных злачынцаў караюць смерцю, але ёсць і кары за палітычныя погляды. Мы не павінны забываць пра масавыя рэпрэсіі. Гэта таксама смяротнае пакаранне. У нас часам аддзяляюць тое ж самае смяротнае пакаранне – расстрэл у Курапатах. Мы павінны памятаць, што смяротнае пакаранне з'яўляецца катаваннем для сваякоў расстраляных. Цела не выдаецца сваякам для пахавання, і час, калі адбываецца кара, таксама не паведамляецца. І гэтыя людзі ўвесь час жывуць у такім стане, што кожную хвіліну гэта можа адбыцца. Мы павінны памятаць і пра судовую памылку.

*– Я пра гэта таксама хацеў сказаць, што мы павінны памятаць пра тое, што ні кожны можа сёння верыць суду, і, здаецца, у Беларусі ўжо быў такі прыклад, калі расстралялі невінаватага чалавека.*

– Так, гэта класічны прыклад, калі за забойствы, якія здзяйсняў маньяк Міхасевіч, было 13 чалавек асуджана, а адзін з іх, Цярэня, расстраляны. І яшчэ – неэфектыўнасць смяротнага пакарання, таму што ўжо даўно даказана, што ў момант здзяйснення злачынства чалавек не думае пра смяротнае пакаранне, а ў нашай сітуацыі вельмі часта ён нават і не ведае, што яно ў нашай краіне існуе.

*– Калі мы будзем працягваць гаварыць пра беларускае грамадства, як Вы лічыце, ці гатовае яно сёння да абмеркавання*

*тэмы смяротнага пакарання? Ці гатовае яно сёння слухаць вось гэтыя аргументы, якія мы толькі што пералічылі?*

– Так, да абмеркавання гатовае. Гэта паказвае тое, што кожны фільм ці кожны праект, які звязаны са смяротным пакараннем, выклікае шмат каментароў як "за", так і "супраць". Тэма гэтая цікавіць грамадства, але прымаць рашэнне пра адмену смяротнага пакарання – гэта ўсё ж такі не тэма рэферэндуму, гэтае рашэнне павінна прымацца палітычнымі элітамі. Ёсць яшчэ адзін аргумент за адмену смяротнага пакарання – яно перашкаджае руху Беларусі ў цывілізаваны свет, у Еўропу, туды, дзе ўжо даўно адмовіліся ад смяротнага пакарання.

*– Вы сказалі пра каментары ў інтэрнэт-форумах. Можаце неяк апісаць атмасферу гэтых каментароў? Якія яны?*

– Вельмі часта яны бываюць агрэсіўныя. Калі чалавек проста выплёсквае агрэсію на форум. І яны, калі ўвесь час адсочваеш, уражваюць сваёй стандартнасцю. Заўсёды фігуруе: "пасадзіць на кол", "педафіл" і "на галоўнай плошчы". У пазітыўных каментарах пішуць, што гэта забойства, што яно нічога не вырашае. Вельмі важным з'яўляецца яшчэ рэлігійны аргумент: "Не забі!"

*– За апошнія 17 гадоў у Беларусі было здзейснена каля 400 расстрэлаў. Што, на Вашу думку, перашкаджае Беларусі адмяніць смяротнае пакаранне?*

– Пытанне ўвогуле тычыцца выканання правоў чалавека ў Беларусі. Любы таталітарны рэжым захоўвае

смяротнае пакаранне, якое, з аднаго боку, застрашвае людзей, а з іншага – паказвае, што дзяржава моцная і можа абараніць кожнага грамадзяніна ад злачынцы. Гэтую праблему трэба асвятляць рознымі сродкамі, трэба паказваць гэта і праз мастацкія творы. Цяпер мы працуем над праектам “Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання”.

*20 чэрвеня 2014 г.*

## ЯК ПІСАЦЬ ПРА СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ?

Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе дагэтуль прымяняецца смяротнае пакаранне. Здавалася б, агульнавядомы факт. Аднак сацыялагічныя даследаванні паказваюць, што беларусы “цалкам не дасведчаныя пра тое, што адбываецца ў краіне” – трэць грамадзян перакананы, што ў Беларусі ўведзены мараторый на смяротнае пакаранне.

Эксперты кажуць пра недастатковае адлюстраванне тэмы ў СМІ. Праваабаронца **Андрэй Палуда** распавядае, як правільна пісаць пра смяротнае пакаранне і якія памылкі найчасцей дапускаюць журналісты.

– *Спадар Андрэй, ці дастаткова асвятляецца тэма смяротнага пакарання ў беларускіх медыя?*

– На мой погляд, недастаткова. Калі адсачыць публікацыі на гэтую тэму, то яны ідуць па сінусоідзе – артыкулы з’яўляюцца, калі ідзе разгляд гучных

крымінальных спраў. Але гэтага недастаткова, паколькі і па сацыялагічных апытаннях, і па каментарах пад тэкстамі мы бачым, што насельніцтву не хапае інфармацыі. Напрыклад, у каментарах часта можна знайсці меркаванне, што нельга даваць злачынцу пажыццёвае зняволенне замест смяротнага пакарання, бо яго могуць датэрмінова выпусціць. На чым грунтуецца такое меркаванне? На стэрэатыпах, бо насамрэч яшчэ ніводны беларус, асуджаны на пажыццёвае, не выйшаў на волю датэрмінова.

*– Пры апісанні крымінальнай справы ў артыкулах часта закранаецца прыватнае жыццё як злачынцы, так і ахвяры. Ці варта журналістам засяроджваць на гэтым увагу?*

– Адным з прынцыпаў праваабаронцаў з'яўляецца – "не нашкодзь". Тое самае я параіў бы і журналістам. Часам пераказ акалічнасцей прыватнага жыцця пераварочвае гісторыю дагары нагамі. Некаторыя журналісты, каб атрымаць больш рэйтынгавы матэрыял, пачынаюць працаваць, як жоўтая прэса, – апісваць не факты, а сітуацыю праз сваё асабістае ўспрыманне. Прывяду прыклад. У 1998 г. быў расстраляны Іван Фамін. Пра яго пісалі ў газетах, што ён забіваў катоў, выколваў ім вочы, фарміруючы ў чытачоў меркаванне, што гэта быў чалавек жорсткі, здольны на самае горшае. Але, на жаль, ніхто з журналістаў не дакапаўся да ісціны – Фамін сябе агаварыў, яго расстралялі памылкова. Гэта пасля пацвердзіў былы начальнік СІЗА № 1 г. Мінска Алег

Алкаеў, які кіраваў "расстрэльнай камандай". Таму журналістам варта больш глыбока вывучаць тэму, камунікаваць з адвакатамі, праваабаронцамі і сваякамі з абодвух бакоў справы.

*– Але здабываць інфармацыю на тэму смяротнага пакарання дастаткова складана. Праваахоўныя органы і суды часта проста адмаўляюцца ад каментароў. А некаторыя факты атрымаць увогуле немагчыма – месца пахавання расстралянага чалавека не паведамляюць нават сваякам…*

– Сапраўды, тэма смяротнага пакарання ў Беларусі знаходзіцца пад заслонай таямнічасці. І гэтую сітуацыю ярка адлюстроўвае крымінальная справа Эдуарда Лыкава, якога ў 2013 г. прыгаварылі да расстрэлу. Праваабаронцам стала вядома пра гэта, калі ўжо было вынесена рашэнне Мінскага абласнога суда, хоць дагэтуль Лыкаў больш за год знаходзіўся ў СІЗА. Але ніводны чалавек з праваахоўнай сістэмы не паведаміў пра гэта прэсе. Пры гэтым Лыкава абвінавацілі ў пяці забойствах, гэта ж не мех бульбы скрасці! Але толькі калі праваабаронцы паведамілі пра гэтую справу, пракуратура, суд і Следчы камітэт пачалі размаўляць з журналістамі. Таму я параіў бы журналістам адсочваць інфармацыю на сайце кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі", цікавіцца навінамі ў праваабаронцаў, адвакатаў і часцей турбаваць запытамі суды і праваахоўныя органы.

*– Ведаю, што ў межах кампаніі "Праваабаронцы супраць*

*смяротнага пакарання" Вы праводзіце маніторынг публікацый. Якія памылкі найчасцей дапускаюць журналісты?*

Як адзначала мая калега Наста Лойка, часам журналісты дапускаюць памылкі ў юрыдычнай тэрміналогіі, калі пішуць на праваабарончую тэматыку. Але я хацеў бы засяродзіцца на важным прынцыпе, якім некаторыя прадстаўнікі прэсы грэбуюць. Гаворка пра прэзумпцыю невінаватасці. Пакуль рашэнне суда не ўступіла ў сілу, ніхто не мае права пісаць, што чалавек злачынца.

Возьмем справу Аляксандра Грунова, асуджанага сёлета за забойства студэнткі Наталлі Емяльянчыкавай у Гомелі. Інфармацыя ад пачатку падавалася так, што ён не быў знаёмы з ахвярай і яе сям'ёй, нічога не пісалі пра канфлікт, які адбыўся паміж імі і які стаў прычынай агрэсіі Грунова. Каб чытач зразумеў, у чым там справа, варта было напісаць, што Груноў і Емяльянчыкава неаднаразова адпачывалі ў адных кампаніях, што яны былі з адной сацыяльнай групы, а не як пісалі, што яна – студэнтка-выдатніца, а ён былы зэк і ўвогуле ледзь не апошні чалавек у горадзе. Брат забітай сябраваў з Груновым, лічыў яго аўтарытэтам. Ён таксама быў асуджаны, і калі даведаўся, якім зневажальным словам сястра пакрыўдзіла Аляксандра, заклікаў яе папрасіць прабачэння, бо для тых, хто сядзеў, гэтая абраза вельмі сур'ёзная. Я не апраўдваю дзеянні Грунова. Гаворка ідзе пра тое, што трэба поўна падаваць карціну, калі мы

хочам, каб чытач зразумеў, чаму ўсё так адбылося. І калі мы хочам, каб болей такія злачынствы не паўтараліся. Яшчэ адзін важны момант – мова варожасці ў СМІ. Журналісты, якія пішуць на крымінальную тэматыку, вельмі часта ў матэрыялах падкрэсліваюць факты, датычныя нацыянальнасці і сацыяльнага статусу злачынцы. Напрыклад, на "Беларусь-1" быў зняты фільм пра Рыгора Юзэпчука. У сюжэце ўвесь час падкрэслівалася, што злачынца быў цыганом, хоць пра ягонага саўдзельніка ні разу не сказалі, што ён беларус.

Праваабаронца Валянцін Стэфановіч тады звяртаўся да старшыні Белтэлерадыёкампаніі з заклікам спыніць распальванне варожасці па нацыянальнай прыкмеце ў эфіры нацыянальнага тэлеканала. Давыдзька, дарэчы, адказаў, што з супрацоўнікамі аддзела крымінальных навін была праведзена тлумачальная гутарка.

*Часам з'яўляюцца публікацыі, у загаловак якіх вынесена словазлучэнне "смяротнае пакаранне", хоць калі пачынаеш чытаць артыкул, разумееш, што наўрад ці абвінаваўца будзе запрошваць такое суворае пакаранне. Ці варта, на Ваш погляд, максімальную санкцыю за злачынства выносіць у загаловак?*

Журналісты імкнуцца зацікавіць чытача, таму зразумела, чаму "смяротнае пакаранне" або "расстрэл" трапляюць у загаловак. Тэма смяротнага пакарання заўсёды збірае шмат праглядаў і каментароў. З аднаго боку, гэта яшчэ адно нагадванне. Адзначу, што многія беларусы, наглядзеўшыся НТБ, лічаць, што ў нас таксама

ўведзены мараторый, не адрозніваючы рускае тэлебачанне ад беларускага. З іншага боку, гэтым нельга злоўжываць, каб не згубіць давер чытачоў.

*Паводле mediakritika.by. 23 верасня 2014 г.*

## "ТАЯМНІЦЫ СЛЕДСТВА" РЫГОРА ЮЗЭПЧУКА

Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь не задаволіў касацыйную скаргу асуджанага да смяротнага пакарання вязня магілёўскай турмы Рыгора Юзэпчука. Прысуд, вынесены Магілёўскім абласным судом па справе аб забойстве Юзэпчуком свайго сукамерніка, уступіў у законную сілу. Фактычна ўсе прававыя механізмы абароны на нацыянальным узроўні выкарыстаны, засталіся наглядная інстанцыя і спадзяванне на літасць прэзідэнта. Але шанцаў, што неаднаразова судзімы, у тым ліку за забойства, Рыгор Юзэпчук будзе памілаваны – мінімальныя. Між тым акалічнасці гэтай справы не такія ўжо адназначныя і наводзяць на пэўныя роздумы.

Афіцыйная версія гэтага забойства была агучана ў сюжэце праграмы "Таямніцы следства" на нацыянальным тэлеканале "Беларусь-1" 1 чэрвеня 2013 г. Паводле версіі следства і прысуду суда, Рыгор Юзэпчук, згуляўшы з сукамернікам Ігарам Ходанавым у даміно на жыццё, пасля атрыманай перамогі з дапамогай яшчэ аднаго

сукамерніка Паўла Петракова задушыў пацярпелага І. Ходанава.

Аднак, калі ўважліва прагледзець гэты сюжэт, можна зрабіць выснову, што абодва сукамернікі – і І. Ходанаў, і П. Петракоў належалі да катэгорыі асуджаных з "нізкім сацыяльным статусам". У праграме фактычна наўпрост гаворыцца, што яны былі ў інтымных стасунках паміж сабой і належалі да вышэйазначанай катэгорыі. Вядома, што ў месцах пазбаўлення волі такія асуджаныя нярэдка робяцца аб'ектам гвалту з боку іншых асуджаных, і менавіта таму адміністрацыі папраўчых установ часта ўтрымліваюць іх асобна ад іншых зняволеных. Камеры, дзе ўтрымліваюць асуджаных "з нізкім сацыяльным статусам", маюць такі самы статус. Паводле няпісаных крымінальных правілаў паводзін, асуджаныя, якія патрапілі ў такія камеры і не адносяцца да адпаведнага "нізкага сацыяльнага статусу", павінны як мага хутчэй выйсці з іх, інакш яны рызыкуюць атрымаць такі ж статус. Прычым не мае значэння, як асуджаны вырвецца адтуль – нападзе на канваіра, ускрые вены ці нейкім іншым чынам пашкодзіць сябе альбо… заб'е насельнікаў такой камеры. Вельмі часта ўсе гэтыя акалічнасці крымінальнага жыцця адміністрацыя папраўчых установ выкарыстоўвае ў сваіх мэтах. Не раз прыходзілася чуць пра пагрозы ў дачыненні да вязняў аб магчымым гвалце з боку іншых асуджаных. Вось для такіх мэтаў і выкарыстоўваюць падобнага кшталту камеры. Не выйшаў з такой камеры –

значыць, атрымаеш “нізкі сацыяльны статус”, а чым гэта пагражае для яго носьбіта ў месцах пазбаўлення волі, тлумачыць, напэўна, будзе залішне. Грамадства ў нас досыць крыміналізаванае, шмат хто праз турмы прайшоў, правілы ведае.

Дык вось у мяне ўзнікла пытанне: а што ў такой камеры рабіў Рыгор Юзэпчук? У праграме “Таямніцы следства” гаворыцца пра “нізкі сацыяльны статус” толькі двух асуджаных – пацярпелага І. Ходанава і саўдзельніка злачынства П. Петракова. Значыць, Р. Юзэпчук, паводле сюжэта, да такой катэгорыі не адносіўся. Чаму ж ён тады апынуўся з імі ў адной камеры? Магчыма, адміністрацыя папраўчай установы, ведаючы крымінальныя правілы, адмыслова ў выглядзе пакарання, помсты і ў мэтах далейшай кампраметацыі перавяла туды Юзэпчука? Аднак і неаднаразова судзімы Юзэпчук (апошні тэрмін – 25 гадоў зняволення за забойства), выдатна ведаючы, чым яму пагражае знаходжанне ў камеры для асуджаных з “нізкім сацыяльным статусам”, абраў адзін з варыянтаў дзеянняў у той сітуацыі – забойства сукамернікаў. Прычым у момант забойства “вочка” камеры было заклеена газетай. Пры гэтым ахова чамусьці не спяшалася адчыніць камеру і праверыць, што там адбываецца, двойчы абмежаваўшыся вуснымі патрабаваннямі адкрыць “вочка” ў дзвярах. Версія з даміно магла з’явіцца пазней, каб зняць адказнасць з адміністрацыі турмы. Юзэпчуку маглі паабяцаць захаваць жыццё за

супрацоўніцтва са следствам і падтрыманне такой версіі, якая мне ўяўляецца досыць непраўдападобнай. Цяжка паверыць, што Юзэпчук стаў бы гуляць у даміно з асуджанымі, якія, па сутнасці, з'яўляюцца недатыкальнымі, паводле крымінальных правіл. З імі нават вітацца забаронена і сядзець за адным сталом, а не тое што ў настольныя гульні гуляць. З сюжэта ў праграме "Таямніцы следства" таксама не зусім зразумелыя матывы ўдзелу ў забойстве свайго найлепшага сябра саўдзельніка злачынства П. Петракова. З пададзеных у сюжэце паказанняў П. Петракова выглядала на тое, што Юзэпчук змусіў яго да ўдзелу ў забойстве І. Ходанава, магчыма, пад пагрозай смерці. Акрамя гэтага, мы валодаем інфармацыяй, што камера, дзе ўтрымліваліся І. Ходанаў і П. Петракоў, сапраўды мела "нізкі сацыяльны статус".

Вядома, усё гэта толькі мае здагадкі і развагі пасля прагляду сюжэта ў праграме "Таямніцы следства" на тэлеканале "Беларусь-1", але, пагадзіцеся, што ўсе гэтыя акалічнасці выклікаюць шмат пытанняў. Толькі невядома, ці вывучалі ўсё гэта Магілёўскі абласны суд, а затым і калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда, ці звяртаў на гэта ўвагу следства і судоў адвакат, прызначаны Юзэпчуку дзяржавай? Злачынства здарылася ў сценах турмы, дзе адміністрацыя павінна прымаць усе захады па захаванні жыцця і здароўя асуджаных. У выпадку ж, калі перамяшчэнне Юзэпчука ў

дадзеную камеру было зроблена па ініцыятыве адміністрацыі ўстановы наўмысна, гэта азначае, што такім чынам былі пастаўлены пад пагрозу жыццё і здароўе асуджаных І. Ходанава, П. Петракова і самога Юзэпчука, які мог прычыніць сабе шкоду шляхам нанясення пашкоджанняў ці здзейсніць самагубства. Канешне, усе гэтыя акалічнасці ні ў якім разе не апраўдваюць забойцу, але яны павінны былі быць улічаны і ацэнены судом пры вызначэнні матываў, характару здзейсненага злачынства, што, у сваю чаргу, магло паўплываць на вердыкт суда. Права на справядлівы і бесстаронні суд павінна быць гарантавана ўсім, незалежна ад таго, хто гэтыя людзі і якія злачынствы ім інкрымінаваны. Гэта і ёсць сутнасць дэмакратычнай, прававой дзяржавы, да пабудовы якой мы мусім імкнуцца.

Аднак праўду пра гэтае злачынства мы, напэўна, ужо не даведаемся. Юзэпчук сядзіць у камеры смяротнікаў у спецкалідоры "Валадаркі" ў чаканні выкання смяротнага прысуду, прычым, паводле адміністрацыі СІЗА, ён нібыта адмовіўся ад адваката. І я не здзіўлюся, калі расстрэл Юзэпчука адбудзецца вельмі хутка, як гэта ўжо неаднаразова было, і ўсе "таямніцы следства" па гэтай справе будуць надзейна схаваны разам з целам Юзэпчука ў невядомым месцы.

Валянцін Стэфановіч
*25 лістапада 2014 г.*

# ПРАВА НА ЖЫЦЦЁ

Мне давялося забіраць рэчы расстралянага чалавека. Забіраць разам з яго маці, ад чаго гэта было асабліва цяжка псіхалагічна. Забойства аднаго чалавека нельга выправіць смерцю іншага. Гэта ў Старым Запавеце быў прынцып “вока за вока, зуб за зуб”. Цяперашні хрысціянскі свет жыве пераважна паводле евангельскіх прынцыпаў Новага Запавету. Смяротнае пакаранне ліквідавана ў Еўропе ўсюды. І толькі Рэспубліка Беларусь застаецца апошняй выспай дзікай расправы над злачынцамі, узорам сярэднявечнага дзікунства.

Мабільныя тэлефоны, пустое партманэ, плыты і касеты расстралянага, нарэшце, ягоныя дзяга і пантофлі… Дзве кардонныя скрынкі рэчаў, якія застаюцца маці. Сама яна дагэтуль не верыць, што яе сын здзейсніў такое страшнае злачынства. У гэта сапраўды цяжка паверыць, калі чытаеш ягоныя лісты, якія ён пісаў ужо ў зняволенні, чакаючы спярша найгоршага прысуду, а пасля непазбежнага яго выканання. “Убыл по приговору” – так гэта называецца на іхняй нялюдскай мове, якая заўсёды камуфлюе і хавае сапраўдны сэнс з’явы. Дзейнае заканадаўства Рэспублікі Беларусь прадугледжвае не толькі расстрэл за асабліва цяжкія злачынствы, у ім закладзена таксама фактычнае катаванне блізкіх падсуднага. Цела расстралянага,

паводле яшчэ сталінскага палажэння закона, сваякам не аддаецца, а месца яго пахавання таксама не паведамляецца. У дзяржаве, якую цяжка назваць прававой, гэта можа спараджаць розныя домыслы – ці сапраўды расстралялі чалавека, ці не выкарысталі яго цела для нейкіх доследаў, у анатамічных мэтах? А з іншага боку, спараджае ў сваякоў асуджанага на смерць ілюзорную надзею на тое, што ён жывы. Сапраўды вельмі жорсткі від псіхалагічнага катавання!..

Не ведаю, як вялося следства ў канкрэтным выпадку, але нават беглы агляд зместу калекцыі музыкі гэтага асуджанага на смерць маладога хлопца прыводзіць да высновы, што з псіхікай у яго былі праблемы, што здаровы чалавек такога слухаць не будзе. А псіхічна хворых нельга забіваць, іх трэба ізаляваць ад грамадства, але ніяк не забіваць. Але закон фактычна не пакідае выбару суддзі.

Пакаранне смерцю ніколькі не змяншае зло, а толькі памнажае яго і павялічвае нянавісць. Як адчувае сябе пасля абвяшчэння такога прысуду суддзя, які нібыта ўсяго толькі выканаў заканадаўства, што яму сніцца, як адбіваюцца на ім праклёны іншых? А нехта ж мусіць яшчэ націснуць курок, скіраваўшы рулю агнястрэльнай зброі ў патыліцу асуджанага да смерці. Колькі такіх прысудаў выканае гэты чалавек, што будзе ўрэшце з яго псіхікай праз пэўны час? Ну і канешне, імавернасць судовых памылак. Аднаго гэтага аргумента, як мне падаецца,

дастаткова для таго, каб адмяніць смяротнае пакаранне ці, прынамсі, абвясціць на яго мараторый. Ужо наколькі адладжаная судовая сістэма ЗША, дзе таксама ў многіх штатах дагэтуль практыкуецца смяротнае пакаранне. Але і там было афіцыйна агучана, што за 80 гадоў на электрычнае крэсла паслалі каля 20 нявінных ахвяраў.

Еўропа сапраўды адмовілася юрыдычна ад смяротнага пакарання. Толькі такая прырода чалавечай супольнасці, што яна ніяк не можа навучыцца жыць без знішчэння сабе падобнага. З'явіліся вычварэнскія плыні, якія наўпрост ідуць супраць усіх законаў прыроды, супраць Божага провіду, супраць звычайнай чалавечнасці. І вось ужо на поўным сур'ёзе цягнуць на разгляд законапраекты, якія прадугледжваюць забарону жанчынам нараджаць да дасягнення пэўнага тэрміну гадоў. Прапаноўваецца стэрылізацыя і іншыя злачынствы. Пра аборты тут ужо і не кажу – тыя, што некалі нарадзіліся самі адмаўляюць у праве з'явіцца на свет іншаму чалавеку. Маштабы гэтай з'явы проста прыводзяць у жах. Так што, на жаль, нічога не мяняецца ў прыродзе чалавека праз стагоддзі. Людзі, якія самі хочуць жыць і жыць доўга, адмаўляюць у гэтым праве іншым. Але думаць пра гэта звычайна не хочуць…

Уладзімір Хільмановіч

*З блога на Беларускім Радыё Рацыя. 3 верасня 2014 г.*

## ФОРМА СМЯРОТНІКА

Вольга Грунова, маці расстралянага за забойства сваёй знаёмай Аляксандра Грунова, атрымала па пошце турэмную робу сына і абутак, у якім ён знаходзіўся ў камеры смяротнікаў. Усё гэта было даслана пасылкай “да запатрабавання”.

Форма смяротніка складаецца з двух прадметаў – блакітна-шэрага колеру курткі і такіх самых нагавіц. На куртцы напісаны белай фарбай няроўныя літары “ИМН” – “выключная мера пакарання”.

Гэта другі вядомы факт, калі форма смяротніка (не асабістая рэч, а выдадзеная дзяржавай) дасылаецца сваякам. І ёсць пытанне: хто прыдумаў высылаць жудасныя пасылкі?

З атрыманнем пасылкі Вольга Грунова зразумела, што прысуд у адносінах яе сына выкананы. Паводле арт. 175 Крымінальна-выканаўчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, “смяротнае пакаранне выконваецца непублічна шляхам расстрэлу. Цела для пахавання не выдаецца, аб месцы пахавання не паведамляецца”.

Хутчэй за ўсё, перад тым, як выслаць, форму мылі, але яна захоўвае пах турмы, пах смерці. Вопратка з дня ў дзень на целе смяротніка ўбірала страх і чаканне расстрэлу. Асуджаныя да апошняга не ведаюць часу выканання прысуду. Іх дні і ночы праходзяць у чаканні непазбежнага, у прыслухоўванні да крокаў на калідоры. Слых і адчуванні за гэты час абвастраюцца неверагодна.

Момант, калі злачынца ператвараецца ў ахвяру,

вельмі тонкі. Прыхільнікі смяротнага пакарання кажуць, што менавіта ў такім пераўтварэнні і ёсць сэнс смяротнага пакарання.

У красавіку 2011 г. падчас здымак фільма “Убыл по приговору” мы былі Берліне ў былога кіраўніка “расстрэльнай каманды” Алега Алкаева. Калі здымкі скончыліся, наш аператар, які маўчаў падчас інтэрв'ю, сказаў, што хоча задаць сваё пытанне. Пытанне было такое: «У якім з мастацкіх фільмаў найбольш дакладна паказана смяротнае пакаранне? Можа быць, у фільме “Катынь”?» У адказ Алег Алкаеў параіў паглядзець фільм “Чэкіст” і патлумачыў, што менавіта там перададзены псіхалагічны складнік смяротнага пакарання і той атмасферы, якая ўзнікае вакол працэдуры выканання смяротнага прысуду.

Хто не глядзеў і каму цікава, можа паглядзець фільм – ён даступны ў інтэрнэце.

Прыхільнікі смяротнага пакарання абвінавачваюць актывістаў супраць смяротнага пакарання ў тым, што тыя быццам бы “абараняюць злачынцаў” і не думаюць пра ахвяр злачынстваў.

Шмат разоў даводзілася чуць падобныя папрокі і ў свой адрас. Але смяротнае пакаранне само па сабе – зло. Гэта яшчэ адно забойства, а выканаўца яго – яшчэ адзін забойца. І кожнае смяротнае пакаранне толькі павялічвае колькасць зла на Зямлі.

Паліна Сцепаненка

*З блога на Беларускім Радыё Рацыя. 25 лістапада 2014 г.*

# АБАРАНІЦЬ ЧАЛАВЕКА

Калісьці даўно, як толькі давялося прыехаць у Гародню, давялося паразмаўляць з адным вядомым выкладчыкам-біёлагам Гродзенскага ўніверсітэта. Размова ішла пра народы ды нацыі, пра цывілізацыі, якія тыя народы стварылі, і ўвогуле пра тое, што ёсць насамрэч цывілізацыя. Тады быў вялікі ўсплёск нацыянальнай свядомасці беларусаў. Буяў той самы нацыянальны пад’ём, які і здужаў аднавіць беларускую незалежнасць. Таму і інтэлектуальныя размовы таго перыяду часта тычыліся нашых нацыянальных вытокаў і нашай нацыянальнай цывілізацыі, якую калісьці пачалі будаваць нашы славутыя прашчуры і якую нам і нашым нашчадкам трэба ўмацоўваць, развіваць і ўдасканальваць.

А як ты думаеш, які духоўны парог пераадолелі людзі, каб ад дзікунскага першабытнага стану пераўтварыцца ў постацяў, здольных пачаць будаваць цывілізацыю сучасных чалавекаў? – нечакана спытаў ён у мяне.

А што, такі парог ёсць? – адказаў я пытаннем на пытанне.

Ёсць, – упэўнена заявіў ён. – У розных месцах людзі ў розны час пераадольвалі гэты бар’ер. Але гэты вызначальны пераходны момант ёсць ва ўсіх.

І што гэта? – з заміраннем у сэрцы спытаў я, чакаючы нейкага адказу, пра які і сам думаў, што здагадваюся. Але тое, што я пачуў, разам з высновамі пра наступны парог, які чалавецтва мусіць пераадолець на сваёй дарозе да ўдасканалення цывілізацыі, прымусіла мяне задумацца на доўгія гады і нават на дзесяцігоддзі.

Першы парог да цывілізацыі чалавек перайшоў тады, калі перастаў есці іншага чалавека. Некалі канібалізм быў дапушчальны. Цяпер жа людзі ў большасці сваёй не могуць з’есці чалавека. І нават калі паміраюць з голаду, ім агідна гэта рабіць. Менавіта гэты духоўны выбар паспрыяў пабудове і развіццю першаснай чалавечай цывілізацыі. А цяпер людзі мусяць перайсці наступную маральна-этычную рэвалюцыю, калі чалавек не зможа забіць іншага чалавека ні ў якіх варунках. Яму будзе гэтак жа агідна забіць, як сёння з’есці. І гэта будзе новы вялікі этап развіцця сапраўднай чалавечай цывілізацыі.

З гадамі я ўсё часцей задумваўся над яго словамі. А як заняўся абаронай правоў чалавека, то ўбачыў і прамую аналогію паміж цывілізаванасцю людзей і адносінамі іх да забойства чалавека. І ўсё больш становіцца прыкра і горка, што наша беларуская дзяржава сёння ёсць адзінай у Еўропе, хто практыкуе забойства чалавека праз смяротнае пакаранне. Мы адзіныя, хто адарваўся ад агульнаеўрапейскай цывілізацыі ў гэтым кірунку. Так, свет жорсткі і неадназначны. Людзі гінуць на войнах і ў канфліктах. Яны мусяць ваяваць, каб бараніць сваю

Айчыну і свае ідэалы. Але ж першы крок да змены поглядаў на забойства рабіць трэба. І яго зрабіць можна, як гэта зрабіла ўся астатняя Еўропа. Не дазволіць дзяржаве забіваць чалавека праз смяротнае пакаранне. Гэта не толькі змякчае мажлівасць судовай памылкі. Гэта не толькі пазбаўляе тых, хто мае ўладу, мажлівасці выкарыстоўваць дадзеную ненармальную нібыта норму для сваіх мэтаў. Гэта яшчэ і мяняе стаўленне грамадства да жыцця кожнага асобнага індывіда. Гэта першы крок да разумення, што чалавека забіваць недапушчальна, агідна і не па-чалавечы. Гэта першы крок да той цывілізацыі людзей, дзе ніхто ні пры якіх варунках не зможа забіць іншага чалавека, як на цяперашняй стадыі развіцця не можа яго з’есці. Менавіта дзеля гэтага беларускія праваабаронцы ўжо не першы раз абвясцілі Тыдзень супраць смяротнага пакарання ў Беларусі, які будзе праходзіць да дзясятага кастрычніка. Тыдзень абвостранай публічнай працы, якая і так вядзецца штодзённа, але ў гэты перыяд надзвычай масава і скаардынавана. Каб беларускае грамадства глыбей задумалася пра гэтую праблему. Пра тое, што мы, можа, таму і ў іншых аспектах развіцця не так шчыльна, як хацелася б, крочым разам з астатняй Еўропай, што не ўцямілі яшчэ, што наш цывілізацыйны шлях ляжыць у агульнаеўрапейскім стаўленні да розных аспектаў, але ў першую чаргу да чалавечага жыцця. І што калі мы чуем словы “забіць чалавека”, то гэта мусіць выклікаць толькі

адно жаданне – абараніць таго чалавека.

Віктар Сазонаў

*З блога на Беларускім Радыё Рацыя. 4 кастрычніка 2014 г.*

## ЛЕАНІД СУДАЛЕНКА: ЧАЛАВЕК НЕДАСВЕДЧАНЫ МОЖА СКАЗАЦЬ, ШТО МЫ “АБАРАНЯЕМ ЗАБОЙЦАЎ”. ГЭТА НЕ ТАК

Гомельскі юрыст Леанід Судаленка, які ў межах кампаніі “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі” рыхтаваў скаргу ў ААН Аляксандра Грунова, у інтэрв’ю, дадзеным у лістападзе 2013 г., разважае пра неэфектыўнасць смяротнай кары як меры пакарання.

*Вы займаліся падрыхтоўкай скаргі ў ААН Аляксандра Грунова – абвінавачанага па рэзананснай справе пра забойства гомельскай студэнткі… Часта можна сутыкнуцца з такім стэрэатыпам – і ў СМІ, і на ўзроўні побытавай свядомасці, што праваабаронцы, якія выступаюць супраць смяротнага пакарання, “абараняюць забойцаў”.*

Калі чалавек недасведчаны, то ён можа сказаць, што праваабаронца “абараняе забойцаў”. Насамрэч гэта не так. Напрыклад, калі я працаваў па справе Грунова, то быў такім “мосцікам” паміж маці Грунова, адвакатам Грунова і Камітэтам ААН. Меў даверанасць ад Грунова на працу з Камітэтам ААН. Але ў нацыянальнай судовай

сістэме я не маю права на яго абарону, гэтым займаюцца адвакаты. Я рыхтаваў і падрыхтаваў у Камітэт ААН скаргу ад імя Грунова, дзе адзначыў шэраг парушэнняў дзяржавай яго правоў, у тым ліку – права на жыццё. Справу Грунова Вярхоўны Суд накіраваў на перагляд. 26 лістапада пачаўся суд па пераглядзе… Гэта не значыць, што "праваабаронцы абараняюць забойцаў".

*– Дык каго і чаму абараняюць актывісты кампаніі за адмену смяротнага пакарання?*

– Мы, удзельнікі кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі", не даем ацэнак злачынстваў. Мы выступаем супраць смяротнай кары як меры пакарання. Жыццё ёсць каштоўнасць, гэта прызнаюць усе краіны Еўропы, і наша краіна мусіць далучыцца да гэтых краін, пайсці шляхам, якім пайшлі нашы найбліжэйшыя суседзі – Расія і Украіна. Выкарыстанне смяротнага пакарання ў XXI ст. – гэта проста дзікунства. І Беларуская праваслаўная царква выказваецца супраць смяротнага пакарання, кажа, што жыццё чалавеку дае Бог і забраць жыццё можа толькі Бог. А яшчэ судовыя памылкі… Мы памятаем выпадкі, калі расстрэльвалі невінаватых людзей. А смяротнае пакаранне мае незваротны характар – жыццё чалавеку не вернеш, калі будзе прызнана судовая памылка. Калі можна было б фантазіраваць і ўявіць, што пакаранне смерцю забойцы можа вярнуць жыццё, уваскрэсіць забітага ім чалавека, ахвяру – тады можна было б

гаварыць пра эфектыўнасць смяротнага пакарання. Але ніхто не верне жыццё забітаму чалавеку. Наша грамадства не гатова даць адказ на пытанне – ці патрэбна нам смяротнае пакаранне, гэта адбываецца, у тым ліку, з-за таго, што дзяржава не тлумачыць плюсы і мінусы смяротнага пакарання. Але гэта не толькі праблема нашага грамадства, у краінах, дзе адменена смяротная кара, шмат людзей выказваецца таксама за смяротную кару. Праблема смяротнага пакарання – не пытанне, якое вырашаецца на рэферэндумах. Гэта пытанне, якое вырашаюць эліты.

*– Ёсць такое меркаванне (таксама на побытавым узроўні), што калі адмяніць смяротнае пакаранне, пачнецца разгул злачынстваў, павялічыцца колькасць маньякаў і серыйных забойцаў. Наколькі эфектыўнае смяротнае пакаранне ў плане прафілактыкі злачынстваў?*

– Калі б смяротнае пакаранне з’яўлялася эфектыўным сродкам спынення цяжкіх злачынстваў, дык нам, напэўна, не давялося б гаварыць, што ў гэтым годзе да смяротнага пакарання ў Беларусі асуджаны тры чалавекі… І так штогод – то тры, то два. Сам факт выкарыстання ў краіне смяротнага пакарання не з’яўляецца стрымліваючым фактарам і не вядзе да зніжэння колькасці цяжкіх злачынстваў, за якія яно выносіцца. Ужо даказана, што забойца, які пазбаўляе жыцця сваю ахвяру, не думае пра тое, што яго таксама пазбавяць жыцця.

*– А што тычыцца справы Грунова?*

– Гэты чалавек хворы. Яго спачатку трэба лячыць, а пасля прыцягваць да адказнасці. Таму мы з адвакатам патрабавалі, каб правялі новую паглыбленую экспертызу стану яго псіхічнага здароўя. І акрамя смяротнага пакарання, ёсць такое пакаранне, як пажыццёвае зняволенне.

*28 лістапада 2013 г.*

## ВІКТАР АДЗІНОЧАНКА: РЭЛІГІЙНАЕ СТАЎЛЕННЕ ДА СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ – ГЭТА СПРАВА НЕ ПАЧУЦЦЯЎ, ГЭТА СПРАВА ВЕРЫ

Пра смяротнае пакаранне з пункту гледжання хрысціянскай этыкі распавядае Віктар Адзіночанка – рэлігіязнаўца, дацэнт кафедры філасофіі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Віктар Адзіночанка не толькі выкладае рэлігіязнаўства, але і з’яўляецца сябрам Беларускага Хельсінкскага Камітэта, ён эксперт па свабодзе сумлення.

*– Беларусь – гэта адзіная краіна ў Еўропе, дзе ёсць смяротнае пакаранне. Цікава, з якіх меркаванняў у еўрапейскіх краінах адмянілі смяротнае пакаранне? Ці ёсць у гэтым рэлігійны фактар? Ці спасылаліся еўрапейцы на аргументы рэлігійнага характару?*

Еўрапейская культура грунтуецца на хрысціянстве. І ў нашай краіне трэба адмяніць смяротнае пакаранне… А ці можа рэлігія неяк паспрыяць гэтаму? Так, можа. Тут, безумоўна, нам трэба звяртацца да хрысціянства. Мы ведаем, што ў мусульманскіх краінах ужываецца смяротнае пакаранне, нават за такія ўчынкі, як здрада мужу. Але гэта іншая культура.

Найбольш паслядоўна супраць смяротнага пакарання выступае Каталіцкі касцёл. Таксама ў нашай краіне супраць смяротнага пакарання рашуча выказаўся мітрапаліт Філарэт, ён сказаў, што жыццё чалавеку дае Бог, таму іншы чалавек не можа адбіраць жыццё, дадзенае Богам. Выказаўся за адмену смяротнага пакарання і Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Але трэба разумець, што сэнс гэтых выказванняў больш зразумелы хрысціянам-вернікам. У нас такіх вернікаў няшмат. Хоць значная частка насельніцтва лічыць, што належыць да той ці іншай канфесіі (у асноўным да праваслаўя). І калі мы гаворым пра рэлігійную самаідэнтыфікацыю, то можам сказаць (паводле розных сацыялагічных апытанняў), што амаль 90% насельніцтва ў нас з’яўляецца вернікамі. Але гэта ўсё мае дэкларатыўны характар. Калі мы ўжываем такі крытэрый, як наведванне храма, веданне святых тэкстаў, веданне нормаў паводзін і (што самае галоўнае) імкненне іх выканаць, то колькасць вернікаў будзе значна меншая… І вось для гэтых людзей хрысціянская

пазіцыя мае сэнс. Яны разумеюць, пра што ідзе размова.

*У чым адметнасць пазіцыі сапраўднага хрысціяніна ў дачыненні да смяротнага пакарання?*

– Хрысціянства грунтуецца на веры, што ў нас ёсць жыццё вечнае, што зямное жыццё мае сваю каштоўнасць, але яно не адзінае – будзе жыццё і пасля смерці. І перад такой рэчаіснасцю, калі чалавек верыць, што ёсць жыццё вечнае, некаторыя пытанні набываюць зусім іншы сэнс. У хрысціянстве гаворыцца, што трэба любіць сваіх ворагаў, трэба не адказваць злом на зло. Калі чалавек няверуючы, то для яго гэта… проста… такія добрыя пажаданні. Калі чалавек веруючы, ён адчувае прысутнасць Бога ў сваім жыцці і перспектыву жыцця вечнага. У вернікаў іншае стаўленне да злачынцаў. Яшчэ ёсць і персаналізаванае зло – д'ябал. І гэты д'ябал уводзіць людзей у зман.

*– А жыццё даецца чалавеку Богам, і іншы чалавек не мае права забіраць тое, чаго не даваў?*

– Для хрысціяніна гэты пастулат, што жыццё дадзена чалавеку Богам і іншы чалавек не можа распараджацца ім, мае сэнс. Калі чалавек верыць, што ёсць Бог, што кожны чалавек створаны Богам, то нельга караць смерцю іншага чалавека. Гэта грэх. Больш за тое, сур'ёзным грахом з'яўляецца жаданне смерці іншаму чалавеку, адчуванне нянавісці да яго. Хрысціянін павінен дараваць. Але ў той жа час хрысціянская царква прызнае, што дзяржава павінна выконваць свае функцыі, абараняць сваіх грамадзян, і, калі няма смяротнага пакарання, то павінна

быць такое турэмнае зняволенне, каб злачынцы не мелі магчымасці зноў здзейсніць злачынства.

Але як толькі людзям пачынаюць казаць пра канкрэтныя злачынствы, і гэтыя злачынствы маюць жахлівы характар, у іх адразу ўзнікае пачуццё абурэння, людзі кажуць: “гэтых гадаў, гэтых злачынцаў трэба пакараць смерцю”, “пасадзіць на кол”, “утапіць”. Я сам гэта чуў, бо прысутнічаў на судовых працэсах у якасці назіральніка. Натуральныя чалавечыя пачуцці – шкада ахвяру, шкада яе родзічаў… Я быў на судзе – забілі хлопца не з мэтай рабавання, а проста, каб забіць. Забілі яго з асаблівай жорсткасцю… Яны проста шукалі, каго б ім забіць. І гэта быў адзіны сын у маці. І калі я глядзеў на ягоную маці, мне вельмі шкада яе было. Я гэта ўспрыняў вельмі эмацыйна. І гэта былі натуральныя пачуцці, і калі нехта кажа, што ў яго такіх пачуццяў жалю і абурэння няма, то, я думаю, што ён падманвае. Але тут справа не ў пачуццях. Рэлігійнае стаўленне да смяротнага пакарання – гэта справа не пачуццяў, гэта справа веры.

Людзі, якіх пазбавілі самых блізкіх, хочуць, каб злачынцы зніклі і таксама не існавалі. Але гэта падманны шлях, бо дарагога чалавека ўжо няма, калі расстраляюць забойцаў, нічога не зменіцца. Таму хрысціянства прапаноўвае іншую пазіцыю – ёсць жыццё пасля смерці, і мы з дарагімі нам людзьмі сустрэнемся пасля смерці. А нявінна забітыя пакутнікі ідуць на Неба. Што тычыцца злачынцаў, то з пункту гледжання хрысціянства ім вельмі

важна раскаяцца. Забойствы нявінных людзей – гэта такія грахі, якія крычаць да Неба, і Бог карае за гэтыя грахі, калі чалавек не пакаецца. Але калі злачынцу расстрэльваюць (а ў нашых умовах гэта адбываецца хутка), ён нават не мае магчымасці зразумець, што ён зрабіў, не мае магчымасці пакаяння. Бо і ў іншых краінах ёсць смяротнае пакаранне, напрыклад, у ЗША, але там паміж прысудам і прывядзеннем яго ў выкананне праходзіць некалькі гадоў. І за гэты час чалавек, які разумее, што жыццё яго хутка скончыцца, можа ўсвядоміць, што ён зрабіў.

*– А ці можа быць кат, выканаўца прысудаў, добрым хрысціянінам?*

– Што тычыцца тых людзей, якія выконваюць прысуды… Гэта функцыя дзяржавы, яны выконваюць свае абавязкі, яны фармальна не адказваюць перад законам, але гэта справа іх сумлення. Як гэта ўзяць і забіць? Вядома, што ў Еўропе людзі, якія працуюць на бойнях, могуць працаваць толькі тры гады, потым іх пераводзяць на іншую працу, бо ў іх адбываецца трансфармацыя псіхікі. А як чалавеку забіваць іншых людзей, як ён пасля будзе жыць? Я не ведаю, што думаюць гэтыя людзі, што яны самі сабе кажуць. Што яны кажуць сваім дзецям? Яны забіваюць, але яны выконваюць свае функцыі, яны выконваюць загады. Але што з імі далей будзе, невядома. У Заходняй Еўропе, у старыя часы, ка́ты жылі асобна, гэтая прафесія лічылася ганебнай, ка́ту нават не падавалі рукі.

Калі мы звяртаемся да ка́та як да індывіда, як да чалавека, то гэта несумяшчальна з хрысціянствам. Што тычыцца таго, трапяць ка́ты ў пекла альбо ў рай, мы гэтага ведаць не можам. Гэта справа Бога. Бог вырашае. Гэтых людзей адпяваюць па хрысціянскім абрадзе, за іх моляцца і г. д. Але цяпер, ва ўмовах нашай культуры, ва ўмовах Беларусі, кат не можа быць добрым хрысціянінам. Але мы не можам асуджаць гэтых людзей. Магчыма, чалавек, які так рабіў, гэта асэнсаваў, і ён гаворыць, што гэта ненармальна. І такія выпадкі вядомыя… Але пакуль ён гэта робіць, то, што б ён ні казаў, якія б свечкі ні ставіў, колькі б разоў на тыдзень ні наведваў храм, ён не будзе добрым хрысціянінам. Ёсць такія віды дзейнасці, якія сёння несумяшчальныя з хрысціянствам.

*11 верасня 2013 г.*

## ВІКТАР АДЗІНОЧАНКА: НА СУДОВАЕ РАШЭННЕ ПА СПРАВЕ ГРУНОВА ПАЎПЛЫВАЛА ВЫКАЗВАННЕ ЛУКАШЭНКІ

Гамяльчанін Аляксандр Груноў паўторна асуджаны на смяротнае пакаранне. Прадстаўнік Беларускага Хельсінкскага Камітэта ў Гомелі, кандыдат філасофскіх навук Віктар Адзіночанка каментуе рашэнне, якое Вярхоўны Суд Беларусі прыняў 8 красавіка.

Я быў на судах над Аляксандрам Груновым як

назіральнік ад Беларускага Хельсінкскага Камітэта. І на першым судзе, калі яго прыгаварылі першы раз да смяротнага пакарання, і тады, калі яго прыгаварылі другі раз. На мой погляд, ненармальным з'яўляецца тое, што ў беларускім заканадаўстве ёсць артыкул, які прадугледжвае смяротнае пакаранне. Вельмі шкада ахвяру – маладую дзяўчыну, якую Груноў забіў. І шкада самога Грунова, бо гэта чалавек, у якога было паламанае жыццё – у яго забілі бацьку, і ён гэта перажываў, потым у яго быў канфлікт з сужыцелем маці, і ў бойцы ён яго забіў. Гэта чалавек, які стаяў на ўліку ў псіхіятрычным дыспансеры. Груноў – чалавек, паводзіны якога былі яўна ненармальныя, і гэта было бачна на судзе. Вельмі вялікі ўплыў на прыняцце судом рашэння (хоць усе фармальныя моманты былі выкананы), на мой погляд, зрабілі словы прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, які адносна Грунова вельмі рашуча і вельмі адназначна выказаўся за смяротнае пакаранне, яшчэ да таго, як пачаўся другі судовы працэс. І калі суддзя прыняў бы іншае судовае рашэнне – не смяротнае пакаранне, то атрымалася б так, што ён ідзе "ў піку" дзяржаўнай уладзе. З іншага боку, мела значэнне і тое, што пісалася ў прэсе: Груноў падаваўся як чалавек асацыяльны, хворы, агрэсіўны. Гэта стварыла пэўную атмасферу. Але ўсе фармальныя моманты суд выканаў, рашэнне было прынята ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Праваабаронца падкрэслівае, што артыкул пра

смяротнае пакаранне якраз і стварае праблемы. “Трэба ўводзіць іншыя меры, безумоўна, са злачынствам трэба змагацца. Безумоўна, у дадзеным выпадку здзейснена цяжкае злачынства. Але смяротнае пакаранне – ненармальная з’ява”.

*10 красавіка 2014 г.*

## СВЯТАР АЛЯКСАНДР ШРАМКО: СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ ЎСТУПАЕ Ў СУПЯРЭЧНАСЦЬ З ЕВАНГЕЛЛЕМ

Пра тое, чаму смяротнае пакаранне ў Беларусі павінна быць адменена, разважае праваслаўны святар Аляксандр Шрамко, які служыць у царкве Святога Архангела Міхаіла ў мінскім мікрараёне Сухарава.

*Які сёння хрысціянскі погляд на смяротнае пакаранне?*

– Складанасць хрысціянскага погляду на смяротнае пакаранне звязана з тым, што з боку Праваслаўнай царквы няма дакладнай сацыяльнай канцэпцыі, няма дакладнай забароны адносна смяротнага пакарання. Але гэта, калі фармальна разважаць, а калі разважаць больш па змесце хрысціянскага вучэння, то можна прыйсці да іншай высновы. Па-першае, нават у Старым Запавеце, законы якога больш жорсткія, гэтае “вока за вока” і “зуб за зуб” накіравана на тое, каб стрымаць грамадства, што знаходзілася на той час у дзікім стане, каб чалавек, які

забіў, не забіў яшчэ. “Вока за вока” – азначае абмежаванне, не загад, не заклік, каб чалавек забіў забойцу, а каб не зрабіў горш і не забіў больш. Часта і ў наш час можна чуць – “трэба, каб на кол пасадзілі”, каб не проста забіць, а вельмі жорстка. Вось таму гэта ўжо тады было абмежаваннем. Па-другое, нават у Старым Запавеце ў некаторых прытчах паказваецца, што помслівасць – гэта дрэнна. Напрыклад, як кажа Святое Пісанне, “помслівы атрымае помсту ад Госпада”. Помста не падтрымліваецца нават у Старым Запавеце. А цяперашнія прыхільнікі смяротнага пакарання, хоць яны і кажуць, што гэта справядлівае пакаранне, але псіхалагічна выступаюць за смяротнае пакаранне па матывах помсты.

*– А калі гаварыць пра Новы Запавет?*

– Гэта новая эпоха, гэта эпоха міласэрнасці, гэта зусім іншыя маральныя крытэрыі, накіраваныя на ўдасканаленне чалавека. Нагорная пропаведзь заканчваецца словамі: “Будзьце дасканалымі, як дасканалы Айцец ваш Нябесны”. Хоць Ісус Хрыстос не казаў, што трэба адмяніць смяротнае пакаранне, ён не мог так сказаць, таму што прыйшоў прапаведаваць Новае Царства, Царства Божае ў супрацьвагу царству зямному. Таму ён не даваў загадаў, якія павінны быць у гэтым зямным царстве, ён казаў, што мы павінны расці, расці да Царства Божага – нам даецца ласка, і мы ўзрастаем да Валадарства Божага. І калі мы думаем пра смяротную

кару, то мы павінны думаць з пункту гледжання хрысціяніна – як гэта будзе ўплываць на пропаведзь Хрыста. І ў гэтым сэнсе мы бачым, што смяротнае пакаранне ўступае ў супярэчнасць з Евангеллем. Усё Евангелле, увесь Новы Запавет пабудаваны на міласэрнасці, дараванні. А ў выпадку смяротнага пакарання дараванне і міласэрнасць не працуюць. Хрысціянства накіравана на ўдасканаленне чалавека, на яго свабодныя праявы пачуццяў, не проста на тое, каб ён стрымліваў свае інстынкты, а на тое, каб у ім нараджаліся пачуцці хрысціяніна, бо ў сэрцы жыве Хрыстос – так гэта ў Новым Запавеце.

*– Калі прыхільнікі смяротнага пакарання кажуць пра яго неабходнасць, то ёсць такі аргумент – страх, каб людзі баяліся здзейсніць злачынства…*

– Але гэта зноў уступае ў супярэчнасць з Евангеллем. Таму што адна справа – страх Божы, а іншая справа – страх чалавечы, які вядзе да прыгнёту асобы, якія вядзе не да свабоднага выяўлення асобы, не да раскрыцця, а да закрыцця, да кансервацыі. Таму, калі мы паглядзім з хрысціянскага пункту гледжання, то ў перспектыве Валадарства Божага мы не ўбачым смяротнага пакарання. Таму будзем зыходзіць з таго, што з пункту гледжання Новага Запавету смяротнай кары няма месца. Калі вучні Госпада Ісуса Хрыста хацелі пакараць вінаватых і спыталі: “Госпадзе, ці хочаш ты, каб агонь сышоў з Неба і знішчыў, як Ілья зрабіў?” Ён забараніў ім і сказаў: “Я

прыйшоў не губіць душы чалавечыя, а ратаваць”. Таму мы павінны думаць пра гэта, пра выратаванне душ чалавечых.

Часам прыхільнікі смяротнага пакарання прыводзяць такі аргумент: самае галоўнае – выратаваць душу, а не цела – маўляў, нават калі чалавек незаслужана будзе забіты, то яго душа ўратуецца, бо ён нявінна пацярпеў. Але царква выступае супраць самагубстваў, супраць эўтаназіі, супраць усяго, што перапыняе жыццё чалавека, таму што Бог даў чалавеку цела, жыццё зямное. Жыццё зямное якраз і дадзена чалавеку ў перспектыве жыцця вечнага, каб на працягу зямнога жыцця ён паспеў прыйсці да Госпада, здзейсніў эвалюцыю. І мы гэтую эвалюцыю абразаем. Кажуць, што чалавек можа за тры хвіліны пакаяцца. Можа… А можа і за секунды, як разбойнік на крыжы. А можа і за дзесяць гадоў. Трэба даць яму гэтую магчымасць пакаяцца, бо Гасподзь даў магчымасць людзям выратавацца.

У сучасным грамадстве значна больш магчымасцей абмежаваць злачынцу. У старажытных супольнасцях не было такой магчымасці, не была развіта пенітэнцыярная сістэма. Цяпер можна даць чалавеку жыць ізалявана ад грамадства. Жорсткасць, якая характэрная для старажытных супольнасцяў, згасае паступова дзякуючы менавіта хрысціянскаму выхаванню. Правы чалавека, павага да годнасці чалавека – гэта адпавядае духу хрысціянства. І павага да асобы як да ўнікальнага

мікракосму, у які мы не можам умешвацца, ламаць яго, разбураць – гэта якраз прыўнесена хрысціянствам. Як кажа апостал Павел: “Хіба вы не ведаеце, што вы – Храм Божы?” Прама гаворыцца пра тое, што чалавек – Храм Божы, і нельга проста прыйсці і яго разбурыць. Вядома, можа быць, чалавек здзейсніў злачынства і сам разбурыў гэты Храм, але гэта не значыць, што яму трэба адказваць тым жа.

*– Падчас сталінскіх рэпрэсій загінулі мільёны людзей, дзясяткі тысяч святароў расстрэльвалі. Гаворачы пра смяротнае пакаранне, мы часта забываемся пра тыя ахвяры расстрэлаў. Як быццам падзяляем паняцці “смяротнае пакаранне” і “палітычныя рэпрэсіі”.*

– Тады знішчалі мільёны людзей. Мы павінны памятаць пра гэтыя ахвяры, і не толькі аддаваць даніну памяці, але і думаць пра тое, да чаго можа прывесці жорсткасць, жаданне знішчаць, забіваць. Цяпер гавораць – па заслугах трэба караць. І ў сталінскі час думалі, што гэта справядліва, што “па заслугах”. Што такое “па заслугах”? Гэта суб’ектыўна. Хтосьці лічыць, што за забойства трэба пакараць смерцю. А нехта кажа: “Вось ён здрадзіў Радзіме або здрадзіў ідэі”. Або проста перашкаджае як сацыяльная катэгорыя. Так паступова развіваецца такое стаўленне да людзей, што іх можна знішчаць, забіваць.

*– Выканаўца прысуду, кат… Як яго прафесія ацэньваецца з пункту гледжання хрысціянскай этыкі? Ёсць запаведзь “не*

*забі…", а кат забівае ад імя дзяржавы.*

– Думаю, што гэта пакутліва. Я чытаў некаторыя ўспаміны такіх людзей. Гэта страшная праца. Натуральна, што хрысціянін наўрад ці зможа ажыццяўляць такую працу. Гэтага проста нельга ўявіць. Таму што чалавек не можа быць добрым, міласэрным, насіць Бога ў душы, прычашчацца і быць адначасова забойцам. Гэта неймаверна. Бо чалавек, які нават выпадкова забіў чалавека (напрыклад, збіў на машыне), не можа быць святаром. Гэтага не дапускае царква. Гэта больш узмоцненыя патрабаванні, чым проста да хрысціяніна. А калі чалавек не проста выпадкова забіў, а для яго гэта праца рэгулярная? Гэта ўвогуле згублены чалавек. Існаванне такіх людзей пагібельна для грамадства. А суддзі, якія выносяць прысуд… Гэта таксама згубна для іх. Такі суддзя таксама забойца фактычна. Хоць ён не націснуў на курок, але ён сказаў – забіць. Сталін таксама нікога канкрэтна сам не расстрэльваў. Ён даваў указанні расстрэльваць. Але мы называем яго забойцам.

*– А калі такі чалавек прыйдзе на споведзь?*

– Усё гэта тычыцца стану душы чалавека. Мне такі чалавек не спавядаўся. І я не чуў пра такія выпадкі. Узнікае пытанне: а можа, гэтыя суддзі, якія выносяць прысуд, і ка́ты не ходзяць на споведзь? Я нават дапускаю, што гэта настолькі несумяшчальна з хрысціянствам, што хрысціяне не выносяць такія прысуды і не працуюць

выканаўцамі прысудаў. А калі вынесуць такі прысуд і пакаюцца, то гэта будзе залежаць ад канкрэтнага выпадку. Часам гэта саўдзел у забойстве, бо рашэнне вынесці такі прысуд даецца з вышэйшай інстанцыі. Чалавек жа не проста прыходзіць на споведзь у царкву – прыйшоў і сышоў… На самай справе гэта доўгая праца. Калі такі чалавек прыйдзе ў царкву, яго ніхто не адштурхне. Але ўсё будзе залежаць ад таго, як ён сам гэта адчувае. Калі ён каецца, то, значыць, адчувае, што нешта не тое.

*– Акрамя рэлігійнага, які Ваш самы галоўны аргумент супраць смяротнага пакарання?*

– Прысуды ў нас прыводзяцца ў выкананне вельмі хутка, няма верагоднасці, што за такі кароткі час будзе выпраўлена судовая памылка. А сам факт судовай памылкі – дастатковая падстава для таго, каб смяротнае пакаранне не выкарыстоўваць. Мы ведаем, што судовых памылак было шмат, асабліва ў выпадках, звязаных з серыйнымі маньякамі. Прыхільнікі смяротнага пакарання выступаюць за ідэальны варыянт – яны ведаюць, хто забіў, што ён вінаваты, яны ведаюць, што з ім рабіць. Калі б не было смяротнага пакарання, заўсёды была б магчымасць выправіць судовую памылку.

Наш мітрапаліт Філарэт і ў 1996 г. падчас рэферэндуму заклікаў адмовіцца ад смяротнага пакарання. І ў гэтым годзе сказаў: “Мы, хрысціяне, не можам апраўдваць смяротнага пакарання, бо гэта грэх

забойства. Жыццё любога чалавека належыць Богу. Не мы даравалі жыццё чалавеку, і не нам і пазбаўляць чалавека існавання. Бо за жыццё кожнага з нас Гасподзь наш Ісус Хрыстос аддаў сваё жыццё на крыжы. Дзяржава, караючы смерцю сваіх грамадзян, кожны раз наноў распінае Хрыста”.

*7 кастрычніка 2013 г.*

# ЧАСТКА 4. СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ Ў ХРОНІЦЫ ПАРУШЭННЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

## 10 ФАКТАЎ ПРА СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ Ў БЕЛАРУСІ

Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе і на постсавецкай прасторы, дзе прыводзяцца ў выкананне смяротныя прысуды. Газета “Салідарнасць” высвятляла, як змянілася стаўленне да гэтага беларусаў, колькі чалавек было асуджана цягам апошніх 20 гадоў і каго памілаваў Лукашэнка.

## 1996-Ы: НА РЭФЕРЭНДУМЕ ПА ПЫТАННІ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ ДЭБЮТАВАЛА ЯРМОШЫНА

Смяротнае пакаранне ў Беларусі было ўзаконена на рэферэндуме ў лістападзе 1996 г. Паводле афіцыйных звестак ЦВК, супраць адмены смяротнага пакарання выказалася 80,44% ад ліку тых, хто меў права ўдзельнічаць у рэферэндуме. “Наколькі афіцыйным дадзеным можна давяраць – асобнае пытанне. Тым не менш, варта адзначыць, што гэты рэферэндум – дэбют Лідзіі

Ярмошынай на пасадзе старшыні ЦВК", – нагадваецца ў аналітычным матэрыяле Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў.

Праз 16 гадоў пасля рэферэндуму былы старшыня Канстытуцыйнага Суда і генеральны пракурор Беларусі Рыгор Васілевіч у інтэрв'ю "Еўрарадыё" заявіў:

*– Рашэнне таго рэферэндуму насіла кансультацыйны характар, і ў прынцыпе можна вырашыць інакш. Але і кіраўнік дзяржавы, і парламент – яны прадстаўляюць народ. І меркаванне грамадзян для іх мае важнае значэнне, якое ўплывае на прыняцце імі рашэнняў.*

## САЦЫЁЛАГІ: 40,7% БЕЛАРУСАЎ ЗА АДМЕНУ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў з 2008 г. рэгулярна праводзіць апытанне пра стаўленне беларусаў да смяротнага пакарання.

У верасні 2012-га былі апытаны 1502 рэспандэнты ад 18 гадоў і старэйшыя метадам face-to-face. Памылка рэпрэзентатыўнасці не перавышае 0,03.

Цікава, што сярод тых, хто выступае супраць адмены смяротнага пакарання, 57,3% падтрымліваюць Лукашэнку.

Як адзначаецца ў аналітычным матэрыяле НІСЭПД,

праблема захавання смяротнага пакарання знаходзіцца на перыферыі грамадскага меркавання.

У чэрвені 2012-га толькі адзін рэспандэнт уключыў яго ў спіс самых важных праблем, якія мусіць вырашаць урад Беларусі.

## ЛУКАШЭНКА: "Я НІКОЛІ САМ НЕ ПАЙДУ НА ЎВЯДЗЕННЕ МАРАТОРЫЯ"

Звяртаючыся са штогадовым пасланнем парламенту і народу ў маі 2012 г., Лукашэнка адказаў на пытанне дэпутата Самасейкі аб праблеме смяротнага пакарання і магчымасці ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне.

*Я ніколі сам не пайду на ўвядзенне мараторыя,* – сказаў кіраўнік дзяржавы. – *Я ведаю настроі людзей.*

Са слоў Лукашэнкі, ён як прэзідэнт павінен зрабіць так, як хоча грамадства:

*Калі ты гад і нягоднік і ідзеш на злачынства, будзь гатовы за яго адказаць. Хаця, можа быць, грамадства падышло да мараторыя.*

Неаднойчы кіраўнік дзяржавы і прадстаўнікі ўлады спасылаліся на рэферэндум, згодна з якім, "большасць грамадзян краіны выказалася за захаванне дадзенай меры пакарання".

На прэс-канферэнцыі ў снежні 2011-га Лукашэнка

запэўніў журналістаў, што *"ўсе прысуды да смяротнага пакарання праходзяць праз яго сэрца"*.

Ён нагадаў, што матэрыялы па гэтых крымінальных справах кладуць яму на стол.

*Я заўсёды патрабую, каб было прыкладзена, за што чалавека асуджаюць да выключнай меры.*

Як адзначыў Лукашэнка, да дакументаў абавязкова далучаюць фатаграфіі.

*Мне страшна становіцца… Узломваюць кватэру, забіваюць усю сям'ю, гвалтуюць малалетніх дачок, потым разразаюць, прабачце, на кавалкі, кідаюць у ванну і сыходзяць. Іх потым затрымліваюць, даюць 25 гадоў… У мяне, як і ў вас, пачуццё адно – вось іх бы на кавалкі пасекчы так і ў ванну.*

*…Калі ёсць хоць найменшая зачэпка, што гэта, можа быць, не зусім дакладна… Ён атрымлівае пажыццёвае зняволенне… Дык якія могуць быць да нас прэтэнзіі?*

## КАГО ПАМІЛАВАЎ ЛУКАШЭНКА?

У праваабаронцаў выклікае занепакоенасць закрытасць ад грамадства вынікаў дзейнасці Камісіі па пытаннях памілавання і рашэнняў прэзідэнта па справах асуджаных да смяротнага пакарання.

На дадзены момант вядома толькі адно рашэнне прэзідэнта аб памілаванні асуджанага да смяротнага пакарання.

Дзмітрый Хархаль правёў у камеры смяротнікаў у

мінскім СІЗА больш за год. У чэрвені 2003-га яму замянілі смяротны прысуд пазбаўленнем волі тэрмінам на 15 гадоў.

Дзмітрый расказаў свайму адвакату, што, пакуль ён знаходзіўся ў камеры смяротнікаў, турэмныя наглядчыкі часта білі яго. Прычым пасля кожнага збіцця прымушалі яго гаварыць "вялікі дзякуй". Са слоў адваката, некалькі разоў Дзмітрыя выводзілі з камеры і прымушалі паўзці ў ванную, але мыцца не дазвалялі.

Заявы аб жорсткім абыходжанні ўлады не расследавалі.

## КОЛЬКІ СМЯРОТНЫХ ПРЫСУДАЎ БЫЛО ВЫКАНАНА – ГРАМАДСКАСЦІ НЕ ВЯДОМА

Жахлівасць смяротнага пакарання не толькі ў тым, што дзяржава забівае людзей, а яшчэ і ў той таямніцы, якую дзяржава робіць з самога выканання гэтых прысудаў, – гаворыць каардынатар кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання" Андрэй Палуда.

Праваабаронцы сведчаць, што могуць прыводзіць статыстыку толькі вынесеных смяротных прысудаў.

З 1990 г. да 2011 г. да выключнай меры пакарання ў Беларусі былі асуджаны 324 чалавекі.

Паводле звестак Дэпартамента выканання

пакаранняў МУС, за апошнія гады колькасць смяротных прысудаў зменшылася. Напрыканцы 1990-х гг. суды выносілі па 30–40 смяротных прысудаў штогод. У 2000-я гг. сітуацыя выглядае наступным чынам: 2001 г. – 7 прысудаў, 2002 г. – 4 прысуды, 2003 г. – 4, 2004 г. – 2, 2005 г. – 2, 2006 г. – 9, 2007 г. – 4, 2008 г. – 1, 2009 г. – 2, 2010 г. – 1, 2011 г. – 2.

## ЗА ШТО Ў БЕЛАРУСІ АСУДЖАЮЦЬ НА СМЕРЦЬ?

Згодна з Крымінальным кодэксам, смяротнае пакаранне можа прызначацца за падрыхтоўку і вядзенне агрэсіўнай вайны (арт. 122), тэрарыстычны акт супраць прадстаўніка іншай дзяржавы (арт. 124), міжнародны тэрарызм (арт. 126), генацыд (арт. 127), злачынствы супраць бяспекі чалавецтва (арт. 128), прымяненне зброі масавага паражэння (арт. 134), парушэнне законаў і звычаяў вайны (арт. 135), забойства (арт. 139), тэрарызм (арт. 289), здраду дзяржаве (арт. 356), змову ці іншыя дзеянні, учыненыя з мэтай захопу дзяржаўнай улады (арт. 357), тэрарыстычны акт (арт. 359), дыверсія (арт. 360), забойства супрацоўніка міліцыі (арт. 362).

Смяротнае пакаранне не можа быць прызначана асобам, якія ўчынілі злачынствы ва ўзросце да 18 гадоў, жанчынам, мужчынам, якія дасягнулі да дня вынясення

прысуду 65 гадоў.

## МАЦІ СМЯРОТНІКА ПАХАВАЛА НА МОГІЛКАХ РЭЧ СВАЙГО СЫНА

На ўсе звароты ў Міністэрства ўнутраных спраў родныя расстраляных асуджаных атрымлівалі адказы з Дэпартамента выканання пакаранняў: “Згодна з пунктам 5 артыкула 175 Крымінальнага кодэкса, целы пасля смяротнага пакарання родным не выдаюцца, і месца пахавання не паведамляецца”.

Родным не гавораць дату расстрэлу, а ў пасведчанні аб смерці ў графе “прычына смерці” ставяць прочырк.

Паколькі дзяржава старанна хавае гэтую інфармацыю, гэта спараджае легенды пра тое, што смяротнікаў разбіраюць на органы ці што яны працуюць на ўранавых рудніках. Хоць ніхто пра такія руднікі ў Беларусі не чуў, – адзначае Андрэй Палуда.

Блізкія і сям’я пакаранага пазбаўлены магчымасці пахаваць роднага чалавека і потым наведваць яго магілу.

Як расказаў “Салідарнасці” Андрэй Палуда, маці аднаго смяротніка пахавала на могілках рэч, якая належала яе сыну, і паставіла помнік, каб было дзе яго памянуць.

Калі асуджаны да смяротнага пакарання здзяйсняе самагубства, памірае з-за хваробы ці яго забіваюць у

турме, яго цела выдаюць сваякам для пахавання.

Былы начальнік мінскага СІЗА Алег Алкаеў у інтэрв’ю “Amnesty International” узгадаў, як аднойчы ў камеры апынуліся два асуджаныя да смяротнага пакарання. Дзяжурны позна заўважыў, што адбываецца, і не паспеў іх выратаваць.

Целы самазабойцаў былі перададзены родным за два дні да даты, на якую было прызначана выкананне прысуду.

## ДА СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ ПРЫГАВАРЫЛІ НЕПІСЬМЕННАГА

У 2009 г. суд асудзіў да смяротнага пакарання 30-гадовага жыхара Драгічынскага раёна Васіля Юзэпчука, які быў прызнаны вінаватым ва ўчыненні серыі забойстваў пажылых жанчын.

Асуджаны накіраваў хадайніцтва аб памілаванні прэзідэнту. Ён прасіў захаваць яму жыццё, настойваючы на тым, што ў будучым могуць з’явіцца абставіны, якія пацвердзяць яго невінаватасць. Калі ж прысуд будзе выкананы, то ў выпадку выяўлення памылкі выправіць яе будзе немагчыма.

Па словах адвакатаў, што выступалі ў судовым пасяджэнні па справе Юзэпчука, прысуд Брэсцкага абласнога суда пабудаваны на здагадках, прамых доказаў

няма, у аснову абвінаваўчага прысуду былі пакладзены галоўным чынам сведчанні супрацоўнікаў міліцыі, – расказаў “Салідарнасці” Андрэй Палуда. – Ёсць факты, якія сведчаць, што Юзэпчуку падчас знаходжання ў следчым ізалятары наносіліся цялесныя пашкоджанні, што было зафіксавана. Таксама, паводле заключэння камісіі экспертаў, у асуджанага лёгкая ступень разумовай адсталасці, ён кепска арыентуецца ў асяроддзі, непісьменны. Таму існуе вельмі сур’ёзная заклапочанасць наконт таго, што віна асуджанага да смяротнага пакарання не даказана належным чынам.

Палуда ездзіў у вёску, дзе жыў Васіль Юзэпчук і дзе дагэтуль жывуць яго сваякі.

Ён са шматдзетнай цыганскай сям’і. Умовы пражывання жахлівыя. Жывуць тым, што просяць міласціну. Сам Вася грамаце, па вялікім рахунку, пачаў вучыцца ўжо за кратамі, калі сядзеў у адной камеры з Андрэем Жуком. Па сутнасці, сукамернік, таксама асуджаны да смяротнага пакарання, і стаў для Васі настаўнікам.

Не ведаю, як Юзэпчук распісваўся ў пратаколах падчас следства. Мабыць, крыжыкам альбо навучылі пісаць слова “Вася”.

…Пасля расстрэлу Юзэпчука ў Кобрынскім раёне забойствы пенсіянерак працягнуліся. Іх пазбаўлялі жыцця тым спосабам, якім, вырашыў суд, забіваў Васіль.

# ПЕРАД ТЫМ, ЯК ЗДАРЫЛАСЯ ЗАБОЙСТВА, ГАСПАДАР КВАТЭРЫ ШЭСЦЬ РАЗОЎ ВЫКЛІКАЎ МІЛІЦЫЮ. НІХТО НЕ ПРЫЕХАЎ

У 2010 г. Гродзенскі абласны суд прысудзіў да вышэйшай меры пакарання Андрэя Бурдыку і Алега Грышкаўцова.

Іх прызналі вінаватымі ў забойстве трох чалавек: 65-гадовага гаспадара кватэры, яго нявесткі, з якой у Бурдыкі быў раман, і нявестчынай прыяцелькі.

Жанчыну забілі з рэўнасці, усіх астатніх – як сведак.

На працягу тыдня да забойства Бурдыка і Грышкаўцоў пілі. Напярэдадні трагедыі пажылы гаспадар кватэры спрабаваў суцішыць нявестку і яе сяброў, якія ўчынілі скандал. Ён шэсць разоў тэлефанаваў у міліцыю і прасіў прыехаць. Але ніхто не прыехаў. Пасля ў судовым разбіральніцтве высветліцца, што гэтыя шэсць званкоў нават не былі зафіксаваны дзяжурнымі ў журнале.

На думку маці Андрэя Бурдыкі, забойства магло б і не здарыцца, калі б з боку праваахоўных органаў за яе сынам быў нагляд.

Андрэя выпусцілі з калоніі, замяніўшы астатні тэрмін на папраўчыя работы. Але адзначацца ніхто не патрабаваў, – расказвала жанчына праваабаронцам "Вясны". – Ні разу за гэтыя паўтара месяца, што ён быў на волі, ніхто не пацікавіўся, не патэлефанаваў, не

пракантраляваў. Калі б ён ведаў, што з 22.00 да 7.00 ён павінен знаходзіцца дома, магчыма, гэтага не здарылася б.

Зразумела, усё гэта не апраўдвае забойцаў, – лічаць праваабаронцы. – Але і смяротнае пакаранне не вырашае праблемы. Беларускія ўлады апелююць да таго, што менавіта смяротная кара з'яўляецца стрымліваючым фактарам. Але гэта не так. П'яны чалавек у стане агрэсіі не здольны думаць пра тое, што за зробленае яго пакараюць смерцю.

## ЛІСТЫ З КАМЕРЫ СМЯРОТНІКАЎ

Праваабаронца Ірына Тоўсцік ліставалася з Андрэем Жуком, асуджаным за забойства дваіх інкасатараў СВК "Бальшавік-Агра", якія перавозілі грошы для выплаты заробку работнікам сяльгаспрадпрыемства.

Гэта была кароткая перапіска, якая спынілася пасля яго хуткага расстрэлу, – узгадвае Ірына. – У сваіх лістах Андрэй Жук разважаў пра межы справядлівасці смяротнага пакарання. Прыводзіў прыклады, калі аднаму за падобнае злачынства прысудзілі 25 гадоў зняволення, другім – пажыццёвае, а яму – расстрэл. Тым не менш, Андрэй трымаўся даволі стойка, ведаючы пра прысуджанае яму смяротнае пакаранне, але ён сябе не апраўдваў і гатовы быў панесці любое пакаранне. У яго засталося двое дзяцей. Малодшага, які нарадзіўся, калі бацька сядзеў у турме, Андрэй не бачыў. Пісаў, што, калі

б думаў пра дзяцей і сям'ю, ніколі б злачынства не рабіў, ды і не планаваў нікога забіваць, відаць, са страху…

З ліста Андрэя Жука: "Міністр юстыцыі, выказваючы свой пункт гледжання за захаванне смяротнага пакарання, гаворыць, што, разглядаючы гэтае пытанне, можна спытаць, як лічаць родныя загінулых. Эмоцыі, помста – гэта не правасуддзе. У такім выпадку і суды не патрэбныя. Хай дадуць тым самым сваякам у рукі зброю і суд Лінча…"

*20 лістапада 2012 г.*

# СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ Ў АГЛЯДЗЕ-ХРОНІЦЫ (1998–2015)

## 1998 Г.

За апошнія два гады каля 70 чалавек у Беларусі былі асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Большасць з іх звярталася да прэзідэнта Беларусі з хадайніцтвам аб памілаванні, але ніводная просьба не была задаволена. Між тым факты сведчаць, што беларускія праваахоўныя органы не заўсёды працуюць сумленна, якасна і дакладна.

У лютым 1998 г. у Праваабарончы цэнтр "Вясна-96" звярнулася па дапамогу Цярэнцьева Галіна Генадзьеўна. Яна прасіла ўратаваць ад смерці яе сына Фаміна Івана, які

атрымаў вышэйшую меру пакарання – расстрэл. Існуюць факты, якія дазваляюць меркаваць, што І. Фамін агаварыў сябе ў працэсе следства, прыняў чужую віну, а сапраўдныя забойцы здолелі яго запалохаць і захаваць свае жыцці. Аднак ні следства, ні суд не звярнулі ўвагі на супярэчнасці ў справе Фаміна. Не дапамаглі і звароты маці ў Вярхоўны Суд і да генеральнага пракурора.

У грамадскую прыёмную Праваабарончага цэнтра "Вясна-96" звярнуліся асуджаныя на смерць з просьбай абараніць іх права на жыццё:

Фамін Іван Васільевіч. Быў асуджаны 09.12.1997 г. Мінскім абласным судом да выключнай меры пакараньня – расстрэлу. Пагрозамі і шантажом падзельнікі А. Шаткін і С. Жараў прымусілі асуджанага ўзяць на сябе віну за здзяйсненне двух забойстваў. Экспертыза не выявіла на рэчах асуджанага І. Фаміна крыві забітых, у той час як адзенне А. Шаткіна і С. Жарава было ў крыві. Падчас следства не праводзіліся следчыя эксперыменты, не дапрошваліся сведкі і былі іншыя парушэнні крымінальна-працэсуальнага заканадаўства.

Падчас следчых дзеянняў І. Фамін быў падвергнуты катаванням. Асуджанага да вышэйшай меры пакарання І. Фаміна ў ходзе следства білі гумавай дубінкай і нагамі, надзявалі процівагаз, перакрывалі доступ кіслароду – тры разы ён губляў прытомнасць, пры гэтым яго прымушалі падпісваць дакументы, якія нават не дазвалялі прачытаць.

Праціраеў Сяргей Емяльянавіч. Справа № 129684.

Справу вяла пракуратура г. Жлобіна Гомельскай вобласці. Адвакаты гарадской калегіі г. Жлобіна і Мінскай абласной калегіі абураны грубай падтасоўкай следчых матэрыялаў, парушэннямі Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Склярэнка Ігар. Парушана прэзумпцыя невінаватасці, права на абарону. Ёсць сведкі, якія сцвярджаюць, што ў момант здзяйснення забойства І. Склярэнка не знаходзіўся ў г. Светлагорску (месца злачынства), а быў у Жлобіне. Суд не прыняў гэта пад увагу.

Глушонак Міхаіл Мікалаевіч падпісаў прызнанне ў забойстве пад ціскам з боку следчага Місюкевіча, які ведаў, што Глушонак ужываў наркотыкі з 1990 г. Следчы Місюкевіч прапанаваў Глушонку "ўзяць на сябе забойства" ў абмен на наркотыкі. Глушонак адмовіўся, пасля чаго супрацоўнікі Чэрвеньскага ізалятара часовага ўтрымання білі яго па пятках і нырках гумавай дубінкай. Затым зноў з'явіўся следчы, які прынёс наркотыкі. Следчы сказаў: "Калі ты адмовішся пісаць, то я не дам табе гэтыя таблеткі, і цябе тут заб'юць". У выніку Глушонак падпісаў яўку з павіннай. Следчы таксама сказаў: "Калі ты, Глушонак, уздумаеш на судзе даць задні ход, то пасля суда цябе застрэляць пры спробе ўцёкаў". На Вярхоўным Судзе пры касацыйным разглядзе справы Глушонак расказаў пра гэта, але прысуд пакінуты без змянення – вышэйшая мера.

Капусцін Анатоль. Прысуд па артыкулах 87 ч. 1, 191 ч. 3, 189 ч. 1, 124 ч. 2, 89 ч. 2, а па арт. 100 п. “а”, “е”, “з” Крымінальнага кодэкса – смяротнае пакаранне, расстрэл з канфіскацыяй маёмасці. 11 верасня 1997 г. Судовая калегія па крымінальных справах Віцебскага абласнога суда пад старшынствам Дзядкоўскай С. Я. прызнала яго вінаватым у крадзяжы маёмасці і асобных дакументаў, злачынным нападзе па папярэдняй змове групай асоб з нанясеннем цяжкіх цялесных пашкоджанняў і прысваеннем маёмасці ў буйным памеры, пагрозе забойства асобе ў сувязі з ажыццяўленнем службовай дзейнасці, незаконным пазбаўленні волі метадам, небяспечным для жыцця і здароўя пацярпелага, звязаным з фізічнымі пакутамі, а таксама ў наўмысным забойстве, забойстве з карыслівай мэтай асобай, якая раней здзейсніла забойства.

Забабурына Сяргея прызналі віноўным у забойстве, махлярстве і незаконным вырабе і нашэнні агнястрэльнай зброі. Прысуд: смяротнае пакаранне – расстрэл з канфіскацыяй маёмасці. У Праваабарончы цэнтр “Вясна-96” звярнуліся бацькі Забабурына Сяргея, якія прадставілі сведчанні таго, што іх сын, на самай справе, не з’яўляўся забойцам. Анатоль Капусцін з камеры смяротнікаў перадаў ліст, у якім пісаў, што ў ходзе следства ў судзе ён агаварыў Забабурына, таму што баяўся адзін несці адказнасць за забойствы. Вось толькі некаторыя фрагменты з ліста Капусціна: “Па эпізодзе

гібелі Тамашова У. я наўмысна агаварыў Забабурына С. А. у тым, што ён дапамагаў мне звязваць Тамашова, а потым вывозіць яго труп для крэмацыі. Я хацеў частку віны за смерць Тамашова ўзваліць на Забабурына С. Заяўляю: Забабурын Сяргей Анатольевіч не вінаваты ні ў адным абвінавачванні ў забойстве”. Недаступнасць месцаў утрымання асуджаных на смерць дае магчымасць несумленным супрацоўнікам СІЗА ўжываць у адносінах да іх катаванні і здзек, якія прыніжаюць чалавечую годнасць.

З ліста Івана Фаміна Праваабарончаму цэнтру “Вясна96” стала вядома, што асуджаныя да вышэйшай меры пакарання ўтрымліваюцца ў мінскім СІЗА ў нечалавечых умовах: “Асуджаных б’юць літаральна за ўсё: за тое, што пішуць заяўкі ў медыцынскую частку, за тое, што пішуць заяўкі, каб прыйшоў святар для споведзі. Б’юць драўляным малатком для прастуквання кратаў і сцен. Былі выпадкі, калі малатком ламалі рэбры, рукі, адбівалі лёгкія”. Падчас спаткання з роднымі альбо адвакатам прадстаўнікі адміністрацыі мінскага СІЗА забараняюць гаварыць пра рэжым утрымання.

## 2001–2002 ГГ.

11 лютага на сустрэчы з журналістамі ў Мінску старшыня Вярхоўнага Суда Беларусі Валянцін Сукала паведаміў, што 2001 г. у Беларусі да смяротнага пакарання

былі асуджаны 7 чалавек. Яшчэ 11 чалавек асуджаны да пажыццёвага зняволення, чакаюць прысуду 5 чалавек, якія асуджаны да выключнай меры пакарання.

11 сакавіка Генеральны сакратар Рады Еўропы Вальтэр Швімэр заклікаў Беларусь адмовіцца ад смяротнага пакарання. У заяве, распаўсюджанай у Страсбургу, падкрэслена, што “смяротнае пакаранне супярэчыць усім прымальным стандартам правоў чалавека”. Сп. Швімэр заклікаў не выносіць смяротны прысуд чатыром удзельнікам злачыннай групоўкі, абвінавачаным у здзяйсненні шэрагу злачынстваў, у тым ліку ў выкраданні Дзмітрыя Завадскага.

30 мая ў беларускім парламенце прайшлі слуханні па праблеме адмены смяротнага пакарання ў Беларусі, куды былі запрошаны і прадстаўнікі рэспубліканскіх праваабарончых арганізацый, у тым ліку ГА Праваабарончы цэнтр “Вясна”. Старшыня Пастаяннай камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі Валеры Ліпкін распавёў пра гісторыю смяротнага пакарання, розныя аспекты яго прымянення і адмены, падвёўшы рысу: “Гэтая праблема не абмяжоўваецца прававымі бар’ерамі, а прынящце такога рашэння дазволіць, у сваю чаргу, прыняць радыкальныя меры па павышэнні абароненасці дзяржавы і асобы, эфектыўнасці дзейнасці праваахоўных органаў. Не мае рашаючага значэння, хто яго прыме – ці гэта будзе палітычнае рашэнне кіраўніцтва краіны, ці яго прыме на

рэферэндуме народ Беларусі. Але, лічу, што рашэнне пытання аб адмове прымянення смяротнага пакарання – справа недалёкай будучыні”.

30 мая падчас абмеркавання праблемы адмены смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь пра “Прававыя і псіхолагапедагагічныя праблемы працы з асуджанымі да пажыццёвага зняволення” дакладаў у Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу начальнік Камітэта выканання пакаранняў Міністэрства ўнутраных спраў Уладзімір Коўчур. Ён прывёў наступныя статыстычныя звесткі, што тычацца асуджаных да пажыццёвага зняволення ў Рэспубліцы Беларусь:

## УЗРОСТ:

36 чалавек (45%) – 18–30 гадоў, 21 чалавек (27%) – 31–40 гадоў, 13 чалавек (17%) – 41–50 гадоў, ад 50 да 60 гадоў – 7 чалавек, звыш 60 гадоў – 1 чалавек;

## АДУКАЦЫЯ:

1 асуджаны мае вышэйшую адукацыю, сярэдне-спецыяльную – 17%, сярэднюю – 61%, няпоўную сярэднюю – 20%;

## ПА МЕСЦЫ ЖЫХАРСТВА:

Мінск і Мінская вобласць – 27 чалавек, Гомель і Гомельская вобласць – 16 чалавек, Гродна і Гродзенская вобласць – 9 чалавек, Брэст і Брэсцкая вобласць – 2 чалавекі, Віцебск і Віцебская вобласць – 9 чалавек, Магілёў і Магілёўская вобласць – 9 чалавек, без пэўнага месца жыхарства – 2 чалавекі, жыхар Расіі (Бранская вобласць) – 1 чалавек.

## 2005 Г.

24 студзеня на сустрэчы з журналістамі старшыня Вярхоўнага Суда Беларусі Валянцін Сукала паведаміў, што ў 2004 г. беларускімі судамі былі вынесены два смяротныя прысуды. Па яго словах, гэта гаворыць пра тое, што “мы рэальна падышлі да ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне”. Альтэрнатывай прымянення вышэйшай меры пакарання, па меркаванні старшыні Вярхоўнага Суда, стала ўвядзенне новым Крымінальным кодэксам пажыццёвага зняволення. У 2004 г. на яго былі асуджаны 12 чалавек. Гэта асобы, якія ўчынілі асабліва цяжкія злачынствы.

Увесну 2005 г. у вёсцы Вялікая Машчаніца на Магілёўшчыне было здзейснена забойства сям'і – шэсць чалавек, двое з іх – дзеці. Прэзідэнт узяў справу на асабісты кантроль. Міліцыя затрымала пецярых аднавяскоўцаў забітых, маладых людзей ад 18 да 24 гадоў.

Усе затрыманыя прызналіся ў здзяйсненні

злачынства. Пракурор палічыў віну даказанай і прасіў прысудзіць адных да расстрэлу, а іншых – да пажыццёвага зняволення. Суд на падставе доказнай базы апраўдаў іх.

5 красавіка міжнародная праваабарончая арганізацыя “Amnesty International” у справаздачы за 2004 г. паведаміла, што ўсё болей краін адмаўляецца ад смяротнага пакарання. Але пры гэтым за мінулы год было пакарана смерцю больш людзей, чым у любы іншы з апошніх 25 гадоў. Свой унёсак у гэта зрабіла і Беларусь. “Адзіная краіна ў Еўропе, якая дагэтуль ужывае смяротнае пакаранне – гэта Беларусь, і мы паведамілі пра пяць выпадкаў смяротнага пакарання летась”, – сказала прадстаўніца “Amnesty International” Эда Дабравольна. Спадарыня Дабравольна таксама паведаміла, што ў СНД, акрамя Беларусі, смяротнае пакаранне выкарыстоўвае толькі Узбекістан, і абедзве краіны не паведамляюць афіцыйна пра некаторыя выпадкі такога пакарання.

Беларусь і Узбекістан застаюцца апошнімі краінамі на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, дзе дагэтуль існуе смяротная кара. Гэта адзначыў у сваім звароце, прымеркаваным да Сусветнага дня супраць смяротнага пакарання, кіраўнік ПАРЕ Рэнэ Ван дэр Ліндэн. Арганізацыя Аб’яднаных Нацый мае прэтэнзіі да Беларусі не толькі ў сувязі з захаваннем смяротнай кары, але і адносна формы выканання смяротных прысудаў. У спецыяльным мемарандуме ААН выкананне смяротнай кары ў Беларусі прыроўнена да катавання. Паводле

дадзеных Дэпартамента выканання пакаранняў МУС, з 1997 г. у Беларусі было вынесена 126 смяротных прысудаў. У дэпартаменце лічаць, што за апошнія гады колькасць смяротных прысудаў зменшылася: калі напрыканцы 1990-х гг. суды выносілі па 30–40 смяротных прысудаў штогод, дык у 2003 г. было вынесена ўжо толькі 4, а ў 2004 г. – толькі 2 смяротныя прысуды. Мінскі следчы ізалятар – адзінае месца ў Беларусі, дзе выконваюцца смяротныя прысуды. Звычайна праходзіць не менш за год паміж вынясеннем прысуду і яго выкананнем. Асуджаны на смерць мае права абскардзіць прысуд у Вярхоўным Судзе, а апошняя яго надзея – Камісія па памілаваннях, якая дзейнічае пры прэзідэнце Беларусі. Любое з рашэнняў гэтай камісіі падпісвае асабіста Аляксандр Лукашэнка.

## 2006 г.

Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе выносяцца і прыводзяцца ў выкананне смяротныя прысуды. Артыкул 24 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь гарантуе кожнаму права на жыццё. Згодна з гэтым артыкулам, смяротнае пакаранне да яго адмены можа прымяняцца ў адпаведнасці з законам як выключная мера за асабліва цяжкія злачынствы і толькі па рашэнні суда. Пры гэтым Канстытуцыя ўказвае на выключны і часовы характар гэтага віду пакарання. Артыкул 59

Крымінальнага кодэкса прадугледжвае прымяненне смяротнага пакарання за асабліва цяжкія злачынствы супраць міру і бяспекі, а таксама за ваенныя злачынствы па 14 артыкулах. Пры гэтым да апошняга часу ў палажэннях Кодэкса не быў замацаваны часовы характар смяротнага пакарання, і толькі згодна з Законам Рэспублікі Беларусь ад 20 ліпеня 2006 г., былі ўнесены адпаведныя дапаўненні. Асуджаны на смерць мае права абскардзіць прысуд у Вярхоўным Судзе, а апошняй яго надзеяй з'яўляецца Камісія па памілаваннях, якая дзейнічае пры прэзідэнце Беларусі. Любое з рашэнняў гэтай камісіі падпісвае асабіста прэзідэнт.

Усяго ў 2006 г. у Беларусі прысуды да смяротнага пакарання былі вынесены ў дачыненні да 9 чалавек (у тым ліку на першае паўгоддзе – 5 прысудаў). Гэта значна больш, чым у папярэднія гады (у 2002 г. да гэтай меры былі асуджаны 4 чалавекі, у 2003 г. – 4, у 2004 г. – 2, у 2005 г. – 2), але меней за ўзровень 1990-х гг., калі да смяротнага пакарання штогод асуджалася больш за 10 чалавек. Старшыня Вярхоўнага Суда Беларусі Валянцін Сукала паведаміў, што павелічэнне колькасці смяротных прысудаў выклікана ростам серыйных забойстваў, калі пазбаўляюцца жыцця два, тры, чатыры чалавекі: "Вядома, у гэтым выпадку і грамадства, і суды трапляюць у вельмі складаную сітуацыю, бо тут пажыццёвае зняволенне таксама з'яўлялася б несуразмерным зробленаму".

Звесткі пра колькасць выкананых смяротных

прысудаў у 2006 г. не публікаваліся. Аднак, паводле звестак Радыё Палонія, беларускія ўлады перадалі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе інфармацыю, што ў другой палове 2005 г. і першай палове 2006 г. было выканана 5 смяротных прысудаў. Адначасова грамадству навязваецца небяспечнае меркаванне пра неабходнасць пашырэння спісу злачынстваў, за якія магчыма вынясенне смяротных прысудаў. Так, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Віктар Кучынскі падчас пасяджэння парламента 11 снежня выказаў думку пра магчымасць увядзення смяротнага пакарання ў адносінах да замежных грамадзян, якія распаўсюджваюць наркотыкі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Выклікаюць занепакоенасць і іншыя тэндэнцыі, звязаныя з выкарыстаннем смяротнага пакарання ў Беларусі. Так, судовы працэс над так званай бандай Марозава, у выніку якога 1 снежня былі асуджаны да вышэйшай меры пакарання 3 чалавекі, адбываўся ў закрытым парадку не ў судзе па месцы ўчынення злачынстваў (Гомель), а ў следчым ізалятары ў Мінску, дзе выконваюцца смяротныя прысуды.

Нягледзячы на тое, што пракуратура тлумачыла правядзенне суда ў ізалятары вялікай колькасцю абвінавачаных, а закрытасць працэсу – пытаннямі бяспекі, гэтая практыка выклікае вялікія нараканні з боку праваабаронцаў. Асабліва непакоіць магчымасць

выкарыстання смяротнага пакарання супраць палітычных і грамадскіх актывістаў у мэтах запалохвання і шантажу. Найбольш яскравым прыкладам з'яўляецца сітуацыя, якая склалася напярэдадні выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Так, на прэс-канферэнцыі 16 сакавіка старшыня КДБ Сцяпан Сухарэнка заявіў, што ўсіх незадаволеных вынікамі выбараў, якія выйдуць на вуліцы Беларусі і паспрабуюць дэстабілізаваць абстаноўку, будуць судзіць як тэрарыстаў. С. Сухарэнка таксама заявіў, што КДБ узнаўляе крымінальныя справы па артыкуле "пагроза ўчынення тэрарыстычнага акта", і ўсе датычныя да гэтых злачынстваў, незалежна ад пасады, будуць затрыманы і прыцягнуты да адказнасці. Згодна з арт. 359 Крымінальнага кодэкса, за падобныя злачынствы прадугледжваецца сярод іншых і смяротнае пакаранне. Яшчэ адзін яскравы прыклад ціску па палітычных матывах, у тым ліку – пагрозай прымянення смяротнага пакарання, звязаны са справай моладзевага актывіста з Жодзіна Паўла Красоўскага. Так, П. Красоўскі быў затрыманы па падазрэнні ў арганізацыі выбухаў у Віцебску ў верасні 2005 г., а затым да гэтых абвінавачанняў былі далучаныя падазрэнні ў забойствах і згвалтаваннях двух чалавек, за што прадугледжана смяротнае пакаранне. Падазрэнні з моладзевага актывіста з цягам часу былі зняты, але гэты выпадак прадэманстраваў, што калі інстытут смяротнага пакарання легальна існуе ў дзяржаве, то няма ніякай

гарантыі, што ён не будзе выкарыстоўвацца і надалей на практыцы ў падобных сітуацыях дзеля запалохвання палітычных апанентаў рэжыму.

27 верасня Камітэт па правах чалавека ААН ухваліў даклад спецыяльнага дакладчыка ААН па Беларусі Адрыяна Севярына, у якім гаворыцца: “Рабочая група па адвольных затрыманнях звяртае ўвагу на відавочны дысбаланс паўнамоцтваў пракуратуры і правоў абароны, што з’яўляецца парушэннем міжнародных нормаў. Такое становішча выклікае вялікую занепакоенасць, паколькі Беларусь засталася апошняй краінай Еўропы, дзе прымяняецца смяротнае пакаранне. У межах сістэмы, пры якой абвінавачаныя пазбаўлены права на абарону, вышэй верагоднасць судовых памылак”. Нараканні з боку беларускай і міжнароднай грамадскасці выклікае не толькі наяўнасць вышэйшай меры пакарання ў Рэспубліцы Беларусь, але і працэдура выканання: таемнасць і закрытасць прывядзення прысуду ў выкананне, а таксама далейшыя дзеянні, звязаныя з пахаваннем асуджанага. Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі выкананне смяротнага пакарання ў Беларусі прыроўніваюць да катавання, у тым ліку крытыкуюць негуманныя ўмовы ўтрымання асуджаных да смяротнага пакарання ў Беларусі (напрыклад, пазбаўленне прагулак на вольным паветры, кругласутачнае электрычнае асвятленне ў камерах), а таксама ўсю сістэму прывядзення ў выкананне смяротных прысудаў.

23 мая быў апублікаваны штогадовы даклад міжнароднай праваабарончай арганізацыі "Amnesty Inernational", дзе таксама з трывогай адзначана, што Беларусь – адзіная краіна ў Еўропе, дзе не скасавана смяротнае пакаранне.

## 2007 Г.

2007 г. стаў гістарычна значным у накірунку змагання за адмену смяротнага пакарання ва ўсім свеце: 15 лістапада Трэці камітэт ААН (сацыяльныя, гуманітарныя пытанні і пытанні культуры) прыняў Рэзалюцыю, якая заклікала нацыі ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне. Ніколі раней абмеркаванне гэтага пытання ў межах Трэцяга камітэта, дзе права голасу маюць усе краіны-ўдзельніцы ААН, не прыводзіла да прыняцця Рэзалюцыі з-за рознасці поглядаў дзяржаў і розных прававых сістэм. У Рэзалюцыі ўказваецца, што "ўжыванне смяротнага пакарання падрывае чалавечую годнасць", і выказваецца перакананасць у тым, "што мараторый на ўжыванне смяротнага пакарання спрыяе больш поўнаму выкананню і прагрэсіўнаму развіццю правоў чалавека, што няма ніякіх пераканаўчых доказаў таго, што смяротнае пакаранне з'яўляецца фактарам стрымлівання, і што любыя памылкі ці недахопы сістэмы правасуддзя ў справе ўжывання смяротнага пакарання маюць незваротны і непапраўны характар". Рэзалюцыя

заклікала ўсе дзяржавы, у якіх яшчэ захоўваецца смяротнае пакаранне, паступова абмяжоўваць іх ужыванне і скарачаць колькасць злачынстваў, за якія яно можа быць вынесена, а таксама "ўвесці мараторый на прывядзенне смяротных прысудаў у выкананне ў мэтах адмены смяротнага пакарання".

Рэзалюцыя была падрыхтавана па ініцыятыве Еўрапейскага Саюза і ўнесена да разгляду ад імя 74 дзяржаў. Дакумент быў прыняты большасцю галасоў ва ўмовах напружаных дыскусій і супрацьстаяння. Вынікі галасавання: 99 краін – "за", 52 – "супраць" і 33 – "устрымаліся". Найбольш актыўна супраць Рэзалюцыі выступалі Кітай, Ірак, Іран і ЗША (пераважная большасць смяротных пакаранняў прыходзіцца якраз на гэтыя краіны). Беларусь падчас галасавання ўстрымалася. Яшчэ адной важнай падзеяй на міжнародным узроўні стала абвяшчэнне Радай Еўропы Еўрапейскага дня барацьбы супраць смяротнага пакарання. Гэтае рашэнне РЕ назвала еўрапейскім унёскам у Сусветны дзень супраць смяротнага пакарання, які адзначаецца кожны год 10 кастрычніка.

Па звестках ААН за 2007 г., 146 дзяржаў адмовіліся ад смяротнага пакарання, у 51 краіне яно захоўваецца. Пры гэтым Беларусь застаецца адзінай з краін Еўропы, дзе да гэтага часу выкарыстоўваецца дадзеная выключная мера. Прэм'ерміністр Італіі Рамана Продзі ва ўступным слове да дакладу "Пакаранне смерцю ва ўсім свеце – 2007"

міжнароднай арганізацыі “Hands off Cain” канстатаваў: “Калі б не Беларусь, дык Еўропу можна было б назваць кантынентам, вольным ад пакарання смерцю”. Беларусь засталася і апошняй з постсавецкіх краін (Узбекістан адмаўляецца ад вышэйшай меры пакарання з 1 студзеня 2008 г.), дзе выносяцца і прыводзяцца ў выкананне смяротныя прысуды. Артыкул 24 Канстытуцыі Беларусі гарантуе кожнаму права на жыццё, у ім жа замацаваны часовы характар смяротнага пакарання: “Смяротнае пакаранне да яго адмены можа ўжывацца ў адпаведнасці з законам як выключная мера пакарання за асабліва цяжкія злачынствы і толькі згодна з прысудам суда”. Крымінальны кодэкс прадугледжвае ўжыванне смяротнага пакарання за 12 складаў злачынстваў ва ўмовах мірнага часу і 2 склады злачынстваў – ва ўмовах ваеннага. Асуджаны да вышэйшай меры пакарання мае права абскардзіць прысуд у Вярхоўным Судзе, а затым падаць прашэнне ў Камісію па памілаваннях пры прэзідэнце Беларусі; любое рашэнне камісіі падпісвае асабіста прэзідэнт. На дадзены момант вядома толькі адно рашэнне прэзідэнта аб памілаванні асуджанага да смяротнага пакарання. Аднак з-за закрытасці і таемнасці дзеянняў, звязаных з прымяненнем выключнай меры пакарання, адсутнасці інфармавання грамадскасці нельга дакладна казаць пра вынікі працы Камісіі па памілаваннях.

На працягу года ў сродках масавай інфармацыі

з’яўляліся паведамленні пра справы, дзе абвінавачаныя атрымлівалі вышэйшую меру пакарання. 10 студзеня да выключнай меры пакарання рашэннем Полацкага раённага суда Віцебскай вобласці быў асуджаны 28-гадовы жыхар Наваполацка Юры Курыльскі, у маі Вярхоўны Суд пакінуў гэты прысуд у сіле. 22 мая Вярхоўны Суд вынес прысуд у выглядзе смяротнага пакарання беламу камандзіру роты Гродзенскага раённага дэпартамента аховы МУС Аляксандру Сяргейчыку; у лістападзе стала вядома, што прысуд прыведзены ў выкананне. Гэтая інфармацыя супадае са звесткамі, якія абнародаваў у інтэрв’ю “Советской Белоруссии” старшыня Вярхоўнага Суда Валянцін Сукала, які заявіў, што за першае паўгоддзе 2007 г. вынесены 2 смяротныя прысуды.

Вядома таксама, што 9 кастрычніка Судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда Беларусі да вышэйшай меры пакарання асудзіла Сяргея Марозава і Ігара Данчанку пасля разгляду другой справы супраць членаў “марозаўскай” злачыннай групоўкі (аналагічныя прысуды гэтым асобам былі вынесены 1 снежня 2006 г. па выніках разгляду першай справы). Пры гэтым, па словах дзяржаўнага абвінаваўцы Эльдара Сафарава, расследаванне “марозаўскай” справы працягваецца і, зыходзячы з гэтага, “не выключана, што смяротны прысуд Марозаву пакуль не будзе прыведзены ў выкананне”. Асуджаныя звярнуліся да прэзідэнта з

просьбай аб памілаванні, але паколькі яны ўжо двойчы атрымалі смяротныя прысуды, шанцы на памілаванне іх ацэньваюцца як мінімальныя. Такім чынам, у 2007 г. вынесены смяротныя прысуды як мінімум 4 асобам. Гэта менш, чым у 2006 г. (9 чалавек былі асуджаны да вышэйшай меры пакарання), але больш, чым у папярэднія гады: 2005 г. – 2 чалавекі, 2004 г. – 2 чалавекі.

Сітуацыю з выкарыстаннем выключнай меры пакарання ў Беларусі старшыня Вярхоўнага Суда В. Сукала ацаніў як "рубеж, за якім стаіць мараторый на ўжыванне смяротнага пакарання" (інтэрв'ю "Советской Белоруссии" у снежні 2007 г.). В. Сукала таксама заявіў, што "суддзяў псіхалагічна рыхтуюць да таго, што смяротнае пакаранне будзе адменена". Па яго словах, ужо сем гадоў у Беларусі дзейнічае альтэрнатыва смяротнаму пакаранню – пажыццёвае зняволенне, і таму выключная мера ўжываецца рэдка. Старшыня Вярхоўнага Суда таксама адзначыў, што нялёгка знаходзіць адэкватнае пакаранне, калі гаворка ідзе пра серыйных забойцаў альбо справы буйных банд. Меркаванне старшыні Вярхоўнага Суда падзяляюць далёка не ўсе прадстаўнікі ўлады ў Беларусі. Каментуючы агенцтву БелаПАН Рэзалюцыю Трэцяга камітэта ААН аб увядзенні мараторыя на смяротнае пакаранне, міністр унутраных спраў Уладзімір Навумаў заявіў: "Сёння смяротнае пакаранне – гэта мера, без якой пакуль абысціся нельга". На яго думку, названая

Рэзалюцыя была прынятая "ва ўгоду палітыцы, а не здароваму сэнсу. Здаровы сэнс такі: давайце спытаем людзей у тых краінах, дзе адмовіліся ад смяротнага пакарання. Я не лічу, што Расія з гэтым бітцаўскім маньякам [Аляксандр Пічушкін, асуджаны да пажыццёвага зняволення Маскоўскім гарадскім судом] выкарыстала ідэальны варыянт. Тыя людзі, якія пацярпелі ад яго злачынстваў, думаюць так, як я".

Уладзімір Навумаў агучыў таксама меркаванне адносна залежнасці ўзроўню злачыннасці ад наяўнасці ці адсутнасці смяротнага пакарання ў карнай сістэме краін: "У Беларусі за апошнія пяць гадоў колькасць зарэгістраваных забойстваў паслядоўна скарачаецца. А ў іх, у любой краіне, дзе няма смяротнага пакарання, усё якраз наадварот". Разам з тым апошняе сцверджанне міністра ўнутраных спраў супярэчыць вынікам даследаванняў міжнародных экспертаў, якія зрабілі выснову, што ўжыванне смяротнага пакарання робіць грамадства больш жорсткім і прыводзіць да росту колькасці забойстваў і злачынстваў. Даследаванні ААН (1988 г., з дапаўненнямі 1996 і 2002 гг.) адносна сувязі паміж смяротным пакараннем і колькасцю забойстваў "не змаглі навукова даказаць, што смяротнае пакаранне ўплывае на зніжэнне колькасці забойстваў у значна большай меры, чым пагроза пажыццёвага зняволення. Сёння няма ніякіх доказаў у падтрымку такой гіпотэзы, і малаверагодна, што яны будуць атрыманы потым".

Неабходнасць адмены смяротнага пакарання ў Беларусі пастаянна абмяркоўвалася на міжнародных форумах з удзелам прадстаўнікоў беларускіх улад.

Падчас канферэнцыі “Роля парламента ў вызначэнні палітыкі развіцця інфармацыйнага грамадства” ў Рыме на пачатку сакавіка старшыня Савета Рэспублікі Генадзь Навіцкі ў размове з дакладчыкам ПАРЕ па Беларусі Андрэа Рыгоні аб магчымасцях адмены смяротнага пакарання заявіў: “Беларусь – еўрапейская краіна, арыентаваная на агульначалавечыя і еўрапейскія каштоўнасці, якая ідзе па дэмакратычным шляху развіцця. Але трэба разумець, што ёсць пытанні гістарычных асаблівасцей, менталітэту, цяжкасцей пераходнага перыяду. Таму немагчыма пабудаваць грамадства, якое адпавядала б высокім еўрапейскім стандартам, у кароткія тэрміны”. У гэтым выказванні Г. Навіцкага, нягледзячы на рыторыку пра еўрапейскі накірунак развіцця Беларусі, праглядаецца агульная скіраванасць беларускіх улад на адыход ад еўрапейскіх каштоўнасцей, а “пераходны перыяд” для Беларусі на тле адмовы ад дадзенага пакарання не толькі еўрапейскіх краін-суседзяў, але і дзяржаў былога Савецкага Саюза выглядае занадта зацягнутым. Пры гэтым Г. Навіцкі, адзначаючы, што Беларусь ідзе па шляху звужэння прымянення смяротнага пакарання, агучыў недакладную інфармацыю: ён сказаў, што ў 2006 г. толькі 2 чалавекі асуджаны да смяротнага пакарання, а на самай

справе такіх асоб было 9. Нежаданне Беларусі адмовіцца ад “узаконенага забойства” працягвала выклікаць значнае асуджэнне і крытыку, асабліва з боку еўрапейскіх структур і праваабарончых арганізацый. Так, у лістападзе старшыня Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы Рэнэ ван дэр Ліндэн, звяртаючыся да прэзідэнта Беларусі з просьбай адмяніць смяротныя прысуды ўдзельнікам “банды Марозава”, заклікаў “увесці мараторый на смяротнае пакаранне, што стала б яскравым і рашучым крокам да збліжэння Беларусі з Радай Еўропы… Смяротнаму пакаранню няма месца ў пенітэнцыярных сістэмах сучасных цывілізаваных дзяржаў. Гатоўнасць неадкладна ўвесці інстытут мараторыя на прывядзенне ў выкананне прысудаў да вышэйшай меры пакарання і адмяніць смяротнае пакаранне з’яўляецца неабходнай перадумовай для ўступлення ў Раду Еўропы”.

Спецдакладчык ААН па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі Адрыян Севярын у дакладзе ад 12 чэрвеня 2007 г. адзначыў: “…Не перастае выклікаць заклапочанасць тая акалічнасць, што Беларусь з’яўляецца апошняй краінай Еўропы, дзе ўжываецца смяротнае пакаранне. Становішча ў краіне ўсё яшчэ адрозніваецца крайняй суровасцю фізічных умоў утрымання пад вартай да суда, практыкай ужывання катаванняў і іншых бесчалавечных відаў абыходжання і празмернага ўжывання сілы міліцыяй”.

Уплывовая міжнародная праваабарончая арганізацыя "Amnesty International" працягвала звяртацца да беларускіх улад з заклікам адмовіцца ад выкарыстання смяротнага пакарання, крытыкуючы як саму наяўнасць яго ў прававой сістэме, так і ўсю працэдуру прывядзення прысудаў у выкананне: таемнасць і закрытасць выканання прысуду, а таксама далейшыя дзеянні, звязаныя з пахаваннем пакаранага. "Amnesty International" выказвала патрабаванні, каб родным пакараных падавалася поўная інфармацыя пра дату, месца прывядзення прысуду ў выкананне і месца пахавання, а таксама выдавалася цела пакаранага і ягоныя асабістыя рэчы. Пры разглядзе дзвюх спраў, датычных ужывання смяротнага пакарання ў Беларусі, якія былі пададзены ў межах працэдуры індывідуальнай скаргі, Камітэт ААН па правах чалавека вынес заключэнне пра тое, што рэжым сакрэтнасці ў справе выканання смяротнага пакарання "абарочваецца застрашваннем ці пакараннем родных асуджанага з-за таго, што іх свядома пакідаюць у стане няпэўнасці і крайняй занепакоенасці, а таксама, што ўлады спачатку не паведамілі дату, на якую прызначана пакаранне, а ў далейшым неаднаразова адмаўляліся паведаміць месца пахавання цела, што з'яўляецца бесчалавечнымі адносінамі і парушае артыкул 7 Пакта (які забараняе катаванні, жорсткае, бесчалавечнае ці прыніжаючае годнасць абыходжанне ці пакаранне)". Аднак Беларусь да гэтага часу не выканала

рэкамендацыі Камітэта адносна асоб, якіх датычыліся індывідуальныя скаргі, а таксама не прывяла ў адпаведнасць з імі беларускае заканадаўства, не рассакрэціла і не ўдасканаліла працэдуру выканання прысудаў і пахавання пакараных. Трэба адзначыць, што непрадастаўленне поўнай інфармацыі пра смяротныя прысуды грамадскасці і зацікаўленым родным асуджаных з'яўляецца парушэннем міжнародных абавязацельстваў, а таксама міжнародна-прававых стандартаў. Так, у Рэзалюцыі 1989/64, прынятай 24 мая 1989 г., Эканамічная і Сацыяльная рада ААН заклікала дзяржавы-члены "публікаваць па кожным відзе правапарушэнняў, за якія прадугледжана смяротнае пакаранне, інфармацыю пра выкарыстанне смяротнага пакарання, уключаючы колькасць асоб, асуджаных да смяротнага пакарання, колькасць фактычных пакаранняў, колькасць асоб, якія знаходзяцца ў зняволенні па прысудзе да смяротнага пакарання, колькасць адмененых ці змененых па апеляцыі прысудаў да смяротнага пакарання і колькасць выпадкаў, калі выносілася рашэнне пра памілаванне…" Рэзалюцыя 2005/59, прынятая Камісіяй ААН па правах чалавека 20 красавіка 2005 г., заклікала ўсе дзяржавы, якія не адмянілі смяротнае пакаранне, "зрабіць даступнай для грамадскасці інфармацыю адносна вынясення смяротных прысудаў".

"Падаваць Генеральнаму сакратару інфармацыю аб выкарыстанні смяротнага пакарання і выкананні

гарантый абароны правоў асоб, якім пагражае смяротнае пакаранне" – такое патрабаванне ўтрымліваецца ў Рэзалюцыі Трэцяга камітэта ААН ад 15 лістапада 2007 г. Беларусь на працягу апошніх гадоў ужо рабіла некаторыя крокі, якія маглі б прывесці да адмены смяротнага пакарання пры наяўнасці палітычнай волі.

## 2008 Г.

На 2008 г. Беларусь засталася апошняй дзяржавай у Еўропе, дзе выносяцца і прыводзяцца ў выкананне смяротныя прысуды. Пасля адмены смяротнага пакарання з 1 студзеня 2008 г. Узбекістанам наша краіна засталася апошняй з дзяржаў на постсавецкай прасторы, якая выкарыстоўвае гэты від пакарання.

Характарызуючы сітуацыю з выкарыстаннем смяротнага пакарання ў Беларусі, старшыня Вярхоўнага Суда Валянцін Сукала назваў яе практычным дзеяннем мараторыя. На прэс-канферэнцыі 9 верасня 2008 г. ён заявіў, што "смяротныя прысуды выносяцца надзвычай рэдка, і мы падышлі да практычнага мараторыя і псіхалагічна гатовы да гэтага, калі рашэнне будзе прынята на ўзроўні парламента і прэзідэнта".

Па словах старшыні Вярхоўнага Суда, у 2008 г. быў вынесены толькі адзін смяротны прысуд [у 2007 г. – 4, у 2006 г. – 9, у 2005 г. – 2, у 2004 г. – 2], тры чалавекі былі асуджаны да пажыццёвага зняволення (усяго пажыццёвае

зняволенне на дадзены момант у Беларусі адбываюць 130 чалавек).

Інфармацыю пра вынясенне ў 2008 г. у Беларусі толькі аднаго смяротнага прысуду агучыў і міністр унутраных спраў Уладзімір Навумаў на прэс-канферэнцыі 10 снежня, назваўшы смяротнае пакаранне фактарам стрымлівання пры ўчыненні асабліва цяжкіх злачынстваў.

Разам з тым з афіцыйных паведамленняў і сродкаў масавай інфармацыі, якія на працягу года асвятлялі справы, па якіх абвінавачаныя атрымлівалі вышэйшую меру пакарання, вядомы як мінімум два такія асуджаныя.

Так, згодна з інфармацыяй, змешчанай на інтэрнэт-сайце Генеральнай пракуратуры, 21 сакавіка 2008 г. уступіў у законную сілу прысуд да выключнай меры пакарання, вынесены Судовай калегіяй па крымінальных справах Мінскага абласнога суда ў адносінах да 21-гадовага ўраджэнца

Салігорскага раёна Мікалая Каляды. Асуджанаму інкрымінавалася ўчыненне трох забойстваў, два замахі на забойствы, разбой і хуліганства. Менавіта звесткі пра дадзены прысуд беларускія ўлады паведамілі ў сродках масавай інфармацыі, і гэтая інфармацыя ўтрымліваецца ў даведачным дакуменце арганізацыі аб прымяненні смяротнага пакарання за 2008 г. Афіцыйны беларускі бок паведаміў таксама АБСЕ, што замена смяротных прысудаў на больш мяккае пакаранне ў адносінах да

асуджаных па працэдуры памілавання ў Беларусі не прымянялася, што азначае, што прысуд у адносінах да М. Каляды быў пакінуты ў сіле.

Аднак таксама вядома, што 20 чэрвеня 2008 г. Гомельскі абласны суд да вышэйшай меры пакарання асудзіў 27-гадовага жыхара Гомеля Паўла Ленага па абвінавачанні ў згвалтаванні і забойстве дзевяцігадовага хлопчыка . by). У кастрычніку зноў жа са сродкаў масавай інфармацыі стала вядома, што прысуд у адносінах да П. Ленага прыведзены ў выкананне Article/1328779. html). Інфармацыя пра гэты прысуд і яго выкананне з афіцыйных крыніц не паступала, што выклікае непаразуменне і трывогу.

5 лютага ад прэс-сакратара Вярхоўнага Суда Анастасіі Цімановіч стала вядома, што прыведзены ў выкананне прысуд у адносінах да трох лідараў гомельскай злачыннай групоўкі – Сяргея Марозава, Валерыя Гарбатага і Ігара Данчанкі (Вярхоўны Суд двойчы – у снежні 2006 г. і кастрычніку 2007 г. – прыгаворваў С. Марозава і І. Данчанку да вышэйшай меры пакарання, В. Гарбаты быў асуджаны да расстрэлу ў снежні 2006 г.). Разам з тым слуханне спраў, звязаных з дзейнасцю "марозаўскай групоўкі", на момант прывядзення прысуду ў выкананне яшчэ не было скончана: у студзені 2008 г. Вярхоўны Суд прыняў да вытворчасці крымінальную справу ў адносінах да Сяргея Марозава і яшчэ трох членаў злачыннай арганізацыі. Хуткасць

прывядзення прысуду ў выкананне выклікае не толькі здзіўленне, але і заклапочанасць. Па адной з версій, Сяргей Марозаў быў расстраляны да пачатку судовых слуханняў (19 лютага) у сувязі з тым, што ён пачаў даваць паказанні на высокапастаўленых супрацоўнікаў МУС і КДБ, дзякуючы апецы якіх яго групоўка беспакарана дзейнічала ў Гомельскай вобласці з 1994 да 2004 г. З заклікам адмяніць смяротныя прысуды С. Марозаву, І. Данчанку і В. Гарбатаму асабіста да прэзідэнта Беларусі ў лістападзе 2007 г. звяртаўся старшыня Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы Рэнэ ван дэр Ліндэн. Ён адзначаў таксама, што ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне "стала б яўным і рашучым крокам да збліжэння Беларусі з Радай Еўропы".

Пасля інфармацыі пра тое, што злачынцы ўсё ж расстраляны, Генеральны сакратар Рады Еўропы Тэры Дэвіс заявіў, што прывядзенне прысуду ў выкананне – "чарговая праява непавагі, якую ўрад Беларусі адкрыта дэманструе адносна чалавечых каштоўнасцей і дасягненняў, якія аб'ядноўваюць усе еўрапейскія краіны". Тэры Дэвіс адзначыў, што Беларусь – не сябра Рады Еўропы, але з'яўляецца сябрам ААН, і выкананне смяротнага прысуду тром грамадзянам краіны супярэчыць літары і духу рэзалюцыі Генеральнай асамблеі ААН, якая заклікала да сусветнага мараторыя на прымяненне смяротнага пакарання. Асуджэнне ў сувязі з захаваннем у Беларусі – адзінай краіне Еўропы –

смяротнага пакарання выказвалася ў рэзалюцыях Еўрапарламента, прынятых 22 лютага і 9 кастрычніка 2008 г. Рэзалюцыя ПАРЕ, прынятая 15 красавіка пасля абмеркавання дакладу аб злоўжываннях у сістэме крымінальнага правасуддзя ў Беларусі, заклікала беларускія ўлады неадкладна ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне.

Найбольшы розгалас меў зварот дакладчыка Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы Андрэа Рыгоні на імя старшыні Палаты прадстаўнікоў Вадзіма Папова і старшыні Савета

Рэспублікі Генадзя Навіцкага, апублікаваны 14 красавіка ў "Народнай газеце" – афіцыйным выданні парламента Беларусі. Спадар Рыгоні ў адкрытым лісце заклікаў кіраўнікоў палат парламента зрабіць усе магчымыя крокі да ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне як прамежкавага кроку ў накірунку да поўнай яго адмены. У звароце падкрэсліваецца: "Кожнае смяротнае пакаранне – гэта ўжо само па сабе вельмі шмат. Наколькі б жахлівым ні было здзейсненае злачынства, наколькі б бясспрэчнымі ні былі доказы вінаватасці, нішто не можа апраўдаць забойства чалавека дзяржавай". Андрэа Рыгоні адзначыў, што ведае, што на рэферэндуме 1996 г. грамадзяне Беларусі выказаліся за захаванне вышэйшай меры пакарання, і настойваў: "Народным павінна быць у аснове сваёй любое рашэнне, але існуюць пэўныя пытанні, па якіх кіраўніцтву краіны

варта ўзяць на сябе адказнасць першапраходцаў, якія вядуць за сабой людзей і паказваюць ім шлях. Я прашу вас і Нацыянальны сход Беларусі ўзяць на сябе палітычнае абавязацельства, якое будзе гарантаваць, што ніхто больш не будзе пакараны смерцю ў Беларусі".

Каментуючы зварот А. Рыгоні, старшыня Палаты прадстаўнікоў Вадзім Папоў на прэс-канферэнцыі 17 красавіка адзначыў: "Многія казалі, што не трэба друкаваць матэрыял Рыгоні, маўляў, народ абурыцца. Мы надрукавалі. Цяпер давайце паглядзім, як будзе рэагаваць на гэта насельніцтва. Дыскусія будзе ці не будзе? Як народ да гэтага паставіцца? А потым будзем думаць, што рабіць далей". Фактычна гэта стала першай прапановай за апошнія гады з боку ўлад правесці дыскусію ў грамадстве па вострай праблеме. Вадзім Папоў таксама заявіў, што "надышоў час, каб абмеркаваць пытанне аб увядзенні мараторыя на смяротнае пакаранне ў Беларусі. Давайце разам рыхтаваць грамадскую думку дзеля таго, каб саспелі ўмовы для прыняцця дадзенага рашэння. Давайце паглядзім, як будзе рэагаваць народ на дадзенае пытанне. Натуральна, з адмены смяротнага пакарання не пачнеш. Можа, спачатку мараторый? І тут трэба працягваць працаваць з насельніцтвам. Ну, а як інакш, калі на рэферэндуме 86% [насамрэч, 80,44%] грамадзян Беларусі прагаласавала супраць адмены смяротнага пакарання? Уявіце, дэпутаты прымуць іншае рашэнне. Пра якія правы чалавека, пра якую дэмакратыю тады

можна казаць, калі б мы падтрымалі Еўропу і выканалі яе просьбу?”

Нягледзячы на гучныя заявы, на працягу года ніякай інфармацыйнай працы з насельніцтвам, ніякіх мерапрыемстваў, накіраваных на змену грамадскага меркавання па пытанні смяротнага пакарання, з боку ўлад не праводзілася.

На працягу 2008 г. беларускія ўлады не зрабілі рашучых дзеянняў, накіраваных на адмену ці ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне. Дыскусія па дадзенай праблеме ў асноўным зводзілася да абмеркавання перспектыў уступлення Беларусі ў Раду Еўропы і адмены смяротнага пакарання як адной з умоў ажыццяўлення такога палітычнага кроку.

Падчас студзеньскай сесіі Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы ў Страсбургу старшыня камісіі па заканадаўстве і дзяржаўным будаўніцтве Савета Рэспублікі Наталля Андрэйчык заявіла, што Беларусь “хоча прасунуцца на шляху да стандартаў Рады Еўропы, пра што сведчыць наш намер увесці мараторый на смяротнае пакаранне”.

У інтэрв’ю інфармацыйнаму агенцтву “Інтэрфакс-Захад” 18 снежня старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу чацвёртага склікання Уладзімір Андрэйчанка заявіў, што “беларускія ўлады з разуменнем ставяцца да пазіцыі Рады Еўропы і ПАРЕ па смяротным пакаранні і прыкладаюць неабходныя

намаганні для абмежавання яго прымянення і поўнай адмены". Пры гэтым адной з перашкод для рашучых крокаў у дадзеным накірунку У. Андрэйчанка назваў "волю народа, выказаную на рэферэндуме 1996 г., на якім больш за 75% [насамрэч, 80,44%] грамадзян выказалася супраць адмены смяротнага пакарання. Але ў прынцыповым плане мы не выключаем магчымасці на пэўным этапе грамадскага развіцця разгледзець пытанне аб увядзенні часовага мараторыя. Поўная ж адмена смяротнага пакарання магчымая толькі шляхам правядзення агульнанацыянальнага рэферэндуму".

Выказанае Уладзімірам Андрэйчанкам меркаванне пра неабходнасць правядзення рэферэндуму дзеля ўвядзення мараторыя ці адмены смяротнага пакарання не адпавядае высновам Заключэння Канстытуцыйнага Суда Беларусі ад 11 сакавіка 2004 г., дзе гаворыцца: "Канстытуцыйны Суд лічыць, што ў сучасных умовах пытанне аб адмене дадзенага віду пакарання ці як першым кроку – аб абвяшчэнні мараторыя на яго прымяненне можа быць вырашана Кіраўніком дзяржавы і Парламентам". Пры гэтым у Заключэнні адзначана, што рашэнне рэферэндуму 1996 г., падчас якога за захаванне смяротнага пакарання ў Беларусі выказалася 80,44% грамадзян, "не мела абавязковага характару".

Старшыня Вярхоўнага Суда Беларусі Валянцін Сукала ў інтэрв'ю БелТА 2 чэрвеня таксама адзначыў, што "захоўваць гэты від пакарання ў крымінальным

законе надалей ці адмовіцца ад яго – рашэнне знаходзіцца ў кампетэнцыі суб'ектаў заканадаўчай ініцыятывы і парламентарыяў. Што датычыць судовай улады, то мы ніколі не настойвалі на яго захаванні і лічым, што на дадзены момант склаліся неабходныя перадумовы для разгляду дадзенага пытання, хаця б у плане абвяшчэння мараторыя на прымяненне гэтай выключнай меры пакарання".

Адначасова значную гуманізацыю поглядаў грамадзян Беларусі па праблеме смяротнага пакарання адзначаюць сацыёлагі. Так, згодна з дадзенымі нацыянальнага апытання, якое было праведзена ў верасні 2008 г. Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, за адмену смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь выказалася 44,2% рэспандэнтаў, супраць адмены – 47,8%. Гэта сведчыць пра тое, што спасылкі на звесткі рэферэндуму, які адбыўся 12 гадоў таму, на сённяшні момант не адпавядаюць рэальнай грамадскай думцы і больш выкарыстоўваюцца як апраўданне нерашучасці ў прыняцці палітычных рашэнняў.

"Апошнім ка́там у Еўропе" ў сваім гадавым дакладзе, прадстаўленым у маі 2008 г., назвала Беларусь уплывовая міжнародная праваабарончая арганізацыя "Amnesty International". На працягу апошніх гадоў яна неаднаразова звярталася да беларускіх улад з заклікам адмовіцца ад выкарыстання смяротнага пакарання,

крытыкуючы як саму наяўнасць яго ў прававой сістэме, так і працэдуру прывядзення прысудаў у выкананне. “Міжнародная Амністыя” заявіла пра арганізацыю ў 2009 г. шырокай кампаніі, накіраванай на адмену смяротнага пакарання ў Беларусі. З мэтай маніторынгу сітуацыі і правядзення папярэдніх кансультацый з зацікаўленымі бакамі з 22 да 28 кастрычніка Беларусь наведала прадстаўнік арганізацыі Хізер Макгіл. У яе планах, сярод іншага, было правядзенне сустрэч з афіцыйнымі асобамі – прадстаўнікамі МУС, Генпракуратуры, Міністэрства юстыцыі і Вярхоўнага Суда, пра што ў гэтыя ведамствы былі папярэдне накіраваны адпаведныя запыты. “Прадстаўнікі ўладных структур у Беларусі, і ў гэтым была вялікая зацікаўленасць з майго боку, маглі б сустрэцца са мной, каб абмеркаваць пытанні смяротнага пакарання і яго адмены. Гэта быў бы прадуктыўны крок насустрач Еўропе. Але пакуль мае спробы засталіся безвыніковымі”, – сказала Хізер Макгіл. Сустрэча адбылася толькі з работнікамі Міністэрства юстыцыі, астатнія дзяржструктуры, спасылаючыся на занятасць кіраўніцтва, сустракацца з праваабаронцай адмовіліся.

Такім чынам, 2008 г. не стаў пераломным для Беларусі ў вырашэнні праблемы смяротнага пакарання і далучэння да еўрапейскай супольнасці, свабоднай ад узаконенага забойства дзяржавай.

5 лютага са сродкаў масавай інфармацыі стала вядома, што ў выкананне прыведзены смяротны прысуд

у дачыненні да трох лідараў гомельскай злачыннай групоўкі – Сяргея Марозава, Валерыя Гарбатага і Ігара Данчанкі. Як паведаміў БелаПАН адзін з гомельскіх адвакатаў, якія бралі ўдзел у судовым працэсе па справе "марозаўскай банды", дакументы аб прызнанні С. Марозава памерлым прыйшлі на пачатку лютага ў ЗАГС Чыгуначнага раёна Гомеля. Генеральны сакратар Рады Еўропы Тэры Дэвіс выступіў з асуджэннем новых фактаў прымянення ў Беларусі пакарання смерцю ў якасці вышэйшай меры: "Беларусь, вядома, не з'яўляецца членам Рады Еўропы, якая адмяніла пакаранне смерцю на падставе Пратакола № 6 Еўрапейскай канвенцыі аб правах чалавека, але яна ўваходзіць у склад Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Аднак пакаранне смерцю С. Марозава, В. Гарбатага і І. Данчанкі – гэта яўнае грэбаванне нядаўняй рэзалюцыяй Генеральнай асамблеі ААН, якая заклікае да глабальнага мараторыя на пакаранне смерцю".

У 2008 г. у Беларусі вынесены адзін смяротны прысуд. Пра гэта 9 верасня на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў старшыня Вярхоўнага Суда Валянцін Сукала. Гэтая лічба, паводле яго слоў, сведчыць аб "вельмі рэдкім" прымяненні ў краіне вышэйшай меры пакарання, "аб практычным мараторыі на гэты від пакарання". Таксама ён зазначыў, што заканадаўчае ўвядзенне мараторыя на пакаранне смерцю адносіцца да кампетэнцыі прэзідэнта і заканадаўцаў, але суддзі

псіхалагічна гатовыя да ўвядзення мараторыя. Пры гэтым, падкрэсліў В. Сукала, нельга забываць пра вынікі рэферэндуму 1996 г., на якім большасць грамадзян Беларусі падтрымала наяўнасць пакарання смерцю ў заканадаўстве.

## 2009 Г.

2009 г. не стаў для Беларусі вырашальным у пытанні адмены ці ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне. Беларусь па-ранейшаму застаецца адзінай дзяржавай на еўрапейскім кантыненце, а таксама на постсавецкай прасторы, дзе выносяцца і прыводзяцца ў выкананне смяротныя прысуды.

Разам з тым упершыню за гады існавання незалежнай Беларусі тэма смяротнага пакарання стала прадметам шырокай дыскусіі ў краіне. Калі ў папярэднія гады найперш міжнародныя структуры і праваабарончая супольнасць актуалізавалі дадзеную праблему, то на працягу 2009 г. і прадстаўнікі розных узроўняў беларускіх улад перыядычна заяўлялі пра неабходнасць канкрэтных крокаў па адмене ці ўвядзенні мараторыя на смяротнае пакаранне. Аднак неабходна прызнаць, што абмеркаванне гэтай праблемы беларускімі ўладамі вялося найперш у палітычнай плоскасці і з абсалютна прагматычных пазіцый, зважаючы, перш за ўсё, на ціск міжнароднай супольнасці. Пры гэтым такія важныя

аспекты, як узаемасувязь наяўнасці смяротнага пакарання з узроўнем злачыннасці ў дзяржаве, гуманізацыя крымінальнага заканадаўства, маральны бок праблемы, на жаль, не знайшлі належнага адлюстравання ў выкладзеных пазіцыях афіцыйных асоб.

Спробу не выключаць дадзеныя аспекты з агульнай дыскусіі больш прадпрымалі прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці. Першая палова года давала ўстойлівую надзею на тое, што беларускія ўлады гатовы разглядаць пытанне аб адмене ці ўвядзенні мараторыя на смяротнае пакаранне. Афіцыйны Мінск разглядаў крокі ў дадзеным накірунку як дэманстрацыю абвешчанай лібералізацыі, адзін з палітычных аспектаў наладжвання дыялогу з еўрапейскімі краінамі, а таксама звязваў з перспектывамі ўступлення Беларусі ў Раду Еўропы. Дадзеная пазіцыя выразна праглядалася ў заявах афіцыйных асоб.

Так, 21 студзеня 2009 г. на прэс-канферэнцыі генеральны пракурор Беларусі Рыгор Васілевіч заявіў, што не выключае адмены смяротнага пакарання пры ўступленні ў Раду Еўропы: “Гэта патрабаванне Рады Еўропы. Калі мы ідзем туды – трэба прымаць правілы, якія існуюць. Кажуць, у чужы манастыр са сваім статутам не ходзяць”. Аднак пры гэтым генпракурор дадаў, што на дадзеным этапе лічыць існаванне такой меры пакарання абгрунтаванай “у першую чаргу ў прафілактычных мэтах”.

Тое, што ўвядзенне мараторыя на смяротнае

пакаранне дазволіць “лягчэй наладжваць” дыялог з дзяржавамі Еўропы, адзначыў на прэс-канферэнцыі 20 мая намеснік старшыні камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і СМІ Палаты прадстаўнікоў Анатоль Глаз. Па яго словах, Беларусь можа разгледзець дадзенае пытанне, і цяпер “магчыма прапрацаваць заканадаўчыя асновы па ўвядзенні мараторыя на смяротнае пакаранне”. Старшыня камісіі па заканадаўстве і судова-прававых пытаннях Мікалай Самасейка ў інтэрв’ю “Комсомольской правде” (07.04.2009 г.) сцвярджаў, што “на дадзены момант Рэспубліка Беларусь фактычна падышла да пытання аб адмене смяротнага пакарання. Разам з тым першапачаткова павінна абмяркоўвацца пытанне аб увядзенні мараторыя на смяротнае пакаранне. Афіцыйна яно пакуль у парламенце не падымалася. Але абмеркаванне дадзенага пытання можа наспець у найбліжэйшай будучыні”.

Пераканаўчыя заявы адносна працы ў дадзеным накірунку гучалі і з Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі. 11 чэрвеня намеснік кіраўніка Адміністрацыі Валерый Міцкевіч заявіў: “Пытанне аб смяротным пакаранні ўзнікла не зараз, яно абмяркоўваецца пастаянна і будзе абмяркоўвацца да таго часу, пакуль не будзе прынята канчатковае рашэнне”. На яго думку, прыняцце рашэння аб увядзенні мараторыя магчымае: “Магчымы любыя рашэнні і любое заканадаўчае рэгуляванне. Для гэтага трэба прыняць або праект закона, або нарматыўны

акт кіраўніка дзяржавы”. У сваю чаргу, 17 чэрвеня кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей падчас пасяджэння Грамадска-кансультацыйнага савета, прысвечанага праблеме гуманізацыі пенітэнцыярнай сістэмы, адзначыў, што “пытанне аб смяротным пакаранні не трэба разглядаць як нешта застылае назаўсёды. Я таксама сустракаўся са спадаром Рыгоні [спецдакладчык ПАРЕ па Беларусі], і мы на гэтую тэму размаўлялі. У нас ужо паменшылася колькасць артыкулаў у Крымінальным кодэксе, за якія давалі смяротнае пакаранне, і на практыцы такое пакаранне сталі прымяняць радзей. Тым больш што гэта [пытанне адмены смяротнага пакарання] трэба разглядаць у кантэксце ўступлення Беларусі ў Раду Еўропы. Пакуль мы гаворым толькі аб вяртанні статусу запрошанага, але калі будзе дакладнае рашэнне аб уступленні ў Раду Еўропы, то нам давядзецца пайсці на гэты крок [увесці мараторый на смяротнае пакаранне]”.

Адначасова еўрапейскія структуры дэманстравалі выразнае жаданне ісці на збліжэнне з беларускімі ўладамі. Адзін з такіх крокаў быў зроблены 26 мая, калі палиткамісія ПАРЕ адзінагалосна прагаласавала за вяртанне парламенту Беларусі статусу спецзапрошанага. Старшыня палиткамісіі Горан Ліндблад так пракаментаваў гэтае рашэнне: “Мы лічым, што такім чынам мы можам садзейнічаць зменам у краіне, якая адчувае недахоп дэмакратыі, краіне з рэпрэсіўным

урадам, краіне, дзе да гэтага часу існуе смяротнае пакаранне…”

Афіцыйны Мінск лічыў пытанне з вяртаннем парламенту статусу спецзапрошанага практычна вырашаным. У гэтых абставінах тым больш нечакана і востра на сесіі Парламенцкай Асамблеі РЕ 23 чэрвеня ў Страсбургу загучала пытанне аб наяўнасці ў Беларусі смяротнага пакарання. Выступаючы ў дыскусіі пасля дакладу Андрэа Рыгоні, які прапанаваў вярнуць беларускаму парламенту статус спецзапрошанага, віцэ-старшыня камітэта ПАРЕ па юрыдычных пытаннях і правах чалавека Хрыстас Пургурыдэс вылучыў прапанову зрабіць гэта толькі пасля ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне. Гаворачы аб важнасці гэтай умовы, Х. Пургурыдэс эмацыйна падкрэсліў: “У Беларусі расстрэльваюць людзей, а сем’ям пакараных не выдаюць целы і не паведамляюць, дзе іх пахавалі”. Паводле яго слоў, “неабходна правесці яшчэ вельмі вялікую працу”, перш чым даць беларускаму парламенту статус спецзапрошанага. “У Беларусі адбываецца шмат няправільнага. Даючы статус, нам неабходна вылучыць беларускім уладам пэўныя ўмовы”, – выказаў перакананне Х. Пургурыдэс. Пераважная большасць дэпутатаў ПАРЕ падтрымала гэтую прапанову і прагаласавала за прынящце дадзенай папраўкі ў рэзалюцыю, прадэманстраваўшы такім чынам, што для дыялогу і саступак з боку еўраструктур выключна

рыторыкі беларускіх улад недастаткова – ад іх чакаюцца канкрэтныя і хуткія дзеянні па прыняцці юрыдычнага рашэння па ўвядзенні мараторыя на смяротнае пакаранне.

У гэты ж дзень, 23 чэрвеня, МЗС Беларусі выказала засмучэнне, што ПАРЕ вылучае новыя папярэднія ўмовы для ўзнаўлення статусу спецзапрошанага, "у прыватнасці, адносна ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне ў Беларусі". Пры гэтым МЗС адзначыла, што з разуменнем ставіцца да пазіцыі Рады Еўропы адносна пытання смяротнага пакарання: "Неабходнае абмеркаванне і аналіз на гэтую тэму вядуцца ў парламенце Беларусі, у юрыдычнай супольнасці нашай краіны, дзе, бясспрэчна, прымаюць да ўвагі не толькі пазіцыю Рады Еўропы, але і важкае меркаванне грамадзян Беларусі, якое было выказана на ўсенародным рэферэндуме (1996) па дадзеным пытанні". Асобна ў паведамленні МЗС адзначалася, што «наколькі нам вядома, адмена смяротнага пакарання або ўвядзенне мараторыя на яго выкарыстанне згодна са статутнымі дакументамі Рады Еўропы з'яўляюцца ўмовамі для ўступлення краіны ў Арганізацыю, а не для прадстаўлення статусу "спецыяльнага запрошанага"».

Віцэ-спікер Палаты прадстаўнікоў Валерый Іваноў, які прадстаўляў на сесіі ПАРЕ Нацыянальны сход Беларусі, пасля галасавання па беларускім пытанні заявіў, што "сёння было прынята палітычнае рашэнне.

Юрыдычнае рашэнне будзе прымацца Бюро ПАРЕ восенню [7 верасня на пасяджэнні Бюро ПАРЕ ў Парыжы]. За гэты час мы папрацуем над дадзеным пытаннем".

Беларускія ўлады, атрымаўшы выразны і адназначны сігнал: калі яны сапраўды хочуць бачыць свой парламент у ПАРЕ, давядзецца выканаць умову адносна ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне, – неадкладна пачалі дэманстраваць бачнасць актыўнай дзейнасці ў дадзеным накірунку.

25 чэрвеня старшыня Вярхоўнага Суда Валянцін Сукала заявіў журналістам, што судовая сістэма Беларусі гатова да ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне. "Калі ў Канстытуцыі Беларусі гэты выключны від пакарання пазначаны як часовы, то гэтая норма непазбежна пацягне за сабой яе адмену", – дадаў ён. В. Сукала таксама выказаў меркаванне, што мараторый на смяротнае пакаранне можа стаць свайго роду прамежкавым этапам да яго адмены, і гэтую меру ён лічыць цалкам рэальнай і абгрунтаванай. Пры гэтым кіраўнік Вярхоўнага Суда нагадаў, што ў Беларусі дзейнічае яшчэ адзін выключны від пакарання – пажыццёвае зняволенне. "Па сваім цяжары і суровасці яно мала чым саступае смяротнаму пакаранню", – падкрэсліў ён. У апошнія гады, па словах В. Сукалы, смяротнае пакаранне ў Беларусі ўжываецца вельмі рэдка, "таму ніякіх перашкод з пункту гледжання судовай сістэмы

няма”.

29 чэрвеня старшыня камісіі па нацыянальнай бяспецы Палаты прадстаўнікоў Віктар Гумінскі зрабіў заяву, што ў беларускім парламенце ствараецца працоўная група па распрацоўцы прапаноў па ўвядзенні мараторыя на смяротнае пакаранне. Пры гэтым дэпутат адзначыў: “Мая пазіцыя ў тым, што мы павінны наблізіцца да адмены смяротнага пакарання.

Не таму, што Еўропа паставіла нам умову, а мы самі ўжо падышлі да таго, што гэтае пытанне можа быць пастаўлена на парадак дня. Да гэтага ўсё ідзе. Я думаю, што ў нас выспее рашэнне аб адмене смяротнага пакарання без усялякіх указак ды падказак”. Чакалася, што працоўную парламенцкую групу ўзначаліць сам В. Гумінскі.

У пачатку ліпеня 2009 г. старшыня камісіі Палаты прадстаўнікоў па міжнародных справах і сувязях з СНД Сяргей Маскевіч паведаміў, што зацікаўленыя ведамствы разглядаюць пытанне аб неабходнасці стварэння працоўнай групы па распрацоўцы прапаноў аб увядзенні мараторыя на смяротнае пакаранне. Па яго словах, па пытанні стварэння такой групы праводзяцца кансультацыі ў парламенце, МЗС, урадзе, Адміністрацыі прэзідэнта, органах суда і пракуратуры. “Калі гэта будзе міжведамасная група, то яна можа быць дастаткова вялікай, па некалькі чалавек ад кожнага ведамства. Пытанне аб мараторыі можна ўзгадніць і да пачатку

пасяджэння Бюро ПАРЕ ў верасні. Тэарэтычна, можам і да гэтага часу зрабіць [увесці мараторый]". Пры гэтым С. Маскевіч адзначыў, што "пакуль няма канкрэтыкі, ці патрэбна такая група".

Адначасова пачалася праца ў накірунку фарміравання адпаведнай грамадскай думкі адносна смяротнага пакарання. У пачатку ліпеня дзяржаўны тэлеканал АНТ правёў ток-шоу з удзелам прадстаўнікоў зацікаўленых дзяржаўных структур і праваабаронцаў па дадзенай тэматыцы. 30 чэрвеня ў рэдакцыі газеты "Советская Белоруссия" адбыўся "круглы стол" па праблемах гуманізацыі пакаранняў і смяротнага пакарання ў тым ліку, у якім бралі ўдзел дзяржаўныя службоўцы, святары, праваабаронцы.

Актыўная рыторыка беларускіх улад у гэты перыяд не пакідала сумневу, што пытанне ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне стаіць на парадку дня і можа быць вырашана ў найбліжэйшы час. Аднак гэтыя чаканні не спраўдзіліся, больш за тое, на фоне гучных заяў беларускія ўлады выразна прадэманстравалі значны адкат і нават выклік еўрапейскай супольнасці: 29 чэрвеня і 17 ліпеня былі вынесены два новыя смяротныя прысуды. На некалькі месяцаў таксама былі фактычна згорнуты ўсе захады па вырашэнні праблемы, ніякай інфармацыі пра падрыхтоўку да ўвядзення мараторыя не агучвалася, звесткі пра стварэнне працоўных групаў – парламенцкай і міжведамаснай – не паступалі. Афіцыйны Мінск у

чарговы раз прадэманстраваў сваё нежаданне ісці на саступкі па любых пытаннях, якія лічацца выключна палітычнымі. Агульную пазіцыю беларускіх улад акрэсліў 19 кастрычніка Аляксандр Лукашэнка, прымаючы даверчыя граматы амбасадараў 11 дзяржаў: "Беларусь не будзе рабіць скарацечных захадаў, каб дагадзіць Еўропе перад прыняццем якіх-небудзь рашэнняў адносна краіны", а "націскаць на Беларусь бесперспектыўна".

Нягледзячы на зацятую пазіцыю беларускіх улад, у гэты перыяд еўрапейская супольнасць працягвала пасылаць станоўчыя, але адназначныя сігналы аб магчымасці наладжвання супрацоўніцтва. 11 верасня старшыня паліткамітэта ПАРЕ Горан Ліндблад заявіў, што статус спецыяльнага запрошанага ў ПАРЕ можа быць вернуты парламенту Беларусі да канца года, калі ў краіне адменяць смяротнае пакаранне. "Я быў бы рады, калі б яны [беларусы] вярнуліся ў ПАРЕ да канца года, але ўсё залежыць ад іх".

20 кастрычніка кіраўнік прадстаўніцтва Еўрапейскай камісіі ў Мінску Жан-Эрык Хольцапфель выказаў надзею, што Беларусь увядзе мараторый на смяротнае пакаранне як мага хутчэй. Пры гэтым дыпламат адзначыў, што гэта – адна з умоў для далейшага развіцця адносін краіны з Еўрасаюзам, і нагадаў, што мараторый на выкарыстанне смяротнага пакарання застаецца адным з пунктаў 12 умоў ЕС па нармалізацыі стасункаў з Беларуссю,

сфармуляваных яшчэ ў 2006 г. Пасля працяглага маўчання беларускае кіраўніцтва вярнулася да абмеркавання праблемы смяротнага пакарання толькі ў канцы года.

29 лістапада, напярэдадні візіту ў Беларусь прэм'ерміністра Італіі Сільвіа Берлусконі, у інтэрв'ю газеце "Стампа" Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ў Беларусі будзе праводзіцца інфармацыйная кампанія па адмене смяротнага пакарання: "Мы тыдзень таму вызначыліся, што пачынаем шэраг мерапрыемстваў у гэтым накірунку, пачынаючы з парламенцкіх слуханняў і ўзняцця гэтай тэмы ў СМІ". А. Лукашэнка пры гэтым спаслаўся на тое, што на рэферэндуме 1996 г. большасць грамадзян выказалася за захаванне дадзенай меры пакарання, а рашэнне рэферэндуму, па яго словах, можа скасаваць толькі новы рэферэндум.

Кіраўнік Генеральнага дырэктарата Рады Еўропы па дэмакратыі і палітычных пытаннях Жан-Луі Ларан, які знаходзіўся ў Мінску 30 лістапада – 1 снежня, на прэс-канферэнцыі па выніках візіту адзначыў, што падчас сустрэч з кіраўніцтвам Беларусі "асноўнае пытанне, якое дамінавала ў дыскусіях, – гэта пытанне адмены смяротнага пакарання. Сёння адмена смяротнага пакарання – гэта частка стандартаў і патрабаванняў Рады Еўропы. Калі Беларусь хоча ўступіць у Раду Еўропы, стаць часткай гэтай дэмакратычнай сям'і, то гэтага пытання не ўдасца пазбегнуць". Тое, што смяротнае пакаранне

застаецца таксама ўмовай вяртання беларускаму парламенту статусу спецыяльна запрошанага ў ПАРЕ, ЖанЛюі Ларан пракаментаваў наступным чынам: "Як бы мы ні ставіліся да гэтага, рашэнне ўжо прынята. Неабходны інфармацыйныя кампаніі і іншыя дзеянні. І ўрэшце павінна быць прынята рашэнне на палітычным узроўні".

2 кастрычніка старшыня Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка на адкрыцці трэцяй сесіі паведаміў, што пытанне аб магчымасці ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне ці яго адмене плануецца разгледзець на "круглым стале" пад эгідай Рады Еўропы. Па яго словах, вядзецца падрыхтоўка да правядзення гэтага пасяджэння. "Меркаванне беларускага народа крайне важнае для выпрацоўкі ўзважаных падыходаў да такіх складаных пытанняў, як увядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне ці яго адмена і прызнанне Беларуссю Абхазіі і Паўднёвай Асеціі. Дэпутаты павінны працягнуць працу па вывучэнні меркавання сваіх выбаршчыкаў", – сказаў спікер парламенту. На жаль, да канца года намеры беларускіх парламентарыяў так і засталіся нявыдзейсненымі, "круглы стол" не праведзены, а пра вывучэнне меркавання выбаршчыкаў па гэтым вострым пытанні нічога не вядома грамадскасці.

Увогуле спасылка на "меркаванне народа" і вынікі рэферэндуму 1996 г. вельмі часта прысутнічалі ў

выказваннях вышэйшых дзяржаўных чыноўнікаў, калі ішла гаворка пра праблему смяротнага пакарання і магчымасці ўвядзення мараторыя на яго ці адмены. Так, міністр юстыцыі Віктар Галаванаў 20 кастрычніка, выступаючы на прэзентацыі вынікаў праекта "Садзеянне больш шырокаму прымяненню міжнародных стандартаў у галіне правоў чалавека ў працэсе адпраўлення правасуддзя ў Рэспубліцы Беларусь", заявіў, што пытанне аб увядзенні ў краіне мараторыя на смяротнае пакаранне "знаходзіцца ў кампетэнцыі беларускага народа". Міністр адзначыў: "У 1996 г. гэтае пытанне выносілася на рэферэндум. Пераважная воля народа вядома – увядзенне мараторыя заўчаснае. На сёння смяротнае пакаранне ўжываецца ў 86 краінах свету, у тым ліку ў Японіі, большасці штатаў Амерыкі. Але ніхто не кажа, што гэтыя краіны нецывілізаваныя". Тым не менш, паведаміў В. Галаванаў, згодна з заключэннем Канстытуцыйнага Суда, у краіне існуюць прававыя механізмы, якія дазваляюць увесці мараторый на прымяненне смяротнага пакарання. "А ці будзе яно адменена, трэба спытаць у народа, у родных забітых: ці даравалі яны пакуты сваіх блізкіх злачынцу. Я думаю, да гэтага пытання кожная краіна павінна прыйсці самастойна, перш за ўсё, абапіраючыся на волю народа", – дадаў міністр. Чыноўнік у сваім выступе апелюе да ахвяр злачынстваў, і гэтая тэндэнцыя павышаць эмацыйны складнік праблемы была характэрная для

многіх выказванняў беларускіх службоўцаў на працягу года.

Неадназначныя меркаванні выказваліся кіраўніцтвам краіны і адносна магчымых прававых механізмаў увядзення мараторыя. Большасць прадстаўнікоў юрыдычнай супольнасці апелявала ў гэтым пытанні да Заключэння Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 11 сакавіка 2004 г. "Аб адпаведнасці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародным дамовам Рэспублікі Беларусь палажэнняў Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць выкарыстанне ў якасці пакарання смяротнае пакаранне", паводле якога абвясціць мараторый, прынамсі, у якасці першага кроку, можа ці кіраўнік дзяржавы, прэзідэнт, ці парламент, і, адпаведна, не патрабуецца правядзення рэферэндуму. У Заключэнні адназначна сказана, што ч. 3 арт. 24 Канстытуцыі, якая ўсталёўвае магчымасць ужывання смяротнага пакарання ў якасці выключнай меры пакарання толькі да яе адмены, дазваляе прыняць рашэнне аб абвяшчэнні мараторыя на ўжыванне смяротнага пакарання ці аб поўнай адмене гэтага віду пакарання. Таксама ў гэтым Заключэнні адзначана, што вынікі рэферэндуму 1996 г., падчас якога за захаванне смяротнага пакарання выказалася 80,44% грамадзян, не мелі абавязковага характару.

Таму асаблівае непаразуменне выклікалі выказванні старшыні Канстытуцыйнага Суда Беларусі Пятра

Міклашэвіча (займае гэтую пасаду з 8 лютага 2008 г.), які на прэсканферэнцыі 11 сакавіка заявіў, што прэзідэнт і парламент могуць толькі ініцыяваць адмену смяротнага пакарання. "Норма аб смяротным пакаранні размешчана ў першым раздзеле Канстытуцыі, які мае асаблівую абарону. Унясенне змен і дапаўненняў у гэты раздзел магчымае толькі шляхам рэферэндуму", – адзначыў П. Міклашэвіч. Ён спаслаўся на тое, што ў 1996 г. пытанне аб смяротным пакаранні выносілася менавіта на рэферэндум, і за захаванне гэтага інстытута прагаласавала больш за 80% насельніцтва краіны. Пазіцыя П. Міклашэвіча адназначна супярэчыць прынятаму ў 2004 г. і дзейнаму на дадзены момант Заключэнню Канстытуцыйнага Суда, старшынёй якога ён з'яўляецца. Упэўненасць у тым, што для ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне ў Беларусі рэферэндуму не патрабуецца, выказаў 1 снежня, падчас візіту ў Мінск, кіраўнік Генеральнага дырэктарата Рады Еўропы па дэмакратыі і палітычных пытаннях Жан-Луі Ларан: "Тут трэба палітычная воля лідараў краіны. Для мяне гэта найперш пытанне маралі. Я найперш кіруюся тым, што смяротнае пакаранне – гэта адзіная форма пакарання, якое не можа быць выпраўлена. Беларусь не павінна адмяняць смяротнае пакаранне дзеля інтарэсаў Страсбурга, а дзеля інтарэсу краіны. Рэферэндум па гэтай справе зусім не абавязковы". Незалежныя эксперты таксама ўпэўнены, што праводзіць рэферэндум па

пытанні ўвядзення мараторыя не патрабуецца: дастаткова парламенту ўнесці змены ў заканадаўства Рэспублікі Беларусь, выключыўшы з Крымінальнага кодэкса такі від пакарання, або ўвесці мараторый указам прэзідэнта.

У грамадскім меркаванні да гэтага часу пераважае, хаця і нязначна, падтрымка захавання смяротнага пакарання. Так, згодна са звесткамі нацыянальнага апытання, праведзенага ў чэрвені 2009 г. Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, адказы на пытанне “Вы за ці супраць адмены смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь?” размеркаваліся наступным чынам: “за адмену” – 41,7%, “супраць адмены” – 48,4%. Сацыялагічная перавага прыхільнікаў смяротнага пакарання тлумачыцца экспертамі найперш недастатковай інфармаванасцю грамадства. Цікава адзначыць, што ў параўнанні з вераснёўскім апытаннем 2008 г. колькасць прыхільнікаў смяротнага пакарання, хоць і не на шмат, але ўзрасла: тады за адмену смяротнага пакарання выказаліся 44,2% рэспандэнтаў і 47,8% – супраць. Не выключана, што прычына палягае ў выключнай палітызаванасці праблемы, а таксама ў тым, што ў дзяржаўных СМІ праблема смяротнага пакарання асвятлялася найперш з пункту гледжання жорсткасці здзейсненых злачынстваў асуджанымі да вышэйшай меры пакарання і вельмі часта – у эмацыйным ключы. Разам з тым гэтыя сацыялагічныя

даследаванні сведчаць пра значную гуманізацыю поглядаў грамадзян Беларусі па пытанні смяротнага пакарання і даюць падставу сцвярджаць, што спасылкі на звесткі рэферэндуму 1996 г. састарэлі і не адпавядаюць рэальнаму стану грамадскай думкі.

Артыкул 24 Канстытуцыі гарантуе кожнаму права на жыццё, у ім жа замацаваны часовы характар смяротнага пакарання: “Смяротнае пакаранне да яго адмены можа ўжывацца ў адпаведнасці з законам як выключная мера пакарання за асабліва цяжкія злачынствы і толькі згодна прысуду суда”. Крымінальны кодэкс прадугледжвае прымяненне смяротнага пакарання за 12 складаў злачынстваў ва ўмовах мірнага часу і за 2 склады – ва ўмовах ваеннага. Асуджаныя да смяротнага пакарання могуць звярнуцца з хадайніцтвам аб памілаванні да прэзідэнта. Акрамя хадайніцтваў аб памілаванні, прэзідэнт разглядае матэрыялы асуджаных да смяротнага пакарання, якія не хадайнічаюць аб памілаванні. Хадайніцтва аб памілаванні асуджаныя могуць падаць на працягу 10 сутак з моманту атрымання копіі прысуду ці касацыйнага азначэння. Калі асуджаны не падасць у вызначаны тэрмін хадайніцтва аб памілаванні ці заявіць аб сваім нежаданні звяртацца з такім хадайніцтвам, пра гэта складаецца адпаведны акт. Хадайніцтва ці акт накіроўваюцца прэзідэнту не пазней за трохдзённы тэрмін з дня прыёму хадайніцтва ад асуджанага ці складання акта. Выкананне прысуду прыпыняецца да

разгляду хадайніцтва аб памілаванні ці матэрыялаў аб адмове ад падачы хадайніцтва. Хадайніцтвы аб памілаванні, а таксама матэрыялы асуджаных, якія не хадайнічаюць аб памілаванні, да вынясення на разгляд прэзідэнта папярэдне разглядае Камісія па пытаннях памілавання пры прэзідэнце, якая збіраецца на свае пасяджэнні не радзей за адзін раз у квартал. Хадайніцтвы аб памілаванні асоб, асуджаных да смяротнага пакарання, ці матэрыялы аб адмове гэтых асоб ад памілавання да вынясення на разгляд Камісіі высылаюцца Вярхоўнаму Суду і пракуратуры, якія на працягу двух тыдняў прадстаўляюць заключэнні, што ўтрымліваюць апісанне зместу прынятых рашэнняў суда, абставін здзейсненых злачынстваў, звесткі пра асуджаных, а таксама свае прапановы па сутнасці кожнага хадайніцтва ці матэрыялаў аб адмове ад падачы хадайніцтва. Пасля разгляду ў Камісіі ўсе матэрыялы разам з прапановамі Камісіі выносяцца на разгляд прэзідэнта.

Рашэнні аб памілаванні ці аб адхіленні хадайніцтваў аб памілаванні прымаюцца ў форме ўказаў прэзідэнта і накіроўваюцца для выканання ў Вярхоўны Суд. Паведамленні аб выкананні ўказаў прэзідэнта ў адносінах да асуджаных да смяротнага пакарання накіроўваюцца прэзідэнту Вярхоўным Судом. Нягледзячы на тое, што “Палажэнне аб парадку ажыццяўлення ў Рэспубліцы Беларусь памілавання асуджаных” прадугледжвае магчымасць запрашэння на

пасяджэнні Камісіі прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і сродкаў масавай інфармацыі (пункт 9) і асвятленне ў СМІ інфармацыі аб працы Камісіі і рашэнняў кіраўніка дзяржавы аб памілаванні асуджаных (пункт 24), іх дзейнасць па-ранейшаму застаецца закрытай ад грамадскасці, і найперш гэта датычыць спраў асуджаных да смяротнага пакарання. Прадметам галоснасці стала толькі інфармацыя, што ў 2003 г. Камісія адхіліла хадайніцтвы аб памілаванні двух асуджаных да смяротнага пакарання, а адна справа была вернутая ў Вярхоўны Суд для праверкі ў парадку нагляду, у выніку чаго смяротнае пакаранне асуджанаму было заменена на 15 гадоў пазбаўлення волі. Іншай інфармацыі пра вынікі дзейнасці Камісіі і рашэнняў прэзідэнта па справах асуджаных да смяротнага пакарання не распаўсюджвалася.

У 2009 г. у Беларусі былі вынесены 2 смяротныя прысуды (у 2008 г. – 1, у 2007 г. – 4, у 2006 г. – 9, у 2005 г. – 2, у 2004 г. – 2).

29 чэрвеня Брэсцкі абласны суд асудзіў да смяротнага пакарання 30-гадовага жыхара Драгічынскага раёна Васіля Юзэпчука, які быў прызнаны вінаватым ва ўчыненні серыі забойстваў пажылых жанчын.

17 ліпеня суд Мінскай вобласці прызнаў вінаватым у забойстве двух чалавек 25-гадовага жыхара г. Салігорска Андрэя Жука і вынес яму смяротнае пакаранне.

2 кастрычніка Вярхоўны Суд пакінуў без змяненняў

прысуд В. Юзэпчуку, 27 кастрычніка – А. Жуку. Цалкам абгрунтаванымі назваў у гутарцы з журналістамі 19 жніўня генеральны пракурор Рыгор Васілевіч вынесеныя смяротныя прысуды: “Гэтая мера адказнасці суровая, але справядлівая. Пакуль наш Крымінальны кодэкс не зменены ў гэтай частцы і Канстытуцыя дапускае прымяненне смяротнага пакарання”.

Асуджаныя В. Юзэпчук і А. Жук накіравалі хадайніцтвы аб памілаванні прэзідэнту. В. Юзэпчук прасіў захаваць яму жыццё, настойваючы на тым, што ў будучым могуць з’явіцца абставіны, якія пацвердзяць яго невінаватасць. Калі ж прысуд будзе выкананы, то ў выпадку выяўлення памылкі выправіць яе будзе немагчыма. Па словах адвакатаў, што выступалі ў судовым пасяджэнні па справе В. Юзэпчука, прысуд Брэсцкага абласнога суда пабудаваны на здагадках, прамых доказаў няма, у аснову абвінаваўчага прысуду былі пакладзены галоўным чынам сведчанні супрацоўнікаў міліцыі. Ёсць факты, што В. Юзэпчуку падчас знаходжання ў следчым ізалятары наносіліся цялесныя пашкоджанні, што было зафіксавана. Таксама, паводле заключэння камісіі экспертаў, у асуджанага – лёгкая ступень разумовай адсталасці, ён кепска арыентуецца ў асяроддзі, непісьменны. Таму існуе вельмі сур’ёзная заклапочанасць наконт таго, што віна асуджанага да смяротнага пакарання не даказана належным чынам. У справе Андрэя Жука адвакаты

таксама адзначаюць, што смяротны прысуд – занадта жорсткае і неабгрунтаванае пакаранне, паколькі ёсць змякчаючыя віну абставіны: ён прызнаў сваю віну, добраахвотна супрацоўнічаў са следствам і раскаяўся ва ўчыненым злачынстве.

Пры дапамозе праваабаронцаў Васіль Юзэпчук накіраваў індывідуальны зварот аб парушэнні яго правоў, у тым ліку права на справядлівае судовае разбіральніцтва і права на жыццё, у Камітэт па правах чалавека ААН. 12 кастрычніка Камітэт зарэгістраваў яго зварот пад нумарам 1906/2009 і запатрабаваў ад Беларусі не выконваць смяротны прысуд да разгляду скаргі па сутнасці. Маці Андрэя Жука таксама звярнулася ў Камітэт па правах чалавека ААН, і 30 кастрычніка зварот быў зарэгістраваны ў неадкладным парадку пад нумарам 1910/2009. У адпаведнасці са спецыяльнай працэдурай, Жэнеўскі офіс Вярхоўнага камісара па правах чалавека накіраваў Рэспубліцы Беларусь паведамленне пра рэгістрацыю звароту і патрабаванне не прыводзіць у выкананне смяротны прысуд, пакуль справа знаходзіцца на разглядзе Камітэта.

Еўрасаюз і Рада Еўропы выступілі з рэзкай крытыкай вынясення чарговых смяротных прысудаў. “Вынясенне яшчэ аднаго смяротнага прысуду ў Беларусі сведчыць пра неадкладную неабходнасць увядзення мараторыя на смяротнае пакаранне”, – заявіў 4 ліпеня старшыня ПАРЕ Луіс Марыя дэ Пуч у сувязі з асуджэннем В. Юзэпчука. “Я

заклікаю ўлады Беларусі не прыводзіць гэты прысуд у выкананне, прыняць усе неабходныя меры для ўвядзення мараторыя і такім чынам прадэманстраваць сваю гатоўнасць ісці насустрач каштоўнасцям і стандартам Рады Еўропы і тым самым яшчэ крыху наблізіць усіх нас да канчатковай адмовы ад смяротнага пакарання на еўрапейскім кантыненце", – сказаў кіраўнік ПАРЕ. 3 жніўня прэс-службай прадстаўніцтва Еўракамісіі ў Мінску была распаўсюджана заява, у якой адзначалася, што Еўрапейскі Саюз выказвае сур'ёзную занепакоенасць вынясеннем двух смяротных прысудаў у Беларусі. У дакуменце падкрэслівалася, што Еўрасаюз "выступае супраць прымянення вышэйшай меры пакарання ў любых справах і пры любых абставінах і паслядоўна заклікае да яго адмены ва ўсім свеце. ЕС перакананы, што забарона смяротнага пакарання – гэта галоўны элемент абароны чалавечай годнасці і прагрэсіўнага развіцця правоў чалавека". Пасля таго, як Вярхоўны Суд пакінуў у сіле смяротныя прысуды, з сумеснай заявай выступілі старшыня Камітэта міністраў Рады Еўропы Самуэль Жбогар і Генеральны сакратар РЕ Турб'ерн Ягланд, у якой заклікалі прэзідэнта Беларусі памілаваць асуджаных і замяніць вынесеныя прысуды да смяротнага пакарання турэмным зняволеннем. "Акт міласэрнасці з боку прэзідэнта Беларусі будзе недвухсэнсоўным сігналам аб намеры Беларусі далучыцца да 47 дзяржаваў – членаў Рады Еўропы, якія прыпынілі ці адмянілі смяротнае

пакаранне”, – падкрэслівалася ў заяве.

У 2009 г. праблема смяротнага пакарання была ў цэнтры ўвагі праваабарончай супольнасці. Праваабарончы цэнтр “Вясна” і Беларускі Хельсінкскі Камітэт ініцыявалі кампанію “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання”, якая стартавала ў студзені пры падтрымцы “Amnesty International”. На працягу года аказвалася найперш прававая дапамога асуджаным да смяротнага пакарання, была праведзена шырокая інфармацыйная кампанія (наколькі гэта магчыма ў Беларусі з улікам фактычнай манапалізацыі медыйнай прасторы дзяржавай), арганізоўваліся прэс-канферэнцыі, дыскусіі, конкурсы творчых прац, масавыя акцыі і г. д. Прадстаўленне аб’ектыўнай інфармацыі, вядзенне вольнай і адкрытай грамадскай дыскусіі па сутнасці праблемы смяротнага пакарання з пункту гледжання каштоўнаснага, гуманістычнага, цывілізацыйнага, каб грамадзяне маглі свядома зрабіць свой выбар у гэтай балючай праблеме – такая канцэпцыя была абрана праваабаронцамі ў працы з насельніцтвам. У межах кампаніі была падрыхтавана спецыяльная петыцыя з заклікам да ўлад адмяніць у Беларусі смяротнае пакаранне, пад якой падпісаліся больш за 30 чалавек – вядомыя культурныя і грамадскія дзеячы, праваабаронцы, юрысты і навукоўцы; 10 снежня петыцыя была перададзена ў Адміністрацыю прэзідэнта і адначасова яе копія – у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

24 снежня праваабаронцы атрымалі адказ на свой зварот ад старшыні камісіі па нацыянальнай бяспецы Палаты прадстаўнікоў Віктара Гумінскага. “Як вам вядома, – піша ў лісце дэпутат, – летам гэтага года Нацыянальнаму сходу Рэспублікі Беларусь вярнулі статус спецыяльнага запрошанага ў ПАРЕ на адзін год, але пры ўмове ўвядзення мараторыя на пакаранне смерцю”. Выкладзеныя ў лісце звесткі адназначна не адпавядаюць рэчаіснасці, і, відавочна, што старшыня парламенцкай камісіі не валодае сітуацыяй. Разам з тым з ліста дэпутата бачна ступень гатоўнасці заканадаўчай галіны ўлады да вырашэння праблемы смяротнага пакарання: “Беларусь непасрэдна падышла да таго, каб пачаць падрабязна, празрыста і шырока абмяркоўваць у грамадстве пытанне аб адмене пакарання смерцю. А для гэтага нам, дэпутатам, неабходны дыялог з народам. Ён можа праходзіць у розных формах. Але мы найперш вывучым магчымасць правядзення парламенцкіх слуханняў па гэтай тэме”. Праваабаронцы віталі намер дэпутатаў абмеркаваць дадзенае пытанне, наладзіць дыялог з народам і, у сваю чаргу, заклікалі іх правесці парламенцкія слуханні па дадзенай праблеме з удзелам як мага шырэйшага кола зацікаўленых бакоў, у тым ліку – беларускіх праваабаронцаў і прадстаўнікоў міжнародных праваабарончых арганізацый. У асноўным беларускія ўлады не аказвалі супрацьдзеяння праваабаронцам у правядзенні грамадскіх акцый,

звязаных з інфармаваннем грамадзян аб праблеме смяротнага пакарання, аднак некаторыя з іх завяршаліся затрыманнямі ўдзельнікаў.

5 чэрвеня ў Мінску на вуліцы Няміга падчас правядзення перформансу, які суправаджаўся раздачай інфармацыйных матэрыялаў, удзельнікі мастацкай пастаноўкі былі затрыманы нібыта “за ўдзел у масавым мерапрыемстве” (пазней былі адпушчаны без складання пратаколаў адміністрацыйнага правапарушэння).

10 кастрычніка ў Наваполацку падчас інфармацыйнай акцыі, прымеркаванай да Сусветнага дня супраць смяротнага пакарання, супрацоўнікі міліцыі затрымалі праваабаронцу Зміцера Салаўёва, а таксама двух моладзевых актывістаў. Затрыманыя былі дастаўлены ў дзяжурную частку для разбіральніцтва, адкуль праз гадзіну былі адпушчаны без складання пратаколаў. Да кампаніі праваабаронцаў у многіх рэгіёнах далучыліся іншыя грамадскія актывісты і арганізацыі, найперш моладзевыя. У Брэсце акцыю па распаўсюджванні матэрыялаў супраць смяротнага пакарання 10 жніўня правялі актывісты “Маладога Фронту”, у Гродне да праваабаронцаў далучыліся моладзевыя актывісты БСДГ, АГП, “Маладых дэмакратаў” і “Грамадзянскага форуму”. Праваабаронцы віталі цвёрдую пазіцыю еўрапейскіх структур адносна недапушчальнасці прымянення смяротнага пакарання і ўмову Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы аб увядзенні

мараторыя на смяротнае пакаранне дзеля вяртання парламенту Беларусі статусу спецзапрошанага ў ПАРЕ, лічачы гэты крок вельмі сімвалічным і адпаведным духу правоў чалавека і еўрапейскіх каштоўнасцей. Вялікі ўнёсак у кампанію супраць смяротнага пакарання ў Беларусі зрабіла сусветная праваабарончая арганізацыя “Amnesty International”, прадстаўнікі якой на працягу года двойчы наведалі краіну.

24 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску праграмны дырэктар арганізацыі па Еўропе і Цэнтральнай Азіі Нікала Дакворт і эксперт Хэза Макгіл прэзентавалі даклад “Спынім смяротныя пакаранні ў Еўропе: на шляху да адмены смяротнай кары ў Беларусі” і заклікалі беларускія ўлады неадкладна ўвесці мараторый на вынясенне і выкананне смяротных прысудаў у якасці першага кроку да поўнай адмены дадзенага віду пакарання. Праваабаронцы выказалі ўпэўненасць, што грамадства краіны мае права на інфармацыю пра выпадкі ўжывання смяротнага пакарання і на дыскусію пра тое, ці варта яго захоўваць. Падчас візіту прадстаўнікоў “Amnesty International” у Беларусь з імі знайшлі час сустрэцца толькі чыноўнікі Міністэрства юстыцыі, ад міністра ўнутраных спраў і з Адміністрацыі прэзідэнта былі атрыманы адмовы. Падчас візіту ў Беларусь у лістападзе Хэза Макгіл узяла ўдзел у “круглым стале”, які праводзіўся ў офісе АБСЕ па праблеме смяротнага пакарання. Як станоўчыя зрухі ў стаўленні беларускіх

улад яна расцаніла гатоўнасць прадстаўнікоў беларускага парламента, міністэрстваў і Вярхоўнага Суда абмяркоўваць гэтае пытанне. “Гэта ўжо ёсць важны крок наперад. Канешне, мы лічым, што гэтага недастаткова. Мы хочам бачыць пэўныя захады, што абвешчаны мараторый. Але ўсё ж ёсць надзея”, – адзначыла эксперт “Amnesty International”.

Такім чынам, у 2009 г. Беларусь не прадэманстравала палітычную волю і не зрабіла рашучых крокаў па адмене смяротнага пакарання ці ўвядзенні мараторыя. Смяротнае пакаранне дзяржаўнымі ўладамі Беларусі папранейшаму выкарыстоўваецца як прадмет палітычнага гандлю, жыццё чалавека не разглядаецца як найвышэйшая каштоўнасць, на якую ніхто не можа замахвацца, у тым ліку і дзяржава.

У маі Брэсцкі абласны суд прысудзіў 30-гадовага Васіля Юзэпчука да пакарання смерцю за здзяйсненне серыі забойстваў. Яго 28-гадовага саўдзельніка Сяргея Гучэнку – да пажыццёвага зняволення з адбыццём пакарання ў папраўчай калоніі асобага рэжыму. У чэрвені трое сутак запар у Гродне праходзіла акцыя “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання”. Да гэтай акцыі, ініцыяванай гродзенскімі праваабаронцамі пазбаўленага рэгістрацыі ПЦ “Вясна”, далучыліся моладзевыя актывісты БСДГ, АГП, “Маладых дэмакратаў” і “Грамадзянскага форуму”. На працягу трох дзён актывісты раздавалі жыхарам горада каляндарыкі з

надпісамі “Беларусь – адзіная краіна ў Еўропе, дзе да гэтага часу захоўваецца смяротнае пакаранне” і даводзілі да іх інфармацыю пра стан, звязаны са смяротнай карай, у Еўропе і Беларусі.

24 чэрвеня старшыня камісіі па нацыянальнай бяспецы Палаты прадстаўнікоў Віктар Гумінскі выказаў меркаванне, што ў Беларусі могуць адмяніць смяротнае пакаранне. Але зробяць гэта не дзеля патрабаванняў ПАРЕ, а таму што беларусы змяніліся з часоў рэферэндуму 1996 г.: “Я думаю, што ў нас выспее рашэнне аб адмене смяротнага пакарання без усялякіх указак ды падказак. У Палаце прадстаўнікоў створана група, якая вывучае пытанне аб адмене смяротнага пакарання і выпрацоўвае адпаведныя прапановы. ПАРЕ пра гэта ведае”, – сказаў В. Гумінскі. Нагадаем, на пасяджэнні ПАРЕ 23 чэрвеня дэпутаты прагаласавалі за вяртанне Беларусі статусу спецыяльна запрошанай, аднак з умовай увядзення мараторыя на смяротнае пакаранне.

22 ліпеня суд Мінскай вобласці вынес пакаранне забойцам работнікаў СВК “Бальшавік-Агра” (Салігорскі раён). Адзін са злачынцаў, Андрэй Жук, асуджаны да смяротнага пакарання.

2 кастрычніка ў Вярхоўным Судзе Беларусі адбыўся разгляд касацыйнай скаргі па справе Васіля Юзэпчука, які 29 чэрвеня Брэсцкім абласным судом быў прыгавораны да смяротнай кары. Скарга пакінута без задаволення.

Паколькі ўсе нацыянальныя сродкі прававой абароны былі вычарпаны, ад імя асуджанага быў накіраваны індывідуальны зварот у офіс Вярхоўнага Камісара па правах чалавека ААН у Жэневе. Аўтар звароту папрасіў Камітэт зарэгістраваць зварот у неадкладным парадку і як мага хутчэй звярнуцца да Беларусі як дзяржавы-ўдзельніцы Пакта з просьбай не выконваць смяротны прысуд да разгляду скаргі па сутнасці, каб пазбегнуць невыпраўляльнай судовай памылкі ў дачыненні да ахвяры мяркуемага парушэння.

12 кастрычніка 2009 г. Камітэт па правах чалавека ААН зарэгістраваў індывідуальны зварот Васіля Юзэпчука. Яшчэ адзін смяротны прысуд у гэтым годзе быў вынесены Мінскім абласным судом 17 ліпеня. Да вышэйшай меры пакарання асуджаны 25-гадовы жыхар Салігорска Андрэй Жук. 30 кастрычніка 2009 г. Камітэт па правах чалавека ААН зарэгістраваў у неадкладным парадку індывідуальны зварот маці Андрэя Жука. Яна звярнулася ў Камітэт 27 кастрычніка, пасля таго, як Судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь не задаволіла касацыйную скаргу яе сына і пакінула прысуд Мінскага абласнога суда без змен. У адпаведнасці са спецыяльнай працэдурай, Жэнеўскі офіс Вярхоўнага камісара па правах чалавека накіраваў Рэспубліцы Беларусь паведамленне пра рэгістрацыю звароту і патрабаванне не прыводзіць у выкананне смяротны прысуд, пакуль справа знаходзіцца

на разглядзе Камітэта.

10 кастрычніка былі падведзены вынікі конкурсу творчых прац, які праходзіў у межах кампаніі “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі”. Ініцыятарамі конкурсу выступілі грамадскія аб’яднанні ПЦ “Вясна”, БХК, БАЖ, Беларускі ПЭН-цэнтр і Саюз беларускіх пісьменнікаў. Арганізатары абралі чатырох пераможцаў, якім былі ўручаны прызы.

10 лістапада ў Мінску прайшла прэс-канферэнцыя, на якой маці Андрэя Жука, асуджанага да смяротнага пакарання ў 2009 г., звярнулася да прэзідэнта краіны. У сваім звароце Святлана Жук просіць Аляксандра Лукашэнку памілаваць сына, смяротны прысуд якому ўступіў у сілу пасля разгляду касацыйнай скаргі ў Вярхоўным Судзе. Падчас мерапрыемства юрыст ПЦ “Вясна” Валянцін Стэфановіч заявіў, што з нагоды апошніх вынесеных смяротных прысудаў – у адносінах да Андрэя Жука і Васіля Юзэпчука – накіраваны скаргі ў Камітэт па правах чалавека ААН, і гэтыя скаргі прыняты да разгляду. Таксама В. Стэфановіч паведаміў, што ведамствы, якія адказныя за выкананне прысудаў, павінны адтэрмінаваць выкананне прысудаў да моманту, пакуль скаргі не будуць разгледжаны Камітэтам па сутнасці.

15 лістапада з упраўлення Вярхоўнага камісара па правах чалавека ААН атрымана паведамленне пра атрыманне інфармацыі ад кампетэнтных органаў

Рэспублікі Беларусь адносна індывідуальнага звароту ад імя асуджанага да смяротнага пакарання Васіля Юзэпчука. У паведамленні ўрада гаворыцца, што зварот неправамерны, паколькі В. Юзэпчуком не выкарыстаны ўнутрыдзяржаўныя сродкі прававой абароны. Таксама паведамляецца, што на цяперашні момант прашэнне В. Юзэпчука аб памілаванні знаходзіцца на разглядзе ў прэзідэнта краіны. Акрамя іншага адмаўляецца факт парушэння арт. 6 (права на жыццё) Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, паколькі рашэнне аб смяротным пакаранні вынесена па беларускім заканадаўстве. Дзяржава ставіць пытанне пра непрымальнасць разгляду звароту. На дадзеным этапе Камітэт даў магчымасць да 14 снежня прадставіць заўвагі з боку В. Юзэпчука на дадзеную інфармацыю. Нагадаем, Парламенцкая Асамблея Рады Еўропы ў чэрвені 2009 г. прыняла рэзалюцыю, згодна з якой беларускаму парламенту вернуць статус спецыяльна запрошанага, але толькі пасля 10 снежня прадстаўнікі праваабарончай супольнасці ў межах кампаніі “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі” перадалі ў Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь петыцыю з заклікам адмяніць гэты від пакарання, які расцэньваецца як парушэнне права на жыццё, гарантаванае Канстытуцыяй і міжнароднымі дамовамі ў галіне правоў чалавека. Копія звароту перададзена і ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Пад зваротам да ўлад падпісалася больш за 30 чалавек – вядомых культурных і грамадскіх дзеячаў, праваабаронцаў, юрыстаў і навукоўцаў. Упраўленне Вярхоўнага Камісара па правах чалавека ААН атрымала каментарый урада Рэспублікі Беларусь на індывідуальнае паведамленне маці асуджанага да смяротнага пакарання Андрэя Жука, у якім аспрэчвае не толькі дапушчальнасць паведамлення, але і сам разгляд у Камітэце дадзенага паведамлення. Беларускія чыноўнікі спасылаюцца на тое, што прыведзеныя сведчанні несапраўдныя, бо Андрэй Жук не выкарыстаў усе сродкі прававой унутранай абароны. Да 7 студзеня ў Камітэт па правах чалавека ААН павінен паступіць каментарый праваабаронцы Рамана Кісляка на гэтую інфармацыю.

## 2010 Г.

У студзені актывісты кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" атрымалі з Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь адказ на свой зварот, разам з якім была перададзена петыцыя з заклікам адмяніць гэты від пакарання. Як паведаміў у адказе старшыня Пастаяннай камісіі па нацыянальнай бяспецы Палаты прадстаўнікоў Віктар Гумінскі: "Беларусь непасрэдна падышла да таго, каб пачаць падрабязна, празрыста і шырока абмяркоўваць у грамадстве пытанне аб адмене пакарання

смерцю. А для гэтага нам, дэпутатам, неабходны дыялог з народам. Ён можа праходзіць у розных формах. Але мы найперш вывучым магчымасць правядзення парламенцкіх слуханняў па гэтай тэме. Думаю, яны дазволяць аб'ектыўна ацаніць сітуацыю і гатоўнасць грамадства па-новаму паглядзець на гэтую праблему". У той жа час у сваім адказе В. Гумінскі зноў спасылаецца на рэферэндум 1996 г. і лічыць, што дэпутаты не маюць права ігнараваць яго вынікі.

У сакавіку па выніках вясновай сесіі ў Нью-Ёрку Камітэт ААН па правах чалавека распаўсюдзіў прэс-рэліз, у якім адзначана, што ўрад Беларусі праігнараваў просьбу Камітэта адкласці выкананне смяротнага пакарання да заканчэння разгляду спраў двух беларускіх грамадзян – Васіля Юзэпчука і Андрэя Жука, чым скандальна парушыў свае міжнародныя абавязацельствы, якія вынікаюць з Факультатыўнага пратакола і Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, падпісанага краінай. На думку юрыста-праваабаронцы Рамана Кісляка, які падрыхтаваў для Камітэта ААН пакет дакументаў адносна двух асуджаных да смяротнага пакарання, Рэспубліка Беларусь кінула выклік Камітэту па правах чалавека, міжнароднай супольнасці ў плане выканання сваіх абавязацельстваў.

12 мая праваабаронцы ў межах кампаніі супраць смяротнага пакарання ў Беларусі накіравалі на імя міністра ўнутраных спраў, генеральнага пракурора і

старшыні Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь запыты пра колькасць вынесеных і выкананых смяротных прысудаў з 1990 да 2009 г. Як зазначыў брэсцкі праваабаронца Раман Кісляк, гэтыя звесткі неабходныя для працягу кампаніі па інфармаванні насельніцтва пра прымяненне смяротнага пакарання ў Беларусі.

14 мая Гродзенскі абласны суд прысудзіў да вышэйшай меры пакарання двух жыхароў Гродна – Алега Грышкаўцова (29 г.) і Андрэя Бурдыку (28 г.). Яны прызнаны вінаватымі ў забойстве з асаблівай жорсткасцю трох чалавек, разбоі з прычыненнем цяжкіх цялесных пашкоджанняў, наўмысным пашкоджанні маёмасці і выкраданні малалетняга. 17 мая Беларускі Хельсінкскі Камітэт (БХК) і Праваабарончы цэнтр “Вясна” выступілі з асуджэннем двух вынесеных смяротных прысудаў. Міжнародная праваабарончая арганізацыя “Amnesty International” далучылася да гэтай заявы. Праваабаронцы адзначылі, што дадзеная мера пакарання была абвешчана літаральна праз два дні пасля крытыкі, якая прагучала ў адрас Беларусі падчас сесіі рабочай групы па прадстаўленні Універсальнага перыядычнага агляду ААН за ўжыванне дзяржавай смяротнай кары. “Гэтыя прысуды гавораць пра неабходнасць тэрмінова абвесціць мараторый на смяротнае пакаранне, – заявіў Генеральны сакратар Рады Еўропы Турб’ерн Ягланд. – Прымяненне смяротнага пакарання па-ранейшаму з’яўляецца галоўнай перашкодай у адносінах Беларусі з Радай

Еўропы. Мы гатовы садзейнічаць у рашэнні гэтага пытання і дапамагчы Беларусі стаць бліжэй да стандартаў Рады Еўропы ў галіне правоў чалавека”. Адмяніць смяротныя прысуды афіцыйны Мінск таксама заклікалі старшыня Камітэта міністраў Рады Еўропы Антоніа Мілашоскі і кіраўнік Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы Маўлют Чавушоглу.

У чэрвені праваабаронцы атрымалі адказ з Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь на запыт аб колькасці вынесеных і выкананых смяротных прысудаў з 1990 да 2009 г. Пра выкананыя смяротныя прысуды Мінюст інфармацыю не падаў, абмежаваўшыся толькі звесткамі пра колькасць асуджаных да смяротнай кары (па прысудах, якія ўступілі ў законную сілу). Так, па агульных падліках атрымліваецца, што з 1990 да 2009 г. да выключнай меры пакарання ў Беларусі быў асуджаны 321 чалавек. У афіцыйным лісце за подпісам начальніка кіравання арганізацыі і аналітычнага забеспячэння дзейнасці судовых органаў Л. А. Мяльгуй напісана: “Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь не валодае дадзенымі пра разгляд спраў з прызначэннем пакарання ў выглядзе смяротнага пакарання ў касацыйным парадку і парадку нагляду, а таксама ў частцы выканання прысудаў і памілавання асоб, асуджаных да смяротнага пакарання. Функцыі ў сферы выканання і адбыцця пакарання ажыццяўляе Дэпартамент выканання пакаранняў Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі

Беларусь". Між тым у сваіх адказах на аналагічныя звароты ў МУС, Вярхоўны Суд і Генеральную пракуратуру ўсе пералічаныя органы спасылаліся адзін на аднаго ў неагалошванні афіцыйнай статыстыкі.

На 30 ліпеня ў Вярхоўным Судзе Беларусі быў прызначаны разгляд касацыйных скаргаў жыхароў Гродна Алега

Грышкаўцова і Андрэя Бурдыкі, асуджаных да вышэйшай меры пакарання за патройнае забойства. Смяротныя прысуды былі вынесены 14 мая абласным судом, які палічыў цалкам даказанай віну абодвух злачынцаў. Па невядомых прычынах Вярхоўны Суд перанёс дату разгляду касацыйнай скаргі на 17 верасня. На пачатку верасня прадстаўнікі міжнароднай праваабарончай арганізацыі "Amnesty International" Хэза Макгіл і Айша Юнг у рамках праграмы змагання супраць практыкі смяротных пакаранняў злачынцаў наведалі Беларусь. Падчас візіту адбыліся сустрэчы з бацькамі асуджаных на смерць, прадстаўнікамі Праваслаўнай царквы, старшынёй рабочай групы Нацыянальнага сходу па вывучэнні праблем, звязаных са смяротным пакараннем, Мікалаем Самасейкам, а таксама з прадстаўнікамі розных няўрадавых арганізацый.

14 верасня ў Магілёўскім абласным судзе быў вынесены чарговы смяротны прысуд. Аляксандр Сычоў і Ігар Мялік прызнаны вінаватымі ў серыі жорсткіх злачынстваў, здзейсненых у складзе банды на тэрыторыі

Магілёўскай вобласці. Першы асуджаны да пажыццёвага зняволення, другі – да вышэйшай меры пакарання.

17 верасня Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь пакінуў без задавальнення касацыйныя скаргі жыхароў Гродна Алега Грышкаўцова і Андрэя Бурдыкі на смяротныя прысуды, вынесеныя ім за патройнае забойства 14 мая Гродзенскім абласным судом.

23 верасня з удзелам рабочай групы Нацыянальнага сходу па вывучэнні праблематыкі смяротнага пакарання адбылося пасяджэнне "круглага стала", арганізаванага Радай Еўропы. "Скасаванне смяротнага пакарання павінна суправаджацца ўвядзеннем адэкватнай турэмнай сістэмы і прымальных альтэрнатыўных пакаранняў, – адзначылі прадстаўнікі РЕ. – Скасаванне смяротнага пакарання ў Беларусі наблізіць краіну да стандартаў Рады Еўропы ў галіне правоў чалавека".

18 верасня вядомы ва ўсім свеце спявак Стынг падчас канцэрта ў Мінску ў ходзе сусветнага турнэ "Symphonicity" падтрымаў намаганні праваабаронцаў у барацьбе за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі. Стынг сустрэўся з імі перад пачаткам выступу, каб падпісаць петыцыю за адмену смяротнага пакарання ў рамках кампаніі, якую праводзяць БХК, ПЦ "Вясна" і "Amnesty International". "Час гэта змяніць", – сказаў Стынг у сваім відэазвароце.

5 кастрычніка на памежным пункце "Каменны Лог" былі затрыманы актывісткі кампаніі "Праваабаронцы

супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" Ірына Тоўсцік і Паліна Сцепаненка. Іх высадзілі з аўтобуса "Вільнюс – Мінск". Супрацоўнікі Ашмянскай мытні затрымалі на праверку інфармацыйныя матэрыялы кампаніі супраць смяротнага пакарання, якія везлі актывісткі, аднак так і не вярнулі.

4 кастрычніка Святлана Жук, маці расстралянага ў сакавіку па прысудзе Андрэя Жука, абскардзіла ў Ленінскім раённым судзе сталіцы адмову Дэпартамента па выкананні пакаранняў МУС паведаміць пра месца пахавання яе сына. З гэтай просьбай яна звярталася ў Міністэрства ўнутраных спраў. Дэпартамент па выкананні пакаранняў спаслаўся на арт. 175 КК, згодна з якім "цела для пахавання не выдаецца, пра месца пахавання не паведамляецца".

У кастрычніку жыхарка Брэста, маці траіх дзяцей Сняжана Неўдах двойчы пісьмова звярталася да прэзідэнта Беларусі, каб ён дапамог атрымаць Святлане Жук звесткі пра месца пахавання расстралянага сына. Яна лічыць, што такі крок можна было б назваць гуманным у дачыненні да жанчыны. Брэсцкі юрыст-праваабаронца Раман Кісляк атрымаў адказ з МЗС Беларусі на сваю заяву, у якой намагаўся змяніць закон аб таямніцы часу расстрэлу і месца пахавання асуджанага да смяротнага пакарання. Р. Кісляк лічыць, што адпаведны артыкул Крымінальна-выканаўчага кодэкса супярэчыць сёмаму артыкулу Міжнароднага пакта, дзе сказана, што таямніца

наконт часу расстрэлу, нявыдача цела і таямніца месца пахавання – гэта негуманная трактоўка родных. Аднак намеснік міністра Сяргей Алейнік, які падпісаў адказ юрысту, такой праблемы не бачыць.

Сняжана Неўдах атрымала адказы з Адміністрацыі прэзідэнта і Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў Рэспублікі Беларусь на свой зварот ад 28 кастрычніка, у якім прасіла, каб маці расстралянага Андрэя Жука паведамілі пра месца пахавання сына. У лісце з Адміністрацыі паведамляецца, што пытанне вывучаецца ў Нацыянальным цэнтры заканадаўства і прававых даследаванняў. У другім адказе паведамляецца, што прапанова С. Неўдах аб унясенні змяненняў у Крымінальна-выканаўчы кодэкс будзе разгледжана рабочай групай Цэнтра ў рамках падрыхтоўкі праекта Закона Рэспублікі Беларусь “Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Крымінальна-выканаўчы кодэкс Рэспублікі Беларусь”, распрацоўка якога прадугледжана праектам плана падрыхтоўкі законапраектаў на 2011 г.

30 лістапада актывісты кампаніі “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання” правялі ў Мінску акцыю “Гарады за жыццё – гарады супраць смяротнага пакарання”. Дзясяткі знічоў надвячоркам запалілі актывісты каля сцен Чырвонага касцёла (Святых Сымона і Алены).

6 снежня Камітэт па правах чалавека ААН

зарэгістраваў індывідуальнае паведамленне Алега Грышкаўцова, які 14 мая 2010 г. быў асуджаны да смяротнага пакарання. Ён скардзіцца на парушэнне правоў, прадугледжаных Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, найперш – права на справядлівае судовае разбіральніцтва. У паведамленні таксама ўтрымліваецца просьба прымяніць меры часовай абароны і не прыводзіць прысуд у выкананне, пакуль справа не будзе ўсебакова разгледжана ў КПЧ.

13 снежня А. Грышкаўцоў звярнуўся да А. Лукашэнкі з прашэннем прыпыніць выкананне смяротнага прысуду да разгляду ў КПЧ яго індывідуальнага паведамлення. Ліст асуджанага праз адвакатаў быў перададзены ў Адміністрацыю прэзідэнта. Да гэтай меры А. Грышкаўцоў быў вымушаны звярнуцца, паколькі раней, нягледзячы на інфармаванне кампетэнтных органаў Беларусі пры разглядзе ў КПЧ ААН аналагічных скаргаў асуджаных да вышэйшай меры пакарання А. Жука і В. Юзэпчука, апошнія былі расстраляны напрыканцы сакавіка 2010 г.

## 2011 Г.

У лістападзе сайт Рыма-каталіцкага касцёла ў Беларусі апублікаваў матэрыял пра смяротнае пакаранне:

*«Касцёл абараняе кожнае чалавечае жыццё, заўсёды лічыць яго непарушным і таму заступаецца за асуджаных на смерць.*

*Шматразова заклікаў да поўнай адмены смяротнага пакарання блаславёны Ян Павел II. Так, праціўнікі смяротнага пакарання будуюць свае аргументы на глыбокім перакананні, што кожнае жыццё святое, хоць бы чалавек і не быў святым. Іншай прычынай з'яўляецца недахоп часу на навяртанне і пакаянне. Не застаецца без увагі і той момант, што судовая пастанова можа быць памылковай. А што кажуць тыя, хто "за" смяротнае пакаранне? Яны ўказваюць на абавязак дзяржавы забяспечыць парадак у грамадстве, бяспеку насельніцтва і сцвярджаюць, што грамадства мае права ў пэўных сітуацыях ужываць смяротнае пакаранне.*

*Паводле ж даследаванняў крыміналістаў, у краінах, дзе здзяйсняецца смяротнае пакаранне, колькасць злачынстваў не паменшылася. Гэтак жа, як і не ўзрасла ў тых краінах, дзе смяротнае пакаранне было адменена. Тыя, хто адмаўляе смяротнае пакаранне, робяць акцэнт зусім на іншае: на годнасць чалавека – злачынцы. Пры гэтым яны не баналізуюць учыненага зла, якое стаіць за кожным сур'ёзным злачынствам. Яны стараюцца паказаць, што грамадству пагражае не існаванне злачынцы, а яго дзеянне. Смерць забойцы не можа быць кампенсацыяй за забойства іншага чалавека, бо гэта не зможа вярнуць жыцця ахвяры або знішчыць зло, ці хаця б затармазіць яго развіццё».*

23 лістапада Любоў Кавалёва звяртаецца да сусветнай грамадскасці праз інтэрнэт. На спецыяльным сайце размешчана яе адозва, пад якой можа падпісацца кожны, хто выступае супраць смяротнага пакарання Уладзіслава

Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава, якіх вінавацяць у мінскім тэракце 11 красавіка. “30 лістапада Вярхоўны Суд Беларусі вынясе сваё канчатковае рашэнне адносна прысуду да смяротнага пакарання майго сына Уладзіслава Кавалёва і яшчэ аднаго маладога чалавека, Дзмітрыя Канавалава. Дзмітрый Канавалаў абвінавачваецца ў арганізацыі тэрактаў 2005 г. у Віцебску, на Дзень Незалежнасці ў Мінску ў 2008 г. і ў метро Мінска ў красавіку 2011 г. Мой сын, Уладзіслаў Кавалёў, абвінавачваецца ў саўдзеле і неданясенні. Усе абвінавачванні засноўваюцца на паказаннях, дадзеных пад ціскам падчас папярэдняга следства, ад якіх Уладзіслаў Кавалёў адмовіўся на судзе. Больш ніякіх важкіх доказаў абвінавачанне не прадставіла”, – піша маці. Яна цвёрда ўпэўнена, што яе сын не вінаваты. Гэткага ж меркавання прытрымліваюцца і некаторыя пацярпелыя падчас выбуху ў мінскім метро. Маці кажа, што абодва падсудныя падвяргаліся катаванням падчас следства для атрымання прызнальных паказанняў, што суд не задаволіў шмат якія хадайніцтвы пацярпелых і абаронцаў Канавалава і Кавалёва. Яна таксама звяртае ўвагу на тое, што незалежным журналістам было забаронена мець зносіны з пацярпелымі, а дзяржаўныя СМІ, не чакаючы рашэння суда, ужо падаюць Кавалёва і Канавалава злачынцамі-тэрарыстамі. “На дадзены момант Беларусь – адзіная краіна ў Еўропе, у якой існуе смяротнае пакаранне. Я звяртаюся з гэтай петыцыяй да

вас з адной толькі просьбай: я прашу вас дапамагчы не забіць майго сына, Уладзіслава Кавалёва, і яго знаёмага, Дзмітрыя Канавалава, а замест гэтага запатрабаваць знайсці тых, хто сапраўды павінен несці адказнасць за здзейсненыя злачынствы", – гаворыцца ў звароце. Любоў Кавалёва спадзяецца сабраць 5 тысяч подпісаў пад сваёй петыцыяй. Праз сайт, на якім змешчаны зварот, яе ўжо падтрымалі больш за паўтары тысячы чалавек. Таксама Любоў Кавалёва падпісалася і пад петыцыяй, якая на працягу ўжо некалькіх дзён распаўсюджваецца ў інтэрнэце, – яе стваральнікі мяркуюць сабраць да 30 лістапада 100 тысяч подпісаў тых, хто пратэстуе супраць смяротнага пакарання для Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава.

28 лістапада з'яўляецца Заява беларускіх праваабаронцаў адносна патрабавання дзяржаўнага абвінаваўцы аб прымяненні смяротнага пакарання ў дачыненні да Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва:

*«Беларускія праваабаронцы рашуча асуджаюць патрабаванне дзяржаўнага абвінаваўцы аб прымяненні смяротнага пакарання ў дачыненні да Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва, абвінавачаных па справе аб тэракце ў Мінску 11 красавіка 2011 г.*

*Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і міжнародныя пагадненні, падпісаныя дзяржавай, гарантуюць грамадзянам натуральнае і неад'емнае права на жыццё, замацоўваюць гэтае*

*права як найвышэйшую каштоўнасць.*

*Смяротнае пакаранне не мае сэнсу.*

*Яно не выпраўляе здзейсненага, не аднаўляе справядлівасць.*

*Яно не вядзе да пакаяння і ўсведамлення злачынцам сваёй віны.*

*Яно не спыняе іншых злачынцаў і толькі робіць жорсткім грамадства.*

*Шчыра падзяляючы гора і пакуты ахвяраў злачынстваў і іх родных, мы канстатуем, што працэдура смяротнага*

*пакарання, прынятая ў Беларусі, пры якой целы расстраляных не выдаюцца, не паведамляецца пра месца пахавання і час пакарання – гэта бесчалавечнае абыходжанне з сем'ямі асуджаных да смерці.*

*Неабходна спыніць эскалацыю жорсткасці і гвалту. Смяротнае пакаранне як помста і рудымент сярэдня-*

*вечнай жорсткасці непрымальнае з маральнага пункту гледжання нават тады, калі яно ўжываецца ў дачыненні да людзей, чыя віна ў здзяйсненні асабліва цяжкіх злачынстваў цалкам даказана і не выклікае абгрунтаваных сумневаў.*

*Разам з тым, відавочна, што ні адна праваахоўная і судовая сістэма не застрахавана ад памылак. Але судовыя памылкі не могуць быць выпраўлены пасля ўжывання смяротнага пакарання.*

*Немагчыма ігнараваць тое, што, паводле ацэнак адвакатаў, праваабаронцаў, некаторых пацярпелых і простых грамадзян, расследаванне справы аб тэракце ў мінскім метро і ўвесь судовы працэс над Дзмітрыем Канавалавым і Уладзіславам Кавалёвым не*

*быў ясным і пераканаўчым.*

*Назіральнікі адзначаюць сур'ёзныя працэсуальныя парушэнні ў ходзе папярэдняга расследавання і судовага разбору. Сур'ёзна абмяжоўвалася права абвінавачаных на абарону. Не былі належным чынам правераны заявы абвінавачаных аб прымяненні да іх фізічнага і псіхалагічнага ціску на папярэднім следстве. Шматлікія хадайніцтвы абароны, накіраваныя на выкараненне недакладнасцей і супярэчнасцей у доказнай базе, неабгрунтавана адхіляліся.*

*Падчас судовага працэсу некаторыя пацярпелыя выказалі сумнеў у дачыненні Канавалава і Кавалёва да тэракта. Дзясяткі тысяч грамадзян краіны падпісалі петыцыю аб непрымяненні смяротнага пакарання ў дадзенай справе.*

*Мы лічым, што калі следствам устаноўлена, што Канавалаў і Кавалёў маюць непасрэднае дачыненне да тэракта ў метро, то ў інтарэсах грамадскай бяспекі неабходна*

*захаваць жыцці гэтых людзей, якія валодаюць найкаштоўнейшай інфармацыяй пра абставіны гэтай трагедыі.*

*Жыццё Канавалава і Кавалёва павінна быць захавана таму, што ў будучыні не выключана магчымасць з'яўлення новых звестак пра тэракт у Мінску 11 красавіка 2011 г. Найважнейшым вынікам дадзенай справы павінна стаць не пакаранне абвінавачаных, а ўпэўненасць грамадства ў тым, што выяўлены ўсе матывы, абставіны і датычныя асобы.*

*У інтарэсах гуманнасці і бяспекі грамадства патрабуем не ўжываць смяротнае пакаранне ў дачыненні да Дзмітрыя*

*Канавалава і Уладзіслава Кавалёва!*

Алег Гулак , *“Беларускі Хельсінкскі Камітэт”;*

Алена Танкачова , Вольга Смалянка , *“Цэнтр прававой трансфармацыі”;*

Таццяна Равяка , *“Беларускі дом правоў чалавека”;*

Эніра Браніцкая , *“Офіс па правах людзей з інваліднасцю”;*

Андрэй Палуда , *кампанія “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання”;*

Валянцін Стэфановіч , *ПЦ “Вясна”*».

30 лістапада Вярхоўны Суд Беларусі вынес прысуд па справе Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва. Яго агучыў першы намеснік старшыні Вярхоўнага Суда Аляксандр Федарцоў. Канавалаў і Кавалёў прызнаны вінаватымі ў датычнасці да выбуху на станцыі метро “Кастрычніцкая” ў красавіку 2011 г. і ў ліпені 2008 г. у Мінску на Дзень Рэспублікі. Тым часам амаль 50 тысяч карыстальнікаў інтэрнэту выказаліся за тое, каб падазраваным у выбухах пакінуць жыццё. Задоўга да пачатку працэсу каля Дома правасуддзя на вуліцы Сямашкі сабралася шмат журналістаў, праваабаронцаў і сведак, што ўдзельнічалі ў працэсе. Каля судовай залы пачалі глушыць мабільную сувязь. У залу суда не пусцілі фотаі відэажурналістаў. Прысуд на 114 старонках зачытваўся цалкам па просьбе пацярпелых па справе на працягу 4,5 гадзін. Суд устанавіў, што Канавалаў ажыццявіў акт тэрарызму 11 красавіка 2011 г. у Мінску,

здабыўшы выбуховае прыстасаванне ў Віцебску. Кавалёў разам з Канавалавым даставіў выбуховае прыстасаванне на здымную кватэру і ажыццяўляў пасобніцтва Канавалаву ў прывядзенні прыстасавання ў баявы стан. Канавалаў прызнаны вінаватым у тым, што прывёз прыстасаванне ў метро і здзейсніў выбух. Суддзя называе прозвішчы ўсіх 15 загінулых і каля 200 параненых. Канавалаў прызнаны вінаватым таксама ў ажыццяўленні выбуху на Дзень рэспублікі 4 ліпеня 2008 г. у Мінску. Уладзіслаў Кавалёў і па гэтым эпізодзе прызнаны вінаватым у неданясенні. Суд прызнаў Уладзіслава Кавалёва вінаватым у саўдзеле ў тэракце 11 красавіка. 30 лістапада Вярхоўны Суд прыгаварыў Канавалава і Кавалёва да смяротнай кары, прызнаўшы, што яны "ўяўляюць выключную небяспеку для грамадства". Канавалаў прызнаны вінаватым у злосным і асабліва злосным хуліганстве, наўмысным знішчэнні маёмасці, незаконным набыцці, захоўванні, перавозцы выбуховых рэчываў і выбуховых прылад, тэрарызме, спалучаным з забойствам людзей. Кавалёў прызнаны вінаватым у злосным і асабліва злосным хуліганстве, наўмысным знішчэнні маёмасці, незаконным набыцці, захоўванні, перавозцы выбуховых рэчываў і выбуховых прылад, неданясенні аб падрыхтоўцы асабліва цяжкага злачынства, а таксама ў дапамозе тэрарызму.

1 снежня Любоў Кавалёва, маці Уладзіслава Кавалёва, звярнулася да кіраўніка дзяржавы з прашэннем аб

памілаванні яе сына.

2 снежня Аляксандр Лукашэнка, адказваючы на пытанні журналістаў у Брэсцкай вобласці, заявіў, што рашэнне па пытанні магчымага памілавання Канавалава і Кавалёва прыме ў найбліжэйшы час. “Я павінен падпісаць указ і пацвердзіць рашэнне суда, або, калі звярнуліся па памілаванне, я павінен разгледзець гэтыя дакументы. Гэта самае цяжкае, што можа быць у рабоце прэзідэнта”, – сказаў Лукашэнка. З аднаго боку, адзначыў ён, тое, што адбылося, для Беларусі “анамальна” і “недапушчальна” – у выніку тэракта загінулі людзі. З іншага боку, дадаў ён, ёсць бацькі асуджаных, частка грамадства, якая стала на абарону. “І вось пачынаеш усё гэта ўзважваць. Я прыму рашэнне ў найбліжэйшы час і абавязкова вас праінфармую”, – паабяцаў Лукашэнка.

6 снежня, паводле інфармацыі БелаПАН, Уладзіслаў Кавалёў і Дзмітрый Канавалаў, асуджаныя Вярхоўным Судом да смерці па справе тэракта ў метро, атрымалі копіі судовага прысуду. Тым часам у Камісію па памілаванні пры прэзідэнце ніякіх дакументаў па справе Канавалава і Кавалёва яшчэ не паступала. Як сцвярджае член Камісіі па памілаванні Яўген Смірноў, яна наўрад ці пачне працаваць па справе Канавалава і Кавалёва да канца гэтага года. Паводле закона, прашэнне пра памілаванне павінна быць пададзена асуджаным на працягу 10 сутак пасля атрымання ім копіі прысуду. Тэрміны разгляду прашэння не агаворваюцца.

6 снежня праваабаронцы просяць старшыню Вярхоўнага Суда (ВС) Беларусі Валянціна Сукалу ўнесці пратэст на рашэнне суда аб прымяненні выключнай меры пакарання (смяротнай кары) у дачыненні да Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва. Як паведаміў БелаПАН кіраўнік юрыдычнай службы РГА “Беларускі Хельсінкскі камітэт” Гары Паганяйла, зварот накіраваны 5 снежня. Паколькі крымінальную справу аб тэракце ў мінскім метро разглядаў Вярхоўны Суд, прыгавор касацыйнаму абскарджанню не падлягае, але ў старшыні ВС ёсць права запатрабаваць справу і апратэставаць судовае рашэнне. “Смяротная кара з’яўляецца самым суровым з усіх відаў пакаранняў, прадугледжаных Крымінальным кодэксам Рэспублікі Беларусь, – пішуць праваабаронцы. – Гэта бесчалавечнае пакаранне, якое замахваецца на жыццё чалавека. Між тым, жыццё чалавека з’яўляецца самай каштоўнай дабротай, права на яго з’яўляецца натуральным і неадчужальным, атрыманым чалавекам з моманту яго нараджэння. Пры разглядзе крымінальных спраў аб злачынствах, за ўчыненне якіх прадугледжана прымяненне смяротнай кары, асабліва важна, каб не было ніякага сумнення ў законнасці і абгрунтаванасці прынятых рашэнняў. Пры разглядзе крымінальнай справы заўсёды існуе верагоднасць судовай памылкі”.

Аўтары звароту таксама падкрэсліваюць: “Неабходна памятаць, што прызначэнне смяротнай кары – гэта права,

а не абавязак суда. У сувязі з гэтым суды, кіруючыся прынцыпам гуманнасці, могуць прымяняць іншыя віды пакарання. Так, у якасці выключнай меры пакарання як альтэрнатыва смяротнай кары дапускаецца прымяненне пажыццёвага зняволення".

15 снежня Камітэт ААН па правах чалавека зарэгістраваў індывідуальнае паведамленне аб парушэнні права на жыццё і права на справядлівы суд, якое накіравала маці асуджанага да расстрэлу Уладзіслава Кавалёва Любоў Кавалёва. Справа зарэгістравана пад № 2120/2011. На адрас дзяржавы накіравана нота з патрабаваннем не прыводзіць у выкананне смяротны прысуд да разгляду скаргі Камітэтам ААН па правах чалавека. 25-гадовыя Дзмітрый Канавалаў і Уладзіслаў Кавалёў былі асуджаны на смерць 30 лістапада 2011 г. па абвінавачанні ў арганізацыі выбуху ў мінскім метро 11 красавіка 2011 г.

## 2012 Г.

27 студзеня генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк паведаміў, што адзін з асуджаных да смяротнага пакарання за здзяйсненне тэракта ў мінскім метро ў красавіку 2011 г. – Дзмітрый Канавалаў прызнаў прысуд адносна сябе законным і адмовіўся падаваць прашэнне аб памілаванні. Па словах генпракурора, пра гэта Канавалаў заявіў яшчэ 19 снежня 2011 г. сябрам

спецыяльна створанай камісіі.

Паводле генпракурора, пра тое, што магчыма напісанне просьбы аб памілаванні на імя кіраўніка краіны, Канавалаву нагадвалі двойчы, і двойчы ён адмовіўся скарыстацца гэтым правам. Другі фігурант гэтай справы – Уладзіслаў Кавалёў, таксама асуджаны да смяротнага пакарання, прашэнне аб памілаванні падаў 7 снежня 2011 г. Заключэнне Генпракуратуры па яго заяве ўжо падрыхтавана, у найбліжэйшы час дакументы павінны быць перададзены ў Камісію па памілаванні пры прэзідэнце.

30 студзеня дэпутаты Еўрапарламента Лайма Андрыкейне ад Літвы і Эдуард Кукан, былы міністр замежных спраў Славакіі, выступілі з патрабаваннем адмяніць смяротнае пакаранне Дзмітрыю Канавалаву і Уладзіславу Кавалёву, а таксама ўвесці ў Беларусі мараторый на смяротнае пакаранне. На іх думку, суд не даказаў віны Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва. Сваю заяву Андрыкейне і Кукан зрабілі па выніках сустрэч з маці асуджанага Любоўю Кавалёвай у Еўрапарламенце ў Бруселі.

На пачатку лютага стала вядома, што беларускі ўрад лічыць непрымальнай скаргу блізкіх асуджанага да смяротнага пакарання Уладзіслава Кавалёва, накіраваную ў Камітэт па правах чалавека ААН і зарэгістраваную 15 снежня 2011 г. На думку беларускага ўрада, непрымальнасць яе выцякае з-за нявычарпанасці

ўсіх нацыянальных сродкаў абароны, паколькі скарга Кавалёва знаходзіцца на разглядзе ў Вярхоўным Судзе ў парадку нагляду. Таксама Кавалёў звярнуўся за памілаваннем да Аляксандра Лукашэнкі. Разам з тым зварот са скаргай у парадку нагляду не прызнаецца міжнароднымі органамі ў сферы правоў чалавека ў якасці прававога сродку ўнутрыдзяржаўнай абароны, бо ў гэтым выпадку не ўзбуджаецца прававая працэдура. Зварот за памілаваннем таксама нельга расцэньваць як прававы сродак абароны правоў, бо асноўнымі ў гэтай працэдуры з'яўляюцца не прававыя пытанні, а маральныя альбо гуманітарныя.

Згодна з практыкай, асуджаны да смяротнага пакарання ў Беларусі даведваецца пра тое, што яму адмоўлена ў задавальненні скаргі ў парадку нагляду і прашэнні аб памілаванні, за некалькі хвілін да пакарання. У яго няма ніякай рэальнай магчымасці за гэтыя некалькі хвілін падаць у Камітэт па правах чалавека ААН скаргу і дачакацца яе рэгістрацыі. Таму патрабаванне аб вычарпальнасці ўнутраных сродкаў да падачы скаргі ў ААН – неабгрунтаванае. Гэтая пазіцыя выкладзена маці Уладзіслава Кавалёва Камітэту па правах чалавека ААН на каментарый урада Беларусі. Камітэт звярнуўся да дзяржавы з просьбай не прыводзіць смяротны прысуд у выкананне да канца разгляду справы па сутнасці.

Любоў Кавалёва, маці асуджанага да смяротнага пакарання Уладзіслава Кавалёва, накіравала звароты ў

дзяржаўныя органы, якія маюць права звяртацца ў Канстытуцыйны Суд дзеля вынясення заключэнняў. Яна прасіла гэтыя органы ўнесці прапановы ў Канстытуцыйны Суд аб увядзенні ў Крымінальна-выканаўчы кодэкс артыкула аб прыпыненні выканання смяротнага прысуду ў сувязі са зваротам у Камітэт па правах чалавека ААН. 18 лютага з Адміністрацыі прэзідэнта за подпісам загадчыка аддзела па пытаннях грамадзянства і памілавання Аляксандра Кісялёва паступіў адказ, што для разгляду яе прапановы патрэбны комплексны прававы аналіз заканадаўства з удзелам кампетэнтных органаў. Акрамя Адміністрацыі прэзідэнта, Любоў Кавалёва аналагічныя звароты накіравала ў Савет Міністраў, Вярхоўны Суд, Савет Рэспублікі і Палату прадстаўнікоў.

27 лютага сваякі асуджанага да смяротнага пакарання майстра джыу-джытсу з Гомельшчыны Ігара Мяліка паведамілі, што больш за месяц не атрымліваюць ад яго лістоў, хоць раней ён пісаў штотыдзень. Яны выказалі занепакоенасць, што смяротны прысуд мог быць прыведзены ў выкананне. Смяротны прысуд Ігару Мяліку быў вынесены 14 верасня 2010 г. Магілёўскім абласным судом за здзяйсненне серыі забойстваў, рабаўніцтва, крадзеж у складзе злачыннай групоўкі, а таксама за незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі і боепрыпасаў. 11 лютага 2011 г. калегія Вярхоўнага Суда Беларусі пакінула прысуд без

змяненняў.

13 лютага праваабаронца Валянцін Стэфановіч атрымаў з Адміністрацыі прэзідэнта адказ на свой зварот з просьбай увесці мараторый на смяротнае пакаранне (зварот быў накіраваны 9 снежня 2011 г., напярэдадні Дня правоў чалавека). У адказе сказана, што "Рэспубліка Беларусь паслядоўна ідзе па шляху абмежавання выкарыстання смяротнага пакарання". "Рух на шляху выключэння смяротнага пакарання з ліку крымінальных пакаранняў не можа быць аднолькавым у розных дзяржавах свету. Немагчыма ў адзін момант змяніць унутрынацыянальныя, гістарычна сфарміраваныя погляды ў гэтым пытанні", – адзначана ў адказе за подпісам загадчыка аддзела па пытаннях грамадзянства і памілавання Аляксандра Кісялёва.

14 лютага Прэзідэнт Еўрапарламента Марцін Шульц звярнуўся да А. Лукашэнкі з просьбай аб памілаванні Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава, якія чакаюць смяротнага пакарання. "Мы выступаем супраць смяротнага пакарання ў любых абставінах і заклікаем Беларусь, апошнюю краіну ў Еўропе, якая выкарыстоўвае яго, увесці мараторый на смяротнае пакаранне," – адзначыў ён.

16 лютага Еўрапарламент прыняў рэзалюцыю па смяротным пакаранні ў Беларусі, у якой асудзіў смяротныя прысуды, вынесеныя Кавалёву і Канавалаву, і настойліва заклікаў Аляксандра Лукашэнку памілаваць

гэтых асоб і абвясціць мараторый на смяротныя прысуды і пакаранне з мэтай скасавання смяротнага пакарання з сістэмы пакаранняў шляхам ратыфікацыі Другога факультатыўнага пратакола да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі.

**Рэзалюцыя Еўрапейскага парламента**

ад 16 лютага 2012 г. па смяротным пакаранні ў Беларусі; у прыватнасці, па справах Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва

*Еўрапейскі парламент,*

*- прымаючы да ўвагі сваю рэзалюцыю па Беларусі ад 17 снежня 2009 г. (1) і іншыя свае рэзалюцыі па гэтым пытанні, у прыватнасці, ад 15 верасня 2011 г. (2), 12 мая 2011 г. (3), 10 сакавіка 2011 г. (4) і 20 студзеня 2011 г. (5),*

*- прымаючы да ўвагі сваю рэзалюцыю ад 7 кастрычніка 2010 г. у сувязі з Сусветным днём барацьбы супраць смяротнага пакарання (6) і свае папярэднія рэзалюцыі аб адмене смяротнага пакарання, у прыватнасці, ад 26 красавіка 2007 г. аб ініцыятыве па ўвядзенні мараторыя на смяротнае пакаранне (7),*

*- прымаючы да ўвагі Рэзалюцыю 65/206 Генеральнай Асамблеі ААН ад 21 снежня 2010 г. з заклікам да мараторыя на смяротнае пакаранне, а таксама свае папярэднія рэзалюцыі па смяротным пакаранні ад 2007 і 2008 гг.,*

*- прымаючы да ўвагі рэзалюцыю Парламенцкай Асамблеі АБСЕ па смяротным пакаранні ад 6–10 ліпеня 2010 г.,*

*- прымаючы да ўвагі Рэзалюцыю Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы 1857 (2012) па сітуацыі ў Беларусі ад 25 студзеня 2012 г.,*

*- прымаючы да ўвагі заяву Вярхоўнага прадстаўніка ЕС Кэтрын Эштан аб смяротным пакаранні ў Беларусі ад 1 снежня 2011 г.,*

*- прымаючы да ўвагі заяву Прэзідэнта Еўрапарламента Марціна Шульца ад 24 студзеня 2012 г., якая асуджае смяротныя прысуды, вынесеныя ў дачыненні да Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва,*

*- прымаючы да ўвагі рашэнне Рады ЕС па замежных справах аб абмежавальных захадах у дачыненні да Беларусі ад 23 студзеня 2011 г.,*

*- прымаючы да ўвагі артыкул 2 Хартыі асноўных правоў Еўрапейскага Саюза,*

*- прымаючы да ўвагі Дэкларацыю саміту Усходняга партнёрства, прынятую ў Празе 7–9 мая 2009 г. і Дэкларацыю па сітуацыі ў Беларусі, прынятую з нагоды саміту Усходняга партнёрства ў Варшаве 30 верасня 2011 г.,*

*- прымаючы да ўвагі Правіла 122(5) Працэдурных правілаў,*

*A. У той час як Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе, якая выкарыстоўвае смяротнае пакаранне і да гэтага часу прыводзіць смяротныя прысуды ў выкананне;*

*B. У той час як у ліпені 2011 г. Алег Грышкаўцоў і Андрэй Бурдыка былі пакараныя смерцю, калі іх справы ўсё яшчэ*

*знаходзіліся на разглядзе ў Камітэце па правах чалавека ААН, і ў той час як, на думку праваабаронцаў, каля 400 чалавек былі пакараныя смерцю ў Беларусі з 1991 г.;*

*C. У той час як апошнія смяротныя прысуды былі вынесены Вярхоўным Судом Рэспублікі Беларусь 30 лістапада 2011 г. у дачыненні да Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва па абвінавачванні ў здзяйсненні тэрактаў у 2005 г. у Віцебску, у 2008 г. у Мінску і ў Мінскім метро ў красавіку 2011 г.;*

*D. У той час як, згодна з пэўнымі паведамленнямі (FIDH, Human Rights Watch), ёсць аргументы на карысць таго, што пракуратура і Вярхоўны Суд Беларусі правялі несправядлівае судовае разбіральніцтва і што расследаванне было азмрочана сур'ёзнымі парушэннямі правоў чалавека і наўмысным ігнараваннем важных звестак, якія сведчаць аб невінаватасці гэтых асоб, і ў той час як, на думку назіральнікаў судовага разбіральніцтва, маюцца сур'ёзныя працэсуальныя парушэнні ў ходзе папярэдняга следства і судовага разгляду справы;*

*E. У той час як Дзмітрый Канавалаў і Уладзіслаў Кавалёў былі пазбаўлены доступу да адвакатаў, у той час як пэўныя паведамленні сведчаць аб прымяненні катаванняў з мэтай атрымання прызнальных паказанняў падчас допытаў, у той час як няма ніякіх рэчавых доказаў сувязі з выбухам абедзвюх асоб, і ў той час як ніякіх слядоў выбуховага рэчыва не было знойдзена на адзенні або органах гэтых асоб;*

*F. У той час як усе важныя доказы, на якія спасылалася абвінавачванне падчас судовага разбіральніцтва, былі знішчаны*

*адразу ж пасля таго, як Вярхоўны Суд абвясціў сваё рашэнне;*

*G. У той час як, у адпаведнасці з Артыкулам 14, п. 1 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, ратыфікаванага Рэспублікай Беларусь, "кожны чалавек мае права на справядлівае і публічнае разбіральніцтва справы кампетэнтным, незалежным і непрадузятым судом";*

*H. У той час як бацькі сп. Канавалава былі запалоханы і апынуліся пад наглядам супрацоўнікаў спецслужбаў, і людзі ў цывільным пастаянна знаходзіліся побач з іх домам, так што сям'я на працягу некалькіх месяцаў была пазбаўлена магчымасці мець зносіны са знешнім светам;*

*I. У той час як смяротнае пакаранне ў Беларусі папранейшаму застаецца "дзяржаўнай таямніцай" і, у адпаведнасці з беларускім Крымінальна-выканаўчым кодэксам, дата пакарання невядомая для зняволеных, сям'і асуджанага і грамадскасці; у той час як смяротнае пакаранне ажыццяўляецца ў сакрэтных абставінах шляхам расстрэлу, цела пакаранага не выдаецца яго сваякам для пахавання і месца пахавання не паведамляецца;*

*J. У той час як смяротныя прысуды сп. Канавалаву і сп. Кавалёву могуць быць прыведзены ў выкананне вельмі хутка;*

*K. У той час як рашэнне Вярхоўнага Суда па справе з'яўляецца канчатковым і абскарджанню не падлягае; у той час як, паводле беларускага заканадаўства, хадайніцтва аб памілаванні можа быць разгледжана прэзідэнтам краіны; у той час як Уладзіслаў Кавалёў папрасіў Аляксандра Лукашэнку аб памілаванні, адмаўляючы ўсе абвінавачванні і патрабуючы вызвалення ад крымінальнай адказнасці, але не атрымаў ніякага*

*адказу да гэтага часу;*

*L. У той час як беларускія ўлады падпісалі дэкларацыю пражскага саміту Усходняга партнёрства, у якім яны абавязаліся прытрымлівацца “прынцыпаў міжнароднага права і асноватворных каштоўнасцей, уключаючы дэмакратыю, вяршэнства закона і павагу да правоў чалавека і асноўных свабод”;*

*1) Зноў заяўляе, што Еўрапейскі Саюз і іншыя міжнародныя арганізацыі неаднаразова заклікалі беларускія ўлады да адмены смяротнага пакарання;*

*2) Падкрэслівае той факт, што гэтае незваротнае, жорсткае, бесчалавечнае і прыніжаючае годнасць пакаранне, якое парушае права на жыццё, з’яўляецца непрымальным; выказвае шкадаванне з нагоды адмовы беларускіх уладаў ад прыняцця рэальных захадаў у кірунку адмены смяротнага пакарання або неадкладнага ўвядзення мараторыя на яго;*

*3) Асуджае смяротныя прысуды, вынесеныя сп. Кавалёву і сп. Канавалаву, і настойліва заклікае Аляксандра Лукашэнку памілаваць гэтых асоб і абвясціць мараторый на смяротныя прысуды і пакаранне з мэтай адмены смяротнага пакарання з сістэмы пакаранняў шляхам ратыфікацыі Другога факультатыўнага пратакола да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі;*

*4) Заклікае кампетэнтныя ўлады ў Беларусі правесці поўнае, справядлівае і бесстароннняе расследаванне абвінавачанняў, прад’яўленых у гэтым кантэксце, і забяспечыць сапраўднае правасуддзе для ахвяр жахлівых актаў тэрарызму, аб якіх ідзе*

*гаворка;*

*5) Настойліва заклікае Раду і Камісію выкарыстаць усе даступныя інструменты дыпламатыі і супрацоўніцтва для працы ў кірунку адмены смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь;*

*6) Заклікае краіны Усходняга партнёрства і Расію патрабаваць ад Беларусі ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне;*

*7) Настойліва заклікае беларускую грамадзянскую супольнасць і няўрадавыя арганізацыі да працы па адмене смяротнага пакарання;*

*8) Заклікае беларускія ўлады да аднаўлення працы парламенцкай рабочай групы па смяротным пакаранні, распачатай у 2010 г., з мэтай прывядзення нацыянальнага заканадаўства ў адпаведнасць з абавязальніцтвамі краіны ў межах міжнародных дамоў па правах чалавека і забяспечыць, каб міжнародныя стандарты справядлівага судовага разбіральніцтва строга паважаліся;*

*9) Заклікае беларускія ўлады да павышэння ролі судовай улады ў Беларусі і яе дзейнасці без умяшання або ціску з боку выканаўчай улады, да выканання рэкамендацый Спецыяльнага дакладчыка ААН па пытаннях незалежнасці суддзяў і адвакатаў, з мэтай забеспячэння належнай галоснасці судовага працэсу і прывядзення яго ў адпаведнасць з абавязальніцтвамі ў галіне Чалавечага вымярэння ў межах АБСЕ, асабліва ў галіне вяршэнства закона;*

*10) Асуджае бесперапынны пераслед праваабаронцаў і*

*прадстаўнікоў дэмакратычнай апазіцыі і пераслед актывістаў грамадзянскай супольнасці і незалежных СМІ ў Беларусі па палітычных прычынах, патрабуе неадкладнага вызвалення ўсіх асоб, асуджаных па палітычных матывах, якія знаходзяцца ў зняволенні або адбываюць іншыя формы пакарання, у тым ліку старшыню праваабарончага цэнтра "Вясна" і віцэ-прэзідэнта FIDH Алеся Бяляцкага;*

*11) Патрабуе безумоўнага і неадкладнага вызвалення ўсіх палітычных зняволеных; вітае рашэнне Рады ЕС па замежных справах ад 23 студзеня 2012 г. аб пашырэнні крытэрыяў санкцый, якія пракладваюць шлях для будучага ўстанаўлення асоб, адказных за сур'ёзныя парушэнні правоў чалавека або падаўленне грамадзянскай супольнасці і дэмакратычнай апазіцыі ў Беларусі, і зноў заяўляе, што не можа быць ніякага прагрэсу ў дыялогу паміж ЕС і Беларуссю без прагрэсу Беларусі на шляху да дэмакратыі, правоў чалавека і вяршэнства закона, і пакуль усе палітычныя зняволеныя, у тым ліку два былыя кандыдаты ў прэзідэнты Мікалай Статкевіч і Андрэй Саннікаў, кіраўнікі штабоў кандыдатаў ад апазіцыі Павел Севярынец і Зміцер Бандарэнка, а таксама Сяргей Каваленка, палітычны зняволены, затрыманы па падазрэнні ў парушэнні правілаў хатняга арышту, які знаходзіцца ў працяглай галадоўцы, якая прывяла да крытычнага пагаршэння яго здароўя і прамой пагрозы яго жыццю, не будуць безумоўна вызвалены, і іх грамадзянскія правы цалкам адноўлены;*

*12) Даручае свайму Прэзідэнту давесці гэтую рэзалюцыю да ведама Рады, Камісіі, урадаў і парламентаў дзяржаў-удзельніц*

*ЕС, урада і парламента Рэспублікі Беларусь, Рады Еўропы і Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе.*

13 сакавіка ўвечары па тэлебачанні было перададзена, што Аляксандр Лукашэнка адмовіў у памілаванні Уладзіславу Кавалёву і Дзмітрыю Канавалаву, асуджаным да смяротнага пакарання 30 лістапада 2011 г. па абвінавачанні ў здзяйсненні тэрарыстычнага акту ў мінскім метро 11 красавіка таго ж года. 15 сакавіка прысуд быў прыведзены ў выкананне. 16 сакавіка Вярхоўны Суд накіраваў адпаведнае паведамленне родным расстраляных.

Надзвычай хуткае выкананне смяротнага прысуду адбылося з парушэннем нацыянальных і міжнародных механізмаў абароны, з дэманстратыўным грэбаваннем унутраных законаў і міжнародных дамоваў, ратыфікаваных Рэспублікай Беларусь.

Калі Дзмітрый Канавалаў не падаваў нагляднай скаргі і адмовіўся падаваць прашэнне аб памілаванні, то Уладзіслаў Кавалёў спрабаваў скарыстацца ўсімі магчымымі сродкамі абароны. 15 сакавіка, у дзень прывядзення ў выкананне прысуду, адвакат Уладзіслава Кавалёва падаў асноўную скаргу ў парадку нагляду. Папярэдняя наглядная скарга была накіравана на імя старшыні Вярхоўнага Суда 7 снежня 2011 г., і ў ёй указвалася, што будзе пададзеная асноўная, у сувязі з чым адвакат прасіў не прыводзіць прысуд у выкананне да яе

разгляду. Аднак гэты зварот быў праігнараваны, у сувязі з чым можна сцвярджаць, што асуджаны быў пазбаўлены канстытуцыйнага права на абарону на нацыянальным узроўні. Выкананне дадзенага смяротнага прысуду стала яшчэ адным парушэннем з боку Беларусі прынятых ёю на сябе міжнародных абавязацельстваў у межах Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах і першага факультатыўнага пратаколу да яго, паколькі беларускі бок пакінуў без увагі патрабаванне Камітэта па правах чалавека ААН аб прыпыненні выканання пакарання да разгляду па сутнасці індывідуальнага звароту, пададзенага Уладзіславам Кавалёвым.

20 сакавіка ў інтэрв'ю тэлеканалу "Russia Today" Аляксандр Лукашэнка, які асабіста адмовіў у памілаванні

У. Кавалёву і Д. Канавалаву, заявіў, што спачувае родным расстраляных.

22 сакавіка маці Уладзіслава Кавалёва накіравала ліст да А. Лукашэнкі з просьбай аддаць ёй цела сына, каб пахаваць яго. Паколькі беларускае заканадаўства не прадугледжвае падобнай працэдуры, станоўчае рашэнне па гэтым пытанні малаверагоднае. У гэты ж дзень яна атрымала з СІЗА КДБ пакунак з рэчамі расстралянага сына па пошце. Сваякам вярнулі адзенне, асабістыя рэчы і нават прадукты, якія ён не паспеў спажыць. Аднак маці не аддалі запісы, якія ён вёў падчас судовага працэсу – тыя, што ён прасіў сваякоў абавязкова захаваць.

Еўрапейскія парламентарыі, Рада Еўропы, а таксама шэраг уплывовых міжнародных праваабарончых арганізацый, у тым ліку “Amnesty International”, FIDH, “Human Rights House”, рашуча асудзілі выкананне прысудаў у адносінах да У. Кавалёва і Д. Канавала, запатрабаваўшы ад А. Лукашэнкі неадкладна ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне.

У красавіку Любоў Кавалёва, маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва, і яго сястра Таццяна Казяр атрымалі інфармацыю з Упраўлення Вярхоўнага камісара па правах чалавека. Дадзеная інфармацыя была накіравана прадстаўнікамі ўраду РБ пры аддзяленні ААН у Жэневе 15 сакавіка 2012 г. – у той самы дзень, калі Уладзіслаў Кавалёў быў расстраляны. Прадстаўнікі Беларусі інфармавалі Камітэт па правах чалавека аб тым, што наглядная скарга Кавалёва пададзена ў Вярхоўны Суд, прэзідэнт разглядае яго прашэнне аб памілаванні. Пакуль гэта не будзе разгледжана, выкананне смяротнага прысуду будзе прыпынена.

11 красавіка былы старшыня Канстытуцыйнага Суда і генеральны пракурор Беларусі Рыгор Васілевіч у інтэрв’ю Еўрарадыё заявіў, што смяротнае пакаранне можна адмяніць і без правядзення рэферэндуму: “З пазіцыі фармальна-юрыдычнай, безумоўна, гэтае пытанне можа быць вырашанае і без рэферэндуму. Рашэнне таго рэферэндуму (24 лістапада 1996 года) насіла кансультацыйны характар і ў прынцыпе можна

вырашыць інакш. Але і кіраўнік дзяржавы, і парламент – яны прадстаўляюць народ. І меркаванне грамадзян для іх мае важнае значэнне, якое ўплывае на прыняцце імі рашэнняў. Іх можна зразумець – 80% прагаласавала! Але калі на гэта ўвагі не звяртаць, то пытанне можа быць вырашанае шляхам змены Крымінальнага кодэкса. Варыянты рашэння гэтай праблемы могуць быць самыя розныя. Магчыма ўвядзенне мараторыя".

30 красавіка маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва, Любоў Кавалёва, напісала скаргу на імя начальніка СІЗА КДБ з патрабаваннем вярнуць ёй запісы, якія вёў Уладзіслаў падчас судовага пасяджэння. Пасля выканання смяротага прысуду маці атрымала пакунак з рэчамі сына – іх поштай даслалі з СІЗА КДБ, але запісы, якія вёў Уладзіслаў, кудысьці зніклі. Маці лічыць, што следства і суд, які прысудзіў Канавалаву і Кавалёву смяротнае пакаранне, былі неаб'ектыўнымі. І не выключае, што ў жоўтай пластыкавай папцы маглі быць нейкія звесткі, якія СІЗА КДБ не хоча абнародаваць.

7 мая маці і сястра Уладзіслава Кавалёва, аднаго з асуджаных і расстраляных за тэракт у мінскім метро, звярнуліся да А. Лукашэнкі з прапановай выдаць указ, каб целы пакараных смерцю ўсё ж выдаваліся сваякам. А таксама каб ім паведамлялася пра месцы пахавання тых, каго расстралялі паводле смяротных прысудаў. Яны прапануюць адмяніць палажэнне пункта 5 арт. 175 Крымінальна-выканаўчага кодэкса, паколькі "няма

ніякага разумнага абгрунтавання для нявыдачы цела пакаранага сваякам або ўтойвання ад іх месца яго пахавання”. Родныя Уладзіслава Кавалёва прапануюць унесці змены ў заканадаўства, бо лічаць, што дзейныя нормы надзвычай жорсткія і бесчалавечныя ў дачыненні да сваякоў пакараных смерцю. 8 мая падчас звароту А. Лукашэнкі да парламента і народа дэпутат Самасейка спытаў аб праблеме смяротнага пакарання і магчымасці ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне. А. Лукашэнка адказаў: “Я ніколі сам не пайду на ўвядзенне мараторыя. Я ведаю настроі людзей. Тэлевізар можна выключыць. Два нягоднікі ўварваліся ў кватэру, згвалтавалі дачку, забілі яе, закінулі ў ванную. Што з імі зрабіць? Я імгненна адхіляю прашэнне аб памілаванні. Вы ведаеце, чаго мне каштавалі два апошнія смяротныя прысуды, калі ўвесь свет на цябе цісне. Я – прэзідэнт, я павінен зрабіць, як хоча грамадства. Калі ты гад і нягоднік і ідзеш на злачынства, будзь гатовы за яго адказаць. Хаця, можа быць, грамадства падышло да мараторыя”.

## 2013 Г.

У сакавіку 2013 г. адзначаецца гадавіна расстрэлу Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава, асуджаных да смяротнай кары паводле абвінавачвання ў тэрарызме. На жаль, дакладная дата прывядзення прысуду ў выкананне невядома: можна меркаваць, што гэта

здарылася ў перыяд з 11 да 15 сакавіка.

13 сакавіка на прэс-канферэнцыі, што адбылася ў Мінску, маці аднаго з расстраляных, Любоў Кавалёва, паведаміла, што нарэшце атрымала адказ на наглядную скаргу з Вярхоўнага Суда, якую адвакат падаў яшчэ ў верасні 2012 г. Адказ за подпісам старшыні Вярхоўнага Суда нядаўна адшукаўся ў юрыдычнай кансультацыі № 2 Ленінскага раёна Мінска, дзе працуе адвакат. Высветлілася, што ён быў складзены яшчэ ў лістападзе 2012 г. Удзел у сустрэчы, што праходзіла ў офісе Руху "За Свабоду", узялі таксама юрыст-праваабаронца Раман Кісляк, праваабаронца Павел Левінаў, кіраўнік цэнтра "Праваабарончы альянс" Людміла Гразнова. Раман Кісляк адзначыў, што цяпер важна высветліць, якая структура выконвала смяротны прысуд у дачыненні да Канавалава і Кавалёва: «Гэта можа быць альбо следчы ізалятар № 1 МУС, дзе звычайна ўтрымліваюцца "смяротнікі", альбо СІЗА КДБ, у якім утрымліваўся Кавалёў». "Высвятленне тых, хто прывёў у выкананне прысуд, неабходна, каб разумець, як дзейнічаць далей, ад каго дамагацца адказаў", – сказаў Кісляк. Наступным дзеяннем, паводле яго слоў, стане патрабаванне аб раскрыцці месца пахавання Кавалёва. Кісляк таксама заявіў, што праваабаронцы маюць намер дамагацца выключэння з заканадаўства Беларусі нормы, згодна з якой цела расстралянага не выдаецца сваякам.

За змаганне супраць смяротнага пакарання ў

Беларусі, за памкненне адстаяць годнае імя сына Любоў Кавалёва летась была прызнана “Праваабаронцам года”: 10 снежня 2012 г. беларускія праваабарончыя арганізацыі ўганаравалі яе гэтым званнем. Паводле вынікаў галасавання на сайце “Народныя Навіны Віцебска”, Любоў Кавалёва стала “Чалавекам года Віцебска – 2012”.

14 чэрвеня ў Гомельскім абласным судзе вынеслі прысуд па крымінальнай справе ў дачыненні 25-гадовага жыхара абласнога цэнтра Аляксандра Грунова, які абвінавачваецца ў забойстве студэнткі ГДУ імя Ф. Скарыны Наталлі Емяльянчыкавай. Забойства з асаблівай жорсткасцю адбылося 20 верасня 2012 г., ахвяры былі нанесены 102 нажавыя раненні. Дзяўчына загінула, не дайшоўшы некалькі метраў да свайго пад’езда. Суд пагадзіўся з патрабаваннямі дзяржаўнага абвінаваўцы і пакараў мужчыну расстрэлам. Прысуд яшчэ можа быць абскарджаны. Нагадаем, дзяржаўнае абвінавачанне на мінулым пасяджэнні, 4 чэрвеня, запатрабавала выключнай меры пакарання ў выглядзе расстрэлу для абвінавачанага ў забойстве. У 2005 г. малады чалавек быў асуджаны да пазбаўлення волі тэрмінам на 8 гадоў за нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў, якія прывялі да смерці – ён збіў сужыцеля сваёй маці. Забойства дзяўчыны ён здзейсніў праз год пасля адбыцця пакарання. “На лаве абвінавачаных чалавек, які ўяўляе павышаную небяспеку, і пакаранне павінна быць максімальна магчымае”, – сцвярджала абвінаваўца.

Па выніках псіхіятрычнай экспертызы хлопец прызнаны адэкватным, ён не знаходзіўся ў стане афекту ў момант здзяйснення забойства. Залежнасці ад алкаголю і наркотыкаў у абвінавачанага не выяўлена. Аднак ён пакутуе на змешанае расстройства асобы. У судзе абвінавачаны віну прызнаў цалкам. Ён паведаміў, што прыкладна ў чэрвені – ліпені 2012 г. знаходзіўся з Наталляй Емяльянчыкавай у адной кампаніі, і яна абразіла яго. 19 верасня ён ехаў разам з сужыцелькай і сябрам у аўтобусе і сустрэў Наталлю. Ён ведаў, дзе жыве дзяўчына, бо быў знаёмы з яе братам. Абвінавачаны выйшаў з аўтобуса за адзін прыпынак ад дома, дзе жыла пацярпелая, і пабег праз двары. Ён дачакаўся дзяўчыну каля пад'езда, а потым накінуўся на яе з нажом.

Маці абвінавачанага сказала 12 чэрвеня перад журналістамі, што калі б дзяўчына, якая абразіла яго сына, папрасіла прабачэння, то трагедыі можна было б пазбегнуць. Па словах маці, сын абараняў сваю годнасць, а “раней за абразу страляліся, чаму ж мой сын не мог абараніць сваю годнасць?”. Яна хацела б, каб сыну далі 25 гадоў. “Ён і так нічога добрага не бачыў у сваім жыцці, а тут зараз такое, просяць яго смерці. У яго бацьку забілі, калі ён быў малы, і забойцаў не знайшлі. Так, ён забіў майго сужыцеля, але той біч быў, бадзяжнічаў, бутэлькі збіраў, ён абараняў сваю дзяўчыну, гэта ў яго дзяўчыны быў канфлікт з маім сужыцелем”, – выказалася маці абвінавачанага.

Прадстаўнік Беларускага Хельсінкскага Камітэта па Гомельскай вобласці Віктар Адзіночанка, які прысутнічаў на судзе, выступае супраць смяротнага пакарання: “Мы прынцыпова выступаем супраць смяротнага пакарання ў любых выпадках, якія б злачынствы не былі. Але ў дадзеным выпадку я чыста па-чалавечы супраць, каб яму далі смяротнае пакаранне. На мой погляд, гэта чалавек, які паводзіць сябе неадэкватна. Які нават не абараняе сябе. Яму была дадзена магчымасць сказаць апошняе слова. А ён маўчыць”.

Рашэннем Гомельскага абласнога суда Аляксандру Грунову прызначана выключная мера пакарання – расстрэл. Абвінавачаны звярнуўся з абскарджваннем у Вярхоўны Суд.

12 чэрвеня вынесены чарговы смяротны прысуд – Гродзенскі абласны суд прызнаў Паўла Селюна вінаватым па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь: арт. 139 ч. 2, пункты 1 і 6 (забойства дзвюх асоб, учыненае з асаблівай жорсткасцю); арт. 205 ч. 1 (крадзеж); арт. 347 ч. 1 (здзек над трупамі); арт. 378 (крадзеж асабістых дакументаў), і па сукупнасці злачынстваў вынес прысуд аб выкарыстанні выключнай меры пакарання – смяротнай кары. Працэс вёў суддзя Анатоль Заяц.

Маці асуджанага на смяротнае пакаранне звярнулася да кіраўніка Беларускай Праваслаўнай Царквы. Тамара Сялюн заклікае мітрапаліта Філарэта звярнуцца да

прэзідэнта Лукашэнкі з просьбай аб памілаванні і адмене смяротнага пакарання ў дачыненні да яе сына. У лісце Тамара Сялюн адзначае, што глыбока смуткуе аб страчаных жыццях ахвяр яе сына, спачувае іх блізкім і сваякам. "Але я яго маці. І ягоны лёс неабыякавы мне таксама. Пакаранне ён, безумоўна, павінен панесці. Але не шляхам адабрання жыцця, якое дараваў яму Бог, – піша Тамара Сялюн і апелюе да святара: – Я чула па радыё, што Вы таксама супраць смяротнага пакарання, ды і Ваш сан на гэта натхняе. Вас паважае прэзідэнт, таму я звяртаюся да Вас з просьбай: звярніцеся да Аляксандра Рыгоравіча аб памілаванні і адмене смяротнага пакарання ў дачыненні да майго сына". Каардынатар кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання" Андрэй Палуда паведаміў, што 17 верасня Вярхоўны Суд разгледзіць касацыйную скаргу Паўла Селюна па вынесеным яму прысудзе. "Мы лічым, што абвінавачаны мусіць панесці справядлівае пакаранне, аднак выступаем катэгарычна супраць смяротнага пакарання", – заявіў праваабаронца. Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Мітрапаліт Філарэт неаднаразова выступаў з заявамі аб мэтазгоднасці адмовы ад смяротнага пакарання ў Беларусі.

*«Беларуская Праваслаўная Царква настойліва звяртала ўвагу грамадскасці на праблему смяротнага пакарання яшчэ ў 90-я гады мінулага стагоддзя. У 1996 г., напярэдадні рэферэндуму, на якім, сярод іншага, абмяркоўвалася пытанне аб*

*смяротнай кары, мы заклікалі беларускі народ адмовіцца ад такой меры пакарання: "Мы, хрысціяне, не можам апраўдваць смяротнае пакаранне, бо гэта грэх забойства… Жыццё любога чалавека належыць яго Творцы, Богу. Не мы, грэшныя людзі, даравалі быццё чалавеку, – не нам і пазбаўляць чалавека існавання. Бо за жыццё кожнага з нас Гасподзь Ісус Хрыстос аддаў сваё жыццё, зведаўшы пакуты, знявагі, здзекі і смерць на Крыжы… дзяржава, спапяляючы сваіх грамадзян, кожны раз нанова распінае Хрыста". Такой была наша пазіцыя ў год рэферэндуму. На сёння яна засталася нязменнай».*

5 кастрычніка ў Польшчы, у Беластоку адбыўся канцэрт "Апошні золак", прысвечаны тэме смяротнага пакарання ў Беларусі. Дзякуючы анлайн-трансляцыі яго змаглі ўбачыць тысячы беларусаў, нягледзячы на мяжу паміж Польшчай і Беларуссю, "чорныя спісы" з музыкантаў, якія бралі ўдзел у канцэрце, і забарону на абмеркаванне тэмы смяротнага пакарання ў публічнай прасторы. Па словах каардынатара кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" Андрэя Палуды, ідэя арганізаваць канцэрт узнікла некалькі год таму. "Мы заўсёды разумелі, што вельмі важным з'яўляецца інфармацыйны складнік кампаніі – як мага шырэй распаўсюджваць інфармацыю пра смяротнае пакаранне ў нашай краіне. З гэтай мэтай мы запісвалі відэаролікі, дзе вядомыя беларусы і не толькі выказвалі сваё меркаванне наконт гэтай тэмы. Але пасля мы падумалі, што музыканты найлепш могуць выразіць

сваю пазіцыю не праз словы, а праз песні. Так з'явілася ідэя правесці адмысловы канцэрт". Запіс праекта адбываўся ў зале Беластоцкай філармоніі. Музычнае суправаджэнне было фактычна аркестравым. Ідэя канцэрта – спалучыць некалькі відаў мастацтва, таму кожная песня суправаджалася відэаінсталяцыямі, жывымі карцінамі з пяску, што дапаўнялі сюжэты песен, давалі дадатковую інфармацыю пра смяротнае пакаранне. Таксама прагучалі меркаванні знакамітых людзей на гэтую тэму. Супраць вышэйшай меры пакарання выступілі Стынг, Уладзімір Арлоў, Валянцін Стэфановіч, Адам Глобус. Ад кожнага выканаўцы на канцэрце былі прадстаўлены дзве песні. Кампазіцыі адмыслова прысвячаліся тэме смяротнага пакарання. Лявон Вольскі праспяваў пра ўкрыжаванне, Аляксандр Памідораў – пра ўтрыманне асуджаных у газавых камерах, Ганна Хітрык выбрала тэмай песні гільяціну, Алесь Дзянісаў звярнуўся да тэмы расстрэлу, Наста Шпакоўская напісала песню пра электрычнае крэсла, Віктар Рудэнка праспяваў пра атруту, а Зміцер Вайцюшкевіч – пра шыбеніцу. Пасля канцэрта Аляксандр Памідораў заўважыў: "Тэма смяротнага пакарання – вельмі складаная. Важна, што нам, музыкантам, далі магчымасць выказаць сваю пазіцыю. А канцэрт атрымаўся нават лепшы, чым мы разлічвалі". Праект "Апошні золак" арганізаваны пры падтрымцы Праваабарончага цэнтра "Вясна" і прымеркаваны да Сусветнага дня барацьбы супраць смяротнага пакарання, які адзначаецца

10 кастрычніка. У гэты ж дзень адбыўся паўтор анлайн-канцэрта.

10 кастрычніка з нагоды Сусветнага дня супраць смяротнага пакарання ў ПЦ “Вясна” прайшла прэс-канферэнцыя з удзелам праваабаронцаў і сваякоў асуджаных да расстрэлу. Сустрэча праходзіла ў межах інфармацыйнага Тыдня супраць смяротнага пакарання, які праходзіў па ініцыятыве кампаніі “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі”. Па словах каардынатара Андрэя Палуды, такія інфармацыйныя тыдні будуць цяпер праходзіць штогод, пакуль у Беларусі не будзе адменена вышэйшая мера пакарання. На прэсканферэнцыі прысутнічала маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва. Яна адзначыла, што грамадства недастаткова інфармавана пра смяротнае пакаранне, многія нават не падазраюць, што дагэтуль у Беларусі захавалася такая мера пакарання. “Я і сама паняцця не мела пра гэта, пакуль не сутыкнулася з гэтай праблемай”, – сказала Любоў Кавалёва. Андрэй Палуда тлумачыць недастатковую інфармаванасць насельніцтва тым, што ў грамадстве не хапае адкрытай дыскусіі. Да таго ж, улады актыўна замоўчваюць інфармацыю, датычную ўтрымання асуджаных і выканання прысудаў. Валянцін Стэфановіч адзначыў, што мараторый ці адмена смяротнага пакарання ў Беларусі – гэта палітычнае пытанне. “Акадэмічныя колы пацвярджаюць, што наяўнасць смяротнага пакарання не ўплывае на ўзровень

злачыннасці. Чыноўнікі ўвесь час кажуць, што мы ўжо падышлі да мараторыя. Але рашэнне ўвесь час адкладваецца, нібыта пакуль ЕС ціснe, рашэння не будзе. Але мы павінны ўвесці мараторый не для Еўрасаюза і не для ПАРЕ, а для беларускага грамадства". Праваабаронцы і маці асуджанага Паўла Селюна звярнуліся да прэзідэнта з просьбай аб літасці і несмяротным пакаранні маладога чалавека. Яна накіравала зварот на імя прэзідэнта і мітрапаліта Філарэта з просьбай аб памілаванні. Павел Сялюн таксама напісаў прашэнне аб памілаванні. 2 кастрычніка ў Камітэце па правах чалавека ААН была зарэгістравана яго індывідуальная скарга, даверанай асобай стаў каардынатар кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" Андрэй Палуда.

26 лістапада 2013 г. Мінскі абласны суд вынес рашэнне аб смяротным пакаранні 53-гадоваму Эдуарду Лыкаву, якому інкрымінавана пяць эпізодаў забойства ў стане алкагольнага ап'янення. Следчыя і судовыя органы паведамілі пра справу Лыкава толькі пасля таго, як інфармацыю распаўсюдзілі праваабаронцы з "Вясны". Дагэтуль ні пракуратура, ні Следчы камітэт, ні Мінскі абласны суд не паведамлялі грамадскасці пра гэтую справу.

## 2014 Г.

8 красавіка 2014 г. Вярхоўны Суд паўторна пакінуў у сіле смяротнае пакаранне 26-гадоваму гамяльчаніну, які ў верасні 2012 г. забіў студэнтку Наталлю Емяльянчыкаву. Асуджаны паспрабуе абскардзіць прысуд у наглядным парадку, яго адвакат накіраваў скаргу старшыні Вярхоўнага Суда. Абаронца звяртае ўвагу на пяць абставін, якія істотна змякчаюць віну Грунова і якія Гомельскі абласны суд і Вярхоўны Суд не прынялі да ўвагі. Гэта – чыстасардэчнае раскаянне, поўнае прызнанне віны, яўка з павіннай, добраахвотнае супрацоўніцтва са следствам і супрацьпраўныя ці амаральныя дзеянні пацярпелай Наталлі Емяльянчыкавай. У матэрыялах справы пазначана, што Груноў патлумачыў свой учынак (забойства Н. Емяльянчыкавай) наступным чынам. Летам 2012 г. ён знаходзіўся ў адной кампаніі з Наталляй Емяльянчыкавай, дзе яны разам распівалі спіртныя напоі. У нейкі момант паміж Емяльянчыкавай, Груновым і яго сужыцелькай узнік канфлікт. Пры гэтым Емяльянчыкава, ведаючы, што Груноў адбываў пакаранне ў месцах пазбаўлення волі, назвала яго "петухом", а таксама казала пра тое, што яна патэлефануе сваім сябрам і яны яго згвалцяць. Гэтыя словы Груноў расцаніў як асабістую і вельмі сур'ёзную абразу, за якую студэнтка не папрасіла ў яго прабачэння. 19 верасня 2012 г. ён сустрэў яе ў аўтобусе і ўзгадаў той канфлікт. Пасля таго, як Емяльянчыкава выйшла з аўтобуса, ён дагнаў яе з мэтай

пачуць прабачэнні. Але Наталля гэтага не зрабіла, зноў адказала яму ў рэзкай форме, ужываючы нецэнзурную лексіку. Паводле п. 8 арт. 63 КК, да абставін, якія змякчаюць крымінальную адказнасць, адносіцца здзейсненае злачынства пад уплывам супрацьпраўных ці амаральных дзеянняў з боку пацярпелага. Апытаныя на судовым пасяджэнні псіхолагі, якія праводзілі экспертызу асобы Аляксандра Грунова, патлумачылі, што любая моцная знявага не прымусіла б яго адразу зрабіць нейкія дзеянні. Пры гэтым калі Груноў пачынае ўвесь час думаць пра абразу, гэта можа давесці яго да моцнага гневу. Таксама эксперты патлумачылі, што калі б Емяльянчыкава папрасіла прабачэння, Груноў мог бы проста сысці. Варта адзначыць, што асуджаны ўвесь час заяўляў у судзе, што сваю віну ўсведамляе і не адмаўляе. Аднак пры падобных абставінах існуе магчымасць замены смяротнага пакарання на альтэрнатыўнае – пажыццёвае зняволенне. Менавіта з такой просьбай ён звярнуўся ў Камісію па пытаннях памілавання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Заўважым пры гэтым, што яшчэ да вынясення канчатковага рашэння суда Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы з генпракурорам Аляксандрам Конюкам заявіў, што Груноў заслугоўвае толькі смяротнага пакарання. 10 красавіка зварот ад імя Аляксандра Грунова быў зарэгістраваны ў Камітэце па правах чалавека ААН. Паводле п. 92 Правілаў працэдур Камітэта, дзяржава не павінна прыводзіць у выкананне

смяротны прысуд да разгляду звароту па сутнасці ў ААН.

10 кастрычніка, у Сусветны дзень супраць смяротнага пакарання, праваабаронцы далі выніковую прэс-канферэнцыю ў межах Тыдня супраць смяротнага пакарання ў Беларусі. У офісе Праваабарончага цэнтра "Вясна" сабраліся праваабаронцы, журналісты і прадстаўнікі еўрапейскіх амбасад – намеснік амбасадара Вялікабрытаніі Дэвід Спайерс і намеснік амбасадара Балгарыі Івайла Іванаў. Падчас адкрыцця прэс-канферэнцыі "Беларусь у кантэксце сусветнага абаліцыянізму" каардынатар кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" Андрэй Палуда выклаў агульныя лічбы і тэндэнцыі па смяротным пакаранні ў свеце, спасылаючыся на апошні тэматычны даклад праваабарончай арганізацыі "Amnesty International".

Паводле даклада, на працягу 2013 г. пакаранні смерцю праводзіліся ў 22 краінах свету, гэта на адну больш, чым у папярэдні год. Агульная колькасць пакаранняў смерцю ў свеце, пра якія стала вядома арганізацыі, – 778. Гэта амаль на 15% больш, чым у 2012 г. Але з 2009 г. з прычыны адсутнасці правераных звестак "Amnesty International" не друкуе інфармацыю пра пакаранні смерцю ў Кітаі, што з'яўляецца дзяржаўнай таямніцай, і дзе тысячы пакараных.

За выключэннем Кітая, амаль 80% усіх вядомых пакаранняў смерцю ў свеце былі зарэгістраваны ў трох

краінах: Іраку, Іране і Саудаўскай Аравіі. У пяцёрку сумнавядомых лідараў уваходзяць і ЗША – адзіная краіна ў Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы, дзе ў 2013 г. людзей каралі смерцю. Хоць, як адзначаецца ў дакладзе, колькасць пакаранняў смерцю там працягвае зніжацца. Мэрыленд стаў 18-м па ліку штатам, што адмяніў смяротнае пакаранне.

"Amnesty International" канстатуе: нягледзячы на названыя змены, у цэлым наяўныя звесткі паказваюць, што тэндэнцыя да адмены вышэйшай меры пакарання ў свеце захоўваецца.

*"Што да Беларусі, то наша краіна прадстаўлена ў гэтым дакладзе як апошняя краіна ў Еўропе і Цэнтральнай Азіі, дзе дагэтуль ужываецца смяротнае пакаранне. У 2013 г., паводле наяўнай інфармацыі, смяротныя прысуды ў Беларусі не выконваліся, але былі вынесены не менш за чатыры разы. І, як вядома, ужо вясной 2014-га два з іх прыведзены ў выкананне – у дачыненні да Паўла Селюна і Рыгора Юзэпчука. Па меншай меры два чалавекі зараз чакаюць выканання прысудаў – Эдуард Лыкаў і Аляксандр Груноў. І гэтыя прысуды могуць быць прыведзены ў выкананне ў любы момант, паколькі, нягледзячы на патрабаванні міжнародных органаў, у прыватнасці Камітэта па правах чалавека ААН, Беларусь не адкладае выкананне прысудаў да завяршэння разгляду спраў гэтымі органамі"*, – адзначыў Андрэй Палуда.

Праваабаронцы ў сваёй працы па праблеме смяротнага пакарання выкарыстоўваюць механізмы тых

міжнародных арганізацый, сябрам якіх з'яўляецца Беларусь – ААН і АБСЕ, бо наша дзяржава з'яўляецца ўдзельніцай шэрагу пактаў і канвенцый, што і дазваляе задзейнічаць гэтыя механізмы. Аб працы праваабаронцаў у гэтым напрамку распавёў намеснік кіраўніка "Вясны" Валянцін Стэфановіч. Адзін з асноўных крокаў – выкарыстанне механізму Універсальнага перыядычнага агляду, другі раўнд якога Беларусь будзе праходзіць у Камітэце па правах чалавека ААН у красавіку 2015 г.

"*Кааліцыя з 11 праваабарончых арганізацый Беларусі падрыхтавала альтэрнатыўны агляд, які ў верасні быў накіраваны ў Камітэт па правах чалавека ААН. І адно з першых пытанняў гэтага альтэрнатыўнага агляду якраз датычыцца права на жыццё. І тут мы адзначаем, што Беларусь, якая не брала на сябе абавязацельстваў па адмене смяротнага пакарання, працягвае яго выкарыстанне. І з 2010 г., з моманту першага праходжання Беларуссю працэдуры УПА, нам вядома пра расстрэлы дзевяці чалавек. Мы выказваем асаблівую занепакоенасць тым, што ў пяці выпадках смяротныя прысуды былі прыведзены ў выкананне, нягледзячы на тое, што індывідуальныя звароты гэтых асоб былі зарэгістраваны ў КПЧ ААН, у дачыненні да іх была распачата працэдура 92 Правіл працэдур КПЧ ААН, гэта азначае, што беларускаму ўраду было паведамлена пра рэгістрацыю Камітэтам гэтых зваротаў і пра тое, што прысуды не могуць быць прыведзены ў выкананне да разгляду гэтых зваротаў па сутнасці. Беларусь – у парушэнне сваіх міжнародных абавязацельстваў – прывяла ў выкананне*

*гэтыя смяротныя прысуды. Таксама мы адзначаем, што працягваецца вынясенне смяротных прысудаў Вярхоўным Судом Рэспублікі Беларусь у якасці першай інстанцыі, што не прадугледжвае іх касацыйнага абскарджвання. Нагадаю, што так было з Кавалёвым і Канавалавым, якіх расстралялі цягам двух месяцаў пасля вынясення прысудаў Вярхоўным Судом. Таксама мы заклікаем Беларусь, каб яна змяніла працэдуру выканання смяротных прысудаў, якая неаднаразова прызнавалася КПЧ ААН як бесчалавечнае абыходжанне. Мы просім краіны, прадстаўленыя ў Камітэце па правах чалавека ААН, каб Беларусі было рэкамендавана ратыфікаваць Другі факультатыўны пратакол да Міжнароднага*

*пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, такім чынам узяўшы на сябе абавязацельствы па ўвядзенні мараторыя на смяротнае пакаранне, а таксама – змяніць крымінальнае заканадаўства ў частцы працэдур выканання смяротнага прысуду да моманту ўвядзення мараторыя ці поўнай адмены смяротнага пакарання"*, – распавёў Валянцін Стэфановіч.

Да гэтага праваабаронца дадаў, што Беларусь не выконвае свае абавязацельствы таксама і ў частцы давядзення да грамадзян рэспублікі рашэнняў, прынятых КПЧ ААН. Як вядома, КПЧ прыняў ужо два рашэнні аб парушэнні беларускай дзяржавай права на жыццё – у дачыненні да Андрэя Жука, расстралянага ў 2010 г., і Уладзіслава Кавалёва, расстралянага ў 2012 г. Дзяржава мусіла гэтыя рашэнні апублікаваць у афіцыйных СМІ цягам 180 дзён з моманту іх прыняцця. Гэтую функцыю

дзяржавы праваабаронцы ўзялі на сябе: у межах кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" надрукавана і даводзіцца да ведама грамадзян рашэнне КПЧ па справе Уладзіслава Кавалёва.

Таксама Валянцін Стэфановіч распавёў пра пазіцыю ў дачыненні да Беларусі з боку АБСЕ і Рады Еўропы, у мерапрыемствах якіх браў удзел у апошні час.

Ён нагадаў, што ў рэгіёне АБСЕ толькі дзве краіны выкарыстоўваюць смяротнае пакаранне – ЗША і Беларусь. І АБСЕ неаднаразова прымала рэзалюцыі з заклікам да гэтых краін увесці мараторый ці цалкам адмяніць смяротнае пакаранне. Падчас сёлетняй Канферэнцыі АБСЕ па чалавечым вымярэнні праходзіла пленарнае пасяджэнне, дзе зноў Беларусі была выказана гэтая рэкамендацыя.

Праваабаронца падкрэсліў, што ў рэчышчы спроб беларускай улады палепшыць уласны імідж у стасунках з краінамі Еўрасаюза, ЗША тэма смяротнага пакарання "цікава" загучала ў Радзе Еўропы.

*«Лукашэнка ў святле геапалітычных падзей, якія адбываюцца вакол Беларусі, стаў такім "голубам міру", і шмат хто ў Радзе Еўропы пачаў казаць пра "вокны магчымасцей" для Беларусі. І не дарэмна, мне падаецца, падчас апошняга выступу Лукашэнкі ў парламенце дэпутат Самасейка задаў пытанне адносна аднаўлення для Беларусі статусу спецыяльна запрошанага ў Радзе Еўропы, які быў замарожаны пасля рэферэндуму 1996 г. І пра гэта зноў загаварылі і ў Радзе Еўропы.*

*Мы сустракаліся з генсакратарам РЕ Ягландам, які таксама казаў аб тым, што дыялог з Беларуссю для іх надзвычай важны. А Беларусь, нагадаю, фактычна адзіная еўрапейская краіна, якая не ўваходзіць у Раду Еўропы. Але спадар Ягланд таксама адзначыў, што для іх вельмі важна, каб гэты дыялог адбываўся на каштоўнаснай глебе. І адна з каштоўнасцей Рады Еўропы – права на жыццё. Таму краіна не можа быць сябрам Рады Еўропы без увядзення мараторыя на смяротнае пакаранне»,* – распавёў Валянцін Стэфановіч.

Ён таксама адзначыў, што беларускія праваабаронцы выступаюць за тое, каб Беларусь была сябрам Рады Еўропы, што азначае ратыфікаванне дзяржавай Еўрапейскай канвенцыі па правах чалавека, прызнанне кампетэнцыі Страсбургскага суда па правах чалавека і ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне. Праваабаронца вітаў той факт, што еўрапейскія амбасады ў нашай краіне стварылі нефармальную Працоўную групу па пытанні адмены смяротнага пакарання ў Беларусі (на сёння ў гэтую групу ўвайшлі амбасады Вялікабрытаніі, Чэхіі, Польшчы, Балгарыі, Францыі, Італіі), якія са свайго боку будуць прасоўваць пытанне ўвядзення мараторыя на смяротную кару.

*"Але я хацеў бы падкрэсліць, што мы просім увядзення мараторыя на смяротнае пакаранне не таму, што гэта пытанне сяброўства Беларусі ў Радзе Еўропы. Найперш гэты мараторый патрэбны для беларускага грамадства. Таму што мы не можам гаварыць пра гуманізацыю грамадства, калі*

*дзяржава дазваляе забойства сваіх грамадзян"*, – падвынікаваў праваабаронца.

## 2015 Г.

У студзені маці пакаранага смерцю жыхара Гомеля Аляксандра Грунова, Вольга Грунова, атрымала першыя адказы на запыты аб неабходнасці змянення заканадаўства, якое забараняе сваякам пахаваць целы пакараных смерцю. З ліста старшыні Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу па заканадаўстве і дзяржаўным будаўніцтве Ліліі Мароз стала вядома, што супярэчнасцей нацыянальнага заканадаўства Канстытуцыі і Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах яна не бачыць. Намеснік старшыні Вярхоўнага Суда Валерый Калінковіч адказаў на зварот жанчыны адным сказам: "Для ўнясення ў Канстытуцыйны Суд прапановы аб праверцы канстытуцыйнасці ўзнятага пытання Вярхоўны Суд не бачыць падстаў". У адказе старшыні Пастаяннай камісіі па заканадаўстве Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Людмілы Міхальковай адзначалася, што адмова ў выдачы цела для пахавання і непаведамленне пра месца пахавання не могуць расцэньвацца як крымінальна-прававая санкцыя, якая прызначаецца па прыгавору суда. Нявыдача цела можа разглядацца як асобнае адміністрацыйна-прававое правапрымяняльнае рашэнне.

У такіх выпадках адмова выступае як мера адміністрацыйнага характару, якая мае прэвентыўныя мэты і ў той жа час з’яўляецца пэўным абмежаваннем правоў, гарантаваных Канстытуцыяй. Адначасова дэпутат тлумачыць: пры выкананні смяротнага прысуду гэтая працэдура павінна выконвацца такім чынам, каб прынесці як мага меней пакут: “Відавочна, што тут маюцца на ўвазе пакуты не толькі самога асуджанага, але і іншых людзей”.

У лютым родныя асуджаных да смяротнага пакарання і пакараных працягвалі спробы дамагчыся ад упаўнаважаных дзяржаўных органаў ініцыявання змянення заканадаўства і практыкі яго ўжывання ў частцы паведамлення пра месцы пахавання расстраляных і выдачы іх цел.

Вольга Грунова, маці пакаранага смерцю Аляксандра Грунова, атрымала на свой зварот у Адміністрацыю прэзідэнта адказ за подпісам начальніка Галоўнага ўпраўлення па працы са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб Станіслава Букі, дзе ўтрымлівалася адмова ініцыяваць перад Канстытуцыйным Судом пытанне аб змене заканадаўства, якое забараняе сваякам пахаваць целы расстраляных. “Усталяванае артыкулам 175 Крымінальна-выканаўчага кодэкса абмежаванне абумоўлена неабходнасцю забеспячэння грамадскага парадку і абароны маральнасці, паколькі інфармацыя пра месца пахавання асуджанага можа ў тым ліку

справакаваць негатыўныя паводзіны з боку родных і блізкіх пацярпелых ад злачынства і іншых асоб, а таксама пацягнуць іншыя эксцэсы", – лічаць у прэзідэнцкай Адміністрацыі. Аналагічную адмову Вольга Грунова атрымала і з Апарату Савета Міністраў. "Інфармуем, што Прэзідыум Савета Міністраў прыняў рашэнне аб адмове ў задавальненні Вашай просьбы аб накіраванні ў Канстытуцыйны Суд прапановы аб праверцы на адпаведнасць Канстытуцыі артыкула 175 Крымінальна-выканаўчага кодэкса", – паведаміла начальнік аддзела па працы са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб Апарату Савета Міністраў Л. І. Астроўская.

Не змагла дамагчыся Вольга Грунова вырашэння балючага для яе пытання і праз судовую сістэму. У пачатку лютага Судовая калегія па грамадзянскіх справах Гомельскага абласнога суда адмовілася задаволіць яе прэтэнзіі, пакінуўшы ў сіле рашэнне суда Цэнтральнага раёна аб адмове ва ўзбуджэнні грамадзянскай справы супраць Гомельскага абласнога суда і Дэпартамента выканання пакаранняў, якія адмаўляюцца паведаміць месца пахавання яе расстралянага сына. Вольга Грунова падала наглядную скаргу на імя старшыні Гомельскага абласнога суда Сяргея Шаўцова і адначасова звярнулася з індывідуальнай скаргай у Камітэт па правах чалавека ААН. Вольга Грунова просіць Камітэт ААН устанавіць факт жорсткага, бесчалавечнага і зневажальнага для яе годнасці абыходжання з боку дзяржавы, а таксама

рэкамендаваць ураду Беларусі прывесці нацыянальнае заканадаўства і практыку яго ўжывання ў гэтай частцы ў адпаведнасць з міжнароднымі дамовамі краіны.

У лютым аналагічныя спробы ініцыяваць змяненне заканадаўства ў пытанні выдачы цел расстраляных і паведамлення пра месца іх пахавання распачала маці пакаранага смерцю Паўла Селюна – Тамара Сялюн. Яна накіравала ў суд Ленінскага раёна горада Гродна скаргу на рашэнне і дзеянні службовых асоб Гродзенскага абласнога суда і Дэпартамента выканання пакаранняў МУС Рэспублікі Беларусь. У скарзе Т. Сялюн адзначае, што Гродзенскі абласны суд са спасылкай на арт. 175 Крымінальна-выканаўчага кодэкса адмовіў ёй у паведамленні пра месца пахавання сына і выдачы яго цела. У скарзе Т. Сялюн просіць паставіць пытанне аб прызнанні арт. 175 Крымінальна-выканаўчага кодэкса не адпаведным Канстытуцыі.

У лютым стала вядома, што судова-медыцынская экспертная камісія не стала ў чарговы раз "дапускаць", што Аляксандр Акуліч мог сам сабе нанесці шматлікія цялесныя пашкоджанні, зафіксаваныя пры даследаванні трупа. На гэта ўказвае заключэнне па выніках новай экспертызы, праведзенай па патрабаванні маці Аляксандра Акуліча, які загінуў у ІЧУ Светлагорскага РАУС у маі 2012 г. На яе думку, гэта адбылося ў выніку бесчалавечнага абыходжання з затрыманым з боку супрацоўнікаў РАУС Сцешанкова і Бачко. У новым

заключэнні (№ 623 ад 16.01.2015 г.) Упраўлення складаных судова-медыцынскіх экспертыз меркаванне папярэдніх экспертаў абвяргаецца: “Улічваючы характар усіх устаноўленых на трупе Акуліча А. А. цялесных пашкоджанняў, лакалізацыю ў розных анатамічных абласцях цела, іх утварэнне пры аднаразовым падзенні са становішча стоячы, з ударам аб плоскую паверхню, выключаецца”. Маці загінулага Аляксандра Акуліча, маючы гэтае заключэнне, намерана далей дабівацца пакарання супрацоўнікаў міліцыі, якія, на яе думку, вінаватыя ў смерці сына.

18 сакавіка Гомельскі абласны суд вынес прысуд па крымінальнай справе раней судзімага жыхара Рэчыцы, 21-гадовага Сяргея Іванова, які 29 жніўня 2013 г. жорстка забіў 19-гадовую дзяўчыну. Следства высветліла, што на момант забойства абвінавачаны быў п’яны і ўжываў псіхатропныя рэчывы. Малады чалавек накінуўся на дзяўчыну з мэтай згвалтавання. Ад жорсткага збівання і шматлікіх цяжкіх траўм дзяўчына памерла. Пасля забойства злачынец забраў каштоўныя рэчы ахвяры. Прысудам суда абвінавачаны прызнаны вінаватым у хуліганстве, якое суправаджалася прымяненнем гвалту, што быў здзейснены паўторна, групай асоб, прадугледжаным ч. 2 арт. 339 КК; у наўмысным нанясенні цяжкага цялеснага пашкоджання, небяспечнага для жыцця пацярпелага, з хуліганскіх меркаванняў, прадугледжаным п. 7 ч. 2 арт. 147 КК; у

рабаванні маёмасці, злучаным з гвалтам, небяспечным для жыцця і здароўя пацярпелых, здзейсненым паўторна, групай асоб, прадугледжаным ч. 2 арт. 206 КК; у крадзяжы маёмасці, учыненым паўторна, групай асоб, прадугледжаным ч. 2 арт. 205 КК; у наўмысным супрацьпраўным пазбаўленні жыцця іншага чалавека (забойстве), якое было здзейснена з асаблівай жорсткасцю, прадугледжаным п. 6 ч. 2 арт. 139 КК Рэспублікі Беларусь. Па сукупнасці злачынстваў пастаноўлена канчаткова прызначыць абвінавачанаму выключную меру пакарання – смяротнае пакаранне – расстрэл. Па абвінавачванні ў наўмысным здзяйсненні іншых дзеянняў сексуальнага характару, учыненых насуперак волі пацярпелай з ужываннем гвалту, што пацягнула прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў, прадугледжаных ч. 3 арт. 167 КК Рэспублікі Беларусь, абвінавачаны прызнаны невінаватым і апраўданы за недаказанасцю яго ўдзелу ў здзяйсненні гэтага злачынства. Працэс праходзіў у закрытым рэжыме.

Родныя раней асуджаных да смяротнага пакарання і расстраляных працягвалі дабівацца змянення працэдуры выканання смяротных прысудаў, але беспаспяхова. 12 сакавіка суд Ленінскага раёна г. Гродна прызнаў скаргу Тамары Сялюн на дзеянні Гродзенскага абласнога суда, які адмовіў у падачы інфармацыі пра дакладны час выканання прысуду і месца пахавання яе сына Паўла Селюна, а таксама выдачы яго цела для пахавання,

“непадведамаснай суду”. Суд палічыў, што такая інфармацыя рэгламентавана крымінальна-выканаўчым заканадаўствам, таму не можа быць абскарджана ў парадку грамадзянскага судаводства. Зыходзячы са сваіх заключэнняў, суд палічыў, што няма падстаў і для праверкі канстытуцыйнасці норм крымінальна-выканаўчага заканадаўства, а менавіта арт. 175 КВК, які рэгулюе парадак прывядзення ў выкананне смяротных прысудаў, Вярхоўным Судом Рэспублікі Беларусь. Канстытуцыйны Суд, куды Тамара Сялюн звярнулася з просьбай даць ацэнку арт. 175 КВК на прадмет адпаведнасці Канстытуцыі і міжнародным дамовам, і, як вынік, прыняць рашэнне аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у нацыянальнае заканадаўства, адмовіўся ўзбудзіць вытворчасць па дадзеным звароце. Канстытуцыйны Суд адзначыў, што падобныя пытанні разглядае на падставе адпаведных прапаноў упаўнаважаных органаў. Акрамя таго, у адказе адзначаецца, што для грамадзян у Рэспубліцы Беларусь устаноўлены толькі ўскосны доступ да канстытуцыйнага правасуддзя.

У сакавіку 2015 г. быў асуджаны да смяротнага пакарання Сяргей Іваноў. Абвінавачаны абскардзіў прысуд у касацыйным парадку ў Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь, рыхтуюцца таксама дадаткі да скаргі з указаннем на парушэнні яго правоў, замацаваных Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных

правах. Сваякі расстраляных з дапамогай праваабаронцаў аспрэчваюць замацаваную ў законе практыку нявыдачы целаў і непаведамлення пра месца пахавання, што, па меркаванні родных, з’яўляецца актам жорсткага абыходжання. У прыватнасці, Вользе Груновай – маці пакаранага паводле смяротнага прысуду Аляксандра Грунова – адмоўлена ў паведамленні пра месца пахавання цела сына. У разглядзе гэтай справы суд ёй адмовіў. Аналагічная скарга Тамары Сялюн, маці расстралянага Паўла Селюна, таксама пакінута без разгляду. Тамара Сялюн звярнулася да ўпаўнаважаных дзяржаўных органаў, якія маюць права звароту ў Канстытуцыйны Суд, з прапановай аб змяненні закона ў частцы забароны на выдачу цела расстралянага і паведамлення пра месца яго пахавання. У адказе на яе зварот Пастаяннай камісіі па заканадаўстве Палаты прадстаўнікоў і Пастаяннай камісіі па заканадаўстве і дзяржаўным будаўніцтве Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь указана, што падстаў для змянення ўказанай нормы закона няма і яна адпавядае Канстытуцыі і міжнародным абавязацельствам Беларусі.

У маі стала вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН устанавіў парушэнне права на жыццё па індывідуальным звароце грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, жыхара Гродна Алега Грышкаўцова. Варта нагадаць, што 14 мая 2010 г. Гродзенскі абласны суд

прысудзіў А. Грышкаўцова і А. Бурдыку да смяротнага пакарання. 25 мая 2011 г. стала вядома, што прысуд у дачыненні да асуджаных быў прыведзены ў выкананне, нягледзячы на рэгістрацыю індывідуальнага звароту А. Грышкаўцова ў КПЧ ААН у 2010 г. і прынятыя Камітэтам захады тэрміновай абароны ў адпаведнасці з працэдурай № 92, пра што было папярэджана МЗС і іншыя дзяржаўныя органы. Гэта ўжо чацвёртае меркаванне, прынятае КПЧ ААН па індывідуальных зваротах грамадзян Беларусі, якое ўстанавіла парушэнне Беларуссю права на жыццё, а таксама права на справядлівае судовае разбіральніцтва, права на абарону і прымяненне катаванняў у дачыненні да тых, хто звярнуўся са скаргай.

# ЧАСТКА 5. ПАДПІСАНТЫ ПЕТЫЦЫІ СУПРАЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

## ПЕТЫЦЫЯ СУПРАЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

Беларусь – апошняя краіна ў Еўропе і на постсавецкай прасторы, якая выкарыстоўвае смяротнае пакаранне. Праваабарончы цэнтр "Вясна", Беларускі Хельсінкскі Камітэт, "Amnesty International" выступаюць супраць смяротнага пакарання ва ўсіх выпадках без выключэння.

Мы лічым, што жыццё з'яўляецца найвышэйшай каштоўнасцю, натуральным і неад'емным правам чалавека. Смяротнае пакаранне мы расцэньваем як парушэнне права на жыццё, гарантаванае Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і міжнароднымі дамовамі ў галіне правоў чалавека. Мы цвёрда перакананыя: нішто не можа апраўдаць наўмыснае і бязлітаснае пазбаўленне чалавека жыцця ад імя дзяржавы.

Смяротнае пакаранне мае незваротны характар. Пазбаўленне жыцця не толькі не выправіць здзейсненага злачынцам і не адновіць справядлівасць, але і не зможа прывесці яго да пакаяння, усведамлення сваёй віны.

Акрамя гэтага, нельга выключаць судовых памылак, што пагражае карамі невінаватых людзей – і гэта ўжо было ў гісторыі Беларусі. У выпадку смяротнага пакарання выправіць судовую памылку і вярнуць жыццё чалавеку немагчыма.

Наяўнасць смяротнага пакарання не з’яўляецца дадатковай абаронай грамадскасці, паколькі не стрымлівае людзей шляхам застрашвання ад здзяйснення злачынстваў. У навуковых даследаваннях адсутнічаюць пераканаўчыя доказы таго, што смяротнае пакаранне – больш эфектыўны сродак зніжэння злачыннасці за іншыя віды пакарання.

Не імкнучыся прынізіць пакуты ахвяр і іх родных, мы звяртаем увагу на тое, што працэдура выканання смяротнага пакарання, якая існуе ў Беларусі – гэта бесчалавечнае абыходжанне са сваякамі асуджаных да смерці: яны пазбаўлены апошняй магчымасці развітацца са сваімі блізкімі, ім не выдаюцца целы для пахавання, а месца пахавання трымаецца ў таямніцы.

Мы лічым, што прававая дзяржава не можа забіваць ад свайго імя. Смяротнае пакаранне супярэчыць прынцыпам гуманізму, маралі і агульначалавечым каштоўнасцям, прынцыпам усіх рэлігій, якія вызнаюцца ў Беларусі.

Сёння, калі ўсе краіны Еўропы і постсавецкай прасторы адмовіліся ад смяротнага пакарання, надышоў час і Беларусі далучыцца да гэтай цывілізаванай прасторы

гуманізму, прасторы, вольнай ад забойства дзяржавай.

Мы, падпісваючы дадзеную петыцыю, заклікаем улады Беларусі прыслухацца да нашых аргументаў і адмяніць смяротнае пакаранне ў Беларусі.

## КАСЯ КАМОЦКАЯ: СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ – ГЭТА ПРЫКМЕТА ВЯЛІКАЙ АДСТАЛАСЦІ КРАІНЫ

Кася Камоцкая, спявачка:

Я далучаюся да кампаніі супраць смяротнага пакарання ў Беларусі, бо лічу, што, па-першае, ніхто не мае права адбіраць у чалавека жыццё. Гэта можа зрабіць толькі сам чалавек, што ў хрысціянскай рэлігіі лічыцца грахом.

Па-другое, у нашай краіне з карнай сістэмай вельмі вялікая праблема. Трэба мяняць увогуле ўсю карную сістэму. І таму мне падаецца, што ў краіне, дзе няма рэальных судоў, цалкам магчымыя несправядлівыя прысуды і проста памылкі. І можна пакараць невінаватых людзей.

Па-трэцяе, я лічу, што смяротнае пакаранне – гэта ёсць прыкмета вялікай адсталасці краіны. І адмена смяротнага пакарання была б яшчэ адным крокам Беларусі да сям’і вольных, дэмакратычных краін.

# ЗМІЦЕР ВАЙЦЮШКЕВІЧ: Я ДАЛУЧАЮСЯ ДА КАМПАНІІ СУПРАЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ!

Зміцер Вайцюшкевіч, спявак:

Я далучаюся да кампаніі супраць смяротнага пакарання ў нашай краіне з розных прычын. Самае галоўнае – каб не забівалі нявінных.

Падтрымліваю зварот да беларускіх уладаў, таму што лічу, што прыходзіць час зразумець, хто мы такія, адкуль бярэцца зло і хто мае права судзіць і як судзіць. Рэчы складаныя і рэчы простыя…

Вельмі не хацелася б, каб забівалі людзей нявінных, таму што часам так здараецца.

# УЛАДЗІМІР ПУГАЧ: НЯМА БОЛЬШАГА ГЛУПСТВА, ЧЫМ КАРАЦЬ ЧАЛАВЕКА ЗА ЗЛАЧЫНСТВА ПАЗБАЎЛЕННЕМ ЖЫЦЦЯ

Уладзімір Пугач, музыка:

Чалавецтва развіваецца ўжо даўно і доўга, і шмат што было прыдумана ў свой час, і шмат што забыта. Мабыць, так і будуецца прагрэс. Калісьці даўно людзі елі адзін аднаго – пасля перасталі есці адзін аднаго. Калісьці даўно людзі забівалі адзін аднаго і, на жаль, працягваюць гэта рабіць, але я веру ў тое, што калі-небудзь людзі

перастануць забіваць адзін аднаго. І ў што хацелася б верыць болей за ўсё, дык гэта ў тое, што людзі ўсё ж перастануць забіваць адзін аднаго па законе. Я маю на ўвазе смяротнае пакаранне.

Няма большага глупства, чым караць чалавека за злачынства пазбаўленнем яго жыцця. Таму што чалавек, якога няма, не зведае ніякіх негатыўных наступстваў сваіх дзеянняў, як кажуць юрысты. А караюцца ягоныя блізкія і сваякі, якія, магчыма, ні ў чым не вінаватыя. І фокус увесь у тым, як казаў адзін вядомы юрыст даволі даўно, што ад пакарання чалавека ўтрымлівае не цяжар пакарання, а непазбежнасць пакарання. Чалавек не пойдзе на злачынства не тады, калі баіцца, што яму адрэжуць галаву, павесяць, запякуць мазгі электродамі, а тады, калі пакаранне, няхай нават менш цяжкае, як зняволенне ў турме на 10–15 гадоў, але яно непазбежнае. Калі ён будзе на сто працэнтаў упэўнены, што, здзейсніўшы злачынства, ён будзе пакараны, то не будзе здзяйсняць. А калі пяць смяротных караў будзе прадугледжана за такое злачынства, але ён будзе думаць, што, хутчэй за ўсё, я не пападуся, ён усё роўна будзе ўчыняць злачынствы. Цяжарам мы нічога не даб'емся.

## ТАМАРА ЛІСІЦКАЯ: ЛЮДЗІ НЕ ПАВІННЫ ЗАБІВАЦЬ ЛЮДЗЕЙ. І КРОПКА!

Тамара Лісіцкая, журналіст, пісьменніца і сцэнарыст:

Калі мне прапанавалі выступіць за адмену смяротнага пакарання, я ўзяла пэўную паузу, каб абдумаць рашэнне. І гэты шлях да рашэння быў няпростым. Адно з самых нялёгкіх рашэнняў такога кшталту, якое непасрэдна не датычыцца маёй сям'і. Хаця, хто ведае, як павернецца жыццё… Аднак хочацца верыць, што ва ўсіх усё будзе добра.

Я азнаёмілася з тэкстамі іншых падпісантаў петыцыі. Я пагадзілася з тым, што было сказана. Асабліва, на мой погляд, адлюстроўвае праблему наступнае. Невінаватага чалавека вярнуць ужо нельга. І гэта відавочна. І гэта жахлівая памылка. Памылка, якую дараваць проста немагчыма.

З іншага боку чалавек (злачынца) не мае магчымасці асэнсаваць тое, што ён зрабіў. Ён проста будзе баяцца памерці, а зразумець тое, што ён зрабіў, не зможа. Я разумею, што для сямей, якія непасрэдна сутыкнуліся з гэтым, перанеслі страту, гэтыя словы не суцяшэнне, і гэтыя словы не догма. Яны незразумелыя і непрыемныя. І гэтымі людзьмі валодае наймацнейшая эмоцыя.

Так, я не змагу запэўніць і нават не буду спрабаваць запэўніць такіх людзей. Я пастараюся сфармуляваць наступную думку. Вось уявіце сабе: спачатку доўгае разважанне і такі доўгі ланцужок узважванняў "за", "супраць", факты, інфармацыя пра тое, колькі выдаткоўваецца грошай для пажыццёвага зняволенага…

Яшчэ нейкая інфармацыя з розных сайтаў, апытанні знаёмых і адразу – фінал разважанняў.

Я вось за што. Людзі не павінны забіваць людзей. І кропка! І мне б вельмі хацелася, каб такі закон быў прыняты паўсюль. І на зямлі, і на нябёсах. А калі гэта не падаецца пераканальным, то ёсць яшчэ адна папулярная фраза: толькі Бог вырашае, толькі Бог судзіць. І кожны панясе тое пакаранне, якое ён мусіць панесці. І не нам гэта вырашаць.

## ЖАННА ЛІТВІНА: ЦЫВІЛІЗАВАНАЕ ГРАМАДСТВА ПАВІННА ВЫКЛЮЧЫЦЬ СМЯРОТНЫЯ ПРЫСУДЫ, КАБ ПАЗБЕГНУЦЬ ПАКАРАННЯ НЕВІНАВАТЫХ

Жанна Літвіна, журналіст, з 1995 да 2015 г. – старшыня грамадскага аб’яднання “Беларуская асацыяцыя журналістаў”, лаўрэат прэміі Фонда Эберта па правах чалавека:

Калі Беларусь сапраўды збіраецца быць у ліку цывілізаваных еўрапейскіх краін, дык павінна, калі не цалкам адмяніць смяротнае пакаранне, то хаця б увесці мараторый.

На сённяшні дзень у 146 краінах свету адсутнічае ў заканадаўстве такі від пакарання, як смяротная кара, альбо гэтыя краіны не прымяняюць яго. Што тычыцца

наогул адмены смяротнага пакарання, статыстыка сцвярджае, што наяўнасць ці адсутнасць смяротнага пакарання ў заканадаўстве, прымяненне альбо непрымяненне смяротнага пакарання не адбіваюцца на колькасці здзейсненых злачынстваў, гэта па-першае. Па-другое, мне падаецца, што няма гарантый ад судовых памылак.

Я лічу, што цывілізаванае грамадства павінна выключыць смяротныя прысуды, каб пазбегнуць пакарання невінаватых. І ўвогуле, смяротнае пакаранне можна таксама разглядаць альбо ўспрымаць як нейкае ахвярапрынашэнне. Я лічу, што нават пажыццёвае зняволенне для злачынцы – яшчэ большая Божая кара, чым прывядзенне ў выкананне смяротнага прысуду.

Гэта і ёсць тыя аргументы, якія паўплывалі на маё рашэнне далучыцца да кампаніі па адмене смяротнага пакарання.

## СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ: ГЭТА СТАРОЕ, ДАПАТОПНАЕ ВЫРАШЭННЕ ЧАЛАВЕЧЫХ ПРАБЛЕМ: ЗАБІЦЬ ІНШАГА

Святлана Алексіевіч, пісьменніца:

На працягу 30 гадоў я пішу сваю “чырвоную хроніку”, так я называю свой цыкл кніг. Я вельмі многа пішу пра вайну. І сама была ў Афганістане і бачыла, як

забіваюць людзей, як забіраюць чалавечае жыццё… І я заўсёды думала, як людзі жывуць адзін на адзін з той думкай, што яны могуць забіць іншага чалавека, зрабіць справу Бога. Паколькі ні ў кога з нас няма на гэта права.

Гэта старое, дапатопнае вырашэнне чалавечых праблем: забіць іншага, таму што ён з табой не згодны, таму што ён не такі, як ты, або ён здзейсніў штосьці страшнае. Я думаю, што наш свет так і застанецца светам людзей, якія забівалі да сябе падобных.

Я, вядома, далучаюся да тых, хто хоча наблізіць іншы час, калі ў іншага чалавека нават не ўзнікне думкі, як сёння ў нас не ўзнікае думкі з'есці іншага чалавека, бо людажэрства знікла з чалавечага жыцця, так і не ўзнікне думкі забіць іншага чалавека. Вось таму я стаўлю свой подпіс.

## АДАМ ГЛОБУС: КАБ ЛЮДЗІ НЕ ПЕРАТВАРАЛІСЯ Ў ЗВЯРОЎ, А ТЫМ БОЛЬШ НЕ ПЕРАТВАРАЛАСЯ НАША ДЗЯРЖАВА Ў ЗВЯРЫНУЮ ЗГРАЮ

Адам Глобус, пісьменнік, мастак, выдавец:

Па-першае, калі ў Сакрата спыталі, чаму ён не перажывае і весяліцца перад тым, як выпіць цыкуту, Сакрат сказаў, што "яны асудзілі мяне на смерць, а прырода асудзіла іх". І можна было б паверыць Сакрату,

калі б у нас быў відэазапіс з гэтай ягонай прамовай. Але справа ў тым, што ўсё, што сказаў Сакрат, запісаў Платон. Вялікі Платон, які ўсім расказваў, што ёсць такая бессмяротная душа. І пакуль людзі верылі ў бессмяротнасць душы, то нават пакуты Хрыста на крыжы выглядалі досыць прыстойна. Вось чалавек ахвяруе сабой, яго пакаралі, але ён уваскрасае. Мы ў гэта верылі, чалавецтва, я маю на ўвазе. Але цяпер мы ж у гэта не верым. Мы не верым Платону, мы не верым ў хрысціянства. І таму мы не павінны браць на сябе функцыі прыроды. Толькі прырода асуджае ўсіх нас на смерць, а мы не павінны падмяняць сабой прыроду.

Я супраць смяротнага пакарання яшчэ і таму, што калі наша дзяржава ці любая іншая дзяржава асуджае чалавека на смерць і знішчае яго, замест аднаго забойцы ў нашым грамадстве застаюцца некалькі. Гэта пракурор, які патрабаваў смяротнага пакарання – гэта забойца. Гэта суддзя, які вынес чалавеку смяротны прысуд – гэта таксама забойца. Гэта кат, які здзейсніў забойства. Атрымліваецца, калі ў грамадстве, у дзяржаве, мы некага забіваем, замест аднаго забойцы атрымліваем трох. Мы плодзім забойцаў у дзяржаве, а гэта недапушчальная з’ява.

Смяротную кару трэба адмяняць яшчэ і вось чаму. Чалавека, які забіў, згвалціў, знішчыў пяцьсот асоб, пяцьсот іншых людзей, безумоўна, яго трэба асудзіць, яго трэба ізаляваць ад грамадства. Але – ці нармальны гэта

чалавек? Я лічу, што людзі, якія гвалцяць, забіваюць іншых людзей беспадстаўна, безумоўна, хворыя людзі. І таму, калі мне нехта гаворыць, што Чыкаціла ці іншы маньяк прызнаны нармальным, у мяне вялікія сумневы. І таму гэтых людзей трэба вывучаць, даследаваць, а не проста знішчыць і забыцца пра іх існаванне. Таму ўзнікае яшчэ адно пытанне: чаму мы не даследуем нармальнасць людзей, якія падпісваюць смяротныя прысуды, ці нармальныя гэта людзі? Гэта вялікае пытанне! І я супраць смяротнага пакарання. І заўсёды падтрымліваю ўсіх, хто супраць смяротнага пакарання.

Ёсць адзін вельмі важкі аргумент, які людзі звычайна гавораць у абарону смяротнага пакарання. Яны кажуць, а вось каб вашу дачку згвалтавалі ці забілі, як бы вы сябе паводзілі ў такім стане? І такім людзям я, канешне, хачу сказаць: я б адарваў табе язык за такія словы! Гэта па-першае, але гэта нелагічна. Гэтыя людзі будзяць асабіста ўва мне і ў грамадстве не чалавека, яны будзяць звярыну, звяругу, якая вылазіць з чалавека і пачынае знішчаць іншых людзей. А нашто ў нас ёсць дзяржава? Каб з нас зрабіць людзей, каб кантраляваць чалавечыя паводзіны. Каб мы былі, заставаліся людзьмі нават у самых драматычных момантах. Як я асабіста, калі нешта такое здарыцца з маёй дачкой, ясна, што пабягу і адарву галаву гэтаму чалавеку. Таму што я ператваруся ў звера. І каб людзі не пратвараліся ў звяроў, а тым больш не пераўтваралася ў звера наша дзяржава, у звярыную такую

зграю, мы павінны, абавязаны змагацца супраць смяротнага пакарання. Каб заставацца людзьмі.

## КАЦЯРЫНА ПЫТЛЕВА: СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ З'ЯВІЛАСЯ Ў ТОЙ ЧАС, КАЛІ ЛЮДЗІ НЕ ВЕДАЛІ І НЕ БАЧЫЛІ ІНШАГА ВЫЙСЦЯ

Кацярына Пытлева, салістка гурта "Клёндайк":

На самай справе я доўгі час не задумвалася пра гэтую праблему, мабыць, як і большасць людзей, якія жывуць на планеце Зямля і з гэтым ніколі не сутыкаліся. Але, калі надышоў момант задумацца пра гэта, я ўзважыла ўсе "за" і "супраць" і прыйшла да свайго асабістага меркавання. Я лічу, што смяротнага пакарання не павінна быць. Па-першае, гэта парушэнне правоў чалавека. Па-другое, ніхто з нас не мае права забіраць жыццё іншага чалавека. Вядома, многія злачынцы гэта робяць. І людзі гавораць, што смяротнае пакаранне патрэбнае для таго, каб злачынца атрымаў па заслугах. Так шмат хто гаворыць, але насамрэч помста ніколі не з'яўлялася чымсьці добрым і не ўпрыгожвала чалавека. Чалавек мусіць быць дабрачынным і ніколі не прыніжацца да помсты. Таму што ў помсце няма нічога прывабнага. А смяротнае пакаранне фактычна і з'яўляецца помстай. Прычым, не самай лепшай, калі на тое ўжо пайшло.

Я лічу, што чалавек, які здзейсніў злачынства, лепш усвядоміць зробленае, калі гэта ўвогуле магчыма, калі ён да канца пражыве жыццё, ведаючы, што ён ніколі не пакіне сцен камеры і не зможа больш зрабіць нічога, акрамя як сядзець, думаць і ўзгадваць тое, што ён зрабіў.

Смяротнае пакаранне з’явілася ў той час, калі людзі не ведалі і не бачылі іншага выйсця. Але цяпер мы жывем у сучасным, цывілізаваным грамадстве і мы не павінны вяртацца ў Сярэднявечча, адбіраць у чалавека жыццё, калі ён здзейсніў штосьці, што супярэчыць нашым законам.

## УЛАДЗІМІР АРЛОЎ: КАЛІ ЧАЛАВЕКУ ВЫНОСЯЦЬ СМЯРОТНЫ ПРЫСУД, ТО ЁН ГУБЛЯЕ МАГЧЫМАСЦЬ, КАЛІ НЕВІНАВАТЫ, ДАЧАКАЦЦА СПРАВЯДЛІВАСЦІ

Уладзімір Арлоў, пісьменнік:

Я адназначна за адмену смяротнага пакарання. Можна сказаць, з такіх агульнагуманістычных меркаванняў.

На маю пазіцыю паўплывала тое, што я вырас у сям’і юрыста. Тата быў пракурорам у Полацку. І ён нярэдка дома выказваў сваё меркаванне па жорсткіх прысудах.

Калі чалавеку выносяць смяротны прысуд, то ён губляе магчымасць, калі ён невінаваты, дачакацца

справядлівасці.

Шмат хто з Беларусі памятае “віцебскую справу”. Па гэтай справе былі асуджаны невінаватыя, адзін чалавек – да смяротнага пакарання. Многія абвінавачаныя па гэтай справе доўгі час утрымліваліся за кратамі, пакуль сапраўдны забойца быў знойдзены. Так, брат нашых знаёмых вярнуўся з турмы хворы, зламаны фізічна і маральна. Праз год пасля вызвалення ён памёр…

Наяўнасць смяротнага пакарання прыводзіць да таго, што жыцця нярэдка пазбаўляюць невінаватых людзей. Нядобрасумленнае следства можа схаваць канцы ў ваду. У адвакатаў ёсць шанцы давесці справу і даказаць, што чалавек невінаваты, калі чалавек жывы. Дарэчы, нядаўна глядзеў сюжэт па тэлебачанні пра асуджаных на пажыццёвае, якія толькі праз доўгі час былі апраўданы. А калі б былі асуджаны да смяротнага пакарання?

Я за адмену смяротнага пакарання, як гэта зроблена ў больш цывілізаваным свеце. Я думаю, што Беларусь непазбежна прыйдзе да гэтага, прыйдзе да адмены смяротнага пакарання.

## ЗІНАІДА БАНДАРЭНКА: У ЦЫВІЛІЗАВАНАЙ ДЗЯРЖАВЕ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

Зінаіда Бандарэнка, народная артыстка Беларусі,

дыктар Беларускага тэлебачання:

Я лічу, што на хрысціянскай Беларусі не павінны выносіцца смяротныя прысуды. З Божай ласкі чалавек павінен жыць. А калі ён сам здзейсніў жорсткае злачынства, то на тым свеце ён абавязкова панясе пакаранне.

А колькі судовая практыка налічвае судовых памылак! І колькі памылкова людзей пазбаўлялі жыцця. Дагэтуль мы з жахам узгадваем сумнавядомую "віцебскую справу".

Улічваючы, што беларускія судовыя законы не надта абараняюць правы чалавека, а судовыя справы разглядаюцца павярхоўна, ніхто з нас не застрахаваны ад турмы…

Нам кожны дзень нагадваюць з экранаў Беларускага тэлебачання, што мы цывілізаваная дзяржава, а ў цывілізаванай дзяржаве не павінна быць смяротнага пакарання.

## МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ: СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ – ГЭТА ЗАБОЙСТВА, ХОЦЬ І ПА РАШЭННІ СУДА

Мечыслаў Грыб, заслужаны юрыст Беларусі, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання (1994–1996), старшыня Камісіі па правах

чалавека пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета. Пад старшынствам Мечыслава Грыба 15 сакавіка 1994 г. была прынята першая Канстытуцыя суверэннай Беларусі.

Пытанне аб адмене смяротнага пакарання ў Беларусі – не новае. Яно абмяркоўваецца ў грамадстве ўжо не адно дзесяцігоддзе. А 24 лістапада 1996 г. гэтае пытанне было вынесена на разгляд рэспубліканскага рэферэндуму. На рэферэндуме грамадзяне Беларусі выказаліся ў падтрымку выключнай меры пакарання. Праўда, вынікі галасавання падчас гэтага рэферэндуму выклікаюць абгрунтаваныя сумненні ў многіх спецыялістаў. І тым не менш многія грамадзяне Беларусі па-ранейшаму лічаць, што за асобныя віды асабліва цяжкіх злачынстваў павінна прымяняцца выключная мера пакарання – смяротнае пакаранне. Гэтая мера пакарання ёсць у шэрагу артыкулаў Крымінальнага кодэкса РБ, які дзейнічае цяпер.

Вось такая сітуацыя з прымяненнем смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь на сённяшні дзень. Аднак ні пагаджацца, ні мірыцца з такім палажэннем спраў нельга.

Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі даўно і настойліва прапаноўваюць адмяніць смяротнае пакаранне ў Беларусі. Гэтая прапанова падтрымліваецца на вышэйшым палітычным узроўні Еўрасаюза. Так, у Беларусі ёсць рух за адмену смяротнага пакарання, праўда, пакуль слабы.

Я, як чалавек, які праслужыў у органах унутраных спраў больш за 36 каляндарных гадоў, які нямала пабачыў на сваім вяку, прыйшоў да высновы, што патрабаванне адмены смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь справядлівае, і я ўсяляк падтрымліваю яго.

Любая гвалтоўная смерць чалавека, у тым ліку і смяротнае пакаранне – гэта забойства, хоць і па рашэнні суда.

Ні адзін суд не застрахаваны ад судовай памылкі, ні адно судовае рашэнне не можа быць выключна аб'ектыўным хоць бы таму, што яно прымаецца людзьмі, у канкрэтным выпадку – суддзямі.

Вядома, судовую памылку можна выправіць у той ці іншай ступені, калі яна не звязана з прымяненнем выключнай меры пакарання – смяротнага пакарання.

Мы, людзі, павінны задумацца пра гэта, бо жыццё кожнага чалавека найкаштоўнейшае.

## АЛЕГ ГУЛАК: ГЭТА ДЗІКУНСТВА – У XXI СТАГОДДЗІ ДАЗВАЛЯЦЬ, КАБ ДЗЯРЖАВА ЗАБІВАЛА ЧАЛАВЕКА

Алег Гулак, праваабаронца, старшыня Беларускага Хельсінкскага Камітэта:

Я лічу, што смяротнае пакаранне Беларусь абавязана

адмяніць таму, што гэта дзікунства – у XXI стагоддзі дазваляць, каб дзяржава забівала чалавека. Гэта здзек над людзьмі, гэта здзек над правам, гэта здзек над сучаснасцю. Я лічу, што дзяржава, дзяржаўныя органы цяпер абавязаны, перш за ўсё, увесці мараторый на выкананне смяротнага пакарання і потым выключыць увогуле смяротнае пакаранне з Крымінальнага кодэкса. Гэта будзе вельмі важна для гуманізацыі беларускага грамадства.

## АЛЕСЬ МАРАЧКІН: КАБ НЕ ПАРУШАЦЬ ЗАПАВЕДЗЬ БОЖУЮ "НЕ ЗАБІ!"

Алесь Марачкін, мастак:

Гэта тэма жыцця чалавека; жыцця, Богам дадзенага. У мяне ёсць карціна такая: "Каін і Авель" – першае забойства біблейскае. Прыклад грамадзянскай вайны, калі брат супраць брата выступіў. Каін Авеля забіў за тое, што яму было дужа зайздросна, што ў таго ўсё атрымлівалася; у яго ўсё нармальна; у яго і пладзілася, і жыло. Каіна раз'ядала зайздрасць. Тады ён падняў гэты камень і забіў свайго брата, але і быў пакараны за гэта. Там, дзе жыццё, там ёсць і смерць. Ёсць смерць гвалтоўная, ёсць смерць натуральная, ёсць няшчасныя выпадкі. Гэта не толькі ў нас, але і ва ўсім свеце, у цывілізаваным свеце, у Нямеччыне, у Амерыцы: з чаго раптам чалавек бярэ

зброю і растрэльвае дзяцей, школьнікаў? З чаго раптам сын на бацьку падымае руку? Таму што, з аднаго боку, правакуюць гэтыя паводзіны і тэлебачанне, і кіно, дзе мы бачым толькі гвалт, стрэлы, знішчэнне адзін аднаго. З іншага боку, псіхалагічны стрэс таксама, магчыма, правакуе, калі чалавек загнаны. У Беларусі – гэта п'янства, гэта алкаголь. П'е гэтую гарэлку да бяспамяцтва і ўжо не кантралюе свае паводзіны. І ўжо для яго там сякера, нож – гэта апошні аргумент. Хто яго давёў да гэтага? І мы бачым сёння на вёсках, на прылаўках, у асноўным гэтае "чарніла", гэтая гарэлка даволі танная… І ўсё-ткі: ці трэба смяротнае пакаранне? Я прыйшоў да высновы, што смяротнае пакаранне трэба цалкам адмяніць. І тлумачу чаму: у нас ёсць дастаткова сілавых структур – пракуратура, войскі спецыяльнага прызначэння, міліцыя, якія ахоўваюць такіх людзей. І самым страшэнным злачынцам – пажыццёвы прысуд, пажыццёвае пакаранне. Так мы не парушаем запаведзь Божую: "Не забі!"

## АНДРЭЙ ХАДАНОВІЧ: СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ – ГЭТА МАГЧЫМАСЦЬ ПАМЫЛКІ, СМЕРЦЬ – ГЭТА ТОЕ, ЧАГО НЕЛЬГА ВЫПРАВІЦЬ

Андрэй Хадановіч, паэт, старшыня Беларускага ПЭН-

цэнтра:

Адчуваю радасць і гонар з прычыны, што магу далучыцца да кампаніі “Супраць смяротнага пакарання ў Беларусі”, бо я рашуча супраць такой жорсткай, барбарскай, бязглуздай, мне здаецца, жахлівай адначасова працэдуры. Я не веру, што чалавек можа зрабіцца лепшым праз пачуццё страху. Смяротнае пакаранне адвеку – гэта спроба трымаць чалавека ў рамках, нагнятаючы гэтае пачуццё страху. Чалавек не зробіцца такім чынам лепшым. Мы імкнемся да грамадства, калі людзьмі кіруюе не боязь, што нас пакараюць за той ці іншы ўчынак, жахлівы ўчынак, а ўнутранае пачуццё справядлівасці, разуменне, што такое добра і што такое дрэнна. Я думаю, што смяротнае пакаранне не стрымае злачынцу – ён проста пару разоў зладзеявата паверне галаву паглядзець, ці бачыць яго злачынства нехта, ці будуць сведкі і гэтак далей. Мы такім чынам выхоўваем асцярожнасць, хітрасць, боязь, але не справядлівасць і не міласэрнасць. Згадваецца, з іншага боку, яшчэ адзін аргумент: смяротнае пакаранне – гэта магчымасць памылкі, а смерць – гэта тое, чаго нельга выправіць. Несправядлівае ўтрыманне ў турме выправіць можна. Гільяціна, электрычнае крэсла, расстрэл – гэта тое, што паправіць немагчыма. Згадваецца эпізод з Булгакава: там Понцій Пілат размаўляе з Ешуа і кажа, што можа абрэзаць той валасок, на якім вісіць зараз ягонае жыццё. Мудры, здаецца, безабаронны Ешуа

адказвае: “Не, абрэзаць валасок можа толькі той, хто сам жа яго і падвесіў”. Мы не падвешвалі чужыя жыцці на гэтым валаску. Ніхто з нас, здаецца, не ўмее яшчэ ўваскрашаць з мёртвых. Пакуль мы не ўмеем уваскрашаць з мёртвых, не варта забіраць жыццё, якога мы не давалі.

Мы не тая інстанцыя, якая можа вырашаць – варты чалавек жыцця ці не варты.

## ГАННА ХІТРЫК: КАЛІ ТЫ ЗА СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ, ЗНАЧЫЦЬ, ТЫ І ЗА ВАЙНУ

Ганна Хітрык, акторка, спявачка:

Я ўвогуле не ведаю, што можа прымусіць мяне сказаць, што я за тое, каб кагосьці не стала, увогуле, кагосьці жывога. І я не разумею людзей, якія кажуць: “Так, гэтага чалавека трэба прыбраць, знішчыць, груба кажучы, забіць”, – таму што, калі ты за смяротнае пакаранне, значыць, ты і за вайну. Я разумею, што чалавек, якога асуджаюць да таго, каб яго не стала, зрабіў вельмі шмат усяго нядобрага. Але помста – гэта ўвогуле дрэнна і, што магчыма, чалавек павінен сядзець і доўга-доўга думаць. Калі чалавек ведае, што не ўбачыць больш святла, усмешак і не ўбачыць родных – гэта нашмат цяжэй, чым проста памерці. Гэта значыць, страх смерці ў яго, вядома, будзе, але не страх не ўбачыць больш нічога

наогул, акрамя чатырох сцен. Адзінота – гэта вельмі страшна. Некаторыя да яе ставяцца без боязі, пакуль табе не скажуць, што гэта да канца тваіх дзён. Я не буду казаць, што нас усіх стварыў Бог, і толькі яму вырашаць, як гэта будзе, бо многія атэісты. Але нешта нас сюды прывяло, для чагосьці мы ёсць. І як мы перажываем, калі нехта захворвае, калі з'яўляецца нейкая страшная хвароба, які-небудзь грып ці яшчэ штосьці, што можа знішчыць чалавецтва. А тут мы самі бяром жывых людзей і кажам: "Так, я лічу, што гэтага павінна не стаць, бо я нейкі галоўны суддзя ці яшчэ нехта..." Я згодная, што, напэўна, калі б сказалі: "Хітрык, ды ён зрабіў вось гэта і вось гэта", – я адказала б: "Госпадзе, каб толькі яго не было!" Але гэта першая рэакцыя, бо мы ўсе вельмі эмацыйныя. А падумаўшы, паслухаўшы разумных людзей, я разумею, што не варта. Жадаць смерці – значыць, псаваць сябе, унутры сапсаваць сябе. Сябе не трэба псаваць. Чалавек, які гэта зрабіў, – ужо сапсаваў усё. У нас, на самай справе, шмат усяго нядобрага, таму лепш не прыпадабняцца да яго і не ісці далей. Дзяржава – гэта людзі, людзі, якіх мы абралі. Выбралі як самых разумных, на якіх мы спадзяемся, якім мы давяраем. І калі людзі, якім мы давяраем, будуць забойцамі – дык якія ж яны людзі? І якія мы людзі, калі мы абралі гэтых людзей?

## ГАРЫ ПАГАНЯЙЛА: НЕЛЬГА СТАВІЦЬ

## ДЗЯРЖАВУ ВА ЎМОВЫ, КАЛІ ЯНА САМА ПАВІННА ЗДЗЯЙСНЯЦЬ ЗАБОЙСТВЫ

Гары Паганяйла, праваабаронца:

Права на жыццё з'яўляецца натуральным правам. Яно падаравана Госпадам Богам, і ніхто не можа адабраць жыццё ў чалавека. Таму я выступаю супраць наяўнасці ў нашых законах указанняў на смяротнае пакаранне ў якасці кары за крымінальныя злачынствы. Нельга ставіць дзяржаву ва ўмовы, калі яна сама павінна здзяйсняць забойствы. Дзяржава павінна гарантаваць жыццё чалавека. Натуральна, дзяржава, вызначаючы рамкі паводзін людзей, павінна мець механізмы выпраўлення тых, хто здзяйсняе злачынствы, нават вельмі цяжкія. Наяўнасць у нашым заканадаўстве выключнай меры пакарання, звязанай з пажыццёвым утрыманнем у месцах пазбаўлення волі, – цалкам адэкватная мера для самых цяжкіх злачынстваў, у выглядзе кары і для таго, каб чалавек мог усвядоміць і выправіць сваю памылку як перад людзьмі, так і перад Госпадам Богам.

## КШЫШТАФ ЗАНУСІ: НЯМА АПРАЎДАННЯ Ў СЁННЯШНІМ СВЕЦЕ ДЛЯ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

Кшыштаф Занусі, кінарэжысёр:

Ведаеце, у маёй краіне ўжо даўно яго няма. Папа Рымскі Ян Павел Другі вельмі моцна выказваўся, што ўжо няма апраўдання ў сённяшнім свеце для смяротнага пакарання, хоць некалі апраўданне, магчыма, і было. І, вядома, з чалавечага пункту гледжання я вельмі супраць. Мне гэта здаецца чымсьці зусім немагчымым. Але я таксама разумею, што ёсць велізарнае жаданне помсты ў грамадстве супраць тых людзей, якія нам зрабілі зло. Але, ведаеце, увесь развіты свет, акрамя Амерыкі, жыве без смяротнага пакарання, і бачна, што яно не змяншае ўзроўню злачыннасці.

## ЛЯВОН ВОЛЬСКІ: НІЧОГА МЫ НЕ ЗМЕНІМ, КАЛІ ЗАБ’ЕМ ЧАЛАВЕКА

Лявон Вольскі, музыка:

Я абсалютна катэгарычна выступаю супраць смяротнага пакарання ў Беларусі і ўвогуле ў свеце. Таму што гэта – нецывілізавана. Гэта, па-просту, і не вандалізм, гэта ўжо, хутчэй, – дагістарычныя нейкія часы. Таму што нічога мы не зменім, калі заб’ем чалавека, які здзейсніў нават вельмі-вельмі страшнае злачынства. Паверце мне, нічога гэта не зменіць, апроч таго, што будзе нараджаць усё новую і новую крыважэрнасць. За смяротнае пакаранне могуць быць, хіба што, людзі, якія пераследуюць нейкія палітычныя мэты, альбо па натуры

проста крыважэрныя і не вельмі добрыя.

## МІХАІЛ ПАСТУХОЎ: НАЯЎНАСЦЬ АБО АДСУТНАСЦЬ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ – ГЭТА ІНДЫКАТАР РАЗВІЦЦЯ ДЗЯРЖАВЫ, ПРАВАВОЙ КУЛЬТУРЫ

Міхаіл Пастухоў, заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь, суддзя Канстытуцыйнага Суда (1994–1997):

Вядома, што Рэспубліка Беларусь застаецца апошняй еўрапейскай дзяржавай, дзе яшчэ захоўваецца смяротнае пакаранне. У Канстытуцыі нашай краіны запісана, што смяротная кара з'яўляецца выключным відам пакарання. Але, тым не менш, у наш час няма месца такім пакаранням. І справа нават не ў тым, што ў нас мала такіх пакаранняў, – 3–4 смяротныя прысуды ў год застаюцца. Але наяўнасць або адсутнасць смяротнага пакарання – гэта індыкатар развіцця дзяржавы, прававой культуры насельніцтва ў цэлым, менталітэту насельніцтва. І адмена смяротнага пакарання – гэта паказчык таго, што дзяржава і грамадства дасягнулі пэўнага значнага этапу развіцця, калі і дзяржава, і грамадства прызнаюць жыццё чалавека як найвышэйшую каштоўнасць, на якую ніхто не можа замахвацца, у тым ліку і дзяржава. Гісторыя цывілізацыі, грамадства якраз сведчыць пра тое, што паступова мы рухаемся да прагрэсу, адмаўляемся ад такіх страшных,

выродлівых пакаранняў, якія былі раней, у тым ліку звязаных з пакараннем смерцю: чвартаванне, абезгалоўліванне, павешанне. І хоць расстрэл лічыцца, у двукоссі, такім “гуманным”, цывілізаваным нібыта пакараннем, але вынік ад гэтага не змяняецца – дзяржава забівае сваіх людзей, няхай самых дрэнных, няхай за самыя жудасныя злачынствы. Рэспубліцы Беларусь неабходна адмовіцца ад смяротнага пакарання і ўвайсці ў еўрапейскую сям′ю народаў, якія адмовіліся ад гэтага варварскага віду пакарання. І тут не толькі магчымасць выключэння памылкі судовай, якая непазбежна існуе на нейкую колькасць прысудаў, але, у першую чаргу, прызнанне таго факта, што чалавек, яго жыццё, яго правы, свабоды з′яўляюцца найвышэйшай каштоўнасцю, на якую дзяржава не ў праве замахвацца. І адмова ад смяротнага пакарання – гэта паказчык сталасці грамадства, развіцця дзяржавы і, урэшце, выкананне сваіх абавязацельстваў перад еўрапейскай супольнасцю. Таму пытанне аб адмене смяротнага пакарання у Рэспубліцы Беларусь ужо даўно наспела, і неабходна прымаць меры. Самай простай мерай можа стаць увядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне. Потым, я мяркую, мы можам цалкам адмовіцца ад гэтага “выключнага” віду пакарання і ўвайсці ў еўрапейскую сям′ю народаў не толькі па гэтым паказчыку, але і па многіх іншых паказчыках, якіх чакае ад нас цывілізаваны свет. А мы чамусьці не спяшаемся выконваць гэтыя абавязацельствы.

# ПАВЕЛ САПЕЛКА: ЗАБОЙСТВА ЧАЛАВЕКА ЧАЛАВЕКАМ ЗАСТАЕЦЦА ЗАБОЙСТВАМ

Павел Сапелка, юрыст:

Забойства чалавека чалавекам застаецца забойствам, як бы яно ні было названа дзяржавай, грамадствам. Няхай гэта называецца смяротным пакараннем, няхай гэта называецца вышэйшай мерай сацыяльнай справядлівасці, няхай гэта называецца дзесяццю гадамі без права перапіскі – забойства застаецца забойствам. Цывілізаваная дзяржава павінна прызнаць, што смяротнае пакаранне – гэта перажытак мінулага, які, на сённяшні дзень, ужо стаў не актуальны. Дзяржава павінна прыняць на сябе адказнасць за плён выхавання сваіх грамадзян. Таму я далучаюся да кампаніі па адмене смяротнага пакарання ў Беларусі.

**СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ Ў БЕЛАРУСІ**

Вільня

2015

Дакументальнае выданне "Смяротнае пакаранне ў Беларусі" падрыхтавана ў межах кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання". Кніга ўтрымлівае інфармацыю пра смяротнае пакаранне ў Беларусі з 1998 да 2015 г., менавіта ў 1998-м у Праваабарончы цэнтр "Вясна" звярнулася маці Івана Фаміна, расстралянага за чужую віну.

Адметнасцю выдання з'яўляецца гістарычны агляд "Гісторыя смяротнага пакарання ў Беларусі", падрыхтаваны Дзянісам Марціновічам. А таксама – вялікае інтэрв'ю з былым начальнікам СІЗА № 1 у Мінску Алегам Алкаевым, пад чыім кіраўніцтвам было здзейснена каля 150 смяротных прысудаў.

Кніга скіравана не толькі на праваабаронцаў, але і на студэнтаў права, выкладчыкаў ды ўсіх зацікаўленых асоб.

Аўтары-ўкладальнікі: *Андрэй Палуда, Паліна Сцепаненка, Адар'я Гуштын*

Карэктар *Наталля Сяргеева*

Фота на вокладцы *Віктара Трацякова*

1 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории отечественного права: автореф. дис. … докт. ист. наук: 12.00.01. Саратов, 2002. С. 22. ->

2 Очерк истории смертной казни в России: Речь, читанная на годичном акте Императорского Казанского университета ордин. проф. Н. П. Загоскиным // Известия и ученые записки Казанского Университета. 1892. № 1 [Электронный ресурс]. Режим доступа: ->

3 Повесть временных лет / пер. Д. С. Лихачева [Электронный ресурс]. Режим доступа: ->

4 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории России. М., 2002. С. 36. ->

5 Повесть временных лет / пер. Д. С. Лихачева [Электронный ресурс]. Режим доступа: ->

6 Тамсама. ->

7 Повесть временных лет / пер. Д. С. Лихачева [Электронный ресурс]. Режим доступа: ->

8 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории России. С. 53. ->

9 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории отечественного права: автореф. дис. … докт. ист. наук: 12.00.01. Тольятти, 2002. С. 22. ->

10 Русская правда (краткая редакция) [Электронный ресурс]. Режим доступа: ->

11 Русская правда (пространная редакция) [Электронный ресурс]. Режим доступа: ->

12 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории России.

С. 49. ->

13 Русская правда (пространная редакция) [Электронный ресурс]. Режим доступа: ->

14 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории России. С. 49. ->

15 Тамсама. С. 52. ->

16 Русская правда (пространная редакция) [Электронный ресурс]. Режим доступа: ->

17 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории России. С. 32. ->

18 Сагановіч Г. Гетман // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 2 т. Мінск: БелЭн, 2005. Т. 1. С. 531. ->

19 Юхо Я. Судзебнік 1468 // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Мінск: БелЭн, 2001. Т. 6, кн. 1. С. 441. ->

20 Юхо Я. Статут Вялікага Княства Літоўскага 1529 года // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 6, кн. 1. С. 414. ->

21 Статут Великого Княжества Литовского 1529 года. Раздел седьмой. О земских насилиях, о побоях и об убийствах шляхтичей [Электронный ресурс]. Режим доступа: ->

22 Тамсама. ->

23 Юхо Я. Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566 года // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. Т. 6, кн. 1. С. 415–416; Другий (Волинський) статут Великого Князівства литовського 1566 року [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: ->

24 Орловская Е. И. Смертная казнь в истории Беларуси // Актуальные вопросы совершенствования правового образования в средних специальных заведениях. Минск, 2011 [Электронный ресурс]. Режим доступа: ->

25 Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі. Мінск: БелСЭ, 1989. С. 430. ->

26 Павловский Б. Жертва языка и пера // Вечерний Брест [Электронный ресурс]. Режим дост ->

27 Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі. С. 441. ->

28 Тамсама. С. 429 ->

29 Тамсама. С. 439. ->

30 Устав воинский [Электронный ресурс]. Режим доступа: Etext/Ystav1716.htm. ->

31 Манифест “О кончине Императора Павла I, и о вступлении на Престол Императора Александра I” [Электронный ресурс]. Режим доступа: vosshestvii-na-prestol-aleksandra-i-ot-12-marta-1801-g/. ->

32 Евреинов Н. История телесных наказаний в России. М., 1913 (1994). С. 114. ->

33 Гельфман Геся Мееровна // Биографический справочник. Минск: БелСЭ, 1982. Т. 5. С. 144. ->

34 Кошель П. История российского терроризма. М., 1995. С. 82. ->

35 Самбук С. М. Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX в. Минск: Наука и техника. С. 25–

26. ->

36 Каліноўскі К. За нашу вольнасць. Творы, дакументы. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 209. ->

37 Евреинов Н. История телесных наказаний в России. С. 114. ->

38 Таксама існавала “Уложение о наказаниях уголовных и исправительных”, прынятае ў 1885 г. Але яно пакінула без змен усе палажэнні пра смяротнае пакаранне з Укладання 1845 г. ->

39 Российское законодательство X–XX веков / под общ. ред. О. И. Чистякова. М., 1994. Т. 9. С. 300–303. ->

40 Полное Собрание Законов Российской Империи. Собрание третье. СПб., 1885. Т. 1. С. 261–266. ->

41 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории России. С. 204. ->

42 Бугаенко В. Иван Пулихов – кто он? Именем одного из первых террористов Беларуси названа улица Минска // Вечерний Минск. 1997. 10 фев. ->

43 Дубовский Ю. М. Законодательство Российской Империи об уголовной ответственности военнослужащих в пореформенный период (конец XIX – начало XX вв.): историко-правовой аспект: автореф. … дис. канд. юрид. наук. СПб., 2011 [Электронный ресурс]. Режим доступа: ugolovnoi-otvetstvennosti-voennosluzhashchikh-v-porefo#ixzz3WcIodVUP. ->

44 Старцев В. И Внутренняя политика Временного правительства. Л., 1980. С. 185. ->

45 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории России. С. 214–215. ->

46 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории России. С. 225. ->

47 ГУЛАГ (Главное управление лагерей) 1917–1960 / сост.: А. И. Кокурин, Н. В. Петров. М., 2000. С. 15. ->

48 Ленин В. И. Государство и революция // Полное собрание сочинений. Т. 33. С. 102. ->

49 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории России. С. 222. ->

50 Орловская Е. И. Смертная казнь в истории Беларуси // Актуальные вопросы совершенствования правового образования в средних специальных заведениях. Минск, 2011 [Электронный ресурс]. Режим доступа: ->

51 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории России. С. 284. ->

52 Собрание узаконений РСФСР. 1922. № 15. Ст. 153. ->

53 Тамсама. ->

54 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории России. С. 286. ->

55 Тамсама. С. 303. ->

56 Нонканфармізм у Беларусі: 1953–1985: даведнік / аўтар-уклад. А. Дзярновіч. Мінск: Athenaeum, 2004. Т. 1. С. 214. ->

57 Нонканфармізм у Беларусі: 1953–1985: даведнік. С.

215. ->

58 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории России. С. 344–345. ->

59 Кривицкий В. Я был агентом Сталина [Электронный ресурс]. Режим доступа: ->

60 Пятницкий В. И. Осип Пятницкий и Коминтерн на весах истории. М.: Харвест, 2004. С. 455. ->

61 Составы троек НКВД – УНКВД 1937–1938 гг., созданных для рассмотрения дел арестованных в ходе массовой операции по приказу НКВД СССР № 00447 от 30 июля 1937 г. [Электронный ресурс]. Режим доступа: inside/almanah-doc/1007240. ->

62 Справки 1-го спецотдела МВД СССР о количестве арестованных и осужденных в период 1921–1953 гг. [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://www.alexanderyakovlev. org/fond/issues-doc/1009312. ->

63 О применении смертной казни к изменникам Родины, шпионам, подрывникам-диверсантам [Электронный ресурс]. Режим доступа: https://ru.wikisource.org/wiki/ Указ_Президиума_ВС_СССР_от_26.05.1947_об_отмене_см ->

64 Гардзіенка А. Моладзевыя антыкамуністычныя арганізацыі на тэрыторыі Беларусі ў 1944–1953 гг. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: history/oposition-in-belarus-1944-1953.html?page=2. ->

65 Лицкевич О. “Рух зусім незалежніцкі…” // Беларуская думка. 2009. № 8. С. 74–81. ->

66 Васілеўскі П. Баразна Лявон Цімафеевіч // Нонканфармізм у Беларусі: 1953–1985: даведнік / аўтар-уклад. Алег Дзярновіч. Мінск: Athenaeum, 2004. Т. 1. С. 29–33. ->

67 Уголовный кодекс Республики Беларусь 1961 года [Электронный ресурс]. Режим дост ->

68 Анкудо Е. Мусор страны Советов-2 // Белгазета. 2004. 18 окт. [Электронный ресурс]. Режим дост ->

69 Михасевич, Геннадий Модестович [Электронный ресурс]. Режим доступа:Гриб М. Белорусский мост: история, факты, события. [Б. м.], 2006. С. 49. ->

70 Гриб М. Белорусский мост: история, факты, события. С. 50. ->

71 Тамсама. С. 50–51. ->

72 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории России. С. 434. ->

73 Анашкин Г. З. Законодательство СССР о смертной казни и практика его применения. М.: Высш. шк. МВД СССР, 1969. ->

74 Жильцов С. В. Смертная казнь в истории России. С. 434. ->

75 Отмена смертной казни в Республике Беларусь: сб. науч. ст. / РОО “Правовая инициатива”, ОО “Общество сравнительно-правовых исследований”. Минск: Медисонт, 2014. С. 66. ->

76 Абрамовіч У. Ці можа быць дзяржава забойцай? // Рэспубліка. 1993. 16 чэрв. ->

77 Падгруша В. Злачынства і пакаранне // Судовы веснік. 1993. № 4. С. 4–7. ->

78 Герменчук Н. Исключительная мера / Н. Герменчук // Судовы веснік. 1994. № 1. С. 42. ->

79 Конституция Республики Беларусь 1994 года (с изменениями и дополнениями, принятыми на республиканских референдумах 24 ноября 1996 г. и 17 октября 2004 г.). Минск: Амалфея, 2005. ->

80 Отмена смертной казни в Республике Беларусь: сб. науч. ст. С. 47. ->

81 Тамсама. С. 32. ->

82 Правила процедуры Комитета по правам человека ООН [Электронный ресурс]. Режим дост. ->

83 Альтернативы смертной казни: проблемы пожизненного заключения: брифинг 2007 (1) // Penal Reform International [Электронный ресурс]. Режим доступа: http:// ->

84 Альтернативы смертной казни: информационный пакет 2011 // Penal Reform International. С. 52–53. ->

85 Будкевич В. В Беларуси к пожизненному заключению приговорено примерно 140 человек // БелаПАН [Электронный ресурс]. Режим доступа society/334150.html. ->

86 Отмена смертной казни в Республике Беларусь: сб.

науч. ст. С. 28. ->
87 Щербаков З. Судья: отказываясь от смертной казни, нужно пересмотреть условия пожизненного заключения // БелаПАН [Электронный ресурс]. Режим доступа: by/rubrics/society/2014/11/13/ic_news_116_448808/print/. ->
88 Козлик И. Витебский Чикатило ходил на суды, чтобы смотреть, как судят людей за его преступления // Комсомольская правда в Белоруссии [Электронный ресурс]. Режим дост ->
89 Китаев Н. Н. Неправосудные приговоры к смертной казни. Иркутск: Изд-во ИГЭА, 2001. С. 12. ->
90 Комиссаров В. О качестве предварительного следствия: мнения заинтересованных сторон // Социалистическая законность. 1988. № 9. С. 63–64. ->
91 Париц В. А., Заикин Н. П. Витебское дело // Социалистическая законность. 1998. № 9. С. 33–35. ->
92 Гуштын А. Судебная ошибка – самый рациональный аргумент против смертной казни // Белорусские новости [Электронный ресурс]. Режим доступа: society/2014/11/14/ic_articles_116_187541/. ->
93 Лукашук З. Рыгор Васілевіч: Смяротнае пакаранне можна адмяніць і без рэферэндуму // Еўрапейскае радыё [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: society/283787.html. ->
94 Петрухин И. Л. Ещё раз о смертной казни //

Юридический мир. 2002. № 4. С. 8. ->

95 Отмена смертной казни в Республике Беларусь: сб. науч. ст. С. 31. ->

96 Преступление и наказание: восприятие, оценки общества: социологическое исследование // Группа компаний “Сатио”, Penal Reform International. Минск, 2014. С. 156. ->

97 Ищенко Е. П. Проблемы укрепления законности и правопорядка: наука, практика, тенденции: сб. науч. ст. Минск, 2009. С. 157. ->

98 Смертная казнь: за и против: сб. науч. ст. М.: Юрид. лит., 1989. С. 360. ->

99 Статистические данные МВД за 2012, 2013, 2014 гг. [Электронный ресурс]. Режим дост ->

100 Отмена смертной казни в Республике Беларусь: сб. науч. ст. С. 28–29. ->

101 Кестлер А., Камю А. Размышления о смертной казни: перевод с французского. М.: Праксис, 2003. С. 37–38. ->

102 Преступление и наказание: восприятие, оценки общества: социологическое исследование. С. 26. ->

-1-

В Комитет по правам человека
„Минская весна – 96"
от осужденного Фомина Ивана
Васильевича к расстрелу
в данный момент содержащегося в Сизо-1 г. Минска

Заявление

Уважаемые члены Комитета Минская весна-96! Прошу Вас защитить мое право на жизнь. В процессе следствия я вынужден был оговорить себя т.к. на меня было оказано психологическое давление со стороны так называемых моих „подельников" Шоткина А.А. и Жарова С.В. Шоткин Александр и его брат Владимир угрожали мне и моим родным расправой если я не возьму на себя этих убийств, но это еще не всё. Когда я пришел в Октябрьский РОВД то я сказал начальнику розыска, что я не виновен. Меня закрыли в камеру. Через 20-30 минут за мной приехали с Минского сельского РОВД и при всех начали бить называя меня убийцей. Избивать продолжали меня и во время перевода в а/м „микроавтобус УАЗ" до самого Минского сельского РОВД. И при избиении, милиционеры говорили мне те тонкости дела которые мне не сказали Шоткин и Жаров. При взятии явки с повинной меня били два сотрудника У.В.С. по рукам и ногам резиновой дубинкой. Мне не оставалось выхода, т.к. следователь этого РОВД мне сказал если ты будешь молчать и говорить какой-то бред, чтобы не убивал, то я – следователь сделаю тебя калекой но ты всеравно напишешь то что мне надо. Также следователь сказал, если ты Фомин напишешь явку с повинной то тебя больше не будут бить. И я боясь, что меня искалечат, согласился. Когда меня за-



ие, Фомина Ивана Вячеславовича.

В ночь с первого на второе июля, было совершено два убий-
ства, Тарасенко А.В. и Павленко О.Н. водителя такси. В этих двух
убийствах, я себя оговаривал из-за запугивания и психологи-
ческого давления со стороны Шаткина А.А., Жарова С.В. и
старшего брата Шаткина А.А., Шаткина Владимира.

Уважаемая Ассоциация! сейчас, я Вам хочу дать не опро-
вержимые факты по моему делу.

1) Палец, который я порезал об гвоздик, был порезан еще до того
как было совершены убийства т.к. если я бы порезал палец
о нож, то у меня текла бы кровь на рубашку Павленко О.Н. и
на рубашке была бы моя кровь, а не примесь крови Шаткина А.
Уважаемые журналисты! Вы сами подумайте и рассудите об
всем этом.

2) На моих вещах не было найдено крови потерпевших, я
ни думаю, что современные методы спектроскопии и исследо-
ваний не позволяют найти и обнаружить следы крови да-
же после стирки.

3) При выезде на место убийства Тарасенко А.В., я не мог указать
точного места происшедшего, а вот Жаров С.В. не только показы-
вает труп Тарасенко и говорит какие были нанесены ранения
потерпевшему.

4) До разговора с Шаткиным Владимиром, я говорил своей девуш-
ке что меня могут посадить за два убийства которые я не
совершал, но после разговора с ним я начал говорить
обратное, что это сделал я. Все это Вероника может до-
казать.


„...ГОРА ВАМ, СМЯЮЧЫЯСЯ ЦЯПЕР,
БО ЗАПЛАЧАЦЕ Й ЗАРЫДАЕЦЕ...”
ЕВАНГЕЛЛЕ АД ЛУКІ
ТУТ ЗАЖАВАНЫ АХВЯРЫ РЭПРЭСІЙ,
УЧЫНЕНЫХ БЯЗБОЖНЫМ
КАМУНІСТЫЧНЫМ РЭЖЫМАМ
У 1930-1953 ГАДЫ

